# Лідскі Летапісец



*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*



Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 (69) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2015 г.



**Францішак Бенядыкт Казіміравіч Багушэвіч**

**(21 сакавіка 1840 г. - 28 красавіка 1900 г.)**

***“Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!”***

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 ( 69 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2015 г.


## У НУМАРЫ:





На першай старонцы выкладкі Лідскае лясніцтва.
*Здымак Вікторыі Русілевіч.*





Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Заснавальнік **Валерый Васільевіч Сліўкін**, старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар **Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
231293, Лідскі р-н, в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

Наклад 300 асобнікаў
10,5 друк. аркушаў

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Замова № .
Часопіс падпісаны да друку 30.03.2015 г.
Часопіс надрукаваны 30.04.2015 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 10900 руб.
індывід. 6 мес.- 21800 руб.
Кошт у розніцу: вольны.

ISSN 2218-1792







# Кроніка Ліды





Прэмію Аляксандра Дубко "За творчыя дасягненні ў вобласці культуры і мастацтва" ў намінацыі "Лепшы клубны работнік" атрымала **Алена Шчэліна**, дырэктар лідскага Дома рамёстваў і традыцыйнай культуры "Спадчына", у намінацыі "Кіраўнік заслужанага аматарскага калектыву года" прэмію атрымаў **Андрэй Барыла**, мастацкі кіраўнік вакальна-інструментальнага ансамбля "Шкляры", г. Бярозаўка.



У канцы студзеня ў Гарнях адкрыўся новы будынак лясніцтва.



У пачатку лютага на аўтазборачным заводзе "Нёман" у Лідзе сабрана першая грузавая машына МЗКТ-500200, якая заменіць ГАЗ-66.

У пачатку лютага ў Гароднi падвялі вынікі 3-га этапу прадметных алімпіяд. У этапе прынялі ўдзел 157 лідзян, якія ўзялі 86 дыпломаў па ўсіх прадметах акрамя кітайскай мовы (не ўдзельнічалі) і пацвердзілі статус лепшага раёна вобласці.
44 дыпломы ўзяла Лідская гімназія № 1.





25 лютага ў Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы адкрыты бюст Янкі Купалы работы бярозаўскага скульптара Яўгена Лукашэвіча.

У сакавіку выйшла першая кніга лідскага паэта Алеся Мацулевіча “Леў і ключы”.



# Лідскаму раёну - 75 гадоў

## *Лідчына ў 2014 годзе*

**Выступ старшыні Лідскага райвыканкама М.К. Карповіча 20.02.2015 г. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным 75-годдзю ўтварэння Лідскага раёна і падвядзенню вынікаў працы за 2014 г.**

**Дарагія лідзяне!**
**Паважаныя госці!**



Усіх сардэчна віншую з юбілеем утварэння Лідскага раёна.

З юбілеем утварэння найбуйнейшага рэгіёна ў Гарадзенскай вобласці, які мае добрую славу ў Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі.

**Лідчыне споўнілася 75 гадоў.**

75 гадоў - дата, якая прымушае задумацца не столькі пра хуткаплыннасць часу, колькі пра каштоўнасць жыцця чалавека, пра яго ролю ў развіцці роднага краю. Мы радыя, што на імпрэзе прысутнічаюць тыя, хто ўдзельнічаў у станаўленні нашага рэгіёна, людзі, якія пераадольвалі перашкоды і стваралі перамогі нашага краю. Яны ў гэтай зале, і давайце іх павітаем!

На некалькі хвілін перанясёмся ў гісторыю.

15 студзеня 1940 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР быў утвораны Лідскі раён. Тады ён быў у складзе Баранавіцкаай вобласці.

У тым жа 1940-м годзе горад Ліда і Лідскі раён падзелены на самастойныя адміністрацыйныя адзінкі: горад і раён. На тэрыторыі раёна былі ўтвораны 20 сельсаветаў.

У той час у раёне працавалі фанерная фабрыка, 4 цагельні, шклозавод у Бярозаўцы, машынна-трактарная станцыя, млыны.

На пачатковым этапе раён развіваўся як аграрны. Арганізаваны два саўгасы: племсаўгас "Тарнова", саўгас "17 верасня" ў Малым Мажэйкаве і 11 калектыўных гаспадарак.

Нажаль, Вялікая Айчынная вайна перакрэсліла планы развіцця сельскай гаспадаркі. У чэрвені 1941 г. раён быў акупаваны нямецкімі войскамі.

Лідзяне абаранялі Радзіму на перадавой і актыўна вялі барацьбу ў падполлі.

У 1942 годзе адным з першых не толькі на Лідчыне, але і на Гарадзеншчыне, быў арганізаваны партызанскі атрад імя Варашылава. Пазней ён перарос у брыгаду. У канцы года быў арганізаваны партызанскі атрад "Іскра". У красавіку 1943 г. утвораны Лідскі міжраённы цэнтр на чале з Яўхімам Гапеевым.

У барацьбе з ворагам вызначыліся камандзіры партызанскіх атрадаў Макараў Пётр Кузьміч, Коннаў Аляксандр Андрэевіч, Пралыгін Іван Аляксандравіч, Панчанкаў Віталь Ільіч і інш.

У ліпені 1944 г. сіламі войскаў 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса пад камандаваннем генерал-лейтэнанта Аслікоўскага Мікалая Сяргеевіча горад Ліда і Лідскі раён былі вызвалены ад нямецкафашысцкіх войскаў. У 1960 - 80-х гадах дваццаці чатыром ваярам і партызанам Лідскай зоны прысвоена званне "Ганаровы грамадзянін горада". Сёння ў памяць пра загінулых усталяваны помнікі і абеліскі, імёнамі герояў вялікай перамогі названы вуліцы горада. У 2009 годзе горад Ліда ўзнагароджаны ганаровай граматай і вымпелам "За мужнасць і стойкасць у гады Вялікай Айчыннай вайны”. Памяць пра ўсіх, хто ваяваў за нашу Радзіму, хто жыў у гэтыя ліхія часы і не дажыў да нашых дзён, будзе жыць у нашых сэрцах.

У ліпені 1944 г. на беларускую зямлю прыйшло мірнае жыццё. У гэтым жа годзе на Лідчыне была адноўлена савецкая ўлада і даваенная адміністрацыйная структура. Раён быў уключаны ў склад Гарадзенскай вобласці. Не гледзячы на тое, што Лідская зямля да самай перамогі заставалася прыфрантавой зонай, раён падымаўся з руін, у цяжкай працы ўставаў на ногі.

Складаны і супярэчлівы шлях развіцця прайшло пасля вайны сялянства. Сельская гаспадарка была ў найболей цяжкім становішчы. Матэрыяльная база яе была практычна знішчана.

У 1948 годзе быў утвораны першы паваенны

калгас у маёнтку Жырмуны. У наступным - 49-м годзе з’явіліся калгасы яшчэ ў сямі вёсках: Дворышча, Даліна, Гуды, Воўкаўцы, Аўсядава, Сялец, Агароднікі.

У в. Ёдкі быў арганізаваны калгас імя Молатава; у Навіцкіх - імя Чкалава; у Калясішчы - "Запаветы Ільіча"; у Пяцюлеўцах - імя Чапаева; у вёсках Траццякоўцы, Шайбакі, Наваprудцы - "Іскра"; у Астроўлі і Даліне - "Новае жыццё". У 1952 годзе яны аб’ядналіся ў адзін - "Запаветы Ільіча". Пад кіраўніцтвам Сліўкіна Васіля Кузьміча гаспадарка стала першым у Гарадзенскай вобласці калгасам-мільянерам. Васіль Кузьміч узнагароджаны ордэнам “Працоўнага Чырвонага сцяга”, Вялікім срэбным медалём і Малым срэбным медалём ВДНГ. Гэта быў найвысокі ўзровень ацэнкі працы нашых землякоў.

Мы сёння павінны ўспомніць імёны лепшых кіраўнікоў сельгасарганізацый 60-х - 80-х гадоў: гэта Новікаў Алег Цімафеевіч, Дудко Сяргей Рыгоравіч, Каранюк Аляксандр Аляксандравіч.

Найвышэйшым дзяржаўным званнем Героя сацыялістычнай працы былі ганараваны Вацлаў Слука - жывёлавод саўгаса "Тарнова", Алена Ярмантовіч - звенявая па льнаводству калгаса "Сцяг саветаў".

За добрасумленную працу і ўнёсак у развіццё раёна дзяржаўныя ўзнагароды і званні маюць многія жыхары раёна. Нажаль, сёння няма магчымасці назваць усіх па прозвішчах. Мы бязмежна шануем ваш годны ўнёсак у развіццё Лідчыны.

У паваенны час і да 2004 года Лідскі раён і горад Ліда развіваліся як дзве самастойныя адміністрацыйныя адзінкі.

Прамысловую галіну раёна пасля вайны практычна прадстаўляў толькі Бярозаўскі шклозавод. Падчас вайны завод быў разбураны. Пачаўся перыяд аднаўлення: вялося будаўніцтва новых цэхаў і ўчасткаў. Дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву, працы тысяч майстроў шкляной вытворчасці, я паўтару “тысяч”. Ён са звычайнай “лясной гуты”, якіх у Беларусі было шмат,ператварыўся ў адно з вядучых прадпрыемстваў шкляной прамысловасці ў былым СССР. Развіваўся і пасёлак Бярозаўка, які ў 1995 годзе атрымаў статус горада. Мы глыбока ўдзячныя тым, хто кіраваў прадпрыемствам у розныя гады, гэта - Карзюк Сяргей Лук’янавіч, Пашук Мікалай Фёдаравіч, Жыгала Анатоль Лявонцьевіч.

З кастрычніка 1944 года ў раёне аднавіла працу Лідская машынна-трактарная станцыя, якая пазней называлася “Сельгастэхнікай”.

Адразу пасля вайны быў створаны Лідскі лясгас. З 1966 па 1990 год яго ўзначальваў Салавей Павел Васільевіч.

Такой была прамысловасць Лідскага раёна да канца 50-х гадоў.

З 1958 года пачыналася гісторыя Мінойтаўскага рэмзавода. Гэта была Мінойтаўская рамонтна-трактарная станцыя, далей былі шматразовыя пераназванні арганізацыі. Пачынальна з канца 70-х гадоў прадпрыемства было лепшым па рамонце сельскагаспадарчай тэхнікі ў сістэме “Сельгастэхніка”, неаднаразова ўзнагароджвалася і было пераможцам сацспаборніцтваў. З 2001 года прадпрыемства стала Мінойтаўскім рамонтным заводам. Асвоена вытворчасць паваротных плугоў, якія заваёўвалі залатыя медалі на міжнародных выставах у Маскве і Астане. Мы з павагай успамінаем імя Дзякевіча Антона Паўлавіча.

У канцы 50-х гадоў у Лідскім раёне пачалі весціся торфараспрацоўкі.

У 1957 годзе створана торфапрадпрыемства "Дакудаўскае", якое праз два гады было пераназвана ў "40 гадоў БССР". У 1964 годзе быў утвораны пасёлак Першамайскі. Прадпрыемства "40 гадоў БССР" было першым прадпрыемствам у Лідскім раёне, узнагароджаным ордэнам “Працоўнага Чырвонага сцяга”. Гэта быў 1971 год, і кіраваў ім Калабухаў Фёдар Васільевіч. Пазней больш за 20 гадоў на пасадзе дырэктара прапрацаваў Тыранаў Віктар Васільевіч.

У 70-я гады пад кіраўніцтвам Снітко Івана Сцяпанавіча запушчаны першы брыкетны цэх завода "Дзітва". Прадпрыемства таксама было лепшым у Беларусі. 30 гадоў прадпрыемствам кіраваў Басько Аркадзь Мікалаевіч, які жыў жыццём завода і пасёлка Дзітва.

Першая прадукцыя льнозавода выйшла ў 1971 годзе. Разам з ім паўстаў і развіваўся населены пункт Даржы. Ля вытокаў развіцця прадпрыемства і пасёлка стаяў ветэран Вялікай Айчыннай вайны Лукін Фёдар Паўлавіч.

У 1986-м годзе заснаваны Ветсанутыльзавод.

У 1960-1980-я гады пачала інтэнсіўна развівацца сельская гаспадарка. Будаваліся новыя жывёлагадоўчыя фермы, механічныя майстэрні, дамы, клубы, ФАП-ы, крамы, дзіцячыя садкі і школы.

Усю працоўную дзейнасць кіраўніцтву раёнам прысвяцілі Грывачэўскі Сцяпан Аляксандравіч, Бурлыка Іван Рыгоравіч, Цімчанка Ўладзімір Анатолевіч, Быкоўскі Аляксандр Пятровіч.

Развіццю сяла прысвяцілі жыццё Гушча Іван Пятровіч, Аляшкевіч Мікалай Аляксандравіч, Вашкевіч Уладзіслава Аляксандраўна, Кудла Віктар Іванавіч, Радзько Франц Станіслававіч.

Высокапрафесійным кіраўніком Белаграпрамбанка доўгія гады была Васюк Зоя Аляксандраўна.

Успомнім часы, калі прозвішчы Чыжыка Віталя Аляксандравіча, Талайкоўскага Фамы Антонавіча, Крыніцкага Мацвея Сцяпанавіча, Аўсяніка Івана Станіслававіча, Калабухіна Аляксандра Мікалаевіча, Сянкевіча Станіслава Станіслававіча, Мечыслава і Віктара Кудыркаў, Шуцілы Георгія Канстанцінавіча, Рахаткі Казіміра Ўладзіслававіча, Скерся Міхаіла Міхайлавіча, Радзецкага Віктара Фёдаравіча гучалі як брэнды, ці знакі калгасаў.

Больш чвэрці стагоддзя працуюць старшынямі сельскіх саветаў Урбановіч Ніна Іванаўна, Ганевіч Іван Феліксавіч. Гэтулькі ж прапрацавалі і цяпер на заслужаным адпачынку Ракса Ганна Іосіфаўна, Роўба Мар'ян Іосіфавіч.

Так, раён быў асобнай адміністратыўнай адзінкай. Але ён не мог развівацца без прадпрыемстваў

перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі.

У горадзе Лідзе адразу пасля вайны аднаўляўся мясакамбінат, які вядзе свой пачатак з 1939 года. У 1949 годзе пачаў будавацца "Малочна-кансервавы камбінат", першая яго прадукцыя з'явілася ў 1952-м годзе. Прадпрыемствы неаднаразова былі пераможцамі сацспаборніцтваў.

З 1944 года пачынаюць сваю гісторыю "Лідскія харчовыя канцантраты". Летась прадпрыемства адзначыла сваё 70-ці годдзе. У 1976 годзе "Харчканцантраты" былі першым прадпрыемствам харчовай прамысловасці ў БССР, узнагароджаным ордэнам "Працоўнага Чырвонага сцяга". Яго высокія поспехі адзначаліся амаль штогод.

З 1954 гады працуе "Лідскі хлебазавод".

Мы памятаем дырэктараў "Лідскага мясакамбіната" - Рындава Мікалая Ўладзіміравічам, Акунёва Віктара Васільевіча;

Доўгі час дырэктарамі "Малочна-кансервавага камбіната" былі - Багамолаў Расціслаў Аляксандравіч, Чарных Валянцін Рыгоравіч, Шемет Георг Аляксеевіч,

У гісторыі "Харчканцантратаў" застанецца імя дырэктара Чуя Паўла Ільіча.

Успомнім імёны дырэктараў хлебазавода Холад Галіны Анатольеўны, Чарняка Іосіфа Станіслававіча.

Раёну былі патрэбныя кваліфікаваныя спецыялісты па рамонце і абслугоўванні тэхнікі.

З 1951 года бярэ свой пачатак "Лідскі тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі", далей індустрыяльны тэхнікум і каледж. Першым дырэктарам быў Пехцераў Пётр Сазонавіч (ён прапрацаваў 20 гадоў). Пачынальна з 1978 года і па 2010 год дырэктарам тэхнікума быў Грыневіч Юльян Міхайлавіч.

Улічваючы, што ў наш час горад і раён аб'яднаны, успомнім развіццё прамысловасці горада.

Годам заснавання "Лідскай мэблевай фабрыкі" з'яўляецца 1949-ты. Сваё жыццё фабрыцы прысвяціў Зелянкевіч Аляксандр Уладзіміравіч.

Абнаўляліся і тэхпераўзбройваліся "Лідскае піва", быў адноўлены "Лідскі завод сельскагаспадарчых машын", цяпер "Лідсельмаш", якія неаднаразова ўзнагароджваліся і былі вядомыя ва ўсім Савецкім Саюзе. Аддаём даніну павагі дырэктарам "Лідскага піва" - Юфе Ўладзіміру Якаўлевічу, "Лідсельмаша" - Бубену Ўладзіміру Міхайлавічу, Сінкуцю Іосіфу Зыгмантавічу.

У 1949 годзе прадпрыемства па вытворчасці абутку "Ардаль" было пераназвана ў "Лідскую абутковую фабрыку". Усе памятаюць выдатнага чалавека і высокапрафесійнага кіраўніка абутковай фабрыкі - Васільева Васіля Іванавіча.

Умацаванне прамысловай сферы з'яўлялася рухальнай сілай развіцця горада Ліды. У 70-80-я гады Ліда стала прамысловым і культурным цэнтрам.

За дасягнутыя поспехі ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве горад Ліда 4 верасня 1980 г. узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР, 5 верасня 1980 г. горад Ліда ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны". А на пасту першага сакратара Лідскага гаркама КПБ тым часам была мудрая жанчына, ганаровы грамадзянін г. Ліды Папова Надзея Іванаўна. Пры ёй добраўпарадкоўваўся горад, быў пабудаваны шляхаправод, вялікая ўвага надавалася культурнаму жыццю і адукацыі.

Працягвалася развіццё прамысловага комплексу.

У 1965 годзе быў пабудаваны Лакафарбавы завод, і на працягу 50-ці гадоў Лакафарба з'яўляецца найбуйным прадпрыемствам па вытворчасці лакафарбавых матэрыялаў. 39 гадоў прапрацаваў на прадпрыемстве, з іх 10 гадоў на пасадзе дырэктара Глазаў Яўген Паўлавіч. Мы гэтак жа памятаем імя дырэктара - Славуты Мікалая Ўладзіміравіча.

У 1970 годзе заснаваны завод "Оптык". Шмат гадоў жыцця прадпрыемству аддаў Белавус Аркадзь Сцяпанавіч.

У ліку самых перадавых прадпрыемстваў 70-90-х гадоў мінулага стагоддзя быў Лідскі завод электравырабаў. 22 гады кіраваў ім Пётр Мікалаевіч Грынюк. Амаль 50 гадоў на розных пасадах на прадпрыемстве працуе Штэфан Сяргей Іванавіч.

Больш за 50 гадоў налічвае гісторыя "Лідаграпраммаша", вы ўсе памятаеце, што раней ён зваўся "Аўтарамзавод". У 1999 годзе прайшоў выпрабаванні першы лідскі камбайн, кіраваў тады заводам - Гатоўка Рамуальд Альфрэдавіч.

У 1984 годзе быў утвораны "Лідахлебапрадукт", у 1985-м - "Ліцейна-механічны завод".

Заводам вайсковага прызначэння будаваўся цяперашні аўтазборачны завод "Нёман".

Заўсёды перадавым прадпрыемствам быў "Камбінат будаўнічых матэрыялаў", зараз "Лідабудматэрыялы". Хай будзе добрай памяць пра Новікава Паўла Мікалаевіча.

Так, нажаль некаторых кіраўнічых працаўнікоў ужо няма з намі, але іх імёны засталіся назаўжды ў гісторыі Лідчыны.

Слаўныя традыцыі ў развіцці прамысловасці працягваюць Вашкевіч Юры Эдвардавіч, Жамойцель Генрых Часлававіч, Галавач Тадэвуш Юзафавіч, Залескі Іван Пятровіч, Бірыч Сяргей Мікалаевіч, Гейштофт Багдан Вацлававіч, у транспарце - Валадось Леанід Васільевіч, якія практычна ўсё сваё жыццё прапрацавалі на прадпрыемствах, а цяпер імі кіруюць. 30 гадоў галоўным ляснічым у лясгасе прапрацаваў Вайтовіч Фёдар Васільевіч.

Усе гады актыўна развівалася энергетычная і транспартная інфраструктура як горада, так і раёна.

У 1954 годзе была пушчана першая чарга Лідскай ЦЭЦ, з 1957 года вядуць адлік Лідскія электрасеткі. З імёнамі Лабана Пятра Пятровіча, Падгайскага Івана Іванавіча і Лявонава Юрыя Мікалаевіча звязаны стабільнае і бяспечнае забеспячэнне раёна энергарэсурсамі.

Першым аўтобусным маршрутам у горадзе Ліда быў маршрут № 1, пушчаны ў 1953 годзе. З гадамі транспартная сетка развівалася і ўдасканальвалася. З павагай мы павінны ўспомніць працу Ашмяны Георгія Міхайлавіча, які больш за трыццаць гадоў узначальваў аўтапарк. Больш за сорак гадоў высокапрафесійна ў

аўтобусным парку працуе Галецкі Мечыслаў Раманавіч. Найболей значнай арганізацыяй па грузаперавозках з'яўлялася і з'яўляецца цяпер "Лідаспецаўтатранс", якую без малога 30 гадоў узначальваў Лучко Здзіслаў Ільіч.

Віннічак Ала Мікалаеўна амаль 20 гадоў кіруе вузлом паштовай сувязі.

Асобная старонка ў гісторыі нашага раёна - гэта чыгунка. Узначальваюць чыгуначныя арганізацыі Лідскага раёна людзі, якія прапрацавалі ў галіне больш за 20 гадоў: Хвасько Аляксандр Васільевіч, Дужык Лявонцій Аляксандравіч, Альшэўскі Сяргей Аляксандравіч, Вітко Тадэвуш Эдвардавіч. Лакаматыўнае дэпо Ліда - адно з буйных прадпрыемстваў не толькі Баранавіцкага аддзялення, але і ўсёй Беларускай чыгункі. Паравознае дэпо пачало працу ў 19 стагоддзі, далей развівалася і пашыралася. Але ў 1944 годзе было разбурана пры адступленні нямецкімі захопнікамі. У 1948-м пабудавана новы будынак дэпо. У 1987-м годзе ўтвораны “Дарожныя механічныя майстэрні” (ДММ), яны былі рэканструяваны ў базу па капітальным рамонце і аднаўленні цягнікоў. З гадамі выраслі новыя карпусы. У калектыве нямала сапраўдных майстроў сваёй справы. Сярод іх ёсць і "Ганаровыя чыгуначнікі", і "Выдатнікі беларускай чыгункі".

Паважаныя сябры, значная старонка ў станаўленні і развіцці Лідчыны належыць і будаўнічай галіне.

Адной з першых будаўнічых арганізацый была “Міжкалгасная будаўнічая арганізацыя” (зараз ААТ "Будвектар"). Усе вы добра памятаеце - яе кората звалі "МСО". Першым кіраўніком быў Кархуноў Уладзімір Вікенцьевіч, 20 гадоў арганізацыяй кіраваў Бялецкі Мечыслаў Валяр'янавіч. Найбуйнейшай будаўнічай арганізацыяй у раёне з'яўляецца "Будтрэст" № 19. Першым яго кіраўніком быў Логаш Уладзімір Міхайлавіч, які пазней узначаліў гарвыканкам. Больш за 10 гадоў будтрэстам кіраваў Курачкін Генадзь Філіпавіч, пазней ён стаў міністрам архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь. На пасадзе намесніка міністра архітэктуры і будаўніцтвы працаваў Малец Уладзімір Міхайлавіч. З 1990 года па 2002 год Уладзімір Міхайлавіч кіраваў горадам Ліда. Усю сваю працоўную дзейнасць будаўніцтву ў Лідскім раёне прысвяціў Шляжко Ўладзімір Ватанавіч. Больш за 20 год прапрацаваў кіраўніком ДРБУ-157 Мікавоз Яраслаў Віктаравіч. Дзясяткі гадоў працуюць у будаўнічай галіне і цяпер узначальваюць арганізацыі Лабецкі Ўладзіслаў Юльянавіч, Шырокі Генрых Эдмундавіч, Шыкунец Васіль Васільевіч, Рыхтар Уладзімір Анатольевіч.

2004 год стаў годам станаўлення Лідскага раёна ў новым фармаце. 9 лютага 2004 г. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лідскі раён і горад Ліда былі аб'ядналы ў адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку. Узначаліў раён Андрэй Паўлавіч Худык.

Няпроста было наладзіць цеснае ўзаемадзеянне прамысловасці і сельскай гаспадаркі, аптымальна накіраваць рэсурсы на развіццё рэгіёна, рашэнне жыллёвых і сацыяльных пытанняў. Умеламу кіраўніцтву спрыялі рэспубліканскія праграмы развіцця аграпрамысловага комплексу.

За 2005-2010 гады пабудавана 16 аграгарадкоў.

А ў 2010-м годзе, гістарычным для Ліды, прайшоў рэспубліканскі фэст-кірмаш працаўнікоў сяла "Дажынкі-2010". Горад цалкам змяніўся. Знайшлі рэалізацыю даўнія праекты рэканструкцыі горада, таксама рэалізаваны новыя - пабудавана і абноўлена 220 аб'ектаў жыллёвага комплексу і сацыяльна-побытавай сферы. Рэканструяваны чыгуначны і аўтавакзалы, пешаходны мост над чыгуначнымі шляхамі, гасцініца "Ліда", кінатэатр "Юбілейны". Уведзены ў эксплуатацыю Лядовы палац, спартовы комплекс гульнявых відаў спорту "Алімпія", лыжна-ролеравая траса. Завершана рэканструкцыя Кургана Неўміручасці, воднапаркавай зоны ад Лідскага замка да Палаца культуры, і будаўніцтва пляцоўкі для культурна-масавых мерапрыемстваў, добраўпарадкаваны гарадскі парк. Адкрылася другая ў Гарадзенскай вобласці мастацкая школа. Па новых тэхналогіях капітальна адрамантаваны “Цэнтр традыцыйных народных рамёстваў”, “Школа мастацтваў” і “Ліцэй №1”.

З моманту аб'яднання раёна наша жыллёва-камунальная гаспадарка стала найбуйнейшай у Рэспубліцы Беларусь і неаднаразова займае першыя месцы на рэспубліканскім узроўні (дырэктар Саўко Сяргей Янавіч).

Паважаныя сябры! Ва ўсе гады развіцця раёна і горада надавалася ўвага захаванню культурна-гістарычнай спадчыны Лідскага раёна.

Паступова аднаўляліся помнікі культуры. Для будучых пакаленняў захаваны самабытнасць Лідчыны, народныя традыцыі, унікальныя рамёствы.

Аднаўляецца Лідскі замак, дзе традыцыйным стала правядзенне міжнародных рыцарскіх турніраў. Лідскаму музею ў 2010 годзе прысуджана адмысловая прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за працу па прапагандзе гістарычна-культурнай спадчыны, распрацоўку і рэалізацыю музейна-асветнай праграмы "Старадаўніх муроў адраджэнне".

Імёны сапраўдных падзвіжнікаў беларускай культуры на Лідчыне добра вядомыя. Гэта Шуціла Яўген Канстанцінавіч - заслужаны работнік культуры БССР, Грынкевіч Аліна Ўладзіміраўна - былы кіраўнік народнага ансамбля побытавых інструментаў "Каханачка", узнагароджана медалём Францыска Скарыны, Гарачаў Уладзімір Фёдаравіч - хормайстар ансамбля "Талака", узнагароджаны ганаровым знакам Міністэрства культуры. Яшчэ і яшчэ шматлікія таленавітыя людзі, захапляцца якімі можна бясконца.

У нас ёсць самабытныя і вядомыя на ўсю краіну ансамблі: заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь - ансамбль песні і танца "Талака", заслужаны аматарскі калектыў - вакальна-інструментальны ансамбль "Шкляры". Голас саліста ансамбля Віктара Мікянца больш за 45 гадоў вядомы ва ўсёй Беларусі і за яе межамі.

У нас ёсць уласнае мясцовае тэлебачанне і дзве газеты, якія прафесійна асвятляюць жыццё раёна.

Заўсёды адпавядала і адпавядае часу і патрабаванням насельніцтва на Лідчыне адукацыя.

А колькі ў нас таленавітых дзяцей!

Вераціла Дар'я і Казлоўская Маргарыта, якія вучацца гімназіі № 1 г. Ліда, сталі пераможцамі між-

народнай алімпіяды школьнікаў саюзнай дзяржавы пад назвай "Расія і Беларусь: гістарычная і духоўная агульнасць".

Толькі ў 2014 годзе 197 дыпламоў заваявана лідскімі школьнікамі на абласных, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах. Нашыя дзеці лідыруюць па колькасці перамог у абласных і рэспубліканскіх алімпіядах.

Лідская гімназія - лепшая не толькі ў вобласці, але і ў краіне. Ёю ўжо больш за 20 год кіруе Зайцава Наталля Андрэеўна.

Сёння можна назваць шмат імёнаў педагогаў, навучэнцы якіх услаўляюць Лідчыну далёка за яе межамі. Педагогамі з вялікай літары можна назваць Ладыку Альфрэда, Глыздову Таццяну, Пільчук Таццяну, Ярмак Аляксандра, Валюка Ўладзіміра, Чарамісіну Таццяну, Залескага Іосіфа, Баярэнку Тамару, Тэжыка Зміцера, Чункевіча Віктара, Піваварчык Галіну, Грабоўскага Валера, Верацілу Сяргея і многіх-многіх іншых.

Знакавай падзеяй у 2014 годзе было адкрыццё ясляў-саду № 40 у мікрараёне Гастэла, першай дашкольнай установы-навабудоўлі за апошнія 20 гадоў. З 1 верасня ў сучасным абноўленым будынку пасля рэканструкцыі праходзяць заняткі для навучэнцаў СШ №1. З кожным годам расце навукова-адукацыйны патэнцыял раёна, а разам з ім - надзейная аснова годнай будучыні Лідчыны.

Асобна хачу выказаць словы падзякі лекарам - людзям самай гуманнай і высакароднай прафесіі, чые залатыя рукі, увага і чалавечнасць парою твораць сапраўдныя цуды. Доўгі час галоўным лекарам бальніцы працаваў Аляксейчык Павел Вікенцьевіч. Добра вядомыя на Лідчыне лекары: Фаміна Людміла Мікалаеўна, Бубашкіна Надзея Сяргееўна, Шылко Ўладзіслава Іванаўна, Карчэўская Тарэза Казіміраўна, Яськуць Валер Францавіч, Мамчыц Станіслаў Іванавіч, Гушча Валерый Іванавіч, які сёння з'яўляецца дэпутатам Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь.

У нас для людзей усіх узростаў створаны ўмовы для аздараўлення і фізічнага развіцця. Лядовы палац, спартовы комплекс "Алімпія", 4 спорткомплексы, 2 стадыёны, 4 басейны. У 2014 годзе пабудавана плоскасцевае спартовае збудаванне "Спартова-гульнявы комплекс па вул. Тухачэўскага". У васьмі спецыялізаваных навучальна-спартовых установах культывуецца 15 відаў спорту. Толькі ў 2014 годзе пяці спартоўцам раёна прысвоена званне "Майстар спорту Рэспублікі Беларусь". У спіскавым складзе нацыянальных і зборных каманд Рэспублікі Беларусь па розных відах спорту - 52 лідзяніны.

Сярод высокіх спартовых вынікаў мінулага года трэба адзначыць:

- Зміцера Рышкевіча - І месца чэмпіянату Еўропы па веславанні на трэнажорах "Канцэпт" сярод спартоўцаў-паралімпійцаў;

- Іну Роік - ІІІ месца першынства Еўропы па вольнай барацьбе сярод дзяўчат;

- Аляксандру Маркевіч - ІІІ месца першынства Еўропы па акадэмічным веславанні сярод дзяўчат;

- Галіну Жаваранкаву - І месца ў чэмпіянаце свету па гарадошным спорце ў асабістым і камандным заліку.

Успомнім і тых, хто быў героямі спорту Лідчыны - гэта Цыленць Валер - бронзавы прызёр 26-х Алімпійскіх гульняў у Атланце па грэка-рымскай барацьбе, Павел Шурмей і Валер Радзевіч - удзельнікі Алімпійскіх гульняў у Афінах і Пекіне па акадэмічным веславанні, Алег Міхаловіч - удзельнік алімпійскіх гульняў у Пекіне ў 2008 годзе, Наталля Карэйва - удзельніца Алімпійскіх гульняў у Лондане.

Сёння 6 спартоўцаў Лідскага раёна вядуць падрыхтоўку да заваёвы ліцэнзіі для ўдзелу ў 31-х Алімпійскіх гульнях у 2016 годзе ў Рыа-дэ-Жанэйра.

Нам вядома, што сярод нашых знакамітых землякоў ёсць акадэмік Котвіч Уладзіслаў, член ЦК КПСС Леанід Хітрун, заслужаны архітэктар Беларусі Яраслаў Ліневіч, мастак Браніслаў Ямант, доктар мастацтвазнаўства Рычард Смольскі, рэктар Лінгвістычнага ўніверсітэта Баранава Наталля Георгіеўна, заслужаная артыстка БССР Ганна Халшчанкова (Ганна Радзько), артыстка беларускай эстрады, вядомы педагог Вольга Вронская, паэтка Данута Бічэль, пісьменніца Крысціна Лялько, самы выбітны малады кампазітар Дзінара Мазітава, тэлевядоўца Люся Лушчык.

Генерал-маёр міліцыі Радзюкевіч Юры Дзям'янавіч быў намеснікам Міністра ўнутраных спраў.

У працяг хачу сказаць, што прадстаўнікі сілавых структур раёна заслугоўваюць асобныя словы падзякі. У 2014 годзе калектыў Лідскага РАУС узнагароджаны пераходзячым прызам камандзіра батальёна міліцыі Канстанціна Ўладзімірава за высокія паказчыкі аператыўна-службовай дзейнасці органаў унутраных спраў.

Паспяхова выконвае свае задачы асабовы склад 116-й гвардзейскай Радамскай Чырванасцяжнай штурмавой авіябазы. Афіцэрскі сход вайсковай часткі другі год запар стаў лепшым ва Ўзброеных Сілах Рэспублікі Беларусь.

Прадстаўнікі авіябазы занялі другое месца на міжнародным конкурсе лётных экіпажаў, праведзеным у Расійскай Федэрацыі.

Лідзяне памятаюць подзвіг цяперашняга намесніка начальніка кіравання авіяцыі ВПС і войскаў СПА Рэспублікі Беларусь Яборава Канстанціна Гансавіча, узнагароджанага ордэнам "За асабістую мужнасць". Кашырын Леанід Мікалаевіч узнагароджаны ордэнам "Чырвонай Зоркі" падчас выканання інтэрнацыянальнага абавязку ў Рэспубліцы Афганістан. Рачкоў Андрэй Сяргеевіч узнагароджаны ордэнам "Дружбы".

У 1997 годзе быў утвораны Лідскі памежны атрад. Ён з'яўляецца адным з лідараў у спаборніцтвах частак органаў памежнай службы Рэспублікі Беларусь.

Работнікі Лідскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях (РАНС) за сваю шматгадовую гісторыю неаднаразова дэманстравалі ўзоры самаадданасці, устойлівасці і мужнасці. У Лідскім гарнізоне медалём "За адвагу на пажары" ўзнагароджаны 16

чалавек.

У раёне створаны спрыяльныя ўмовы для развіцця прыватнага бізнэсу.

Усяго працуе 1200 прыватных прадпрыемстваў, 60 прадпрыемстваў з удзелам замежнага капіталу, 43 фермерскія гаспадаркі, больш за 4 тысячы індывідуальных прадпрымальнікаў. Ствараюць камфортныя ўмовы для гасцей 44 аграсядзібы.

Прадпрыемствамі прыватнага бізнэсу створаны новыя сучасныя вытворчасці. Іх узначальваюць таленавітыя кіраўнікі і бізнэсмэны.

Таварыствам з абмежаванай адказнасцю "Хавер.by" пабудаваны металатканы завод.

"Каскад" (дырэктар Ус Іван Іванавіч) - адзінае ў Беларусі сучаснае прадпрыемства па вытворчасці эксклюзіўнай святлатэхнікі з прымяненнем сучасных тэхналогій.

Сумеснае беларуска-расійскае закрытае акцыянернае таварыства "Ліпласт-СПб" - дырэктар Рышкевіч Ігар Міхайлавіч - вырабляе больш за 500 найменняў шклопластыкасў і вырабаў з іх. Мае два буйных цэнтры "Кантынент" і "Экватар" па аказанні гандлёвых, гасцінічных і медыцынскіх паслуг.

“Белтэкс-оптык” (дырэктар Матусевіч Алег Ігаравіч) вырабляе высакаякасную аптычную прадукцыю.

“Белпласт інтэрнэйшнл” (дырэктар Вялікін Анатоль Леанідавіч) вырабляе больш за 150 найменняў пластмасавай упакоўкі.

У нас ёсць уласная фабрыка марозіва, шэраг прыватных прадпрыемстваў па дрэваапрацоўцы, вытворчасці мэблі і будаўнічых матэрыялаў, панчошна-шкарпэткавая, швейная вытворчасць.

Немалаважную ролю іграюць сфера паслуг і гандлёвая сетка. Найстарэйшым прадпрыемствам у гандлі з'яўляецца Лідскае райпо. Летась свой дваццацігадовы юбілей адзначала гандлёвае прадпрыемства "Патсдам". З дня заснавання дырэктарам працуе Таўкун Павел Васільевіч.

Лідскі раён традыцыйна заўсёды быў бойкім гандлёвым месцам, а сёння гандлёвая сетка набыла сучасны стыль. За шэраг апошніх гадоў пабудаваны фірмовая крама "Віталюр", адкрыты супер- і гіпермаркеты "Еўрагандаль" і "Еўраопт", "Алсем", крамы "Ома", "5 элемент", "Маладзечна-мэбля", "Лагуна".

Сучасны этап развіцця раёна цесна злучаны з рэалізацыяй буйных інвестыцыйных праектаў.

ААТ "Лідскае піва" (генеральны дырэктар Аўдрыюс Мікшыс) правяло маштабную рэканструкцыю. Пабудаваны шэраг новых аб'ектаў: цэхі разлівання са складскімі памяшканнямі, брадзільнага аддзялення і аміячнай кампрэсарнай. Уведзены лагістычны цэнтр. Магутнасць прадпрыемства ўзрасла амаль у два разы. Па аб'ёмах вытворчасці прадпрыемства цяпер займае першае месца ў раёне.

"Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш" (генеральны дырэктар Вашкевіч Юры Эдвардавіч) на самай сучаснай струменевай лініі еўрапейскага вытворцы ажыццяўляе выпуск радыятараў ацяплення "Лідзея". На заводзе арганізавана вытворчасць механізаваных збожжасховішчаў сіласнага тыпу.

ААТ "Лакафарба" (дырэктар Сайко Андрэй Васільевіч) ажыццяўляе паэтапнае тэхнічнае пераўзбраенне вытворчасці фталевага ангідрыду з павелічэннем магутнасці да 48 тыс. тон у год.

“Малочна-кансервавы камбінат” (дырэктар Эйсымант Андрэй Адамавіч) - сёння гэта адно з вядучых прадпрыемстваў па вытворчасці сухіх малочных прадуктаў у Рэспубліцы Беларусь. Камбінат здольны перапрацаваць больш за 1000 тон малака ў суткі. Яго прадукцыю купляюць вядомыя кампаніі "Марс" і "Нэстле".

Акцыянернае таварыства "Лідахлебапрадукт" - (генеральны дырэктар Астроўскі Аляксандр Мікалаевіч) вырабляе больш за 25% пшанічнай мукі ў краіне. Уведзена ў эксплуатацыю фабрыка па вытворчасці макаронных вырабаў пад гандлёвай маркай "Ліграно".

Прадукцыю шклозавода (генеральны дырэктар Бацян Ігар Міхайлавіч) ведаюць і любяць як у нас у краіне, так і за мяжой. На сённяшні момант прадпрыемства рэалізуе маштабны імпартазамяшчальны і экспартаарыентаваны інвестыцыйны праект па вытворчасці шклаваты, аналагаў такіх вытворчасцяў у Рэспубліцы Беларусь няма.

“Мэблевая фабрыка” (дырэктар Казлоў Аляксандр Анатольевіч ) - адна з першых асвоіла вытворчасць мэблі з натуральнай драўніны з ужываннем паэкалагічнаму чыстых матэрыялаў аздаблення.

На працягу апошніх гадоў мадэрнізуюцца і нарошчваюць аб'ёмы "Лідскія харчовыя канцэнтраты" - генеральны дырэктар Кенць Алена Ўладзіміраўна.

Лідскі раён стаў цэнтрам Гарадзенскай вобласці па вытворчасці сельскагаспадарчай тэхнікі. Камбайны “Лідаграпраммаша”, плугі “Мінойтаўскага рамзавода”, тэхніка “Аграпрамсельмаша”, збожжасушыльнае абсталяванне “Лідсельмаша” вядомыя далёка за межамі Беларусі.

Прадпрыемствам "Конус" у сакавіку 2012 года ўведзена ў эксплуатацыю вытворчасць па абароне буйнагабарытных металаканструкцый метадам гарачага ацынкавання. Натхняльнікам і рэалізатарам праекту быў Боўфал Аляксей Пятровіч.

У канцы 2014 года ў раёне адкрыты самы сучасны ў краіне “Ветсанутыльзавод” з прыцягненнем інвестыцый літоўскай кампаніі "Арві" на базе старога завода. Кампанія “Арві” будуе яшчэ адзін завод па вытворчасці мяса індычкі.

У 2013 годзе завершана мадэрнізацыя вакуумнага ўчастка на “Оптыку” (дырэктар Галавач Тадэвуш Юзафавіч).

Торфабрыкетны завод "Лідскі" ў 2014 годзе ўвёў у эксплуатацыю доследна-прамысловы модульны мінізавод па вытворчасці брыкетаў.

У 2013 годзе "Мажэйкава" завяршыла мадэрнізацыю лікёра-гарэлкавага цэха з усталёўкай новай лініі разлівання.

**Паважаныя сябры!**

Сёння ў гэты ўрачысты дзень мы падводзім вынікі раёна за 2014 год. Гэтыя вынікі разглядаліся на паседжанні райвыканкама, неаднаразова абмяркоўваліся на нарадах з кіраўнічымі работнікамі арганізацый. Была дадзена ацэнка працы кожнага калектыва і іх

кіраўнікоў. Вызначаны задачы на 2015 год.

Сёння магу сказаць, што год быў няпростым, але ён як і ўсе папярэднія, быў годам паступальнага развіцця ва ўсіх сферах, забяспечаны рост рознічнага тавараабароту.

Пабудавана 72,4 тысячы квадратных метраў жылля.

Не дапушчана зніжэння прамысловай вытворчасці.

13 прадпрыемстваў прамысловасці павялічылі аб'ём вытворчасці, з іх 8 - на 15,0 і больш адсоткаў.

Больш за 70 адсоткаў прадукцыі прадаецца за межамі краіны. У 2014 годзе экспартавана прадукцыі на суму 360 млн. дол. ЗША, гэта ў тры разы больш, чым пяць гадоў назад. Атрымана дадатнае сальда знешняга гандлю. Пашырана геаграфія паставак за мяжу.

Забяспечаны рост аб'ёму валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі.

Прыцягнута замежных інвестыцый на суму 25,0 млн. даляраў ЗША.

А ўсяго за год у эканоміку раёна прыцягнута інвестыцый на суму 2,4 трыльёна рублёў, што на 36,0 адсоткаў больш, чым у 2013 годзе.

Найважнейшай падзеяй у інвестыцыйным развіцці раёна ў 2014 годзе было адкрыццё новай вытворчасці на "Лідскім ветсанутыльзаводе". Рэалізуецца праект з удзелам літоўскай кампаніі "Арві". Работы па мадэрнізацыі “Ветсанутыльзавода” будуць працягвацца і сёлета.

Тая ж кампанія "Арві" будуе комплекс па прамысловай вытворчасці прадукцыі з мяса індычкі.

У 2014 годзе працягвалася рэалізацыя буйных раней пачатых інвестыцыйных праектаў: гэта мадэрнізацыі "Лідскага піва", "Лідсельмаш" усталяваў другую парашковую фарбавальную лінію на лініі па вытворчасці радыятараў.

Працягвае паэтапнае тэхнічнае пераўзбраенне вытворчасці фталевого ангідрыду "Лакафарба" з завяршэннем рэалізацыі праекту ў 2017 годзе.

На “Малочна-кансервавым камбінаце” ў 2014 годзе завершана мадэрнізацыя малаказахоўвальнага аддзялення натуральнамалочнага цэха.

"Лідахлебапрадукт" увёў у эксплуатацыю лінію гранулявання.

Вытворчасць высокакліранснага самаходнага апырсквальніка асвойвае "Лідаграпраммаш".

На "Лідабудканструкцыі" ў 2014 годзе мадэрнізавана парасілавая гаспадарка.

Укаранёны расфасовачна-пакавальны аўтамат на “Харчканцэнтратах”, працягваюцца работы па мадэрнізацыі вытворчасці геркулесу.

У 2014 годзе торфабрыкетны завод “Лідскі” ўвёў у эксплуатацыю модульны міні-завод па вытворчасці брыкетаў.

Найважнейшай задачай 2015 года з'яўляецца завяршэнне рэалізацыі праекту вытворчасці шклаваты. Выпуск пробнай партыі павінен быць у сакавіку бягучага года.

Вялося тэхпераўзбраенне і ў сельскай гаспадарцы.

У 2014 годзе завершана будаўніцтва другой чаргі малочна-таварнага комплексу "Пескаўцы", праведзена рэканструкцыя фермаў “Агароднікі”, "Більтаўцы", "Крыніцы" і "Ганчары". Вядзецца рэканструкцыя фермы "Дылева".

Вядзецца рэканструкцыя бульбасховішчаў у саўгасе "Лідскі" і ў "Ходараўцах-агра".

Праводзіліся работы па добраўпарадкаванні сельскіх тэрыторый, развіцці сацыяльнай сферы і стварэнні камфортных умоў для працы і пражывання сельскага насельніцтва.

Уведзена 10 кватэр (9 дамоў) у вёсках Тарнова, Ваверка, Дуброўня, Пескаўцы.

У 2014 годзе адкрыты 3 буйныя крамы "Март Інн", "Март Інн Фуд", "Родны кут".

Можна было б доўга гаварыць пра вынікі працы ў лічбах, дзесьці ў добрых, дзесьці ў дрэнных. Але ў гэты святочны дзень гаварыць пра праблемы не будзем. Сёння ўрачыстае мерапрыемства.

Літаральна праз некалькі хвілін будзе ўзнагароджанне арганізацый і лепшых работнікаў. Лепшых з лепшых мы хутка ўбачым на сцэне.

Паважаныя ўдзельнікі сходу! Дарагія сябры!

Нажаль, у рамках рэгламенту нашага мерапрыемства проста немагчыма ўспомніць і назваць імёны ўсіх лідзян, годных пашаны і павагі.

Бо ў іх шэрагах ёсць людзі, якія не маюць узнагарод і званняў, але адказна і на сумленне працавалі і працуюць на сваіх працоўных месцах. Выказваю словы падзякі ўсім, хто сваёй працай рабіў і робіць унёсак у развіццё раёна.

А перад тым, як пачнецца ўзнагароджанне, давайце яшчэ раз аддамо даніну павагі выдатнай плеядзе былых кіраўнікоў горада і раёна, таленавітых і мудрых кіраванцаў, якія ўмелі згуртаваць людзей і павесці за сабой. Яны працавалі ў розны час, але ўсіх іх аб'ядноўвала высокая адказнасць і самааддача, бачанне перспектывы. У стылі іх кіраўніцтва - патрыятызм, прафесіяналізм і адданасць справе.

Паважаныя старшыні, намеснікі старшынь Лідскага раённага і гарадскога выканаўчых камітэтаў, дырэктары і кіраўнічыя працаўнікі розных перыядаў, паклон і павага ўсім вам.

Папрашу залу стоячы яшчэ раз прывітаць апладысментамі дарагіх гасцей і падзякаваць ім за высакародную працу на карысць Лідчыны.

Напрыканцы хачу сказаць, што наш раён прайшоў вялікі і няпросты гістарычны шлях. Сёння ад кожнага з нас, ад нашай працы, ініцыятывы і грамадзянскай адказнасці залежыць яго сённяшні дзень і будучыня.

Я ўпэўнены, што агульнымі высілкамі, пры агульнай згодзе і паразуменні, можна дамагчыся самых высокіх вынікаў! І хай гэты святочны дзень стане яркай, запамінальнай падзеяй і паслужыць імпульсам для працы на дабро нашай Лідчыны.

Яшчэ раз ад шчырай душы віншую вас са святам! Жадаю ўсім добрага здароўя, шчасця і дабрабыту. А нашаму раёну - развіцця і росквіту, новых яркіх здзяйсненняў на шчасце роднай зямлі.

Усім добрага, святочнага настрою.

# ЛІДСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
# РАШЭННЕ

**16 лютага 2015 г. №** **г. Ліда, Гродзенская вобл.**

## Пра вынікі спаборніцтва працоўных калектываў раёна за дасягненне высокіх паказчыкаў у эканамічным і сацыяльна-культурным развіцці ў 2014 годзе і святкаванні 75-годдзя ўтварэння Лідскага раёна

Абмеркаваўшы вынікі працы арганізацый і ўстаноў Лідскага раёна за 2014 год і ў гонар 75-годдзя ўтварэння Лідскага раёна, Лідскі раённы выканаўчы камітэт ВЫРАШЫЎ:

1. Уручыць Ганаровы дыплом першай ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 30 (трыццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 7 (сем) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый у сферы:

**прамысловасці** - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Лідскае піва" (генеральны дырэктар Аўдрыюс Мікшыс);

**будаўніцтва** - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Будвектар" (дырэктар Петарс Віктар Пятровіч);

**гандлю** - унітарнаму камунальнаму прадпрыемству "Камбінат школьнага харчавання" г. Ліда (дырэктар Касцючэнка Наталля Сямёнаўна);

**адукацыі** - дзяржаўнай установе адукацыі "Лідскі раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі" (дырэктар Ганчар Галіна Анатольеўна).

2. Уручыць Ганаровыя дыпломы другой ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 5 (пяць) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый у сферы:

**аховы здароўя** - другому кардыялагічнаму аддзяленню ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца" (загадчык Эйсмант Ала Станіславаўна);

**у пастаноўцы ідэалагічнай працы ў працоўным калектыве** - філіялу рэспубліканскага ўнітарнага вытворчага прадпрыемства "Гроднахлебпрам" “Лідскі хлебазавод” (дырэктар Кулік Лявон Лявонавіч);

**культуры** - Лідскаму раённаму “Цэнтру рамёстваў і традыцыйнай культуры” (дырэктар Шчэліна Алена Валянцінаўна);

**фізкультурна-аздараўленчай працы** - установе "Лідская спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву "Лакафарба" (дырэктар Яновіч Сяргей Рыгоравіч).

3. Уручыць Ганаровыя дыпламы другой ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 5 (пяць) базавых велічынь за другое месца сярод арганізацый у сферы:

**прамысловасці** - замежнаму прыватнаму вытворчаму ўнітарнаму прадпрыемству "Белтэкс Оптык" (дырэктар Матусевіч Алег Ігаравіч);

**сельскай гаспадаркі** - філіялу "Дзітва" адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт" (выканаўца абавязкаў дырэктара Ваўчок Ігар Іосіфавіч).

4. Уручыць Ганаровыя дыпломы трэцяй ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 3 (тры) базавыя велічыні за першае месца сярод арганізацый у сферы:

**дашкольнай адукацыі** - дзяржаўнай установе адукацыі "Санаторны яслі-сад № 2 г. Ліда для дзяцей хворых туберкулёзам" (загадчык Карэйва Аксана Эдуардаўна);

**малога і сярэдняга бізнэсу** - замежнаму прыватнаму гандлёва-вытворчаму ўнітарнаму прадпрыемству "Эвеліда" (дырэктар Гардзееў Аляксандр Мікалаевіч);

**сельскагаспадарчых падраздзяленняў** - малочна-таварнай ферме "Більтаўцы" Лідскага раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Мажэйкава" (брыгадзір Аброшка Аксана Ўладзіміраўна).

5. Уручыць Ганаровыя дыпломы трэцяй ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з уручэннем грашовай прэміі ў памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 3 (тры) базавыя велічыні за трэцяе месца сярод арганізацый у сферы:

**прамысловасці** - даччынаму прадпрыемству "Мінойтаўскі рамонтны завод" Гарадзенскага ўнітарнага прадпрыемства "Аблсельгастэхніка" (дырэктар Гейштаўт Багдан Вацлававіч).

6. Занесці на раённую дошку Пашаны работнікаў арганізацый і ўстаноў раёна, якія дамагліся найлепшых паказчыкаў па выніках года, з уручэннем грашовай прэміі ў памеры 3 (тры) базавыя велічыні:

Бярнадскага Юрыя Тамашавіча - машыніста катка шостага разраду філіяла дарожна-эксплуатацыйнага кіравання № 55 рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааўтадар";

Боўшыса Віталя Тадэвушавіча - выкладчыка Лідскай раённай арганізацыйнай структуры рэспубліканскага дзяржаўнага грамадскага аб'яднання "Добраахвотнае таварыства садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту Рэспублікі Беларусь";

Граеўскую Людмілу Ўладзіміраўну - начальніка аддзялення паштовай сувязі “Бярозаўка” Лідскага раённага вузла паштовай сувязі Гарадзенскага філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Белпошта";

Войніча Аляксандра Ірынархавіча - лекарахірурга хірургічнага аддзялення ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Ваўчкова Алега Іванавіча - электразваршчыка ручной зваркі адкрытага акцыянернага таварыства

"Лідагазбуд";

Ганевіча Івана Феліксавіча - старшыню Дварышчанскага сельскага выканаўчага камітэта;

Дворак Кацярыну Вячаславаўну - рабочую рытуальных паслуг камунальнага ўнітарнага прадпрыемства "Камбінат побытавых паслуг";

Даўлюда Івана Мікалаевіча - начальніка аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі крымінальнай міліцыі раённага аддзела ўнутраных спраў Лідскага раённага выканаўчага камітэта;

Дрык Алену Анатольеўну - намесніка галоўнага бухгалтара адкрытага акцыянернага таварыства "Гандлёва-вытворчая фірма "Ліда";

Дуброўніка Андрэя Станіслававіча - намесніка начальніка Лідскага аддзела Дэпартамента аховы Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь - начальніка аддзялення сродкаў і сістэм аховы;

Касцюкевіч Дануту Вацлававну - пакаёўку гасцініцы "Ліда" Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Кацмаер Галіну Іосіфаўну - брыгадзіра малочна-таварнай фермы "Далекія" філіяла "Дзітва" адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт";

Лаўніка Мікалая Іванавіча - чальца прэзідыума Лідскай раённай арганізацыі Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў;

Лебядзевіч Жанну Віктараўну - кіраўніка "Ўзорнага аматарскага калектыва" ансамбля танца "Крышталікі";

Лычкоўскага Ўладзіміра Іосіфавіча - аздабляльніка-выдзімальніка вырабаў цэха бясколернага шкла адкрытага акцыянернага таварыства "Шклозавод "Нёман";

Майсюка Андрэя Ўладзіміравіча - начальніка варты пажарнай аварыйна-выратавальнай часткі № 1 Лідскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях установы "Гарадзенскае абласное кіраванне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь";

Пяцэвіча Зміцера Аляксандравіча - начальніка кіравання вытворча-тэхналагічнай камплектацыі адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўніча-мантажны трэст № 19";

Раткевіч Тамару Аркадзеўну - сацыяльнага работніка першай катэгорыі аддзялення сацыяльнай дапамогі на хаце дзяржаўнай установы "Лідскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва";

Рышкевіча Зміцера Ігаравіча - спартоўца-інструктара ўстановы "Лідская спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву "Лакафарба";

Федасевіча Валерыя Вацлававіча - кіроўцу аўтамабіля філіяла "Аўтобусны парк № 2 г. Ліда" адкрытага акцыянернага таварыства "Гроднааблаўтатранс";

Цыбрука Андрэя Юр'евіча - начальніка аддзялення раскватаравання і эксплуатацыі аддзела тылу вайсковай часткі 1234.

Чупрыка Юрыя Ўладзіміравіча - бетоншчыка чацвёртага разраду філіяла "Лідская вытворчая механізаваная калона - 169" адкрытага акцыянернага таварыства "Гроднааблсельбуд";

Ярашэвіча Віталя Генадзевіча - камандзіра батальёна аэрадромнага і матэрыяльнага забеспячэння 116 гвардзейскай Радамскай Чырванасцяжнай штурмавой авіяцыйнай базы.

Ярмака Аляксандра Вяслававіча - настаўніка хіміі дзяржаўнай установы адукацыі "Гімназія № 1 г. Ліда";

7. Узнагародзіць Ганаровай граматай Лідскага раённага выканаўчага камітэта:

Аляксеева Юрыя Ўладзіміравіча - апаратчыка перагонкі шостага разраду цэха па вытворчасці фталевага ангідрыду адкрытага акцыянернага таварыства "Лакафарба";

Барціса Мечыслава Пятровіча - начальніка транспартнага цэха адкрытага акцыянернага таварыства "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш";

Белана Андрэя Юр'евіча - машыніста пагрузачнай машыны "Амкадар" брыкетнага цэха адкрытага акцыянернага таварыства "Торфабрыкетны завод "Лідскі";

Бочарову Наталлю Юр'еўну - педагога-псіхолага дзяржаўнай установы адукацыі "Дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці п. Дзітва";

Вялікіну Аксану Ўладзіміраўну - намесніка дырэктара па выхаваўчай працы ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны музычны каледж";

Вільбіка Паўла Сцяфанавіча - муляра дапаможна-будаўнічага ўчастка Лакаматыўнага дэпо "Ліда" транспартнага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі";

Вянскевіча Івана Міхайлавіча - аператара кацельні адкрытага акцыянернага таварыства "Лідаагратэхсервіс";

Гайдук Ганну Іванаўну - інжынера-хіміка вытворчай лабараторыі адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі малочна-кансервавы камбінат";

Глаўніцкую Сняжану Ўладзіміраўну - начальніка ўчастка прадпрыемства грамадскага сілкавання Лідскага філіяла Гарадзенскага абласнога спажывецкага таварыства;

Гільвей Вацлава Антонавіча - паліроўшчыка другога разраду закрытага акцыянернага таварыства "Каскад" г. Ліда;

Глухарова Ігара Іванавіча - электраманцёра па рамонце і абслугоўванні электраабсталявання шостага разраду вытворчасці вадаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Дарошыну Алену Іванаўну - камплектоўшчыка ўчастка вырабу мэблі з масіва адкрытага акцыянернага таварыства "Лідская мэблевая фабрыка";

Жынко Таццяну Леанідаўну - начальніка цэха сталярна-будаўнічых вырабаў адкрытага акцыянернага таварыства "Лідабудматэрыялы";

Копаця Віктара Віктаравіча - слесара па зборцы выпусканай прадукцыі даччынага прадпрыемства "Мінойтаўскі рамонтны завод" Гарадзенскага ўнітарнага прадпрыемства "Аблсельгастэхніка";

Піваварчык Галіну Андрэеўну - кіраўніка ўзор-

най студыі эстраднай песні "Дамінанта" дзяржаўнай установы адукацыі "Гімназія № 1 г. Ліда";

Піпко Сяргея Мікалаевіча - старшыню суда Лідскага раёна;

Пазняк Лідзію Мікалаеўну - начальніка аддзела радыёвяшчання камунальнага ўнітарнага прадпрыемства "Лідскае тэлерадыёаб'яднанне";

Саўко Таццяну Рыгораўну - загадчыка гарадской паліклінікі № 2 установы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Страчынскага Валера Юльянавіча - электрагазасваршчыка рамонтна-будаўнічай групы вытворчага кіравання "Лідамежрайгаз" вытворчага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблгаз";

Шаль Наталлю Мікалаеўну - намесніка галоўнага інжынера - начальніка навукова-тэхнічнага цэнтра адкрытага акцыянернага таварыства "Шклозавод "Нёман".

8. Узнагародзіць Падзячным лістом старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэта:

Бесараб Раісу Іванаўну - кухара кавярні "Полюс" камунальнага ўнітарнага прадпрыемства гандлёвага цэнтра "Патсдам" г. Ліда;

Валадося Леаніда Васільевіча - дырэктара адкрытага акцыянернага таварыства "Лідаспецаўтатранс";

Вашкевіча Юрыя Эдвардавіча - генеральнага дырэктара адкрытага акцыянернага таварыства "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш";

Віннічак Алу Мікалаеўну - начальніка Лідскага раённага вузла паштовай сувязі Гарадзенскага філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Белпошта";

Галецкага Мечыслава Раманавіча - першага намесніка дырэктара філіяла "Аўтобусны парк № 2" г. Ліда адкрытага акцыянернага таварыства "Гроднааблаўтатранс";

Гарановіч Таццяну Ўладзіміраўну - наладчыка тэхналагічнага абсталявання цэха № 4 адкрытага акцыянернага таварыства "Завод "Оптык";

Галавенка Ірыну Іванаўну - начальніка ўчастка вінаробства адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскія харчовыя канцэнтраты";

Галавача Тадэвуша Юзафавіча - дырэктара адкрытага акцыянернага таварыства "Завод "Оптык";

Горбач Марыну Янаўну - начальніка планава-эканамічнага аддзела ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Жамойцеля Генрыха Часлававіча - дырэктара адкрытага акцыянернага таварыства "Лідаагратэхсэрвіс";

Жукаву Аксану Антонаўну - дырэктара Мажэйкаўскага цэнтральнага Дома культуры;

Кеўра Галіну Янаўну - майстра кансервавага цэха адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі малочна-кансервавы камбінат";

Крыпец Тамару Іванаўну - загадчыка сектара кадравай і праваvой работы аддзела адукацыі, спорту і турызму Лідскага раённага выканаўчага камітэта;

Лісіцынскую Алену Станіславаўну - загадчыцу секцыі ўнітарнага камунальнага прадпрыемства Крама № 1 "Дом гандлю" г. Ліда;

Малец Таццяну Мікіцічну - начальніка цэха №4 адкрытага акцыянернага таварыства "Лідская абутковая фабрыка";

Міранцова Віктара Канстанцінавіча - старшыню Лідскай раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання "Беларускі фонд міру";

Мурына Ўладзіміра Міхайлавіча - ветэрана працы;

Мязітава Раміля Раўсімжанавіча - шліфоўшчыка шкла са шклавырабаў адкрытага акцыянернага таварыства "Шклозавод "Нёман";

Нагорнага Мечыслава Адамавіча - начальніка цэха па вытворчасці камбікормавай прадукцыі адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт";

Пракапеню Мікалая Аляксандравіча - намесніка галоўнага інжынера - галоўнага канструктара адкрытага акцыянернага таварыства "Шклозавод "Нёман";

Пучылу Аляксандра Віктаравіча - вядучага метадыста па музычна-інструментальным жанры Лідскага раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці;

Руткевіч Таццяну Вітольдаўну - пашпартыста разлікова-даведкавага цэнтра Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Сямёнаву Ванду Эдвардаўну - складальніка фаршу каўбаснага цэха адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі мясакамбінат";

Стацко Марыну Васільеўну - сацыяльнага работніка дзяржаўнай установы "Лідскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва";

Спірыну Алену Мікалаеўну - дырэктара дзяржаўнай установы адукацыі "Лідская дзіцячая школа мастацтваў";

Туранцава Аляксандра Віктаравіча - начальніка змены мукамольнага цэха адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт";

Цяцька Ірыну Валянцінаўну - педагога дадатковай адукацыі дзяржаўнай установы адукацыі "Лідскі раённы экалагічны цэнтр дзяцей і моладзі";

Шумскага Івана Сцяпанавіча - намесніка дырэктара па будаўніцтве адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскае рамонтна-будаўнічае прадпрыемства № 17";

Эйсымонта Андрэя Адамавіча - старшыню Савета дырэктараў Лідскага раёна - дырэктара адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі малочна-кансервавы камбінат".

9. Прэміяванне ў памеры 107640000 (сто сем мільёнаў шэсцьсот сарок тысяч) рублёў правесці за кошт сродкаў, прадугледжаных на правядзенне мерапрыемстваў Лідскага раённага выканаўчага камітэта паводле каштарысу выдаткаў (прыкладаецца).

10. Кантроль за выкананнем гэтага рашэння ўскласці на намесніка старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэта Глаўніцкага А.Т.

Старшыня М.К. Карповіч.

Кіраўнік справамі І.І. Юч.

# Лідскі павет - Лідскі раён

## Лідскаму раёну - 75 гадоў

*Лідскі раён уяўляе сабою плоскую, слаба нахіленую ў бок поўдня марэнную раўніну, з абсалютнымі вышынямі ў межах 140-200 м, якая праразаецца рэкамі Лебяда, Дзітва, Жыжма і іх прытокамі і пераходзіць у Нёманскую нізіну, абмежаваную па паўднёва-усходняй ускраіне ракой Нёман.*

*Знаходзіцца ў цэнтры Гарадзенсукай вобласці, мяжуе з Вараноўскім, Іўеўскім, Наваградскім, Дзятлаўскім, Шчучынскім раёнамі.*

*Раён утвораны 15 студзеня 1940 года. Плошча раёна - 157 тысяч гектараў.*

Першыя людзі плямёнаў свідэрскай культуры прыйшлі на Лідчыну каля 12 тысяч гадоў таму назад. Пасля іх на Лідчыне пражывалі плямёны яніславіцкай, нёманскай, прыбалтыйскай культур, шнуравой і штрыхаванай керамікі (балты). У 10-11 стагоддзі ўздоўж даліны Нёмана пасяліліся славяне. Доўгія стагоддзі па Дакудаўскіх балотах і даліне р. Дзітвы захоўвалася мяжа паміж дрыговічамі і яцвягамі. Лідчына - паласа кантакту славян і балтаў, ад іншых земляў адрознівалася абрадам пахавання, жаночымі ўпрыгожваннямі, тыпам вопраткі. У Лідскім раёне зарэгістраваны дзясяткі археалагічных стаянак, 4 гарадзішчы, 17 селішчаў, курганы, насыпы, каменныя магільнікі.

У XIV ст. Лідчына становіцца раёнам змяшанага засялення ліцвінаў, дайнаўцаў (яцвягаў), дрыговічаў, крывічаў, борцяў (прусаў) і жамойтаў. Назвы некаторых сёлаў кажуць самі за сябе: Крывічы, Крыўцы, Дайнава, Гуды (у дадзеным выпадку - Дрыговічы), Жомайдзі, Борці Турэйскія, Яцвезск. У 1323 г. па распараджэнні вялікага князя літоўскага Гедзіміна пачалі будаваць Лідскі замак, у гэтым жа годзе быў заснаваны горад Ліда.

З сярэдзіны XIV і да пачатку XVI стагоддзя Ліда - вялікакняскі горад з першых 14 гарадоў Вялікага Княства Літоўскага, Лідай валодалі вялікія князі Кейстут, Альгерд, Ягайла, Вітаўт. У горадзе з 1396 па 1399 г. жыў выгнаны з Залатой Арды хан Тахтамыш, старастам быў Ач-Гірэй - заснавальнік Крымскага ханства.

У XIV стагоддзі згадваюцца лідскія селішчы Дуброўня, Беліца, Востраў і Дакудава. Востроўскае пагадненне і Дакудаўская бітва апісваюцца ва ўсіх беларуска-літоўскіх летапісах. У пачатку XV стагоддзя згадваюцца Сялец, Олдава, Ваверка. Дакладна вядома, што Лідская харугва ўдзельнічала ў Грунвальдскай бітве.

Першым тэрытарыяльна-адміністрацыйным утварэннем вакол Ліды было Лідскае намесніцтва, вядомае з 1382 г., калі ім кіраваў фаварыт вял. кн. Ягайлы Вайдзіла. З 1413 г. Лідскае намесніцтва ўваходзіла ў Віленскае ваяводства, часам выступала пад назвай "павет". Ахоплівала дзяржаўныя сёлы, што належалі непасрэдна да Лідскага замка, і ўладанні мясцовых баяр-шляхты, якія выходзілі на вайну ў складзе Лідскай харугвы. У “Попісе войска Вялікага Княства Літоўскага” 1528 года фігуруюць каля 80 такіх дробных землеўладальнікаў, з якіх 37 ішлі ў войска асабіста, а астатнія выстаўлялі разам 49 коннікаў.

Акрамя Лідскага намесніцтва (павета) на поўдні будучага Лідскага раёна з 1490 існаваў яшчэ Беліцкі павет. Ён геаграфічна быў заціснуты паміж Троцкім паветам (ваяводствам) і Наваградскім паветам, але ў “Попісе войска ВКЛ” 1528 года стаіць асабняком. Паводле “Попісу ...” 1528 года Беліцкі павет павінен быў ставіць 12 коней. Праіснаваў Беліцкі павет нядоўга.

Пасля адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы 1565-66 гг. да Лідскага намесніцтва далучаны суседнія Астрынскае, Васілішскае, Радунскае і Эйшышкскае намесніцтвы, якія раней адносіліся да Троцкага ваяводства, а таксама буйныя панскія вотчыны: Беліца, Дакудава, Жалудок, Жыжма, Жырмуны, Ішчална, Сялец, Шчучын і інш. Іх агульная тэрыторыя ўтварыла Лідскі павет з фіксаванымі межамі і штатам павятовых урhouseholds. Лідскі павет увайшоў у Віленскае ваяводства, меў павятовую харугву чырвонага колеру з выявай "Пагоні". Але межы павета былі не вельмі ўстойлівымі: шэраг маёнткаў абапал Нёмана (Ятвезск, Ражанка, Турэйск, Дзеражное, Макрэц, Ліпічна з вялікай пушчай у Занямонні) у розных крыніцах адносяцца то да Лідскага павета, то да суседняга Гарадзенскага павета. Паводле попісу войска ВКЛ 1567 з прыватных маёнткаў Лідскага павета выстаўляліся прыблізна 980 коннікаў, з іх каля 200 выстаўлялі паны (не лічачы ўладанняў М.Ю. Радзівіла, склад маёнткаў якіх у попісе не прыводзіцца), астатніх - павятовая шляхта (частка яе валодала маёнткамі і за межамі Лідскага павета). Плошча павета складала каля 5,5 тыс. км$^2$.

У канцы XIV пачынаецца перадача земляў у прыватную ўласнасць. Першым на Лідчыне быў вылучаны двор Дуброўня з прылеглымі селішчамі: вялікі князь Альгерд каля 1370 г. надзяліў зямельным надзелам свайго слугу Вайдзілу. 17 лютага 1387 г. кароль Ягайла запісаў Дуброўню ў карысць Віленскай кафедры каталіцкіх біскупаў. У 1507 г. мысліvec (паляўнічы) Захарыяш Кузьміч атрымаў ад караля Жыгімонта 6 валок зямлі каля Ліды ў раёне праспекта Перамогі - мясцовасць гэта спачатку звалася Кузьмішкамі, потым Вісьмантамі У 1527 г. лідскі староста Юры Іллініч, які пабудаваў Мірскі замак, валодаў Дворышчамі, Бердаўкай, Прыдыбайламі і Зблянамі.

Да канца 16 стагоддзя ў межах сучаснага Лід-




***Лідскі павет у канцы 16-га стагоддзя.***

скага раёна налічвалася больш за 50 паселішчаў. З іх у вялікакняскай уладзе заставаліся Ліда, Кульбакі, Вашкевічы.

У першай палове 17 стагоддзя на Лідчыне прыкметна вырасла колькасць насельніцтва, многія сёлы набылі статус мястэчкаў. На карце Т. Макоўскага, выдадзенай у 1613 г., пазначаны: Ліда - горад з замкам і земскім судом, Беліца - горад, Ваверка, Крупа, Лебяда -мястэчкі, Белагруда - сяло са шляхецкім дваром. На першую палову стагоддзя прыйшліся лепшыя гады Беліцы. Гэтаму спрыяла пракладка дарогі з Гародні ў Наваградак праз Беліцу і навядзенне пры Беліцы пераправы цераз Нёман. Радзівілы пабудавалі тут, на беразе Нёмана палац. У Беліцы пражывалі майстры 16 спецыяльнасцяў, у асобныя гады доля рамеснага насельніцтва дасягала 19 % . У 1627 г. у Беліцы было 6 вуліц і пражывала не меней за 2 тысяч жыхароў. Штогод праводзіліся кірмашы.

У суседніх Зблянах у 1627 г. налічвалася 38 двароў, зямельныя надзелы складалі 16 валок (342 гектары), у сяле меліся млын і царква. У сярэдзіне стагоддзя ў Зблянах ужо - 62 двары, карчма і царква.

Ваверка статус мястэчка атрымала ў 1570 г. Праз Ваверку праходзіў гасцінец з Вільні на Кракаў, тут меліся корчмы, праводзіўся гандаль і кірмашы.

У Олдаве, якое набыло статус мястэчка напачатку 17 стагоддзя, праходзіў штотыднёвы гандаль і штогадовыя кірмашы.

У 1590 г. Ліда атрымала Магдэбургскае права. З канца XVI стагоддзя - гэта адміністрацыйны, судовы, гандлёвы цэнтр павета.

У 1650 годзе ў Лідскім павеце налічвалася 11,8 тыс. дымоў, што адпавядае колькасці насельніцтва каля 80 тыс. чал.

Падчас вайны 1654 -1667 гг. Лідскі павет "моцна пацярпеў": людскія страты склалі 23,7 тысячы чалавек (25%). У 1648 г. у павеце пражывалі 94,9 тыс. чалавек, а ў 1667 г -71,2 тыс. чалавек. Да вайны ў Лідскім павеце налічвалася 11860 "дымоў", пасля вайны - 9621, страты склалі 18,8 %. Цалкам знішчаны былі Ваверка, Мыто, Белагруда, у Беліцы з 234 дымоў засталося 40. Значная колькасць жылых дамоў была спалена, мужчынскае насельніцтва перабіта, гаспадаркі разрабаваны.

Адным з наступстваў гэтай вайны было заснаванне кляштароў, галоўным чынам дамініканскіх і кармеліцкіх. Другім наступствам быў пераход праваслаўных у ўніяцтва і каталіцтва. У канцы 17 стагоддзя на Лідчыне (у сучасных межах) было 5 касцёлаў: Белагрудскі, Ваверскі, Дылеўскі, Ельненскі і Лідскі; пяць уніяцкіх цэркваў: Дзікушская, Дакудаўская, Лідская, Мыцкая і Радзівонішская; дзве праваслаўныя царквы ў Голдаве і Зблянах.

Паўночная вайна прынесла новыя страты і пакуты. Насельніцтва рабавалі як шведскія, так і рускія войскі. У гэты час да Лідскага павета былі прырэзаны Ліпнішкі, Суботнікі, Геранёны, Дзевянішкі

У 1775 г у Лідскім павеце 11723 дымы, з іх сельскіх 10974 і 749 гарадскіх. Павет уключаў 8 староствў. У канцы 18 ст. ў Лідскім павеце налічвалася больш як 1200 паселішчаў, колькасць насельніцтва дасягала 100 тыс. чалавек.

Пасля паўстання 1794 года і Трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Лідчына далучана да Расійскай Імперыі. 8 жніўня 1796 г. Ліда вызначана павятовым




*Лідскі павет у 1749 г.*

цэнтрам Слонімскай губерні Літоўскага генерал-губернатарства. Затым імператары Павел I і Аляксандр I, якія, дарэчы, абодва наведвалі Ліду, паганялі Лідскі павет па губернях Літоўскай (1796-1801), Слонімскай (1801-1802), Гарадзенскай (1802-1842), пакуль Мікалай I не прыпісаў яго да Віленскай.

У 1812 г. Напалеон заснаваў у паветах прэфектуры з падпрефектам і двума дарадцамі. Лідскім падпрэфектам быў прызначаны павятовы маршалак Ігнацы Скіндар. У горадзе было арганізавана муніцыпальнае кіраванне на чале з мэрам - Аляксандрам Крыдзелам. Ад напалеонаўскай рэформы захавалася толькі слова “мэр”. Лідская шляхта двойчы - у 1831 і 1863 гг. - падымала паўстанні, маёнткі ўдзельнікаў паўстанняў пасля параз канфіскоўваліся, а самі ўдзельнікі або ўцякалі ў Заходнюю Еўропу, або высылаліся ў Сібір. Некаторыя з іх атрымалі сусветную вядомасць (Дамейка, Урублеўскі).

У канцы 1842 г. у Лідскім павеце налічвалася 16 мястэчкаў, 416 маёнткаў,




*Віленская губерня Расіі*




*Лідскі павет у 2-й палове 19-га стагоддзя..*

у апошні дзень 1884 г. па ёй быў адкрыты рух.

У 1900 г. у Лідскім павеце - 38 309 коней, 100084 галавы буйной рагатай жывёлы, 106 975 авечак, бараноў і коз, 50 557 свіней. У 1903 г. у павеце - 228 тысяч жыхароў. За парадкам сачылі 23 ураднікі і 73 стражнікі. У 1906 г. пачаўся рух цягнікоў на чыгуначнай лініі Маладзечна- Ваўкавыск праз Гаўе-Ліду-Скрыбаўцы і было завершана будаўніцтва Белагрудскага касцёла - аднаго з самых вытанчаных у раёне.

Пяцігоддзе з 1908 па 1913 год - час бесперапыннага ўздыму прамысловасці, культуры і адукацыі ў Лідскім павеце. На шклозаводзе "Нёман А" ў 1908 г. 552 працаўнікі, імі выраблена лямпавага шкла, шклянога і крыштальнага посуду на 310 тысяч рублёў. На шклозаводзе "Нёман Б" - 454 працоўныя.

У 1910 г. у Лідскім павеце дзейнічаюць 244 фабрыкі і заводы з 2160 працоўнымі. Шклозавод "Нёман" злучаны вузкакалейкай з чыгуначнай станцыяй Нёман. У Дакудаве паштовы аддзел ператвораны ў паштова-тэлеграфны аддзел. У Голдаве пры царкве адкрыта прыходскае таварыства цвярозасці, а настаўніца Клаўдзія Катовіч правяла небывалае дзіцячае свята.

1913 год - апошні мірны год перад разбуральнай катастрофай Расійскай імперыі. Год найвысокага ўздыму даваеннай эканомікі. У Лідскім павеце пражывалі 252,5 тысяч жыхароў. На шклозаводах "Нёман А" і "Нёман Б" працавалі 1050 працоўных, было выраблена каля мільёна штук сталовага посуду і крыштальных вырабаў на агульную суму 705 тысяч рублёў. Асноўныя фонды завода перавалілі за паўмільёна рублёў. На Перапечыцкай цагельні выраблена цэглы на 20 тысяч рублёў. На Парачанскім бровары выпушчана спірту 1,4 млн. градусаў.

Напачатку 1914 г. Лідскі павет плошчай 5615,7 км. кв. з насельніцтвам каля 260 тысяч складаўся з 23 валасцяў: Аляксандраўская, Арлянская, Астрынская, Беліцкая, Беняконская, Васілішская, Ганчарская, Дакудаўская, Дубіцкая, Жалудоцкая, Жырмунская, Забалацкая, Каняўская, Лідская, Лябёдская, Ляцкая, Мытлянская, Пакроўская, Радунская, Ражанкаўская, Тарноўская, Шчучынская і Эйшышская; 8 судова-адміністрацыйных акруг з земскім начальнікам у кожнай акрузе і 5 паліцэйскіх станаў з месцазнаходжаннем камісараў паліцыі ў Воранаве, Эйшышках, Шчучыне, Васілішках і Беліцы.

Ліда была павятовым цэнтрам, тут размяшчаліся ўсе павятовыя ведамствы: канцылярыя маршалка шляхты, дваранская апека, ваенкамат, павятовы з'езд,

1420 вёсак, у якіх пражывалі 90 869 католікаў, 24 742 праваслаўныя і 4 731 габрэй, разам 120 342 чал., у тым ліку 8 219 (1860 г.) шляхты. У 1861 г. Лідскі павет быў падзелены на 24 воласці: названыя Аляксандраўская, Арлянская, Астрынская, Беліцкая, Беняконская, Васілішская, Вялікамажэйкаўская, Ганчарская, Дакудаўская, Дубіцкая, Жалудоцкая, Жырмунская, Забалацкая, Каняўская, Лідская, Лябёдская, Ляцкая, Мытлянская, Пакроўская, Радунская, Ражанкаўская, Тарноўская, Шчучынская і Эйшышская. Павет уключаў сучасныя Лідскі, Воранаўскі і Шчучынскі раёны, а таксама частку Літвы, агульнай плошчай 5 460 км. кв. У 1862 г. у павеце пражывалі 122 тысячы чалавек з сярэдняй шчыльнасцю 25 чал. на кв. км. Па перапісе 1897 г. у павеце пражывалі 103 030 мужчын і 102 737 жанчын, усяго 205 767 чалавек, 30,3 % з якіх былі пісьменнымі. Сялянам належала 225 320 дзесяцін зямлі, шляхце - 195 960, скарбу - 39 580, мяшчанам - 12 470, царкоўным прычтам і манастырам - 2 200. На працягу 1882-84 гг. была пабудавана чыгунка Вільня-Ліда -Лунінец,

паліцэйскае ведамства, камісія сельскагаспадарчых арганізацый, казначэйскі інспектарат, казначэйская каса, ведамства акцызнай акругі, ведамства павятовага ваеннага начальніка, школьны інспектарат. У Лідзе пражывалі 16 тысяч жыхароў, меліся дзяржаўная мужчынская гімназія, прыватная жаночая гімназія, дзве прыватныя прагімназіі, дзве прыходскіх школы - мужчынская і жаночая, народная школа, талмуд - тора і знакаміты ешыбот рабіна Райнеса.

Улетку 1915 г. перад тварам надыходзячага кайзераўскага войска была праведзена беспрэцэндэнтная масавая эвакуацыя людзей і маёмасці. У канцы верасня 1915 г. Лідскі павет быў акупаваны кайзераўскімі войскамі. Была створана цэсарска-нямецкая Віленская губерня, куды ўваходзіў Kreisamt-Lida. Нямецкая адміністрацыя выдала распараджэнні пра ўскладанне аховы тэлефоннай і тэлеграфнай сеткі на мясцовае насельніцтва; пра адчужэнне каляровых металаў. Забаронена хаваць рускіх салдат; прымаць на начлег жабракоў і валацуг; перасылаць і атрымліваць пасылкі, лісты, газеты, часопісы; прадаваць і ўжываць мяса і мясныя прадукты ў аўторак і пятніцу; рэзаць і прадаваць гусей, качак, курэй без адмысловага дазволу. Усталяваны дзённыя нормы спажывання хлеба і бульбы. Уведзены талоны і купоны на тавары. Праведзена перарэгістрацыя насельніцтва, сталым уручаны аусвайсы. Вывозіліся лес, сельскагаспадарчая сыравіна, прадукты, абсталяванне, званы.З позняй восені 1915 г. пачалі адкрывацца беларускія школы Першая беларуская школа на Лідчыне была адкрыта ў Зблянах у канцы 1915 або ў самым пачатку 1916 года.

25 сакавіка 1918 года Лідскі павет увайшоў у склад новаабвешчанай Беларускай Народнай Рэспублікі.

Падчас савецка-польскай вайны Лідская зямля вельмі кароткі перыяд, са студзеня па красавік 1919 гады, уваходзіла ў склад БССР і Літоўска-Беларускай ССР.

19 лютага 1919 года ў Польшчы быў утвораны Цывільны ўрад усходніх зямель - Zarzad Cywilny Ziem Wschodnich (ZCZW) – польская цывільная адміністрацыя на тэрыторыях Літвы, Беларусі і Валыні (былога Вялікага Княства Літоўскага), не інкарпараваных у Польшчу, а занятых польскімі войскамі ў 1919-1920 гадах. Лідскі павет увайшоў у Віленскую акругу. У снежні 1919 года ў Лідскім павеце Віленскай акругі ZCZW жыло 186 060 чалавек. На яго тэрыторыі знаходзілася 1936 населеных пунктаў, з якіх 7 мелі звыш 1-5 тыс. жыхароў, а адзін меў звыш 10 тыс. Была гэта Ліда з 11 365 жыхарамі. У павеце ў 1919/1920 школьным годзе дзейнічалі 116 усеагульных школ і 3 сярэднія школы. Разам у іх вучылася 7267 дзяцей і працавалі 177 настаўнікаў.

У павет уваходзілі наступныя гміны: Аляксандрава, Араны, Астрына, Беліца, Беняконі, Вавёрка, Васілішкі, Воранава, Вялікая Лебяда, Ганчары, Дакудава, Дзембраў, Жалудок, Жырмуны, Забалаць, Іўе, Канява, Ліда, Ліпнішкі, Мацкішкі, Мыто, Новы Двор, Орля, Радунь, Ражанка, Сабакінцы, Седлішча, Суботнікі, Шчучын, Тарнова, Эйшышкі. У павеце былі два гарады: Ліда і Эйшышкі. Плошча павета на паперы была павялічана. Да яго на ўсходзе была далучана частка колішняга Ашмянскага павета (большая палова сучаснага Іўеўскага раёна), але рэальна гэтыя землі ўвайшлі ў склад Лідскага павета пазней..




*Лідскі павет у Віленскай акрузе ZCZW.*

11 верасня 1919 урад Савецкай Расіі заявіў пра згоду прызнаць Летувіскую дзяржаву і заключыць з ёю мірнае пагадненне. 12 ліпеня 1920 г., урад Савецкай Расіі, прызнаўшы незалежнасьць Летувы, перадаў ёй у абмен на нейтралітэт у савецка-польскім канфлікце Віленскі край з Вільняй, а таксама Гародню, Ліду, Смаргонь, Ашмяны, Нарач і Браслаўскія азёры. 14 ліпеня Чырвоная Армія займае Вільню, а ў верасні перадае яе летувісам.

У ходзе контрнаступленняў у жніўні-верасні 1920 года, пасля бітвы на Вісле, польскія войскі адваявалі

12 беларускіх паветаў у Савецкай Беларусі, а таксама Гародню, Ліду, Свянцяны ў Летувы. Віленскі край заставаўся ў складзе Летувы, хоць этнічныя летувісы складалі тут паводле розных падлікаў ад 5% да 18% (у самой Вільні іх было 4,5%). Грубая заваёва краю польскімі войскамі выклікала б востры пратэст з боку Еўропы і Лігі Нацый, таму захоп Вільні і Віленскага краю павінен быў выглядаць як звычайны «бунт». Роля «бунтаўнікоў» адводзілася Літоўска-Беларускай дывізіі пад камандаваннем Люцыяна Жалігоўскага. Дывізія Жалігоўскага складалася на 90% з жаўнераў-ураджэнцаў Беларусі, а значная частка іх, у сваю чаргу, паходзіла з Віленскага краю. Бліжэйшым памочнікам Л. Жалігоўскага быў генерал Стэфан Макрэцкі родам з маёнтка Дзітрыкі Лідскага павету

20 верасня Пілсудскі, галоўны ініцыятар акцыі, выдаў загад аб накіраванні Літоўска-Беларускай дывізіі на Гарадзеншчыну, на зімовыя кватэры. 30 верасня ў Беластоку адбылася сустрэча паміж Жалігоўскім і Пілсудскім. Жалігоўскі пазней успамінаў:

*- Пілсудскі паведаміў, што Польшча адмовілася афіцыйна ад Вільні ў Спа, і зараз няма іншага спосабу вярнуць горад. Трэба, каб гараджане самі падняліся за свае правы... Трэба толькі памятаць, што можа наступіць час, калі і Сойм, і Сенат, і Польшча адракуцца ад вас, таму трэба быць гатовым узяць усё пад сваю адказнасць. Пра гэта нельга казаць уголас. (Люцыян Жалігоўскі, Наша Ніва. Кароткая гісторыя яшчэ адной Літвы.)*

6 кастрычніка Люцыян Жалігоўскі аддаў загад пра перамяшчэнне аператыўнай вайсковай групоўкі ў раён Воранава і Беняконяў за вызначаную Сувалкаўскімі перамовамі дэмаркацыйную лінію. Ядро дывізіяў склалі часткі I Літоўска-Беларускай дывізіі, у склад якой уваходзілі Віленскі, Гарадзенскі, Менскі, Сувалкаўскі, Лідскі і Ковенскі палкі. Дзеянні частак, сфармаваных з выхадцаў Вільні і Віленскага краю, павінны былі насіць стыхійны характар, які выказвае волю насельніцтва, і выглядаць як вяртанне законных гаспадароў у родны край.

Згодна з дэкрэтам № 1 ад 12 кастрычніка 1920 года галоўнакамандуючага войскамі генерала Л. Жалігоўскага тэрыторыя Сярэдняй Літвы першапачаткова ўключала 14 гмінаў Браслаўскага, па адной гміне Вілейскага і Дзісенскага, 19 гмінаў Віленскага павету, Троцкі павет, гміны Лідскага павета на правым беразе Нёмана і 8 гмінаў Гарадзенскага павета. Пазней мяжа Сярэдняй Літвы была перанесена крыху на поўнач і прайшла па лініі Алкенікі - Беняконі - Дзевянішкі - Трабы - Лебедзі, на захад ад Маладзечна і Вілейкі, потым на поўнач да Казянаў і ракі Заходняя Дзвіна, на захад ад Друі. Сярэдняя Літва ў выніку поўнасцю ці часткова ахоплівала Ашмянскі, Свянцянскі, Троцкі, Віленскі, Браслаўскі і Лідскі паветы; яна займала каля 10 тыс. км$^2$ і налічвала 530 тыс. чал., 40% з якіх складалі беларусы

Па Рыжскай дамове ад 18 сакавіка 1921 года Лідчына адышла да Польшчы. У Лідскі павет вярнуліся тэрыторыі, якія былі ў Сярэдняй Літве. Многія сем'і, эвакуяваныя ў Расію, вярнуліся на радзіму. Лідскі павет быў уключаны ў Наваградскае ваяводства.

На пачатку 1926 г. у Лідскі павет былі перададзены гміны, прыпісаныя яшчэ ў 1919 г.: Суботнікі, Іўе, Ліпнішкі. Вёскі Каўпінскія Нагародзічы, Гезгалы, Нясілавічы і інш. перадзеныя ў Беліцкую гміну Лідскага павета. У траўні 1926 г. Каняўская і Аранская гміны адышлі з Лідскага павета ў Віленска-Троцкі павет. У сакавіку 1927 г. вёскі Баранцы і Масеўчукі былі перададзены з гміны Орля ў гміну Жалудок.

21 траўня 1929 года ўтвораны Шчучынскі павет Наваградскага ваяводства. У яго ўвайшлі ў асноўным гміны Лідскага павета: Дзембраў, Лебяда, Новы Двор, Орля, Астрына, Ражанка Сабакінцы, Шчучын, Васілішкі, Жалудок. З Гарадзенскага павета Беластоцкага ваяводства ў Шчучынскі павет перадалі гміну Каменка.

Такім, з адрэзанымі 10 векавечнымі лідскімі гмінамі, але з далучанымі гмінамі гістарычнага Ашмянскага павета, Лідскі павет дайшоў да верасня 1939 года, калі на Лідчыну прыйшла Чырвоная Армія. 2 лістапада 1939 года Вярхоўны Савет СССР прыняў закон пра ўключэнне Заходняй Беларусі ў склад СССР і ўз'яднанне яе з БССР. 2 снежня 1939 года замест раней існаваўшых Беластоцкага, Палескага, Наваградскага




***Наваградскае ваяводства II Рэчы Паспалітай***



***БССР у 1940 г.***

і Віленскага ваяводстваў былі ўтвораны Беластоцкая, Берасцейская, Баранавіцкая, Вілейская і Пінская вобласці. Лідскі павет (без Эйшышскай гміны, якая адышла да Літвы) уключылі ў склад Баранавіцкай вобласці.

15 студзеня 1940 года Ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, замест ранейшых паветаў, у заходніх абласцях Беларусі быў утвораны 101 раён, у тым ліку - Лідскі. У гэтым жа, саракавым, годзе, Ліда і Лідскі раён былі падзелены на самастойныя адміністрацыйныя адзінкі.

На тэрыторыі былога Лідскага павета былі створаны 7 маленькіх раёнаў: Васілішскі, Воранаўскі, Жалудоцкі, Лідскі, Радунскі, Шчучынскі і Іўеўскі. Бярозаўка і лідскія землі на ўсход ад яе на левым беразе Нёмана з вёскамі Пудзіна і Васілевічы былі перададзены ў Навагрудскі раён. Левабярэжныя вёскі Беліцкай гміны Гезгалы, Нясілавічы, Нагародзічы, Каўпінскія і інш. былі перададзены ў Лзятлаўскі раён. Плошча Лідскага раёна стала ўсяго толькі 1250 квадратных кіламетраў. На ёй размясціліся каля 300 населеных пунктаў, 5220 хутароў, 41 маёнтак. У гэтым жа годзе, 12 кастрычніка, Лідскі раён падзялілі на 20 сельсаветаў: Аполінскі, Бердаўскі, Беліцкі, Ваверскі, Ганчарскі, Гярвеніксці, Дакудаўскі, Дубровенскі, Запольскі, Лідскі, Мейраўскі, Мыцкі, Нёманскі, Няцецкі, Ольжаўскі, Радзівонішскі, Тракельскі, Траццякоўскі, Фалькавіцкі і Цвермскі.

27 чэрвеня 1941 гады Лідскі раён быў акупаваны нямецкімі войскамі. Тэрыторыі Беларусі (Беларутэніі рэйхскамісарыята Остланд) была падзелена на акругі (гебітскамісарыяты), а акругі - на раёны. У прыватнасці, Лідскі гебітскамісарыят быў падзелены на 7 раёнаў: Васілішкаўскі, Жалудоцкі, Іўеўскі, Лідскі, Радунскі, Шчучынскі і Юрацішкаўскі. У Лідзе - цэнтры акругі - размяшчалася рэзідэнцыя гебітскамісара.

Улетку 1944 года Чырвоная Армія пачала вызваляць беларускую зямлю. З 8 па 12 ліпеня 1944 года фронт прайшоў праз Лідскі раён. На Лідчыне былі адноўлены савецкая ўлада і даваенная адміністрацыйная структура.

20 верасня 1944 года Лідскі раён быў выведзены з Баранавіцкай вобласці і ўключаны ў Гарадзенскую.

16 ліпеня 1954 года правялі ўзбуйненне сельсаветаў. Нёманскі сельсавет расфармавалі і падзялілі яго тэрыторыю паміж Беліцкім і Ганчарскім. Мейраўскі далучылі да Ваверскага. Лідскі, Дубровенскі і Цвермскі сельсаветы аб'ядналі ў Дубровенскі; Аполінскі і Запольскі - у Крупаўскі; Ольжаўскі і Мыцкі - у Белагрудскі. Фалькаўскі сельсавет пераназвалі ў Каню-




***Лідскі раён у складзе Гарадзенскай вобласці ў 1944 г.***

шанскі.

3 красавіка 1959 года - Тракельскі сельскі савет перададзены з Лідскага ў склад Воранаўскага раёна.

17 красавіка 1962 года да Лідскага раёна далучылі Голдаўскі, Гасцілаўскі і Парачанскі сельсаветы з расфармаванага Жалудоцкага раёна. А 25 снежня 1962 года былі далучаны Пескаўскі і Ходараўскі сельсаветы Шчучынскага раёна, а таксама Новагародзіцкі і Стрэльскі сельсаветы Дзятлаўскага раёна і г.п. Бярозаўка. У сакавіку 1965 года Новагародзіцкі і Стрэльскі сельсаветы вярнулі ў Дзятлаўскі раён.

27 ліпеня 1990 года была прынята Дэкларацыя пра дзяржаўны суверэнітэт БССР. У 1991-м БССР была пераназвана ў Рэспубліку Беларусь, у гэтым жа годзе СССР спыніў існаванне. Лідчына стала рэгіёнам незалежнай Рэспублікі Беларусь.

9 лютага 2004 года горад Ліду і Лідскі раён, паводле Ўказу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 56 аб'яднaлі ў адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку. Яна завецца Лідскі раён.

Апошні раз межы Лідскага раёна былі зменены ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 12.02.2009 № 95 "Аб змяненні межаў Лідскага і Наваградскага раёнаў". Гэтым указам у склад Лідскага раёна ўключаны зямельныя участкі ў раёне г. Бярозаўкі агульнай плошчай 301,8658 га, у тым ліку: 255,4897 га - землі юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў; 0,8173 га - землі грамадзян; 45,5588 га - землі Бярозаўскага гарвыканкама.

Змены межаў горада Ліды ў 2013 годзе да зменаў агульнай плошчы раёна не прывялі.

У гэтым стагоддзі наш раён вельмі змяніўся вонкава. Гэтаму паспрыялі, у прыватнасці, будаўніцтва ў сельскай мясцовасці аграгарадкоў (такі статус у раёне атрымалі 16 населеных пунктаў) і правядзенне ў 2010 годзе рэспубліканскіх "Дажынак" у Лідзе.

Сёння тэрыторыя раёна складае 1567 квадратных кіламетраў. Землі сельскагаспадарчага выкарыстання раскінуліся на плошчы 86,2 тысячы гектараў. У адсоткавых злічэнні ад усёй тэрыторыі раёна ворыва займае 34,8%, лясы - 26,7%, сенажаці і пашы - 20,6%.

На тэрыторыі раёна сёння размешчаны 273 сельскія населеныя пункты і два гарады - Ліда і Бярозаўка. Усяго ў раёне на 1 студзеня 2015 года пражывалі 132,3 тысячы чалавек. У тым ліку: у Лідзе - 99,97 тысячы чалавек, у Бярозаўцы - 10,5 тысячы, у сельскай мясцовасці - 21,8 тысячы.

Сельская мясцовасць адміністрацыйна падзелена на 13 сельсаветаў: Беліцкі, Бердаўскі, Ваверскі, Ганчарскі, Дварышчанскі, Дзітвянскі, Дубровенскі, Крупаўскі, Мажэйкаўскі, Пескаўскі, Тарноўскі, Трацнякоўскі і Ходараўскі. Яшчэ не так даўно сельсаветаў было 15 (плюс Голдаўскі і Дакудаўскі). Але 24 снежня 2013 года Голдаўскі сельсавет далучылі да Ходараўскага, а Дакудаўскі - да Трацнякоўскага.

Прадстаўнічая і выканаўчая ўлада ў раёне ажыццяўляецца Лідскім раённым, Бярозаўскім гарадскім і 13-ю сельскімі саветамі дэпутатаў і выканаўчымі камітэтамі.

Паводле перапісу 2009 года, у раёне пражываюць прадстаўнікі 60 нацыянальнасцяў. Больш паловы насельніцтва (51,4%) складаюць беларусы; прыкладна трэцюю частку (35,3%) - палякі; 9,4% - рускія; 1,7% - украінцы.

*Матэрыял скампанаваў*
***Станіслаў Суднік***

**паводле:**

1. В. Сліўкін. Шэраг матэрыялаў у СМІ.

2. Святлана Медуніца. Повет, уезд, район... или как веками менялся статус Лидчыны. Лидская газета, 18 лютага 2015 г.

3. Святлана Медуніца. Край с богатейшей историей и трудолюбивыми красивыми людьми. Лідская газета, 14 студзеня 2015 г.

4. С. Суднік. Беліцкі павет. Лідскі летапісец, № 3 (55), 2011 г.

5. Леанід Лаўрэш. Лідчына ў 1924 - 1929 гг. у люстэрку прэсы. Лідскі летапісец, № 1 (69), 2015 г. С. 57.

6. Сайт Лідскага райвыканкама.

7. Сайт Тракельскага аграпрадпрыемства.

8. Беларуская і польская вікіпедыі ды іншыя крыніцы.



# “НАШАМУ СЛОВУ” - 25 гадоў

**17 сакавіка 2015 г.** - 25 гадоў “Нашаму слову”. Якая канкрэтна падзея, звязаная з “Нашым словам”, адбылася ў гэты дзень, ужо ці хто можа сказаць. У першым нумары тады яшчэ бюлетэня “Наша слова”, рэдактарам якога быў Ніл Гілевіч, пазначаны час выхаду - **сакавік 1990 года**. Сам Ніл Сымонавіч, які напісаў першую перадавіцу новай газеты, а менавіта - зварот да чытача, не бярэцца сцвярджаць, што дакладна ў гэты дзень выйшаў першы нумар. Але ва ўсіх календарах замацавалася гэтая дата, і, як казаў ваверскі ксёндз, не мы яе туды запісвалі - не нам і перапісваць. А ёсць жа магчымасць для гісторыкаў дакапацца да сапраўды і сказаць, што ж такое адбылося 17 сакавіка.



Наша слова

№1. САКАВІК. 1990.

ДАРАГІ ЧЫТАЧ!

***Першы нумар “Нашага слова” за сакавік 1990 г.***

З 1990 па 1997 год газета “Наша слова” выходзіла ў Менску. Пасля Ніла Гілевіча рэдактарам газеты быў Эрнэст Ялунгін. У 1997 годзе дзяржава спыніла фінансаванне газеты “Наша слова”, і з красавіка газета спыніла свой выхад.

26 верасня 1997 года рэспубліканская Рада ТБМ прыняла рашэнне аб перадачы газеты ў Ліду.

***ПАСТАНОВА РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТБМ***
*ад 26 верасня 1997 г.*

*1. Аднавіць выпуск газеты "Наша слова" з кастрычніка 1997 г. Даручыць выданне газеты Лідскай Радзе ТБМ імя Ф. Скарыны.*

### Зварот да чытача, змешчаны ў 1-м нумары “Нашага слова” ў сакавіку 1990 г.

**ДАРАГІ ЧЫТАЧ!**

*У тваіх руках першы нумар "Нашага слова" - выданне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Яшчэ адно сціплае пацверджанне таго, што працэс вяртання законных правоў роднаму слову на Беларусі патроху набірае сілу. А ці пачуецца наша мова на сваёй зямлі гаспадыняй - на гэта адказ адзін: толькі тады, калі клопат пра яе лёс стане ўсенародным.*

*Першы выдатны крок на гэтым шляху зроблены - прыняты Закон, якім беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай. Але гэта менавіта крок першы і не самы цяжкі. Галоўнае, у тым ліку і найбольшыя цяжкасці - наперадзе. Закон прымаецца для таго, каб ягоны змест стаў жыццёвай рэальнасцю. Мяркуючы па тым, з якім боем праходзіў ён на камісіях і на сесіі Вярхоўнага Савета, практычнае ўвядзенне артыкулаў Закона ў дзеянне можа выклікаць моцнае супраціўленне. Зразумела, з боку тых, хто на словах і за дэмакратыю, і за перабудову, і за інтэрнацыяналізм, і за росквіт Беларусі - але толькі каб усё гэта... без беларускай мовы, а значыць - і без беларускай нацыянальнай культуры. Адным словам - за Беларусь без беларусаў. Бо калі ў народа няма сваёй мовы, сваёй мастацкай культуры, сваёй гістарычнай памяці, свайго ўласнага духоўнага аблічча, то а што тады ў яго ёсць, каб называцца народам?*

*Дык вось найпершы і найважнейшы сёння абавязак кожнага сябра ТБМ - усімі сіламі садзейнічаць таму, каб наша родная мова вярнула сабе страчанае пад ударамі лёсу становішча мовы дзяржаўнай. Вядома ж - спосабамі і шляхамі, якія будуць характарызаваць нашу нацыю як сапраўды культурную, цывілізаваную. Вядома ж - у добрым узаемаразуменні і сяброўстве з мовамі ўсіх іншых нацыянальных груп насельніцтва, якія здаўна жывуць на тэрыторыі Беларусі.*

*Гэта ж ёсць найпершым і найгалоўным заданнем бюлетэня ТБМ "Наша слова". Усе яго рубрыкі і публікацыі будуць працаваць на ўздым аўтарытэту і прэстыжу беларускай мовы, на выхаванне павагі і любові да яе, на тое, каб яна паўнапраўна, свабодна і смела гучала на зямлі яе вялікага стваральніка - беларускага народа. Як наша выданне будзе спраўляцца з гэтым - перш за ўсё залежыць, дарагі чытач, ад цябе. Ад таго, як ты будзеш падтрымліваць і прапагандаваць "Наша слова", як будзеш забяспечваць яго цікавымі, змястоўнымі, мэтанакіраванымі допісамі і артыкуламі. На вялікую творчую дружбу з табою і разлічваем мы, верачы ў доўгае жыццё "Нашага слова". Верачы ў вечнае жыццё Нашага Слова!*

*2. Прызначыць в. а. рэдактара газеты "Наша слова" сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ, намесніка старшыні Гарадзенскай абласной Рады ТБМ Станіслава Судніка.*

*3. Даручыць фінансаванне, распаўсюджванне і рэалізацыю газеты "Наша слова" МП "Прагрэс" і МП "Шлях".*

*4. Ухваліць склад рэдакцыйнай Рады: Генадзь Бураўкін - старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.*

Першы нумар у Лідзе, а ў агульнай нумарацыі № 15 (331) выйшаў за 1 - 15 лістапада 1997 года. Уступны артыкул у гэты нумар напісаў не рэдактар, а слынная беларуская паэтка Антаніна Хатэнка:

***БУДЗЬ, "НАША СЛОВА", БУДЗЬМА МЫ!***

*Адгэтуль, са дня спраўджанага, "Наша слова" белым птахам будзе прылятаць у Вашыя задумныя хаты з краю Гарадзенскага. З краю, вартаванага-беражонага вечнымі мурамі Крэва ды Наваградка, Гальшанаў ды Ліды. З краю, дзе ссівела маўчыць мудрая Каложа, скуль вышэ ў нашыя беларускія нябёсы Сынкавіцкая царква.*

*І, можа, "Наша слова" прыгалубяць да сябе тры мужныя, святыя жанчыны, літасціва раскрыленыя над Айчынай, - Маці Божая Жыровіцкая, Алаіза Пашкевіч (Цётка) ды Ларыса Геніюш. Бо дарогі іхнія, як зычлівыя рукі, агортваюць усю Беларусь, памкнёныя да нас ў любові ад Слоніма, Ліды і Зэльвы. Памкнёныя да нашага нацыянальнага Узнясення - Узнясення да сябе існых, сапраўдных, здатных па-свойму Жыць, Думаць, Тварыць, Гаспадарыць і Любіць. Здольных памятаць і шанаваць свой Род, што даў пачаткі і славе нашай, і гонару, і красе ў вялікім свеце людства. Род, што сплачвае і цяпер нашыя духоўныя пазыкі, што пакутуе і зараз на адрачэнскія сухоты нашчадкаў. Але мы ёсць, як былі спрадвеку. І нам наканавана вечна быць. Таму што гарэніць недзе глыбока ў нашай душы яшчэ не выказанае Слова, яшчэ не апранутая ў прыгожую беларускую аздобу магутная, пераўтваральная, адзіна-незалежная нашая думка.*

*Восень рахункуе набыткі і выводзіць з палону зацяжэлай матэрыі Вольны Дух. Восень нараджае Моцу сягнуць за межы таго рэальнага, бачнага ўлоння, што ўзгадавала нас, - і пашырыць свядомасць да самых краёў, да неба, схаванага ў нас саміх.*

*Блаславі ж нас, Жыровіцкая Божая Маці, - да гэтае чыстае зямлі нахілёная, з гэтых крыніцаў жывая і жыццятворная, нашым словам узвялічаная ды аблашчаная. Бо тут па-нашаму, па-беларуску "дзень дню пераліваe гаворку, і ноч ночы агалашае Веду". І тую гаючую Веду, занатаваную-затканую ў белым полі памяці, ускрыленую чырвоным лётам Пагоні "не разбіць, не спыніць, не стрымаць". Мы ж ёсць тут і цяпер, каб Вялікі Закон Няспыннасці, Пагоні здзейсніць.*

**Малітва на чужыне да Божае Маці Жыровіцкай**

Найсвяцейшая Дзева Марыя, нашая добрая Маці і Ўладарка, выслухай нашую просьбу, скараці дні нашае нядолі і здзеку і Нашыя цярпенні, боль душы і бяду прымі. Памажы нам перанесці гэты жыццёвы крыж выгнання.

Прасі Сына Свайго, Госпада нашага Ісуса Хрыста, каб паслаў нам радасць аглядаць сваймі вачыма вольную Бацькаўшчыну нашу Беларусь, жыць у ёй і працаваць Богу на славу.

Бо ж ты адзіна чыстая і ўседабраславеная Багародзіца, Дзева Марыя, Уладарка Беларусі, што свеціш ў Жыровічах цяпер і на вякі вякоў. Аман.

*Не здзіўляйся, уніклівы чытач: малітва на чужыне прамоўленая мусіць быць і ад цябе, укарэненага тут, на Бацькаўшчыне. Бо ўсе мы разам збязладзілі нашыя лёсы на роднай зямлі гэтак, што чужына апанавала нашыя сэрцы, што ў выгнанні чуюцца разгубленыя, растрывожаныя душы. І чужынскасць гэтую ў крэўным Краі не змаганнем адолеем, а толькі ўзрастаннем Духу. Бо ў конадзень тысячагоддзя ліхая сіла адступае, і мы штодня ідзём праз ачышчэнне напрарочанага канца свету. Мы штодня ўзыходзім на праўдзівы крыж - крыж чалавечага выбару. Гэта мы, кожны з нас паасобку і ўсе супольна, "вяршым" канец свету дазваляючы нашай ніжэйшай прыродзе праяўляцца праз нас, альбо, адсланяем яго, задыхана ўздымаючыся па хісткай лесвіцы Удасканалення над прорвай хаосу. І не барацьба творыць лад - лад вырастае з глебы любові, самавартаснай ды самапаважнай. З любові няздраднай і мужнай сябе бараніць. Бо толькі Любоў прызнае перамогу - сягненне разам і да Божага святла. Багдановічу было відно: "усе мы разам ляцім да зор". А ў лёце гэтым адмыкаюцца ад нас і сваркі, і звады, і боль, і горыч.*

*У лёце гэтым знаходзім сутную сілу жыць, любіць і тварыць. А ў змаганні супраць кагосьці выклікаем на сябе гэткае ж зацятае непрыйманне, якое дазволілі сабе самі, спрычыніўшы гвалт з чужое думкі ды пазіцыі - хай сабе і нялюдскай. Але нам не дадзена яе, гэтую думку ці пазіцыю, знішчаць, зліквідоўваць, альбо караць ейнага носьбіта. Інакш бы ў дуалістычным свеце была суцэльная бойка, а не жыццё-тварэнне. Неадменны закон самазахавання светабудовы спрацоўвае гэтак, каб не разбурэнне спараджала чалавечая прага волі, але гармонію, здатнасць усяго жывога змыкацца дзеля ладу. Перамагаючы адно толькі самога сябе. Спрадаўна ж усходняя мудрасць сцвярджае, што перамагчы самога сябе ёсць добрым спосабам не быць пераможаным. Устрымаць самога сябе - гэта лепшы сродак дзеля таго, каб не мець над сабой валадара.*

*З годнае раўнавагі ўзрастае Дух, каб асвяціць нашыя дарогі. Бо толькі раскрыццё Духу знутры нашае людскае існасці вяршыць непадманную жыццёвую дзею. Як навучымся ва ўсіх праявах нашага зямнога бытавання бачыць рух Духу, - не варажнечай сягнем шуканае і жаданае Волі, а любоўю-сатва-*

*рэннем, перад якою слабымі і няўклюднымі апынаюцца тыраны. Але найперш трэба паверыць самому сабе і Божаму парастку ў сабе. Найперш трэба знайсці духоўнае апірышча, услухацца ў галасы продкаў, якім быў дадзены пакутны шанцунак ад Вышняга Розуму - бачыць скрозь час. Не прамінем жа на эпахальнай паваротцы Скарынаву падказку: "Не прасі сабе шматлікіх дзён жыцця, ані багацця, ані паразы ворагаў тваіх, але жадай сабе мудрасці". А мудрасць, што точыцца жывой вадой з вякоў гісторыі нашай, раіць: ісці поруч з Купалам, Багдановічам, Караткевічам і спавядаць па-Купалаўску - "ў народ і край свой толькі веру. І веру ў самаго сябе..."*

*На гэтай згоранай зямлі*
*шляхі спрадвечныя прайшлі.*
*Уладары мы тут? Рабы? -*
*Нам Узрастаць, Мацнець і Быць.*

*На гэтай зміранай зямлі*
*сляды прадзедавы ўзышлі -*
*сляды нязморнае сяўбы.*
*Каб нам ступаць на іх і Быць.*

*На гэтай сонцавай зямлі*
*вякі прамудрыя плылі...*
*Лёс ліхаманна церабіў,*
*каб узмужняцца нам і Быць.*

*На гэтай птахавай зямлі*
*званы ўваскрошана ўзгулі,*
*архангел вешча затрубіў,*
*каб нам Узвысіцца і Быць.*

*Нас на Купалавай зямлі*
*пуціны Божыя звялі.*
*Каб не сысці адчайна ў глыб -*
*каб тут Адважна, Годна Быць.*

***Антаніна Хатэнка.***

На такой духоўна-містычнай хвалі ўзлятала "Наша слова" ў Лідзе. Але ўвесь рамантызм, духоўнасць і містыка на тым і скончыліся. Наступіла неабходнасць штодзённай, пастаяннай і няпростай працы па выданні газеты. Усе арганізацыйныя, фінансавыя і інфармацыйныя клопаты леглі на плечы лідзян і сядзібы ТБМ у Менску. Неверагодна, але не маючы ні аднаго штатнага карэспандэнта, газета выходзіла і на 4-х, і на 8-мі, і на 12 палосах. І можна ўжо згадаць імя Ігара Валянцінавіча Русака, дырэктара холдынга "Руслан", які першым падтрымаў ідэю прыняць "Наша слова" ў Ліду. І трэба згадаць дырэктара фірмы "Прагрэс - 2" Мікалая Мікітавіча Сцепасюка, украінца, які ў першыя некалькі гадоў узяў на сябе бухгалтэрыю газеты і выплату падаткаў. Трэба згадаць Ігара Брушкова, які зрабіў першы макет лідскага "Нашага слова". Трэба згадаць украінку Валянціну Мікалаеўну Пятрэнка, якая некалькі гадоў дапамагала з бухгалтэрыяй. Трэба згадаць наборшчыцу Ванду Адольфаўну Мацулевіч і экспедытара, украінку Надзею Цвіркун. З пачатку 2000-х гадоў наборшчыцай стала Рыта Мікалаеўна Крупкіна, а бухгалтарам Данута Пятроўна Аўгусцін, якія працуюць да гэтага часу. З канца 1990-х гадоў выдаўцом газеты стала Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны. Рахунак быў адкрыты ў Лідскім філіяле "Белаграпрамбанка".

Газета трымала наклад у 2000 асобнікаў, але ў асобныя перыяды наклад дасягаў і 5000 асобнікаў. Доўгі час газета рассылалася ў шапікі "Саюздруку" ў Менск і ўсе 117 раёнаў Беларусі, пакуль не пачалося выцясненне "Нашага слова" з "Саюздруку". Сёння газета ідзе ў 20 раёнаў і гарадоў трох абласцей краіны.

З 1 лютага 2007 года выхад газеты арганізоўваецца і фінансуецца Установай інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ", якая знаходзіцца па адрасе: 231293, Гарадзенская вобл., Лідскі р-н, в. Даліна. З нагоды такога свайго размяшчэння УІ "Выдавецкі дом ТБМ" уваходзіць у Асацыяцыю выдаўцоў рэгіянальнай прэсы "Аб'яднаныя МасМедыі". Рахунак адкрыты ў Лідскім філіяле "Белаграпрамбанка".

Чвэрць стагоддзя "Наша слова" ідзе да чытача, нясе людзям беларускае слова, беларускую мову і беларускі клопат пра іх. У пачатку артыкула мы паставілі той зварот да чытача з першага нумара. Дык ён, "як бы цяпер пісаны". За 25 гадоў не зменшылася колькасць праблем, якія стаяць перад нашым народам у пытаннях захавання, адраджэння і росквіту беларускай мовы. І хоць за 25 гадоў шмат чаго змяні-лася, а і сёння першымі словамі, якія бачаць людзі, узяўшы ў рукі "Наша слова", ёсць несмяротныя словы Францішка Багушэвіча: **"Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"** Але ж усе гэтыя 25 гадоў "Наша слова" несла і будзе несці далей цвёрдую веру ў тое, што **"не пакінем і не ўмром"**. Мы вечныя, як гэты белы свет!

Апошнія два гады газета "Наша слова" выходзіла штотыднёва, накладам 2000 асобнікаў, аб'ёмам 8 палос. Фармат А-3. Адзін колер. Усе два гады вытрымоўваўся стабільны аб'ём і наклад. Ні адзін нумар за гэтыя два гады не быў затрыманы ні на адзін дзень.

У гэтыя гады газета "Нашам слова", як, зрэшты, і раней, побач з традыцыйнымі для ўсіх СМІ функцыямі інфармавання чытачоў ажыццяўляла працу і па абароне лінгвістычных правоў беларускамоўных беларусаў. Гэтая дзейнасць ішла і ідзе па наступных кірунках:

1. Першы і асноўны кірунак - забяспечыць права беларусам выказацца па любой тэме са спектра праблемаў звязаных з беларускай мовай і культурай.

2. Фіксацыя парушэнняў моўных правоў грамадзян Беларусі і паказ дзейнасці Таварыства па абароне гэтых правоў.

3. Арганізацыя кампаній па супрацьдзеянні наступу на моўныя правы беларусаў і асвятленне ходу і вынікаў гэтых кампаній.

4. Барацьба за права на чысціню і дасканаласць беларускай літаратурнай мовы. Адукацыйная дзейнасць, разгляд і аналіз складаных з'яваў у беларускім моваэнаўстве, папулярызацыя дасканаласці і багацця

беларускай мовы.

5. Паказ жыцця дзейнасці Таварыства ў цэлым і асобных арганізацый. Адлюстраванне праблем, якія ўзнікаюць перад Таварыствам, і мераў Таварыства па іх развязванні.

6. Папулярызацыя краязнаўчых, гістарычных і культурніцкіх аспектаў і бакоў жыцця беларускай нацыі.

На працягу 17 гадоў лідскага перыяду выдання газета працуе па прынцыпе "народнай газеты", друкуе толькі тыя матэрыялы, якія дасылаюць нашыя чытачы, сябры ТБМ і сталыя аўтары, некаторым з якіх выдадзены пасведчанні няштатных карэспандэнтаў. Гэта Эла Оліна Аляксей Шалахоўскі з Менска і Міхась Угрынскі з Баранавіч, прафесар Павел Сцяцко з Гародні, Леанід Лыч і Ўладзімір Содаль з Менска ды іншыя аўтары. Вельмі актыўна пісаў у газету прафесар Іван Лепешаў, але яго ўжо няма з намі. Газета мела адзін унікальны нумар, у якім былі змешчаны матэрыялы аднаго акадэміка, трох дактароў навук і двух кандыдатаў навук, што сведчыць пра высокі ўзровень аўтарскага калектыву. Аднак большасць матэрыялаў - гэта матэрыялы аўтараў, якія пішуць ад выпадку да выпадку, а то і адзін раз у жыцці. Газета друкуе матэрыялы людзей, якія не могуць надрукавацца нідзе.

У 2013 годзе - годзе 150-х угодкаў паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага беларуская дзяржаўная ды і недзяржаўная прэса вельмі мала друкавала артыкулаў і даследванняў пра гэтае паўстанне. Мясцовыя краязнаўцы напрацавалі вельмі шмат матэрыялаў, але надрукаваць не мелі дзе. "Наша слова" надрукавала 91 матэрыял пра паўстанне, усе, якія былі дасланыя, было асноўным прапагандыстам ідэй паўстання. Газета рэгулярна асвятляла 500-годдзе бітвы пад Воршай.

Вельмі часта і дзяржаўныя структуры не могуць размясціць інфармацыю пра сваю дзейнасць у дзяржаўных жа СМІ. На культурніцкія тэмы там няма месца. Газета супрацоўнічала з самымі рознымі дзяржаўнымі ўстановамі. Асабліва цесна мы супрацоўнічаем як ні дзіўна з Прэзідэнцкай бібліятэкай Рэспублікі Беларусь, якая актыўна размяшчае ў нас свае матэрыялы. Мы друкуем матэрыялы з менскіх устаноў культуры, а таксама, што лагічна, мы цесна супрацоўнічаем з Лідскім райвыканкамам і многімі структурамі падраздзяленнямі ідэалогіі і культуры: Лідская цэнтральная раённая бібліятэка імя Янкі Купалы, метадычны кабінет, Лідскі музей.

Такім чынам газета "Наша слова" ёсць своеасаблівая трыбуна, яна абараняе права грамадзян на свабоднае выказванне сваіх поглядаў, сваіх грамадскіх і грамадзянскіх пазіцый.

Адной з асноўных тэмаў, якую падымаюць аўтары допісаў у газету і ў сядзібу ТБМ - гэта сістэматычныя парушэнні правоў беларускамоўных грамадзян з боку на сёння ўжо часта не самой дзяржавы і нават не дзяржаўных структур, а асобных чыноўнікаў у гэтых структурах.

Гэтыя парушэнні бываюць двух тыпаў:

- "законныя" - гэта значыць тыя, якія чыноўнікі апраўдваюць, абапіраючыся на законы Рэспублікі Беларусь і ў першую чаргу на закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь";

- незаконныя - гэта тыя, якія чыноўнікі дапускаюць, парушаючы імі ж напрыманыя законы і падзаконныя акты, нахабна ігнаруючы ўсё, што на карысць беларускай мовы.

Што тычыць дзяржавы, то яна сваё парушэнне правоў усіх грамадзян Беларусі зрабіла ў 1995 годзе, правёўшы незаконны рэферэндум, які пазбавіў беларускую мову статусу адзінай дзяржаўнай з усімі наступствамі.

Барацьба супраць "законных" парушэнняў - гэта перш за ўсё барацьба супраць перакосу білінгвістычнай сітуацыі. Гэта барацьба грунтуецца больш на маральных фактарах, чым на прававых. Білінгвістычная сітуацыя ў нас супярэчыць звычаёваму праву, паводле якога, калі ў нас дзве дзяржаўныя мовы, то палова ўсяго ўсякага павінна быць па-беларуску, а палова па-руску. На справе ж гэта далёка не так. А звычаёвае права да дзяржаўных законаў прышыць цяжка. Таму ў газеце ў гэтай сітуацыі гэта перш за ўсё артыкулы, якія ўскрываюць згаданыя перакосы, а таксама паказваюць станоўчыя прыклады пераадолення гэтых перакосаў. Таксама гэта маса лістоў у самыя розныя інстанцыі. Ні адна газета не друкуе гэтыя лісты і адказы на іх. А Сакратарыят ТБМ адправіў толькі за 2014 год больш за 300 лістоў і фактычна на ўсе атрымаў адказы. Газета "Наша слова" ад пачатку 2015 г. практычна ў кожным нумары друкуе і друкуе гэтыя адказы, бо яны важныя не толькі для гісторыі, а і для планавання наступных дзеянняў арганізацыі, для таго, каб усе актывісты ТБМ ведалі стан спраў у кожнай вобласці нашай беларускай рэчаіснасці.

Барацьба супраць незаконных парушэнняў - гэта перш за ўсё прыцягненне органаў улады да выпраўлення гэтых парушэнняў. Абапіраючыся на пэўную падтрымку ў саміх органах улады ТБМ звяртаецца з лістамі ў розныя дзяржаўныя структуры, і газета "Наша слова" публікуе адказы.

Газета шмат пісала пра тапаніміку. ТБМ праводзіла канферэнцыі, дзе падымаліся пытанні тапанімікі. Сябры ТБМ уваходзілі з прапановамі ў органы ўлады. І быў прыняты даволі прагрэсіўны закон "Аб геаграфічных назвах...". У выніку барацьба з русіфікатарскімі памкненнямі некаторых чыноўнікаў з плоскасці маральнай пераведзена ў плоскасць прававую. Цяпер яны мусяць выдумляць розныя хітрыкі, але не так латва гэта ўдаецца. Галоўнае, каб грамадскасць не спала ў шапку, і рэальна можна не дапусціць ніводнай іншамоўнай назвы.

Арганізацыя кампаній па супрацьдзеянні наступу на моўныя правы беларусаў і асвятленне ходу і вынікаў гэтых кампаній.

ТБМ і "Наша слова" праводзілі кампаніі доўгатэрміновыя і разавыя.

Доўгатэрміновыя кампаніі:

- увядзенне ў Беларусі святкавання Міжнароднага дня роднай мовы. Пачаўшы з 2002 года ў г. Лідзе, працягнуўшы ў 2005 у Менску, прышпіліўшы да гэтага дня ў 2009 годзе Агульнанацыянальную дыктоўку, мы вывелі на 2015 год гэтае свята на даволі высокі ўзровень. З 2006 года Міжнародны дзень роднай мовы пазначецца ў дзяржаўным календары "Родны край". У многіх гарадах і раёнах свята стала вельмі папулярным. Сёлета ў свяце былі задзейнічаны практычна ўсе ўніверсітэты краіны, у тым жа Лідскім раёне ў свяце ўдзельнічала да 10 тысяч чалавек. Усе 34 школы адзначалі свята на працягу двух тыдняў. Кожны год "Наша слова" імкнецца паказаць усю геаграфію Агульнанацыянальнай дыктоўкі і Міжнароднага дня роднай мовы.

Трэці год газета штурхае ідэю святкавання Еўрапейскага дня моў 26 верасня. Пазалетась свята ладзілася ў Лідзе, летась - у Магілёве. Два ці тры гады адзначэнне Еўрапейскага дня моў уносіцца ў Планы дзейнасці ТБМ на чарговы год. "Наша слова" пастаянна педалюе гэтую дату. Будзем спадзявацца, што ў свой час Еўрапейскі дзень моў стане такім жа папулярным, як і Міжнародны дзень роднай мовы.

- кампанія за беларускія класы. "Наша слова" найбольш поўна асвятляла кожны рух у гэтым кірунку.

- барацьба за выкладанне гісторыі Беларусі і геаграфіі Беларусі на беларускай мове. Справа ішла вельмі цяжка. Першае, што ўдалося дабіцца, чыноўнікі ад адукацыі пачалі скрозь пальцы глядзець на тое, што многія настаўнікі ў рускамоўных школах без падручнікаў выкладаюць гісторыю Беларусі па-беларуску. Па звестках з Міністэрства адукацыі ў такіх умовах вучаць гісторыю больш за 20 тысяч вучняў рускамоўных школаў. Нарэшце мы атрымалі заяву новага міністра адукацыі, што гісторыя і геаграфія Беларусі ва ўсіх школах будзе выкладацца па-беларуску. ТБМ і "Наша слова" ў тым жа кантэксце пачынае гаварыць пра біялогію, у першую чаргу пра батаніку і заалогію. Дзеці банальна не ведаюць беларускіх назваў раслін, звяроў, птушак. Міністр пра біялогію пакуль маўчыць.

- ужо больш за пяць гадоў ТБМ і "Наша слова" вядуць барацьбу за прыняцце ў краіне Закона "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы". Тут поспехаў не шмат, але і з павесткі дня пытанне ніхто здымаць не збіраецца. Прыняцце гэтага закона ніколькі не перашкаджае пастаяннаму змаганню ТБМ за вяртанне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай. Закон "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы" да месца будзе заўсёды, бо ўсе мы і бачым і ведаем рэальную глыбіню зрусіфікаванасці беларускага грамадства.

Разавыя акцыі:

- за каляндар "Родны край". Адрыўны беларускамоўны каляндар "Родны край" пачаў выходзіць з 1990 года (надрукаваны каляндар на 1991 год) і карыстаўся вялікай папулярнасцю, якая была косткай ў горле пэўнай катэгорыі. Каляндар на 1991 год меў наклад 26 000 ас., на 1992 - 100 000 ас., на 1993 год - 100 000 ас, на 1994 - 130 000 ас., на 1995 - 200 000 ас., на 1996 - 100 000 ас., на 1997 - 60 000 ас., на - 1998 - 75000 ас., на 1999 - 30 000 ас. на 2000 - 35 100 ас., на 2001 - зноў 60 000. У гэтым годзе ізноў пайшоў пад'ём беларускасці ў гэтым пытанні, выйшлі календары "Праваслаўныя святыні Беларусі" накладам 20 000 ас., "Каталіцкія святыні Беларусі" накладам 10 000 ас. А далей нечай воляй пачалася дыскрэдытацыя календара "Родны край". Каляндар пачалі выпускаць так, каб ён пазніўся ў продаж, трапляў у крамы ў канцы снежня, заставаўся не распрададзеным. Наклад календара на 2002 год склаў 30 000 ас., на 2003 - 30 000 ас., на 2004 - толькі 10 000 ас., на 2005 - 15 000 ас., на 2006 - 10000 ас., на 2007 - 7 000 ас. На 2008 год каляндар не выйшаў, як выданне, якое не карыстаецца папулярнасцю. ТБМ рашуча выступіла супраць гэтага здзеку. "Наша слова" апублікавала не адзін матэрыял. У выніку каляндар пачаў выходзіць зноў: на 2009 год - накладам 7 000 ас., на 2010 - 13 000 ас., на 2011 - 9 000 ас., на 2012 - зноў 7 000 ас., на 2013 - 7 000 ас., на 2014 - 6000 ас., на 2015 - 4 500 ас. Такім чынам сказаць, што мы тут перамаглі не выпадае. Наклад календара збіты з 200 000 да 4 500. Так каляндар захавалі, але на ўзроўні, які ўлады лічаць не шкодным для сябе. У любы момант выдаўцы могуць ізноў заявіць пра непапулярнасць.

- за беларусізацыю Менскага метро змаганне абвастрылася перад чэмпіянатам свету па хакеі 2014 года. Тут акрамя ТБМ уключыліся ўсе беларускія сілы сталіцы. У прынцыпе па часе даволі хутка пытанне было вырашана на нашу карысць. У метро надпісы былі зроблены па беларуску на кірыліцы і на беларускай лацініцы. У англійскай версіі абвестак таксама гучалі беларускія назвы прыпынкаў.

- а вось за Берасцейскі вакзал змагацца не хацеў ніхто. Дзякуй карэспандэнтам, якія разузналі, што спланаваны надпісы толькі па-расейску і па-англійску. ТБМ і "Наша слова" адразу ўключыліся ў змаганне. Берасцейскія чыгуначнікі стаялі цвёрда і тупа, але пайшлі звароты ў розныя ўладныя структуры, быў у чарговы раз арганізаваны збор подпісаў. Трэба, аднак, думаць, што асноўнае слова тут сказаў усё-такі старшыня Берасцейскага аблвыканкама, і асноўнай мовай вакзала стала беларуская мова.

За 2013-2014 гг. "Наша слова" ўдзельнічала ў разавых кампаніях:

- беларусізацыя беларускай чыгункі (НС № 26 (1125), 26.06.13, НС № 13 (1164), 26.03.14), тут змаганне перманентнае ад адной выхадкі чыгуначных русіфікатараў да чарговай, то ў адной вобласці, то ў другой, то ў адным дэпо то ў іншым;

- афармленне Палаца Незалежнасці;

- беларусізацыя "Народнай волі", у № 48 (1199) 26.11.14 апублікаваны бланк збору подпісаў);

- за беларускамоўную песню на Еўрабачанні.

- за самастойнасць музея Максіма Багдановіча. У № 46 (1145) за 13.11.13 "Наша слова" апублікавала бланк для збору подпісаў і дало старт кампаніі. Другі раз "Наша слова" апублікавала бланк збору подпісаў у абарону музея Максіма Багдановіча ў № 6 (1157) 5.02.14. Аднак кампанія была прайграная.

- за Музей беларускай мовы.

- за законы на беларускай мове.

Барацьба за права на чысціню і дасканаласць беларускай літаратурнай мовы.

Беларуская мова жывая, яна развіваецца і змяняецца. У мову пранікаюць іншамоўныя словы, узнікаюць наватворы - дарэчныя і недарэчныя.

"Наша слова" дае магчымасць выказацца і наватарам, і кансерватарам. Мы сочым толькі за тым, каб палеміка ішла ў прыстойных формах. Трэба сказаць, штэ многія спрэчкі носяць хутчэй сатырычна-гумарыстычны характар, як да прыкладу артыкулы пра так званую "прышпільную мову".

Вельмі шмат месца газета давала дактарам філалагічных навук Паўлу Сцяцко і Івану Лепешаву, а таксама іншым навукоўцам-філолагам.

Паказ жыцця дзейнасці Таварыства беларускай мовы ў цэлым і асобных арганізацый у прыватнасці мае вялікае значэнне для падтрымкі маральнага духу ў Таварыстве. Калі з усёй краіны ідзе інфармацыя пра дзейнасць адных арганізацый ТБМ, узнікае ўпэўненанасць і жаданне працаваць ў іншых.

"Наша слова" пісала пра з'езды, рады, публікавала дакументы, планы, пастановы, рабіла даступным для ўсіх дзейнасць Таварыства.

Газета папулярызавала блізкія да праблем беларускай мовы праблемы краязнаўства, гістарычныя і культурніцкія аспекты і бакі жыцця беларускай нацыі. Гэта таксама можна было б назваць абаронай права народа ведаць як мага больш не толькі пра беларускую мову, але і пра тых людзей, якія яе бераглі, развівалі, якія за яе паміралі. Гэтае права на памяць таксама знаходзіцца ў шэрагу грамадзянскіх правоў, асабліва ў нас, дзе могуць арыштаваць за тое, што прыйшоў да няправільнай магілы.

У гэтым разрэзе ТБМ правяла вялікую кампанію па ўшанаванні памяці 2-га старшыні ТБМ Генадзя Бураўкіна, у тым ліку "Наша слова" друкавала адпаведны бланк для збору подпісаў.

Газета ўдзельнічала ў кампаніях:

- за беларускі гістарычны тэлеканал;

- за вяртанне тыпу паселішчаў "мястэчка" ў Беларусь і г.д.

Газета "Наша слова" імкнецца не адстаць ад сучасных тэндэнцый у развіцці электронных версій СМІ. Рэдакцыя рыхтуе для кожнага нумара каляровую PDF-версію, якая прадаецца ў электронным "Белкіёску" **http://belkiosk.by/**.

З пэўнай затрымкай газета выстаўляецца на сайтах: **http://pawet.net/, http://kamunikat.org/ , http://tbm-mova.by/, http://nashaslova.mns.by/.**

З 2014 года працуе ўласны сайт газеты **http://naszaslowa.by/ .** Сайт працуе ў асноўным як архіў газеты, але ёсць перспектыва па ўзмацненні яго інфармацыйнай складовай.

Такім чынам невялікая газета "Наша слова" робіць усё магчымае для абароны права грамадзян Беларусі на беларускасць.




***Мінівыстава ў Лідскім бібліятэчным філіяле № 3 да 25-годдзя "Нашага слова".***

17 сакавіка 2015 года ў Лідскім бібліятэчным філіяле № 3 была адкрыта мінівыстава да 25-годдзя "Нашага слова". Чыста музейных экспанатаў там не шмат: пячатка рэдакцыі газеты "Наша слова" 1990-х гадоў, вуглавы штамп рэдакцыі газеты "Наша слова" тых жа гадоў, копія першага Пасведчання аб рэгістрацыіі газеты "Наша слова", друкарская машынка тых часоў, некалькі нумароў "Нашага слова" за 1993-94 гг. Але асноўнае, што зроблена - тут на пастаянна размешчана поўная падшыўка "Нашага слова" лідскага перыяду выдання: з лістапада 1997 года па канец 2014 года. 17 гадавых падборак. Гадавыя падшыўкі амаль поўныя, не хапае некалькіх нумароў (недзе 3-4 за 17 гадоў). Аднак трэба спадзявацца, што падшыўкі будуць дапоўнены хоць бы ксеракопіямі страчаных асобнікаў.

Другая такая ж падшыўка размешчана ў Лідскім літаратурным музеі.

Такім чынам у Лідзе ёсць два месцы, дзе можна будзе пачытаць любы лідскі нумар "Нашага слова".

Да стварэння выставы прыклалі рукі работнікі 3-га бібліятэчнага філіяла і старшыня Лідскай рады ТБМ Лявон Анацка.

Воляй лёсу г. Ліда і "Наша слова" застаюцца на пярэднім краі барацьбы за Беларусь.

***Станіслаў Суднік.***

# Лідскія юбіляры 2015 года

## Францішак Багушэвіч у паўстанні 1863 года: легенды, здагадкі, факты

## *175 гадоў з дня нараджэння*

Агульнавядома, што Францішак Багушэвіч удзельнічаў у паўстанні 1863 года. Гэта пацверджана мноствам дакументаў, успамінаў, факт. Асноўны факт, што Багушэвіч вымушаны быў з'ехаць на чужбіну, каб не трапіць у лапы карнікаў.

Аднак больш-менш дакладную інфармацыю мы маем пра забітых паўстанцаў, чые асобы былі ўстаноўлены. Маем судовыя справы арыштаваных паўстанцаў з іхнімі паказаннямі, але верыць гэтым паказанням да канца не выпадае, бо хто колькі мог, той столькі і ўтойваў ад следчых. "Здавалі" ў крайнім выпадку як правіла забітых або заведама эмігравашых. Былі, канешне, здраднікі і слабавольныя, але асноўная маса палонных выкручвалася як магла, каб не сказаць лішняга. Таму інфармацыі пра канкрэтнага паўстанца заўсёды вельмі мала. Нават калі карнікам удавалася высветліць імя забітага, то ўсяляк хавалі, хто ён і адкуль.



***Францішак Багушэвіч у 1863 г.***

Пра Францішка Багушэвіча з крыніцы ў крыніцу, з артыкула ў артыкул перадаецца легенда - легенда, бо доказы не прыводзяцца - што ён ваяваў у аддзеле Людвіка Нарбута і быў паранены. Разам з тым ва ўспамінах пра Людвіка Нарбута Ф. Багушэвіч нідзе не засвяціўся. Ён мог карыстацца псеўданімам, але дакладна пра гэта таксама нічога не вядома.

Звернемся да фактаў.

1. Перад паўстаннем Францішак Багушэвіч быў запрошаны на пасаду настаўніка абшарнікам Зваровічам або Жвіровічам у маёнтак Доцішкі Лідскага павета. У польскім напісанні гэтае прозвішча пачынаецца або з Z з кропкай, або з Z з крэскай, што для расейскага пісара вялікай розніцы не ўяўляла. Сам Аляксандр Звяровіч быў малады, падчас паўстання яму было 25 гадоў *(С. Суднік. Мемарыялізацыя памяці паўстання 1863-64 гадоў на гістарычнай Лідчыне. Лідскі летапісец, № 4 (64), 2013 г.)*. Францішку Багушэвічу было адпаведна 23 гады. Факт працы Багушэвіча ў Доцішках пацвярджаецца многімі крыніцамі.

2. Арганізоўваў паўстанне на Лідчыне і кіраваў ім Людвік Нарбут з Шаўроў. Перад паўстаннем Людвік Нарбут жыў у Сербянішках у маёнтку жонкі. Паміж Доцішкамі і Шаўрамі - кіламетраў 8, да Сербянішак яшчэ 4-5. Ніякіх іншых паўстанцкіх аддзелаў у бліжніх ваколіцах не было.

3. Трэцяя дзейная асоба нашага даследвання Ян Карловіч валодаў маёнткам Подзітва, які таксама недалёка ад Доцішак. Яну Карловічу на момант паўстання было 27 гадоў. З 1862 па 1865 год у яго біяграфіі белая пляма. Дзе ён жыў і што рабіў? Паводле дырэктара музея Ф. Багушэвіча у Кушлянах Алеся Жамойціна, Карловіч быў адказным за друкаваную прадукцыю паўстання, трымаў адпаведны фонд для выдавецкай справы і таму быў асабліва блізкі да Кастуся Каліноўскага. Але будзем трымаць у памяці Подзітву.

Людвік Нарбут падняў Лідскі павет на паўстанне раней за ўсе іншыя паветы ВКЛ. Шэрагі паўстанцаў папаўняліся паступова і перш за ўсё за кошт бліжніх ваколіц. У найбольш поўнай працы Леаніда Лаўрэша "Паўстанне 1863 г. на Лідчыне. За нашу і вашу свабоду" *(Лідскі летапісец, № 2 (62), 2013 г.)* у шэрагах паўстанцаў Людвіка Нарбута паказваюцца і Францішак Багушэвіч, і Аляксандр Звяровіч.

4-га траўня 1863 г. аддзел Людвіка Нарбута пасля шэрагу больш-менш паспяховых баёў пацярпеў паразу пад Дубічамі. Сам Людвік Нарбут загінуў. Загінула шмат паўстанцаў, шмат трапіла ў палон. Рэшткі аддзела раздзяліліся. Ваяры адной часткі аддзела Нарбута схаваліся ў лесе і праз некаторы час далучыліся да іншых аддзелаў інсургентаў. Другую частку аддзела брат Людвіка - Баляслаў Нарбуту сабраў у Гарадзенскай пушчы. 2 траўня рускія войскі пад камандаваннем ваеннага начальніка Лідскага павета палкоўніка Алхазава знайшлі аддзел пад Ганэлькамі (над ракой Котрай) і зноў разбілі паўстанцаў. Толькі нямногія байцы змаглі пазней далучыцца да аддзела Астрогі-Парадоўскага. Сам Баляслаў Нарбут быў арыштаваны каля Друскенікаў і адвезены для ваеннага суда ў Гародню.

Дзе аказаўся пасля Дубіцкага разгрому Францішак Багушэвіч, калі ён сапраўды быў у аддзеле Людвіка Нарбута?

Звернемся да артыкула дырэктара музея Францішка Багушэвіча ў Кушлянах Алеся Жамойціна.

**“Паўстанцкі шлях Францішка Багушэвіча**

1863 год. Нават біёграф Багушэвіча Напалеон Роўба з палітычных меркаванняў не мог нічога сказаць пра дзейнасць паэта ў тыя гады. Шчаслівая выпадковасць напаткала аўтара гэтых радкоў. Жыхарка Доцішак Бенядыкта Янаўна Свечка перадала ў мае рукі паперы свайго бацькі, актыўнага ўдзельніка левага сялянскага руху ў буржуазнай Польшчы. Цікавая яго аўтабіяграфія, напісаная па-польску. Яе цытую амаль цалкам у сваім перакладзе.

*"Свечка Ян. Нарадзіўся 6 красавіка 1896 года паводле старога стылю. Бацька меў некалькі гектараў зямлі, сам на ёй працаваў. Займацца ў школе магчымасці не было. Вучыўся толькі дома.*

*...Зімовымі вечарамі падвучыўся як-кольвек чытаць па-польску і па-руску ад майго бацькі Міхала - былога першага вучня польскай нелегальнай школы, арганізаванай Жвіровічам у вялікім двары ў Доцішках у 1861-1862-1863 гадах. З апавядання майго бацькі Міхала Жвіровіч на свой кошт трымаў у двары ў Доцішках двух настаўнікаў - педагогаў дворных: прафесара Багдзевіча Адама і ...Багушэвіча Францішка.*

*Жвіровіч з прафесарам Багдзевічам паконна ездзілі ў Варшаву па польскія школьныя чытанкі, якія давялося распакоўваць у той час вучню Міхалу (майму бацьку). З апавядання старых людзей і... майго бацькі, Міхала, Жвіровіч быў кіраўніком паўстання на Віленшчыне 1863 года. Разам са Жвіровічам актыўны ўдзел у паўстанні браў і малады ў той час Багушэвіч Францішак - настаўнік майго бацькі... Бацька мой быў сведкам (меў тады 12 поўных гадоў), калі аднойчы летнім днём 1863 года рота царскіх казакаў наляцела на двор Жвіровіча ў Доцішках і граміла заспетых знянацку паўстанцаў Жвіровіча, узброеных пістаноўкамі, шляхецкімі шаблямі і пікамі. Паўстанцы спрабавалі схавацца ад казакаў у дворскі лес Зялёная Сола. Там атрымаў рану ў нагу Багушэвіч Францішак - настаўнік майго бацькі ў Доцішках, які, на сваё шчасце, паспеў схавацца за забітага каня. Жвіровіча казакі схапілі. Пасля царскага суда яго вывезлі на Сібір. Маёнтак Жвіровіча канфіскавалі і аддалі царскаму палкоўніку жандармерыі Шпееру, які жыў у Вільні (...)*”.

У аўтабіяграфіі цікавае сведчанне аб сутычцы казакаў з паўстанцамі каля Доцішак. З рапарта палкоўніка Ўласава вынікае, што сутычка адбылася 12 чэрвеня I863 года *(ЦДГА Літ. ССР, ф. 438, воп. 1, спр. 102, арк. 211)*. З архіўных дакументаў мы даведаліся, што ў той час каля Доцішак знаходзіўся атрад Астрогі *(ЦДГА Літ. ССР, ф. 1248, спр. 200, арк. 9-10)*. Вось паказанні паўстанца з гэтага атрада А. Янкоўскага: *"З Гарадзенскай пушчы пайшлі да мястэчка Эйшышкі, але на шляху былі мызы абшарніка Зняровіча. Калі мы стаялі на адпачынку, не болей, чым тры гадзіны, дагнала нас войска, і мы пайшлі ад яго праз балота да мястэчка Шчучын, наўмысна блудзячы, заходзілі ў вёскі, але, у якія менавіта, не памятаю; але на мызы не заходзілі таму, што гэта было забаронена, здаецца, Камітэтам"*.

Як бачым, дакументы і ўспаміны не пярэчаць адно другому. Ёсць толькі недакладнасць у прозвішчы (Жвіровіч - Звяровіч), але рускі чыноўнік мог свабодна перакруціць тутэйшае прозвішча паводле снайго разумення. У памяці жыхароў Доцішак жыве Жвіровіч. І яшчэ народная памяць данесла апавяданне пра тое, што ў хмызняку ля маёнтка інсургенты свежавалі жывёлу, ахвяраваную Жвіровічам для паўстанцаў.

Зыходзячы з успамінаў і архіўных дакументаў, адновім ход падзей 12 чэрвеня 1863 года.

Атрад Астрогі пасля паходаў папаўняў запасы правізіі ў абшарніка Аляксандра Жвіровіча. Асноўныя сілы паўстанцаў былі размешчаны на адпачынак у лесе, прыблізна за паўкіламетра ад маёнтка. А выдзеленыя людзі, сярод іх і Багушэвіч (як знаёмы з гаспадаром), нарыхтоўвалі правізію і, магчыма праз Жвіровіча даведваліся аб загадах Камітэта.

Аляксандр Жвіровіч у рэвалюцыйнай арганізацыі займаў, відаць, важную пасаду. Яшчэ ў лютым, згодна з паўстанцкім маніфестам ад 22(10) студзеня 1863 года, ён вызваліў часоваабавязаных сялян вёскі Доцішкі ад паншчыны. Асмеліцца на такое ў самым пачатку паўстання мог толькі чалавек вельмі цвёрды ў сваіх перакананнях. Разам са Жвіровічам асмеліўся па такі ўчынак і Тодар Нарбут. А цяпер успомнім, што сын Нарбута, Людвік, быў начальнікам паўстанцкіх узброеных сіл у Лідскім павеце. Лагічна разгорнем ход думак. Для прыцягнення па бок паўстання народных сіл патрэбен быў штуршок. Такім штуршком і з'явілася вызваленне сялян ад паншчыны. Першымі адважыліся на гэта А. Жвіровіч і Т. Нарбут. Значыць, цэнтр паўстання ў Лідскім павеце фармуецца вакол гэтых людзей. Калі Л. Нарбут быў начальнікам узброеных паўстанцкіх сіл павета, то Жвіровіч, вельмі магчыма, быў яго намеснікам або займаў якую іншую пасаду. Блізкасць Ф. Багушэвіча да кіраўнікоў арганізацыі Лідскага павета і абумоўлівае ягоную сувязь з паўстанцамі Ашмянскага павета. Ён як прадстаўнік мог удзельнічаць у з'ездах "Пянтковічаў".

Аднак вернемся да падзей 12 чэрвеня 1863 года. У мяне пад рукамі польская вайсковая карта за 1923 г. На ёй яшчэ значыцца лес Зялёная Сола, дзе стаялі на адпачынку паўстанцы. Ад яго не засталося і следу: загінуў у час кайзераўскай і белапольскай акупацыі. Дык вось, з пункту гледжання тактыкі палкоўнік Уласаў не мог заспець асноўнын сілы паўстанцаў Астрогі знянацку. Маглі трапіць у сутычку толькі людзі, занятыя нарыхтоўкай правізіі, і тыя, хто з картамі прыйшоў у маёнтак зверыць далейшы маршрут атрада з указаннямі Камітэта. Таму і значацца ў рапарце палкоўніка Ўласава захопленыя перапіска і карты.

А цяпер узнікае пытанне: калі Багушэвіч уступіў у паўстанцкі атрад? Пытанне амаль без адказу, але... Перад намі фотаздымак Ф. Багушэвіча, зроблены ў 1863 г. У сям'і паэта лічылася, што ён сфатаграфаваны перад выхадам на паўстанне. Што ж рабіць, як вызначыць месяц ці пару года?.. І раптам блiснула здагадка: а што, калі...

Людзі пажылога веку адразу вызначылі, што чалавек на фотаздымку апрапуты ў верхняе адзенне, якое насілі ці ранняю вясной, ці ўвосень, пад зіму.

Значыць, Багушэвіч мог пайсці да паўстанцаў у сакавіку 1863 г. Тады ўспомнены тут атрад узнача-

льваў Людвік Нарбут.

Аб дзейнасці атрада Нарбута, а затым Астрогі, ёсць звесткі ў справе Ўладзіслава Пілецкага - хатняга настаўніка Нарбутаў, аднаго з першых інсургентаў. *"Першага лютага прыбыў туды* (ў Шаўры - *А.Ж.*) *Людвік Нарбут і ўгаворваў мяне далучыцца да шайкі, якая раніцай 2 лютага налічвала 8 чалавек і знаходзілася ў лесе на адлегласці трох вёрст ад мястэчка Нача" (ЦДГА Літ. ССР, ф. 494, спр. 233).* З архіўных матэрыялаў відаць, што Л. Нарбут меў гарантаваную падтрымку ў многіх маёнтках і вёсках аж да самай Гародні. Аб тым, што атрад дзейнічаў не стыхійна, а пад кіраўніцтвам Камітэта, сведчаць паказанні інсургента А. Янкоўскага: *"...я прысягаў не кідаць шайку і быць верным Народнаму Ураду" (ЦДГА Літ. ССР, ф. 1248, спр. 206, арк. 8).*

22 красавіка 1863 г. пасля даносу здрадніка царскія войскі напалі на атрад пад мястэчкам Дубічы. Людвік Нарбут у гэтым баі загінуў. Асноўным сілам атрада ўдалося адарвацца ад ворага. Цікава, што паранены Ў. Пілецкі, хатні настаўнік Нарбутаў, знайшоў прытулак у маёнтку А. Жвіровіча. Ці не пасярэднічаў тут Ф. Багушэвіч? Вельмі магчыма. Пілецкі скончыў Віленскую гімназію і вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, які пакінуў аднachасова з Багушэвічам. Вельмі магчыма, што яны разам уступілі ў паўстанцкі атрад.

Пасля 12 чэрвеня 1863 г. баявы шлях Ф. Багушэвіча пралёг цераз Нёман у Аўгустоўскую (Сувалскую) губерню. Рана, атрыманая пры Доцішках, магла быць лёгкай, але з-за адсутнасці кваліфікаванай медыцынскай дапамогі магла і загнаіцца. Таму Напалеон Роўба ўспамінае нейкіх Крушэўскіх, у якіх знайшоў прытулак паранены інсургент.

Вось каб Крушэўскія захавалі гэтак памяць сваіх продкаў, як захавалі Свечкі памяць дзеда пра свайго настаўніка!..

Паколькі Багушэвіч дзейнічаў у мясцовасці, дзе яго амаль ніхто не ведаў, то, паводле законаў канспірацыі, у атрадзе ён мог мець мянушку. Таму вельмі мала надзеі, што праз такі прамежак часу можа дайсці да нас прамое сведчанне ўдзельніка падзей.

Цяжка задаволіцца набыткам. Мала яшчэ мы ведаем пра Францішка Багушэвіча. Вельмі цікавымі былі б для нас і паэтычныя творы Ф. Багушэвіча таго часу. Не магла маўчаць муза ў такі час, не магла! З успамінаў малодшага сына Міхала Свечкі, вучня Багушэвіча, вынікае, што настаўнік яго бацькі чытаў сваім вучням уласны сатырычны верш пра пана з Эйшышкаў, які зусім бязбожна абдзіраў просты люд. На вялікі жаль, гэты твор у памяці не захаваўся. Даследчыкаў чакае яшчэ шмат працы." *(Жамойцін А. Паўстанцкі шлях Францішка Багушэвіча. ЛіМ.- 1983.- 14 студзеня.)*

З многім можна пагадзіцца ў артыкуле Алеся Жамойціна, але не ўсе здагадкі шаноўнага аўтара і экстрапаляцыі падзей бясспрэчныя.

Звернемся яшчэ да адной крыніцы, а менавіта да "Гісторыі Паўлаўскага палка", напісанай паручнікам Воранавым у часткі паўстання і знойдзенай у свой час Леанідам Лаўрэшам:

*"6-я рота, пад начальствам капітана Ўладзімірава, 20 траўня выступіла з Вільні і ажыццяўляла пошукі на поўначы Лідскага павета. 2-га чэрвеня гэты атрад у Рудніцкім лесе спаліў 3 лагеры пры рацэ Вясенчы, ля засценка Пакернаў. 4-га чэрвеня, ля возера Казлова, рота нагнала і знішчыла невялікую хеўру мяцежнікаў, без страт з нашага боку. Лік забітых інсургентаў невядомы, таму што безупынны пераслед адбываўся ў такіх балотах, у якіх некаторыя салдаты правальваліся з галавой, і шмат каштавала працы іх выцягваць. Пасля справы рота варочалася ў Вільню.*

*20-га траўня, калі Рудніцкі атрад прыбыў у Алькенікі, туды ж прыехаў палкоўнік Уласаў з загадам ад генерала Мураўёва, узяць ад атрада 2 роты з 35 казакамі і ачысціць мясцовасць у наваколлях Эйшышак, Дубіч, Забалаці і Радуні ад мяцежнікаў. 4-я і 2-я стралковая рота л.-гв. Паўлаўскага палка ўвайшлі ў склад атрада, пры 25 казаках. 21-га траўня атрад выступіў з Алькенік і да 26-га траўня рабіў рэкагнасцыроўкі, спачатку па памежных частках Гарадзенскай губерні, потым у лесе Гарадзенскай пушчы паабапал ракі Котры да Збуры, але мяцежнікаў тут не аказлася. Уладкаванне земскай варты ўваходзіла ў абавязкі атрада.*

*Мясцовасць каля Эйшышак, Забалаці, Начы, Дубіч была абходжана атрадам уздоўж і папярок; прычым заняцце гэтых мястэчкаў мела важнае стратэгічнае значэнне, бо яны знаходзіліся на бязлесым пярэсмыку, які раз'ядноўвае лясы Гарадзенскай пушчы ад вялікіх лясоў Віленскага і Лідскага паветаў. 3-га чэрвеня была атрымана вестка, што хеўра Віславуха і Любіча ад Вясенчы перайшла да Пяленікаў. Наш атрад рушыў на пошукі, разам з атрадам палкоўніка Алхазава, і 5-га чэрвеня каля Пашчышак хеўра Віславуха была нагнаная і прымушаная да ўцёкаў. Хуткі 4-х гадзінны пераслед не даў магчымасці вызначыць поўныя страты суперніка. У палон узята 6 чал., адбіты сцяг, іншая зброя, у нас забіты радавы.*

*7-га чэрвеня 2 стралковая рота адпраўлена ў Алькенікі для канваявання палонных, а палкоўнік Уласаў з 4-й ротай л.-гв. Паўлаўскага палка і ротай Інгерманландскага палка пайшоў у Эйшышкі, куды рана раніцай 8-га прыбыла і 2-я стралковая рота. Тут атрымана вестка, што на поўначы Гарадзенскай пушчы з'явілася хеўра Астрогі. Атрад, пасля поўдня 8-га чэрвеня, выступіў да Начы па знаёмай дарозе.*

*Сустрэчнае насельніцтва імкнулася выявіць сваю адданасць атраду, выносілі віно, харчовыя харчы, прасілі спыніцца ў іх; казалі, што ўсе людзі браты, і нават у пацверджанне гэтага цалаваліся з салдацікамі. 8-га мы начавалі ў Начы. 9-га рана раніцай атрад прыбыў у Дубічы, дзе нават ксёндз распавёў, што хеўра хадзіла па Гарадзенскай пушчы і была поблізу Шумы, куды 10-га і прыбыў атрад. Тут, пасля грунтоўнага роспыту, атраду было паказана месца, дзе знаходзілася хеўра. Па прыбыцці туды войскаў, вогнішчы яшчэ гарэлі, і шматлікае гаспадарчае прыладдзе, кінутыя прыхапкам, паказвала, што хеўра нечакана і хутка пакінула бівуак. - Мы ішлі па следзе ўвесь дзень 10-га, і палову дня 11-га. Тым часам атрад ішоў па слядах амаль што бесперапынку, спыняючыся,*

*каб зварыць абед ці перадыхнуць гадзіны 3 - 4. У суткі атрад рабіў значна больш за 50 вёрст, не маючы ніводнага адсталага, не гледзячы на страшна стомны рух. Калі 12-га ў 11 гадзін атрад прыбыў у Парадунь, то след хеўры згубіўся. Казакі паехалі адшукваць яго, а атрад пачаў рыхтаваць абед. Толькі-толькі селі абедаць, як прыскакаў казак з весткай, што ля мызы Доцішкі след паказаўся зноў. Катлы вывернулі, і роты пайшлі фарсіраваным маршам. Па прыбыцці на мызу, пачалі рабіць пяратрус. Яе абшарнік раней незвычайна папераджальна і ласкава сустракаў атрад, папярэджваючы наймалое жаданне і патрэбы салдатаў і афіцэраў. Салдаты яго звалі "паўстанчык". Зараз справа скончылася інакш: у адной з адрын знайшлі вазы з запасамі, з гладышамі малака, - прызначанымі для інсургентаў; акрамя таго казакі данеслі, што за садам, на плаціне, відаць незвычайна шмат слядоў, па якіх і рушыў атрад. Падыходзячы да лесу, які цягнуўся за плацінай, палкоўнік Уласаў загадаў рассыпацца 2-й стралковай роце, а астатнім ісці ў рэзерве. Раптам пасярэдзіне ланцуга раздаўся залп, атрад увесь рынуўся на стрэлы, пачалася перастрэлка. Мяцежнікі пачалі адыходзіць. Вялікая колькасць кінутых імі запасаў, сведчыла, што хеўра моцна стомлена. Атрад праследваў яе безупынна да ночы, прычым яны страцілі ўвесь абоз, шмат забітымі і параненымі. Узятыя ў палон паказалі, што хеўрай камандаваў Астрога. У нас стратаў не было. Пасля справы атрад працягваў пошукі, пры чым галоўнай яго мэтай была ўладкаванне сельскай варты. (Паводле pawet.net).*

З гэтага тэксту відно, што ў Доцішкі расейскія войскі прыходзілі не адзін раз. Спачатку іх ветліва сустракаў абшарнік, трэба разумець, гаспадар Аляксандр Звяровіч, гэта гаворыць пра тое, што або Звяровіч рэгулярна ў атрадзе Людвіка Нарбута не знаходзіўся, або ў Доцішках гаспадарыў у гэты час нехта іншы. Прынамсі ў спісах паўстанцаў значыцца яшчэ Адольф Звяровіч, які потым эміграваў.

12 чэрвеня паводле абедзвюх крыніц у Доцішках быў атрад Астрогі, а з ім паводле папярэдніх фрагментаў - рэшткі атрада Людвіка Нарбута. З тэксту не відаць, што Звяровіч 12 чэрвеня быў у маёнтку, і што яго арыштавалі. Арыштавалі, але не ў маёнтку.

Расейскі афіцэр не падае факту бою у маёнтку, а толькі ў лесе за маёнткам.

Паранены Францішак Багушэвіч паводле Напалеона Роўбы адлежваўся ў нейкіх Крушэўскіх, але па ўсім відаць не ў Аўгустоўскай губерні, а тут на Лідчыне-Віленшчыне. Так аддзел Астрогі пайшоў у Аўгустоўскія лясы. Але ці мог пайсці з ім паранены ў нагу! Францішак Багушэвіч? Ці змог бы дайсці? Так, у Сувалскім павеце ёсць Крушава, і трапляліся Крушэўскія. Але паўстанца Юльяна Крушэўскага мы знайходзім і ў Гарадзенскім павеце. Калі б мы маглі падняць поўную карціну землеўладання ў Лідскім павеце, то знайшлі б тых самых Крушэўскіх, але пакуль гэта не зроблена. І вось тут на першы план выходзіць Ян Карловіч.

Ян Аляксандр Людвік Карловіч гербу Астоя быў 1836 года нараджэння, старэйшы за Францішка Багушэвіча і Аляксандра Звяровіча. Быў вельмі адукаваным, закончыў Віленскую гімназію, Маскоўскі ўніверсітэт, вучыўся ў Каледж дэ Франс у Парыжы і ў Гедэльбергу, у кансерваторыі ў Бруселі.

Паводле некаторых крыніц з Францішкам Багушэвічам Ян Карловіч пазнаёміўся менавіта ў Доцішках, бо Подзітва побач, ёсць версія, што Багушэвіч прыязджаў у Подзітву, але сутнасць не мяняецца. Яны былі знаёмыя да паўстання. Маёнтак Подзітва належаў Карловічам здаўна, а Вішнева Ян атрымаў пасля смерці свайго цесця, бацькі жонкі Ірэны з Сулістроўскіх. Старэйшы і больш адукаваны Ян, безумоўна, паўплываў на светапогляд Францішка.

Пасля разгрому паўстання заставацца на Віленшчыне Францішку Багушэвічу было небяспечна. Пра тое, што Францішак Багушэвіч знаходзіцца ў паўстанні царскія ўлады здагадваліся. Ён быў у вышуку. За ўдзел ў паўстанні быў арыштаваны бацька паэта Казімір, сястра Ганна і малодшы брат Апалінар. Маёнтак на нейкі час быў секвестраваны. Існуе легенда, што ў памяць аб гэтых падзеях Ф. Багушэвіч збудаваў на тэрыторыі сядзібы капліцу. Але, па ўсім відаць, доказаў пра ўдзел Францішка ў баявых дзеяннях у следчых не было. Не дастаткова было ўлікаў і супроць сям'і, іначай маёнтак не вярнуўся б да Багушэвічаў. Тым не менш трапляць у лапы карнікаў не выпадала. Трэба было на нейкі час пакінуць родныя мясціны. Ян Карловіч, які ў гэты крытычны момант быў адзіным з старых сяброў застаўшыхся на свабодзе, параіў выехаць на Украіну, пазычыў грошай на дарогу. Ёсць інфармацыя, што грошы Багушэвічу прывозіла менавіта Ірэна з Сулістроўскіх. Безумоўна, у ніякія Сувалкі Ян Карловіч жонку не пасылаў бы. У траўні 1865 г. Францішак Багушэвіч аказаўся ў Нежыне, паступіў у Юрыдычны ліцэй, адначасова працаваў хатнім настаўнікам, бо бацькі па зразумелых прычынах не маглі дапамагаць матэрыяльна. У ліпені 1868 г. Ф. Багушэвіч закончыў навучанне і адразу паступіў на службу памочнікам справавода Чарнігаўскага губернскага кіравання, а праз год перайшоў на пасаду следчага ў Чарнігаўскую судовую палату.

Таму мы маем дзве версіі: калі сапраўды Ф. Багушэвіч сыходзіў на Сувалкі, то мусіў вярнуцца, каб сустрэцца з Карловічам, але куды вярнуцца? А калі лячыўся недзе поблізу, то, безумоўна, за два гады мог скантактавацца. У сувязі з гэтым варта сказаць, што канспірацыя і ўзаемадапамога былі ў паўстанцаў на высокім узроўні.

Якую можам зрабіць выснову?

У прынцыпе легенды пра тое, што Францішак Багушэвіч ваяваў падчас паўстання ў аддзеле Людвіка Нарбута, і тое, што быў паранены на тэрыторыі Лідскага павета, дакументальна пацвярджаюцца. Пра тое, што Ф. Багушэвіч быў на Сувалках і быў паранены там, дакументаў пакуль не маем. Даступныя польскія крыніцы, наогул, не паказваюць ніякіх баёў аддзела Астрогі ў Аўгустоўскіх лясах

***Скампанаваў матэрыялы***
***Станіслаў Суднік.***

*Міхал Шымялевіч*

# Борці і Барцянская валасць

У 1800 годзе Тадэвуш Чацкі ў сваім векапомным творы згадваў, што ў *"Уставе эканамічных распараджэнняў 1557 г. 1 красавіка для Літвы ў артыкуле 2 устаноўлена, каб пры размерванні былі выдзелены валокі для грунтавых жаўнераў, прызначаных для будаўніцтва мастоў; гэтыя жаўнеры названы борцямі; а таму з'яўленне пантанёраў у Польшчы мае досыць адлеглую ад нас дату"* [1]. Узгаданая Чацкім "Устава эканамічных распараджэнняў" ёсць агульна вядомая "Устава на валокі гаспадара караля яго міласці і г.д.", якая коратка называецца "Устава валочная", выдадзеная каралём Жыгімонтам Аўгустам для В. Кн. Літоўскага 1 красавіка 1557 г. і некалькі разоў абвешчаная друкам. Устава тая першыя свае артыкулы прысвячае акрэсленню павіннасці гаспадарскіх падданых: путных баяраў, борцяў, сядзельных конюхаў, стральцоў, брамнікаў і асочнікаў. Што да борцяў, то арт. 2 той уставы - "аб борцях" гаворыць: *"Паколькі борці ў рабочай павіннасці мелі перад тым розніцу з іншымі нашымі падданымі, то і цяпер пастанаўляем, каб паводле ацэнкі грунтоў усялякія павіннасці, чыншы, аўсы і сена ў скарб наш ад валок грашыма плацілі так, як асаднікі; а калі скажам ім рушыць на вайну, маюць той год вольны ад усялякіх аплат; масты, асабліва якія ім належаць, папраўляць, а паводле загаду нашага і масты, якія ім не належаць, масціць маюць, а за гэта ім у чыншах нашых паслабенні чыніць паводле волі нашай загадваем"* [2]. Іншая таго ж караля "Устава замкаў, дзяржанняў і дварцоў нашых Вялікага Княства Літоўскага" і г.д. (без даты) утрымоўвае наступную згадку: *"Баяры нашыя путныя, якія ад старадаўніх часоў павінны ў ваенны час служыць, сена касіць, таксама асочнікі, рыбакі, кавалі, боргі, якія перад войскам пад час вайны масты робяць, і іншыя падданыя двароў нашых, якія цяглай службы не служаць"* [3]... Паколькі ў тым адрыўку названае слова "боргі", але з увагі, што тэрмін той у даўнім слоўніцтве нашага краю зусім не сустракаецца, а таксама з увагі на ідэнтычнасць маставой павіннасці, якая ўскладвалася як на борцяў, так і на "боргаў", трэба прызнаць выраз "боргі" за пісарскую памылку і чытаць яго "борці".

Запісы тыя ў дастатковай меры вучаць нас, што ў XVI ст. Пад назвай "борцяў" разумелі пэўную катэгорыю гаспадарскіх падданых, якія сядзелі на каралеўскіх грунтах і, не адбываючы звычайнай "цяглай" службы каралеўскаму двару, за ўсякія павіннасці, чыншы, аўсы і сена, ці за так званае дзякло плацілі ў каралеўскі скарб акрэсленыя квоты наяўнымі; акрамя таго былі яны з погляду фіскальнага ці гаспадарчага прыраўняны да асаднікаў. Па загаду караля павінны былі борці хадзіць на вайну; а таму з погляду на ўскладзены на іх абавязак нясення вайсковай службы цвёрда займалі месца каля баяраў. Звыш таго на борцях ляжаў абавязак утрымання мастоў, а можа і грэбляў як маставых прыдаткаў, як у час міру, так і ў час вайны. У 1545 годзе князі, паны і зямяне Ўладзімірскага павета апавядалі каралеўскаму рэвізору, што, калі за панаванне караля Казіміра (1440 - 1492) Уладзімірскі замак згарэў, то кароль Казімір, будучы з каралевай ва Ўладзіміры казаў яго адбудаваць працай літоўскіх валасцяў *"і іншымі валасцямі і борцямі ожскімі і пераломскімі"* [4]. А значыць борці прыцягваліся сяды-тады і да будаўніцтва замкаў.

Пра борцяў Тодар Нарбут падаў наступнае: *"Былі гэта выхадцы з прускай правінцыі Бартніі. Іхнія нашчадкі дагэтуль ёсць у Лідскім павеце. Староства, размешчанае на правым беразе Пелясы, налічвала некалі дымоў 300, называлася Борці, проста ад назвы сваіх першых пасяленцаў, паходзіўшых якраз з Бартніі, паколькі няма ні адной вёскі, ані фальварка, якія б насілі такую назву. Яны даўней мелі такі прывілей, што ніякай працоўнай павіннасці ніколі не адбывалі і акрамя платы чыншу зусім малога не мелі іншай павіннасці. За часы Жыгімонтаў служылі ў літоўскай артылерыі, ад таго літоўскія артылерысты называліся борці*[5]*"*.

Борцяў сустракаем не толькі ў Лідскім павеце "на правым беразе Пелясы", як пісаў Нарбут, але і ў іншых мясцовасцях даўніх ваяводстваў Віленскага і Троцкага. У 1510 г. смаленскі баярын Сямён Жаба апавядаў каралю Жыгімонту І, што купіў *"землі, пашы і сенажаці ў людзей з назвай борці Кернаўскай валасці, у Гельванах, па імёнах у Ворана, Мажэйкі Яноўдавіча, і ў Дата, і ў Казарэза, і ў Яна Каткуля, і ў Тункеля, і ў Наца, і ў братоў іх і пляменнікаў, і прасіў караля, каб рэшту тых борцяў, землі і саміх іх ойчычаў даў яму, Жабе, што кароль і ўчыніў*[6]*"*. 24 траўня 1495 г. скардзіліся в. кн. Аляксандру медніцкія баяры Нецка і Бярнат Нарвойшавічы на борцяў, на Рымка і на Казарэза, што адабралі іхнія бацькоўскія землі. А тыя землі трымаў дзед іхні яшчэ за вялікім князем Вітаўтам[7]. 14 сакавіка 1499 г. в. кн. Аляксандр, улічваючы верную і пільную службу двараніна свайго князя Васіля Львовіча Глінскага, даў яму сваіх людзей клевіцкіх борцяў, цэлы дзясятак з усімі землямі ворыўнымі, бортнымі, пусташамі, сенажацямі, азёрамі, рэкамі, бабровымі гонамі і г.д.[8].

Пра месца размяшчэння гэтых барцянскіх паселішчаў паказваю: Гяльваны - мястэчка на граніцы даўніх паветаў Віленскага і Вількамірскага, Меднікі - вёска на паўднёвы ўсход ад Вільні, Кевіца - фальварак і вёска ў Граўжыскай гміне Ашмянскага павета. Згаданыя вышэй "борты" ожскія і пераломскія, відавочна належалі да валасці Ожы і Пералому. Ожа або Гожа і Пералом - дзве вёскі над Нёманам за 15 км на поўнач ад Гародні.

У кнізе грунтовых данацый ("каму раздаваліся маёнткі") караля Казіміра знайходзіцца запіс (каля 1491 г.): "*Пералом. Юшку Борціну ў Борцях што чалавек Сотаўт*[9]". 7 ліпеня 1494 г. в. кн. Аляксандр пацвердзіў наданне Андрэем Аляхновічам, намеснікам пераломскім і ожскім пераламчанам Марціну з братамі Наровічам дзяклавай зямлі Рымтышак ў воласці Бортскай на асобную службу[10]. Той жа вялікі кн., будучы ўжо каралём, 25 ліпеня 1503 г. пацвердзіў пану Мікалаю Юндзілу набытыя ім сенажаці ў Бортскім павеце, над ракой Пелясой у гаспадарскіх людзей борцяў[11]. Адсюль вынікае, што ў складзе намесніцтва, ці воласці Ожы і Пералома ў XV яшчэ стагоддзі знаходзілася пэўная прастора зямель заселеных борцямі, якая ад назвы яе жыхароў называлася і Борцкай воласцю, і Борцкім паветам, і проста Борцямі.

Пад канец XV ст. кн. Аляксандр даў свайму двараніну Войцеху Нарбутовічу пустую зямлю Кру-жоўшчыну на Панямонні ў Борцкім павеце. Нейкі Рудзя паскардзіўся на пана Войцеха каралю, што ён, Рудзя, ёсць ойчычам гэтай зямлі, і што пан Войцех выпрасіў яе няслушна. Пан Войцех сцвярджаў, што Рудзя ойчычам той зямлі ніколі не быў, а быў толькі парабкам і таму в. кн. у лісце да князя Івана Львовіча Глінскага, намесніка Ожскага і Пераломскага, з Вільні 13 красавіка інд. 13 (1495 г.) пацвердзіў першае сваё наданне для Войцеха Нарбутовіча. 26 чэрвеня 1497 г. (інд. 15) в. кн. Аляксандр пісаў таму ж кн. Івану Глінскаму, як ціўну Пераломскаму і Борцкаму, што даў пану Войцеху Нарбутовічу, двараніну свайму, пустую зямлю паміж борцяў панямонскіх, якая засталася пасля Станя Ягоўдавіча на 50 бочак. 12 чэрвеня інд. 6 (1503 г.), кароль Аляксандр на чалабіцце тога ж Войцеха Нарбутовіча, намесніка ў той час Ясьвойнскага, пацвердзіў яму на вечнасць набытыя ім на Панямонні ў Борцкім павеце ад Сенькі Мінкавіча, слугі пана Юрыя Пацавіча, дварэц на Лебядзе з людзьмі і зямлёй за 50 коп грошаў, а ў Енка Яўсіловіча і дзядзьковіча яго Хрышчона Даўтаровіча таксама грунт на рацэ Лебядзе, набыты за 70 коп грошаў. 15 лістапада 1532 г., ужо пасля смерці Войцеха Нарбутовіча, паміж удавой яго паняй Войцехавай і нейкім Васькам Пучкам быў напісаны ліст угоды, на падставе якога Васька той уступіў ёй да дварца Лебяды значны абшар грунтаў паміж Нёманам і вялікай дарогай з Беліцы да Мастоў, якая ідзе на стары брод цераз раку Лебяду, ад свайго дома да высокай гары над Нёманам, а з другога боку па роў ці даліну, якая ідзе ад поля цераз сасновы гай каля дварца Вайцяховай Панямонскага[12].

Рака Лебяда складалася з некалькі меншых ручаёў і цячэ на поўдзень ад мястэчка Васілішкі да Нёмана. У дольнай сваёй частцы пераразае яна дарогу з мястэчка Беліца да мястэчка Масты.

Я прылажыў вышэй пацверджанне кар. Аляксандра Мікалаю Юндзілу ў 1503 г. набыцця сенажаці ў Борцкім павеце над ракой Пелясой у гаспадарскіх людзей борцяў. У тым выпадку пан Мікалай Юндзілавіч, кухмістр каралевы, а таксама намеснік Каняўскі і Дубіцкі, апавядаў каралеве, што пры падзеле бацькоўскіх добр са сваімі братамі атрымаў ён ва ўласнасць частку Вавёркі, да якой дакупіў грунтоў ад васілішскіх баяраў і выбудаваў сабе дварэц на рацэ Пелясе, а да дварца таго дакупіў у гаспадарскіх людзей Супунцоў сенажаці на некалькі стагоў, а ў гаспадарскіх людзей Борцкага павету, у борцяў - лугі над ракой Пелясой. У ліку борцяў, якія яму прадалі свае лугі, назваў пан Мікалай: Піла, Куйжу, Носа, Гештаўтовіча і іншых.

Згаданая тут рака Пеляса цячэ пасярод Лідскага павета на паўднёвы захад ад мястэчка Радунь і ўпадае пад назвай Улы ў Мерачанку. На поўдзень ад той ракі размешчана вёска з парафіяльным касцёлам, Вавёрка, тут жа два маёнткі (цяпер распарцалёваныя: Старая Пеляса і Новая Пеляса). На ўсход ад ракі Пелясы, у ваколіцах ракі Дзітвы ёсць вёскі і ваколіцы: Пілунцы, Насевічы, Куйжы і Гейштаўты, назвы якіх нагадваюць імёны і прозвішчы борцяў, згаданых у прыкладзеным лісце з 1503 г.

У пачатку XVI стагоддзя дзяржавец Ожскі і Пераломскі пан Януш Касцевіч судзіў борціна Пераломскай воласці Януша Мяльковіча і братоў яго Пятра і Пятрашка з канюхамі Радуньскай воласці Мацеем Раматовічам і братамі яго Міхалам і Петкам Якубовічамі і Стэцкам Даўгяловічам за зямлю дзядзькоўшчыну іхнюю Мэйраўшчыну. Суд пана Касцевіча пацвердзіў кар. Жыгімонт I у дзень 19 лістапада 1518 г.[13]. Згаданая тут Радуньская воласць мела за цэнтр свой сённяшняе мястэчка Радунь у Лідскім павеце.

З вышэй пададзенага вынікае, што борці жылі ў двух цэнтрах: у ваколіцах мястэчка Жалудок і ў ваколіцах мястэчка Радунь, і што гэтыя два цэнтры складалі адну воласць Борці ці Борцкі павет.

Я не маю спецыяльных пералікаў барцянскіх грунтоў і мясцовасцяў перад "валочнай памерай". З таго, што пан Мікалай Юндзіл купіў у людзей Борцкага павету - у Яча сенажаць на 10 стагоў, у Пліка на 5 стагоў, у Пікеля на 3 стагі і ў пазасталых дваццаці пяці борцяў на 25 стагоў, можна меркаваць, што борці мелі ў сваім валоданні дзялкі зямлі рознай велічыні; што некаторыя з іх мусілі мець лішак грунтаў, паколькі іх прадавалі іншым людзям, і што барцянскія грунты размешчаны былі ў шахматным парадку з грунтамі іншых катэгорый гаспадарскіх людзей, а таксама з шляхецкімі грунтамі.

Рэформа земскага ўладкавання, ці так званая "валочная памера" кар. Жыгімонта Аўгуста на барцянскіх грунтах і ў адносінах да іхніх жыхароў была выканана ва ўсёй сваёй паўнаце яшчэ пры жыцці гэтага караля. Валочная памера барцянскіх грунтоў была распачата каля 1558 г. і праводзілася мернікамі пад кіраўніцтвам і наглядам рэвізора Грэгара Дзяльніцкага, каралеўскага двараніна, была закончана ў 1561 г. У выніку той рэформы барцянскія грунты пасля выраўноўвання і замены шахматных клетак з грунтамі іншых уладальнікаў былі абмежаваны простымі лініямі - сценамі, з вугламі як можна больш набліжанымі геаметрычна да простых, пазней парэзаны на роўныя

ўчасткі, на якіх згодна з прадпісаннямі валочнай уставы пасаджаны сёлы і ўтворана адміністрацыя тых сёлаў. На даўніх барцянскіх тэрыторыях Пераломскай воласці, а менавіта на Панямонні, у ваколіцах мястэчка Жалудка былі асаджаны на валоках сёлы: Турэйск (сучасныя Борці Турэйскія), Ясялевічы, Мянонтавічы, Піпіраўцы, Талочкі, Вялікія Буцілы, Малыя Буцілы і Панямонцы. З тых сёлаў утворана войтаўства Панямонскае. За 50 кіламетраў на поўнач ад таго войтаўства ў ваколіцах мястэчка Радуні, таксама на даўніх барцянскіх тэрыторыях той жа воласці - сёлы: Лялюшы, Пелясу, Пілуны, Паўлокі (Павалокі), Подзітву і Памедзь, з якіх утворана войтаўства Пяляскае; далей сёлы: Старыя Віганы, Новыя Віганы, Палашкі, Дубінцы, Куркаданы, Ятольты і Скірэйкі, з якіх утворана войтаўства Скальвенскае. Апошняе войтаўства Гарадзенскае ахоплівала новапасаджаныя сёлы: Складанцы, Вайткуны і Паройсць.

Дадамо далей некалькі вядомых мне выпадкаў раздавання каралём Аляксандрам борцяў і іхніх грунтоў у прыватную ўласнасць. Выпадкі такога раздавання непазбежна здараліся і перад тым і потым. Значная частка добр Ліпічна над Нёманам на поўдзень ад мястэчка Жалудка паўстала з барцянскіх грунтоў і іхніх асаднікаў. Добры тыя пасля смерці полацкага ваяводы Станіслава Андрэевіча Давойны, які не пакінуў нашчадкаў, адышлі каралю Жыгімонту Аўгусту, які памяняў іх у 1567 г. з кн. Мікалаем Радзівілам на Індуру. Назва Гарадзенскага войтаўства сведчыць пра тое, што ў той мясцовасці, г. зн. у Гароднай, размешчанай за 10 км на паўночны ўсход ад мястэчка Радуні, знайходзіліся барцянскія асады. Аднак па попісе 1567 г. з добраў Гароднай ставіў каня ўжо прыватны іх уладальнік Ян Кантрым, харунжы Радуньскі, а з размешчаных навокал Гароднай у Радуньскім харужстве іншых земскіх уладанняў, ставілі коней з людзьмі: Стэфан Лапата (Лапацішкі), Галімонты з Юдупі або Юдупя (Гальманцішкі) і інш. У 1572 г. паміраўшы кароль Аўгуст са складу Панямонскага войтаўства выдзеліў сёлы: Вялікія і Малыя Буцілы таксама Панямонцы і грунты тых сёлаў з людзьмі, жонкамі іх і дзецьмі падарыў ва ўласнасць кн. Юрыю Радзівілу. Грунты тыя разам з вёскай Вангамі (нявольнікамі, палоўленымі ўцекачамі), а таксама з дакупленай кн. Радзівілам зямлёй утварылі земскія добры Андрусоўшчына над Нёманам, якія пазней належалі да радзівілаўскага ключа Беліца. Было гэта апошняе найвялікшае каралеўскае наданне за кошт борцяў і іхніх грунтоў. Не маю магчымасці сцвердзіць, якія матывы кіравалі слабым ужо каралём, калі борцяў, якіх ва ўставах сваіх прыраўноўваў да асаднікаў і нагружаў сведчаннямі пра публічны і дзяржаўны характар - аддаў у прыватную ўласнасць магнату, і ці лёгка вольныя борці выракліся сваіх прывілеяў і сагнулі карк да работы на паншчыне на дворнай зямлі, якой перад тым ніколі не адбывалі[14].

Паколькі борці ніколі ніякіх прыгонаў на дворных грунтах не адбывалі, і паколькі некаторыя з іх валодалі землямі і людзьмі непасрэдна паводле наданняў вялікіх князёў і каралёў, а звыш таго ўсе наогул борці прызываліся на вайну, таму перавод барцяніна ў стан баярына мог быць лёгкі. Нават пасля завяршэння земскай рэформы кар. Жыгімонта Аўгуста ўся барцянская вёска Піпіраўцы была заселена аднымі баярамі барцянамі. Што за тым ідзе - прызнанне баярына барцяніна за зямяніна-шляхціца не мусіла быць цяжкім. Так, уласна, быў барцянінам вядомы там і тут дваранін кар. Жыгімонта I Рыгор Тункель, якому той кароль 25 жніўня 1517 г. пацвердзіў на вечнасць набытыя ім ад радуньскіх і эйшышскіх баяр грунты над ракой Вярсокай [15].

Баярскія сем'і Сурконтаў, Смілгінаў, Куйжаў, Гештоўтаў, Насовічаў, жыўшыя на барцянскіх грунтах у раёне пазнейшых войтаўстаў Пяляскага і Скалвенскага з'яўляюцца сем'ямі барцянскага паходжання. У 1567 г. члены тых сямей, як безумоўныя зямяне-шляхта, станавіліся конна на вайсковы попіс. Тодар Нарбут у 1 т. Гісторыі (стар. 406-407) падаў апісанне некалькіх гербаў, ужываных асобамі барцянскага паходжання: *"Адчыненая клетка, з якой матыль вылятае проста ўгору. Пячаць прыклаў Тумкель, года 1528"*; *"герб Гусь, ці Папарона з трыма трохкутнымі сцяжкамі. Пячатку прылажыў Шмілгін у годзе 1475"*. Іншыя сем'і ўзялі сабе польскія гербы ў пазнейшы час: Сурконты - "Герольда" з-за падобнасці іхняга прозвішча са згаданым у Гарадзельскім акце 1413 г. Сургутам з Кельсніна з Рушынак, якому ў той час надалі герб "Васьмірог" або "Герольд"; Гейштоўты - "Гейша" з-за падобнасці іх з назвай гербу і г.д. Тая геральдыка была санкцыянавана дэкрэтамі: Літоўска-Віленскай генеалагічнай дэпутацыі ў адносінах да сям'і Гештоўтаў 14 кастрычніка 1798 г. і Гарадзенскай у адносінах да сям'і Сурконтаў - 7 лістапада 1819 г. і 29 красавіка 1820 г.

Я меў у руках пукі прыватных дакументаў з шляхецкіх ваколіц Радуньскай гміны ад пачатку XVI ст. У некаторых з тых дакументаў згадвалася і пра борцяў, якія жылі каля радуньскіх баяраў: баяры жаніліся з барцянкамі, а борці з баяркамі, пазычалі ўзаемна адны ў адных грошы, закладвалі адны адным свае землі і ўзаемна адны адным дапамагалі ў суседскіх спрэчках за нейкі шматок луга або поля, а потым сутыкаліся перад судом намеснікаў або дзяржаўцаў ці то Радуньскіх ці то Ожскіх і Пераломскіх. Унутры баяры і борці, відавочна, былі на столькі аднолькавыя з погляду праўна-эканамічнага, што мернік Ян Гаёўнік у 1558 г. у час валочнай памеры Радуньскай воласці пацягнуў на валокі вялікі род Круповічаў, які ўсё XV стагоддзе змагаўся з Бастунямі і іншымі радунцамі за сваё шляхецтва. Барташэвічы, Сянкевічы, Пацэвічы, Радзівілавічы, Міцкевічы, Нацэвічы, Пашкевічы, Фяткевічы, Янушкевічы, Багдановічы, Лукашэвічы, Казакевічы, Яманты, Вільбікі, Запаснікі, Вайшвілы, Бутрымы, Пятрашкі і іншыя тлумам выступілі ў абарону сваёй вольнасці і шляхецтва са скаргай перад каралём Жыгімонтам Аўгустам. Кароль паслаў па той справе камісараў, якія пасля прачытання стосу прывілеяў і допыту годных веры сведкаў, выракам сваім, выдадзе-

ным у Эйшышках 23 жніўня 1560 г., сем'і тыя, як паходзіўшыя ад Крупаса (па мужчынскай і нават па жаночай лініі!), якому в. кн. Вітаўт за ўдзел у вайне з крыжакамі ў 1410 г. надаў у Радуньскай воласці землі ва ўласнасць, прызналі за шляхту, а землі іхнія, як шляхецкія вызвалілі ад валочнай памеры[16].

Што раз выразнейшая пры Жыгімонтах крышталізацыя класавых адносін стварыла на абшарах В. Кн. Літоўскага непрабіўную сцяну паміж шляхецтвам і простым станам; а зямельная рэформа найрадыкальней аддзяліла баяраў - шляхту ад борцяў. У тым падзеле борці разам з панцырнымі слугамі і путнымі з аднаго боку і людзьмі цяглымі, хатнімі чаляднікамі і палоўленымі ўцекачамі ці нявольнікамі з другога боку былі ўзятыя Літоўскім Статутам 1588 г. у рубрыку "Людзі простага стану" [17].

## II

Воласць Ожа і Пералом разам з належаўшым жа яе Борцкім паветам, якая складала ўласнасць дому в. кн. літоўскіх, пры Казіміры Ягелончыку кіравалася цівунамі в. князя. Такім цівуном на Ожы і Пераломе ў 1475 г. быў пан Міхал Кібарт. У кнізе дапамог кар. Казіміра пад 1488 г. ёсць запіс аб выплаце Барташу Дзітрыковічу двух рублёў грошаў "з він у Ожы і Пераломе" ў цівуна Яцка Падэйкавіча[18]. За часы в. кн. Аляксандра цівуноў пачалі называць намеснікамі. У 1494 г. ужо з тытулам намесніка кіраваў Ожай і Пераломам пан Андрэй Аляхновіч[19]. Пасля яго гэтай воласцю кіраваў таксама намеснік кн. Іван Львовіч Глінскі (1495-1507 г.), маршалак Літоўскі і харунжы земскі, пазнейшы ваявода Кіеўскі і намеснік Уцянскі. У 1508-1509 г. намеснікам Ожскім і Пераломскім быў пан Войцах Нарбутовіч, маршалак каралеўскі. У 1508 г. надаў яму кар. Жыгімонт І сканфіскаваны ў здрадніка кн. Васіля Глінскага двор Забалацьу Лідскім павеце. У 1510-1516 г. на пасадзе намесніка Ожскага і Пераломскага сядзеў пан Мікалай Пацэвіч, лоўчы Літоўскі, адначасова дзяржавец Жалудоцкі і ўладальнік Ражанкі. Коратка намеснічаў у той воласці Юры Янавіч Забераzінскі, пра каторага сустракаем згадку пад 1516 г. Праўдападобна, што ў той жа час кар. Жыгімонт І пусціў Ожу і Пералом у заклад за суму грошай пану Янушу Касцевічу, ваяводзе Падлескаму, намесніку Радуньскаму, уладальніку Начы ў Лідскім і Касцянева ў Шчучынскім павеце, паколькі Касцевіч у 1518-1526 г. ужо быў тытуляваны дзяржаўцам Ожскім і Пераломскім. У 1529 г. дзяржанне тое перайшло пану Пятру Станіслававічу Кішку, кашталяну Троцкаму і старасту Жмудскаму, які яго займаў да 1534 г.[20]. У 1538-1548 г. дзяржаўцам той воласці быў пан Мікалай Мікалаевіч Андрашэвіч, каралеўскі пісар Віленскіх двароў, канюшы В. Кн. Літ., а ў 1548 г. атрымаў яго пан Ян Юр'евіч Камаеўскі, маршалак дворны, які тытуляваўся дзяржаўцам Ожскім і Пераломскім яшчэ ў 1554 г. У 1565-67 г. Ожу і Пералом меў у сваім дзяржанні пан Мікалай Вольскі, ахмістр колішні каралевы Боны[21], у 1581 г. - Мікалай Война-Сокал, кашталян Менскі, потым Берасцейскі, а ў 1592 г. Дзмітры Халецкі, падскарбі земскі і пісар В. Кн. Літ., стараста Васілішскі. За Жыгімонтам III, у пачатку XVII ст. пасаду зяржаўца Ожскага і Пераломскага займаў пан Мікалай Трызна, падскарбі і пісар В. Кн. Літ., які частку таго дзяржання, а менавіта воласць Борці ўступіў у права Якуба Караля Медалянскага, войскага Мсціслаўскага, а Медалянскі ўступіў яе ў пажыццёвае валоданне Паўлу Сапегу. У выкананне той перадачы права дэлегаваны падскарбім Трызнам Стэфан Казімір Кудзярэўскі 5 верасня 1636 г. правёў дэтальны інвентар уступленай воласці Борці ўжо як самастойнага дзяржання. Паводле гэтага інвентара воласць Борці складалася з чатырох войтаўстваў: Панямонскага, Пляскага, Скальнінскага (даўней Скалвенскага) і Гарадзенскага. У склад Панямонскага войтаўства ўваходзілі сёлы: Ясялевічы - 32 валокі і на іх 56 дымоў, Мянонтавічы - 15 валок, 29 дымоў, Піпіраўцы - 11 валок, 8 дымоў, Талочкі - 12 валок, 7 дымоў і $4^3/_4$ пустыя (незаселеныя) валокі, а таксама Турэйск - 11 валок, 11 дымоў; Пляскае войтаўства складалі сёлы: Лялюшы - 10 валок, 12 дымоў, Пеляса - 30 валок, 29 дымоў, Пілуны - 14 валок, 14 дымоў, Паўлока - 27 валок, 34 дымы, Подзітва - 21 валока, 22 дымы і Памедзь - 19 валок, 18 дымоў; Скальнінскае войтаўства - сёлы: Старыя Віганы - 20 валок, 16 дымоў, Новыя Віганы - 26 валок, 30 дымоў, Палашкі - 11 валок, 19 дымоў, Дубінцы - 33 валокі, 38 дымоў, Куркі - 13 валок, 17 дымоў, Куркаданы - 17 валок, 21 дым, Ятолты (ад нядаўняга Орля) - 12 валок, 18 дымоў і Скірэйкі - 11 валок, 15 дымоў; тут жа Гарадзенскае войтаўства - сёлы: Складанцы - 23 валокі, 34 дымы, Вайткуны - 13 валок, 13 дымоў і Паройсць - 1 валока, 27 дымоў.

З вышэй прыведзенага інвентара вынікае, што дзяржавец Борці не меў ні аднаго двара, і яе насельніцтва не выконвала ніякіх рабочых павіннасцяў на карысць дзяржаўцы, як гэта звыкла бывала ў іншых каралеўскіх уладаннях. Адно што гаспадары, якія сядзелі на валоках былі павінны ад кожнай валокі аплочваць штогод на карысць дзяржаўцы наяўнымі 97 грошаў (у вёсцы Талочкі - 71 грош) і складаць яму натурай: жыта 1 бочку, аўсу 2 бочкі (у вёсцы Талочкі 1 бочку), 1 гусь, 2 куры, 20 яек, 10 жмень ільну, таксама паводле патрэбы "несці варту" і адбываць 20 міль дарогі.

На барцянскай зямлі ў вёсцы Скірэйкі сядзеў пераломскі баярын Мікалай Раковіч, а пры вёсцы Пілуны - шляхта Сурконты займала 3 валокі барцянскай зямлі. На права валодання той зямлёй Сурконты паказвалі ліст кар. Жыгімонта Аўгуста пад датай 11 студзеня 1562 г., якім кароль пацвердзіў на вечна продку іхняму Аляксею Яновічу вышэй азначаную зямлю, дадзеную яму за службу мернага барцянскага рэвізорам Рыгорам Дзяльніцкім. У вёсцы Пелясе, на Віленскім гасцінцы, як сведчыць той жа інвентар 1636 г., была карчма, а ў вёсцы Подзітве - другая, якую ўтрымліваў ва ўласным доме Стась Яновіч, плацячы

на карысць дзяржаўцы воласці ад піва і гарэлкі капу грошаў штогод[22].

Воласць Борці ад пачатку XVII ст. пачалі называць нягродавым староствам Барцянскім, а яе дзяржаўцаў - Барцянскімі старастамі. У "пераліку" пана Адама Саковіча, адміністратара скарбу В. Кн. Літ. за 1661 г. знаходзіцца запіс: *"Ясна вяльможны ім. Пан Павел Сапега Ваявода Віленскі, гетман ВКЛ з Барцянскага староства з дымоў № 70 раціоне экспэнс сваіх патрацiў 420 фл (орэнаў)"*[23]. Павел-Ян Сапега, Віленскі ваявода, вялікі гетман Літоўскі, стараста Слонімскі, Раслаўскі, Барцянскі і Здзітаўскі і г.д. "трыумфы і жыццё скончыў у 1665 годзе" [24]. Старэйшы сын яго Казімір-Павел-Ян Сапега быў спачатку падскарбім надворным В. Кн. Літ. пры тым Берасцейскім старастам, Ваўпянскім, Здзітаўскім і Барцянскім, потым ваяводам Полацкім, старастам Жмудскім, нарэшце ваяводам Віленскім, вялікім гетманам Літоўскім.

Пад канец XVII с. гетман Казімір Сапега перадаў сваё права на Барцянскае староства сыну Міхалу, канюшаму і генералу артылерыі В. Кн. Літ., які тытулаваўся старастам Ашмянскім, Геранёнскім, Ліпнішскім, Анікштанскім і Барцянскім. У ходзе барацьбы з Віленскім біскупам кс. Бжастоўскім пасекла яго шляхта шаблямі пад Алькенікамі ў 1700 г. У 1704 г. меў тое староства ў валоданні Станіслаў Панятоўскі, ад'ютант караля Карла XII, відавочна не доўга. Пасля прайгранай пад Палтавай бітвы і падзення акцый Карла XII і Станіслава Ляшчынскага Барцянскае староства аказалася ў руках Яна дэ Кампа Сцыпіёна, ротмістра харугвы Лідскага павета, якую гэты павет выправіў на вайну са шведамі ў 1703 г., спачатку пісара гродскага, потым маршалка Літоўскага трыбуналу, у канцы сенатара - Смаленскага кашталяна. Пасля Смаленскага кашталяна, які памёр у 1738 г., Барцянскім старастам тытулаваўся яго сын Юзаф дэ Кампа Сцыпіён, стараста Лідскі і Муракоўскі, падстолі Літоўскі, пасля зыходу яго Барцянскім староствам валодала пазасталая пасля яго ўдава Тарэса з дому Радзівіла, Наваградская ваявадзянка. Яна 14 лютага 1745 г. выйшла замуж за Антонія-Міхала Паца, Полацкага кашталяна, а 3 кастрычніка 1746 г. атрымала ад кар. Аўгуста III для свайго мужа супольнасць пажыццёвага права на тое староства. Антоні і Тарэса Пацы, старасты Барцянскія, мелі ў 1770 г. справу з Янам Мікалаем Хадкевічам, старастам Жмудскім за засценак Ясюлевічы ў Панямонскім войтаўстве, бясспраўна далучаны да хадкевічаўскіх добраў Вялікага Мажэйкава. Абодва бакі скардзіліся на збройныя наезды і для высвятлення той справы была прызначана камісія пад кіраўніцтвам Рдултоўскага, падкаморага Наваградскага, якая складалася з Лідскага суддзі Нарбута, Жмудскага крайчага Карэйвы і Лідскага гродскага рэгента Тамаша Вількалца. Антоні Пац памёр у лютым 1774 г. Пазасталая пасля яго ўдава Тарэса Пац 17 студзеня 1776 г. у Галоўчыне падпісала дакумент, моцай якога Барцянскае староства ўступала на карысць свайго сына Міхала Паца, капітана Літоўскіх войскаў, які быў жанаты з Людвікай Тызенгаўз, дачкой Наваградскага ваяводы Міхала. Міхал Пац валодаў таксама Ковенскім староствам. У 1783 годзе ён атрымаў ранг генерал-маёра Літоўскіх войскаў. Належаў ён да ліку тых польскіх магнатаў з канца XVIII ст., пра шаленства і самавольства якіх захаваліся да сённяшняга дня і паданні, і дзяржаўныя акты. Будуючы слаўны палац у Езне, *"а будучы хцівым да рабочых рук, бязбожна, самавольна, разбойна казаў сваім людзям лавіць ехаўшых гасцінцам падарожных, купцоў, яўрэяў, мужыкоў і нават бяднейшую шляхту і, закаваўшы іх у кайданы, нейкі час, які цягнуўся найменей тры тыдні, заганяў на мулярскую работу ў палацы або талакой на нашэнне цэглы і жвіру са сваёй цагельні. Шмат падобных пакутнікаў ад прыгнёту, роспачы і працы як бы памерла!"*[25] Новы Барцянскі стараста, не маючы дастаткова чыншовых паступленняў, якія ад веку плацілі яму борці, ломячы старажытныя ўстанаўленні і звычаі, знішчыў, як гаворыць інвентар 1798 г., вёску Палашкі, пабудаваў на яе месцы фальварак і прымусіў борцяў замест выплаты чыншу адбываць у натуры паншчыну. Тое самае сталася і ў Панямонскім войтаўстве, дзе пасля зносу вёскі казаў збудаваць фальварак Мінонтавічы. У люстрацыі 1796 г. запісана: *"Барцянскае староства з фальваркам Палашкі пажыццёва належыць Міхалу Пацу, а Якубам Зялёнкам, Ковенскм гродскім суддзём традыцыйна занята, вёсак 16, дымоў 296, жыхароў мужчынскага полу 807, жаночага полу 721, разам 1528. Да яго Панямонскае войтаўства з фальваркам Мінонтавічы, які належыць да Барцянскага староства, у дзяржанні Матэвуша Іржыцкага вёсак 5, дымоў 103, жыхароў мужчынскага полу 301, жаночага полу 273, разам 574"*. Міхал Пац пад канец жыцця ўпаў у меланхолію і памёр у Мыце 29 студзеня 1800 г.[26]. Пазней Скарбовая палата па ўзгадненні з Палатай дзяржаўных маёмасцяў у Гародні аддала Барцянскае староства ў дзяржанне з публічных гандляў. Апошнім Барцянскім дзяржаўцам быў у саракавых гадах XIX ст. Гашуба. Ад 12 красавіка 1847 г. гаспадары таго староства былі пераведзены з натуральнай паншчыны на чынш на карысць скарбу дзяржавы, пры чым Пляскае, Скалвенскае і Гарадзенскае войтаўствы ўключаны ў склад новаўтворанай Эйшышскай грамады скарбовых сялян, толькі Панямонскае войтаўства - у склад такой жа Ражанкаўскай грамады з падпарадкаваннем тых грамад Акруговаму ўраду дзяржаўных маёмасцяў у Троках.

Пры рэарганізацыі вясковага самакіравання ў 1866 г., пасля роспуску грамад дзяржаўных сялян вёскі: Пеляса, Лялюшы, Пілунцы, Паўлокі, Подзітва, Памедзь, Дубінцы, Смілгіны, Віганцы, Скірэйкі, Орля, Палашкі, Куркі, Каргоўды, Складанцы і Вайкунцы ўключаны ў Радуньскую Гміну, Паройсць - у Мацкіскую або Аляксандраўскую гміну, Піпіраўцы і Мінонтавічы - у Жалудоцкую гміну, а Ясялевічы, Талочкі і Турэйскія Борці - у Арлянскую гміну Лідскага павета. У тым жа годзе землі, займаныя борцямі з

даўніх вякоў былі прызнаны ім ва ўласнасць з растарміноўкай цаны куплі, ці так званай сумы выкупу на сорак з нечым гадоў. Лясныя абшары даўняга Барцянскага староства засталіся ў складзе маёмасці дзяржавы, а з пазасталых вольных абшараў утвораны тры так званыя фермы: Паўлока - 270 дзесяцін, Дубінцы - 203 дзесяціны і Смілгіны - 336 дзесяцін, якія як маёнткі інструкцыйна былі перададзены ва ўласнасць асобаў расійскага паходжання.

Борці Панямонскага войтаўства ўжо з вельмі даўніх часоў страцілі ўсялякія рысы свайго старапрускага паходжання, а з тым і родную сваю мову, і звычайна карысталіся выключна беларускай мовай. Яшчэ ў інвентары 1636 г. фігуруюць у тым войтаўстве прозвішчы, якія гучаць не па-славянску: Шмукста, Жыбарт, Контар, Плікіс, Рокель, Матэль, Авіжэнь, Матэліс і інш. Сёння тыя прозвішчы на абшарах Жалудоцкай і Арлянскай гмін не сустракаюцца. У той жа час борці Пяляскага, Скалвенскага і Гарадзенскага войтаўстваў, паселеныя сёння ў Радуньскай і часткова Воранаўскай гмінах, аж да сённяшняга дня захоўваюць мову і звычаі, якія яны сюды прынеслі некалі з Прусаў і да апошніх часоў жылі матэрыяльна ва ўмовах XIII стагоддзя: у курных хатках, разам з жывёлай, не ведаючы ані лекара, ані аптэк, а толькі знахараў і таямнічыя лекавыя сродкі і замовы, апраналіся выключна ў вырабы хатняга ткацтва і кажухі з іхніх уласнай гадоўлі авечак, ставілі будынкі без ужытку хоць аднаго жалезнага цвіка, а толькі з аднаго дрэва, галля і саломы, не мелі ні малейшага імкнення да кніжак або газет. Не так яшчэ даўно, бо сорак пяць гадоў назад нехта пад псеўданімам "Zaltis" у летувіскай газеце "Vienybes Letuva" за 1894 г. № 37 падаў жменю цікавых звестак пра радуньскіх борцяў, відаць, нічога не ведаючы пра іхняе паходжанне і мінулае і называючы іх "радуньцамі". *"Радуньская парафія,* - распавядае "Zaltis", *- налічвае 8600 парафіян ліцвінаў, вызнання р.- каталіцкага - сялян і шляхты. Сяляне размаўляюць па-летувіску, а шляхта - па-польску, хоць і называе сябе ліцвінамі. Некаторыя з літоўцаў паддаліся русіфікацыі і размаўляюць асобным жаргонам - на палову польскім, на палову расійскім, ці як там кажуць - па-просту, гэта значыць па-мужыцку. Літоўцы ўжываюць летувіскую мову толькі дома, а па-за домам размаўляюць або па-польску, або па-просту. Радуньцы - людзі вельмі цёмныя, паколькі не маюць на сваёй радзімай мове ніякіх пісьмовых рэчаў, а пра існаванне кніг на летувіскай мове нават не чулі. Жывуць яны вялікімі вёскамі ад 50 да 100 дымоў. Хаты іхнія курныя і брудныя, паколькі жывуць яны разам з жывёлай. У рэдкім доме ёсць сцяна, якая аддзяляе жыллё людзей ад хлява. Зімой у хатах пад ложкамі і палкамі хаваюцца авечкі і свіні. Хлявы, стайні і стадолы пабудаваны ў адзін рад з хатай, каб гаспадарам можна было бачыць сваю жывёлку. Такія ўладкаванні дамоў у старажытных ліцвінаў апісвае Даўконт у сваёй кніжцы "Budas" - "Побыт". Той спосаб пабудовы дамоў ужо даўно адышоў у прускіх літоўцаў і ў Сувальскай губерні ў выніку ўплыву культуры; толькі зрэдку яго можна спаткаць на Жмудзі ў Ковенскай губерні. Дзіўна, што тут мужчыны, што да нацыянальнага строю, больш захавалі яго, чым жанчыны. Жанчыны любяць убірацца ў паркалёвыя сукенкі, пераважна чырвонага колеру, так як і расейскія жанчыны, а мужчыны ўбіраюцца ў самаробныя сярмягі і іншыя ўборы з тканін дамашняга вырабу. Тым часам у літоўцаў іншых мясцовасцяў мужчыны хутчэй прысвойваюць чужыя звычаі і моды чым жанчыны. Радуньцы таксама арыгінльныя і ў выкананні палявых работ і іншых: напрыклад мужчыны абавязаны скасіць і сабраць сена без удзелу жанчын, а жанчыны павінны зжаць жыта сярпамі і сабраць яго з поля без удзелу мужчын. Мужчыны малоцяць і малоцяць толькі столькі, колькі патрэбна на гэты раз, у выніку чаго малацьба працягваецца часам аж да вясны. Аруць зямлю сахой, запрэжанай у пару коней, або валоў, а калі да пары не хапае, то запрагаюць у саху каня і вала або карову. Найболей сеюць грэчкі, бо яна найлепей родзіць. Ільну сеюць вельмі мала, толькі для ўласных патрэб. Для асвятлення хат радуньцы ўжываюць лучыну, а газы яшчэ не ведаюць. Як людзі цёмныя, вераць розным чараўнікам і ведзьмам. У мове іх можна спаткаць некаторыя асаблівасці, як напрыклад магілу называюць* ***галас*** *(galas), у той час як іншыя літоўцы называюць* ***грабас*** *(grabas), тэрмінам, запазычаным у славян."* І тым словам *galas* "Zaltis" тлумачыць значэнне назваў літоўскіх мястэчак, напр.: Эйрагала, Байсагала, Бецігола, Вендзігола, Мяйшгола і г.д. нібыта канцоўка *galas* абазначае магілу. *Эйра, Байса, Бета, Вендзя, Мейша* быць можа ёсць імёны літоўскіх герояў. Калі б падобнае тлумачэнне было прыдатнае, то належала б звярнуць увагу на радуньска-літоўскую гаворку. Быць можа, у той гаворцы знойдзецца тлумачэнне і іншых літоўскіх слоў або назваў, да гэтага часу не вытлумачаных, напр. *Крывейціс, Крывулі, Рамовы* і інш.

* * *

Пра парушэнне традыцыі і запрыгоненне вольных борцяў і ператварэнне іх у прыгонных падданых можа служыць ніжэй прыведзеная ведамасць:

Паводле інвентара Барцянскага староства 1765 г. борць вёскі Павалока Міхал Шымялевіч ад займаных ім $^3/_4$ валокі зямлі плаціў штогод чыншу 30 зл., а паводле інвентара 1798 г. ягоны сын Марцін Шымялевіч меў у той вёсцы дым (сям'я: мужчынскага полу - 2, жаночага полу - 3 душы) і 1 вала, ад $^4/_8$ валокі "аседлых" і $^4/_8$ валокі "прыёмных" ужо адбываў штотыднёва паншчыну на дваровай зямлі 2 дні, 1 паездку ў год да Вільні і плаціў наяўнымі на карысць дзяржаўцы 40 зл. Другі сын Міхала Ян Шымялевіч быў пераселены ў вёску Подзітву. Сын Марціна і ўнук Міхала таксама Міхал Шымялевіч, народжаны ў Паўлоцы ў 1801 г., праз жаніцьбу з Мар'янай Вішнеўскай (31 студзеня 1822 г.) асеў на зямлі бацькоў сваёй жонкі ў вёсцы Пелясе.

І ад займанай ім там валокі паводле інвентара 1832 г. адбываў на дворнай зямлі ў Палашках ужо тры дні паншчыны апрача іншых нагрузак і выплат. Тут, у Пелясе, 6 жніўня 1830 г. нарадзіўся мой бацька, аўтара гэтага артыкула, Ян Шымялевіч сын Міхала. Пан Станіслаў Дзядулевіч у Гярбоўніку татарскіх сямей пад *Яблонскім г. Ясенчык* піша, што гэтай сям'і быў татарын знакамітага роду Курача, які ў 1511 г. атрымаў пацвярджанне прывілею кар. Аляксандра на пусташ Станкаўшчыну ў пав. Троцкім, а пад *Сунялевічам* (цяпер *Шымялевічы*) тлумачыць, што яны адзіныя з *Яблонскімі* і дапускае, што ў XVIII ст. адзін з іх *"узяў прозвішча, скажонае пад уплывам беларускай гаворкі на Шымялевіч"* і дадае: *"Нашчадкам яго быў Міхал Шымялевіч, аўтар брашуры, выдадзенай у 1896 г.* (памылка: належыць чытаць 1906 г., *аўт.*) *пад назвай "Этнаграфічныя нарысы пра літоўскіх татараў" і каштоўных нататак пра татараў Лідскага павету, шматразова цытаваных у гэтым творы"*. Паколькі такія дапушчэнні п. Дзядулевіча лісліваць паходжанню маіх продкаў, то маючы аднак жа ў руках довады пра далёка больш сціплае іх паходжанне, менавіта ад прускіх борцаў, павінен прызнаць, што ў Гярбоўніку татарскіх сямей я незаконна заняў не належнае мне месца. Наадварот, я напісаў трыццаць пяць гадоў назад этнаграфічны нарыс пра літоўскіх татараў, а таксама пра татараў Лідскага павета, сабраў жменю матэрыялаў, пра якія п. Данілевіч згадвае ў Гярбоўніку, але зрабіў гэта толькі з-за любові да пазнання радзімага краю, а не з-за пачуцця прыналежнасці да шляхетнага татарскага народа.

**Крыніцы:**

[1] T. Czacki. O Litewskich i Polskich Prawach. I. (1861 г.), 248.

[2] Рус. гіст. бібл. т. XXX, 543.

[3] Там жа, 516.

[4] М. Любавский. Обл. деление, 828.

[5] T. Narbutt. Dzieje Narodu Litewskiego, t. IV (1838 г.), 271.

[6] М. Любавский. Обл. деление, 401.

[7] Рус. гіст. бібл. т. XXVII, 600.

[8] Там жа, 730.

[9] Там жа, 93.

[10] Там жа, 630.

[11] Там жа, 856 - 860.

[12] Копіі тых лістоў лацінкай з рускіх арыгіналаў у 1912 годзе я знайшоў у архіве добр Вялікі Мажэйкаў, цяпер у Шчучынскім павеце каля Ліды. У склад тых добр ўваходзілі фальваркі Лябёдка і Бялеўшчына, абшараў якіх датычылі прыкладзеныя лісты. Жылы дом у В. Мажэйкаве разам з музейнымі зборамі, архівам і бібліятэкай спалілі ў 1915 г. адступаўшыя расейскія войскі.

[13] М. Любавский. Обл. деление, 626.

[14] Борці не лёгка забывалі пра прыналежнасць ім барцянскіх зямель, якія знайходзіліся ў чужым уладанні. Паводле рэвізіі 1561 г. над ракой Лебядой, каля сяла Піпіраўцы сядзеў Відугер, баярын той часткі Ліпічны, якая ў свой час належала Давойне і Фурсіной. Наступны Відугераўскім грунтам валодаў Гоман. 30 красавіка 1594 г. зяць Фурсіной Якуб Макрэцкі разам з жонкай сваёй Філіцыянай належаўшую ім частку Ліпічны з грунтам Відугераўскім прадаў кн. Юрыю Радзівілу, ваяводзічу Навагрудскаму. 26 красавіка 1644 г. кн. Януш Радзівіл, падкаморы В. Кн. Літ., адлучыўшы ад добраў сваіх Ліпічны дзве валокі і трэць грунту Відугераўскага, на якім сядзелі баяры Гоман і Сутока, дараваў іх слузе свайму Марціну Крупелю, які ў 1676 г. быў генералам яго кар. мосці Лідскага павета. Пад канец XVII ст. Відугераўскімі грунтамі гвалтоўна завалодалі барцянскія баяры вёскі Піпіраўцы ў перакананні, што тыя грунты належаць да складу барцянскіх грунтоў. Кампрамісарскі суд у асобах: Аляксандра Яна Місевіча, ваяводы Мсціслаўскага, і Казіміра Францкевіча Радзімінскага, падскарбія надворнага В. Кн. Літ., старасты Лідскага, спрэчныя грунты 5 ліпеня 1694 г. прызнаў аднак уласнасцю нашчадкаў Марціна Крупеля. У 1800 г. набыў грунт у Відугераўшчыне Радзевіч, а ў 1834 г. частка Відугераўшчыны належала Пацынам.

[15] Даніловіч. Скарбец, I, № 352. Выдаўцы Скарбца памылкова надалі лісту кар. Жыгімонта I дату 1337 г. і памылкова залічылі той ліст да актаў в. кн. Альгерда, які ні Радунню, ні Эйшышкамі ніколі не валодаў. Зрэшты ўзрост ліста акрэслівае імя і прозвішча тагачаснага радуньскага намесніка Януша Касцевіча, чаго не заўважыў праф. Т. Леантовіч, "Очерки истории Литовско-Русского права", СПб, 1894 г., 317.

[16] Акты Віленскай археалагічнай камісіі XXV. 220.

[17] Літ. Ст. 1588 г. Раздз. XII, арт. III (польскі пераклад, выданне 1693 г.): "Аб штрафах і грашовых спагнаннях за забойства людзей простага стану" - "Бартніка сорак коп грошаў". У рускім тэксце (выданне 1853 г.): "Бортніка сорак коп грошаў". Паколькі тэрмін "борцін" абазначаў стан, а "Бартнік" - прафесію, то калі б у тым выпадку Статут разумеў бортніка - пчаляра, то адразу памясцілі б яго ў арт. 5 пад рубрыкай "Аб штрафах за забойства рамесных людзей", дзе называюцца: сакольнік, конюх, ткач, дойлід (цесля), сабакар, нават вазніца. Відавочная памылка вынікла па прычыне невядомасці значэння тэрміну "борць", "борцін".

[18] Рус. гіст. бібл. т. XXX, 543.

[19] Там жа, 549.

[20] М. Любавский. Обл. деление, 155 - 156.

[21] Boniecki. Poczet rodow. XXXVI.

[22] Арх. даўніх актаў у Вільні, стары № 5714, арк. 104-132.

[23] Акты Вілен. арх. кам, XXXIV, 447.

[24] Niesiecki. Herbarz, VIII, 246-248.

[25] Dr. S. Morawski. Kilka lat mlodosci mejej, 392.

[26] Wolf. Pacowie. 290-301.

***Пераклад Станіслава Судніка***
*паводле "Ziemia Lidzka"*
*№ 4-5, № 6, 1939 г.*

***Кірыл Сыцько***

# СПІСЫ НА ВЫБАРЫ Ў ДЗЯРЖАЎНУЮ ДУМУ III СКЛІКАННЯ 1907 года ЯК КРЫНІЦА ПА ГІСТОРЫІ РЫМСКА-КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА НА ЛІДЧЫНЕ

Тэма выбараў у Дзяржаўную думу III склікання ўзору 1907 года па Лідскім павеце на дадзены момант не асветленая дастатковым чынам.

Частка дакументаў па гэтых выбарах знаходзіцца ў фондзе 604 "Віленская Рымска-каталіцкая духоўная кансісторыя", справа № 6273 ад 08.07.1907 года "О выборахъ въ Государственную Думу". Адметнасцю гэтай справы з'яўляецца наяўнасць у ёй дакументаў па Лідскім і Гарадзенскім паветах (хаця гэтыя паветы прадстаўляюць розныя губерні -*заўв. аўт*). Дакументы гэтыя, збольшага, з'яўляюцца крыніцай не па гісторыі выбараў у Дзяржаўную Думу III склікання, але па гісторыі Рымска-каталіцкай царквы на Лідчыне.

Адной з самых цікавых крыніц у справе з'яўляецца спіс духавенства Лідскага павета, якое мае права прымаць удзел у выбарах. Па-сутнасці - гэты спіс з'яўляецца неабходнай дапаможнай крыніцай для канструкцыі сістэмы суаднясення дэфініцыяў "рэлігія - нацыянальнасць" па Лідскім павеце і Віленскай губерні непасрэдна на пачатку XX ст.

Адкрывае справу прадпісанне дэканам (трэба думаць тыповае - *заўв. аўт.*) аб азнаямленні насельніцтва з Маніфестам Мікалая II аб парадку правядзення выбараў.

Дакументам, які нас не можа не цікавіць з'яўляецца прадпісанне гарадскога Лідскага старасты. З яго вынікае, што з боку кліру ў выбарах маюць права ўдзельнічаць асобы мужчынскага полу, старэйшыя за 25 гадоў, якія пражываюць у межах Лідскага павета цягам тэрміну, большага за год за выключэннем ніжэйшых служак.

Такім чынам, атрымаліся 24 ксяндзы ва ўзросце ад 27 да 73 гадоў. Сярэдні ўзрост іх склаў 37,9 гадоў. Трэба адзначыць, што агульная колькасць святароў і цывільных чыноў па Віленскай епархіі на пададзены прамежак часу - 77.

Усяго па Віленскай губерні патрэбна было абраць 7 чалавек, у тым ліку - 1 ад горада Вільні, аб чым сведчыць памятка аб правядзенні выбараў у Дзяржаўную Думу Расійскай Імперыі.

Варта заўважыць, што агульная


24 Іюня 1907 г.

По выборамъ въ Государственную Думу

ЛИДСКІЙ ГОРОДСКОЙ СТАРОСТА. № 1312 Іюня 26 дня 1907 г. г. Лида Виленской Губерніи

Въ Виленскую Римско-Католическую Церковную Консисторію.

Имѣю честь просить Консисторію въ возможно скорѣйшемъ времени сообщить мнѣ именной списокъ лицъ (за исключеніемъ низшихъ служителей и рабочихъ) служащихъ въ Консисторіи, проживающихъ въ предѣлахъ гор. Лиды и уѣзда не менѣе одного года и получающихъ содержаніе или пенсію по службѣ государственной и общественной указаннымъ [illegible]


каждаго для внесенія въ списки лицъ, имѣющихъ право участія въ выборахъ въ Государственную Думу. Въ означенные списки не вносятся лица моложе 25 лѣтъ и лица женскаго пола.

Городовой Староста Коллежскій секретарь [illegible]

колькасць выбаршчыкаў у параўнанні з выбарамі 1905 года па Лідскім павеце ўзрасла да 14 асобаў. На папярэдніх выбарах гэтая колькасць была роўная 13, у тым ліку - ад з'езду ўпаўнаважаных ад павета - 7; ад з'езду землеўласнікаў - 5; ад з'езду гарадскіх выбаршчыкаў - 1. Для таго, каб атрымаць права ўдзелу ў з'ездзе землеўласнікаў, у Лідскім павеце трэба было валодаць 300 дзесяцінамі зямельных надзелаў (па розных паветах гэтая лічба вагаецца ад 100 да 300 дзесяцін - *заўв. аўт.*).

Ксяндзы, якія мелі зямельныя надзелы, падаваліся асобным спісам з указаннем колькасці земляў. Нажаль, спісы па Лідскім павеце ў справе адсутнічаюць. Аднак маюцца аналагічныя звесткі па Гародні. Прывядзём дадзеныя з іх для прыблізнага параўнання. Адразу адзначым, што ні ў кога не было неабходных 300 дзесяцінаў. Паводле правілаў прадстаўнікі кліру маглі аб'яднацца і ў выпадку, калі агульная колькасць зямлі склала больш за 300 дзесяцінаў, маглі вылучыць свайго кандыдата.

Колькасць земляў складала ад 1 да 94 дзесяцін, сярэдняя колькасць надзелаў ксяндзоў Гарадзенкага павета - 37,3 дзесяціны, што не давала ім асабістага права вылучацца на сходах землеўласнікаў. Для таго, каб мець уяўленне аб колькасці зямлі і правільна інтэрпрэтаваць сітуацыю, варта вылічыць колькасць у гектарах. Вядома, што 1 дзесяціна = 1,0925 гектара. Такім чынам, у сярэднім ксяндзы ў дадзенай мясцовасці валадалі 40,7 гектара зямлі.

Гэты спіс духавенства па Гарадзенскім павеце цікавы нам па прычынах падабенства ўладкавання органаў царкоўнага кіравання Паўночна-Заходняга краю напачатку XX ст. Такім чынам, робіцца прамая праекцыя на становішча ў Лідскім павеце.

Дадзеныя, якія месцяцца ў спісе, пра які ідзе размова, з аднаго боку, як тое можа падацца, не нясуць ніякай каштоўнасці. Аднак трэба памятаць, што рымска-каталіцкі касцёл перыяду Рэчы Паспалітай з'яўляўся буйным землеўласнікам. Лагічна, што ў святле гэтак званай "Эпохі прывілеяў", якая была ўласцівая акрэсленаму рэгіёну, клір мог назапашваць землі з цягам часу - такім чынам, калі ўлічыць аседласць, стацыянарнасць і статычнасць парафіяльных органаў кіравання, з часам духавенства станавілася больш заможным. У гэтым выпадку час - прамое адлюстраванне ўзросту.

У перыяд Расійскай Імперыі становішча каардынальна змяняецца. Для таго, каб тое адлюстраваць, мы прааналізавалі спіс з дапамогай каэфіцэнту карэляцыі, дзе за $x$ быў узяты ўзрост духавенства, за $y$ - колькасць дзесяцінаў зямлі, якой валодаў кожны прадстаўнік у замацаванай за ім парафіі. У ходзе падліку намі атрыманы адмоўны каэфіцэнт - 0,108, які абазначае памяншэнне колькасці дзесяцінаў зямлі з узростам святара.

Натуральна, дадзеныя ўмоўныя, і прыведзеныя яны толькі датычна Гарадзенскага павета.

Для атрымання дакладных дадзеных, адносна валодання зямлёю духавенствам абраных земляў, варта прааналізаваць інфармацыю па ўсёй губерні, а што яшчэ больш пажадана - па ўсёй епархіі. Гэтыя падлікі маглі б праясніць даследчыкам шмат якую інфармацыю ў святле секвестрацыі маёнткаў, канфіскацыі касцельных земляў, актаў адчужджэння, якія мелі месца быць у перыяд з 1864 па пачатак XX ст.

Аднак вернемся да справы 6273 LVIA. Апроч вышэй пералічанага, у той жа справе месціцца спіс святароў і цывільных чыноў Віленскай епархіі з пазначэннем іх нацыянальнасці. Па-сутнасці, толькі 5 з 77 святароў пазначылі сваю нацыянальнасць як "літовец" - Гіпаліт Баярунец, Аваровіч Міхаіл, Бразіс-Фрэй Тэадор, Жвілоўскі Антоні, Куята Восіп, Міронас Уладзіслаў, Малюкевіч Клементы, Янушэвіч Георгі. Астатнія - палякі, ніводнага беларуса. Калі вылічыць агульную долю літоўцаў сярод святароў на тэрыторыі Віленскай епархіі, то яна складае толькі 10,38%, у сваю чаргу 89,62% складалі палякі.

Цікавай асобай для нас з'яўляецца Гіпаліт Баярунец (у наступным- дэкан Лідскі -*заўв. аўт.*), які, варта зазначыць, негатыўна ставіўся да беларусаў. Святар гэты ў спісах кансісторыі пазначаны як "літовец". Працытуем яго мемуары: *"...праца завіравала. Беларушчына знікла, а польская мова, так праследваная бальшавікамі, нарэшце заняла сваё месца ў каталіцкіх дамах..."*. Пры гэтым літовец Баярунец ні разу не ўзгадвае ў сваіх дзённіках аб літоўскай нацыі і лічыць сябе палякам. Гэта дае нам падставы гаварыць аб важнасці моўнага і канфесійнага фактараў ідэнтычнасці напачатку XX стагоддзя. Пацвярджаннем таму будзе найменне ў гэтых спісах Ваверскага ксяндза Іаана Сахаркі, які пазней будзе асуджаны за распальванне польскага этнанацыяналізму і падбухторванне да неўплаты пазыкаў і цкаванні праваслаўных святароў.

Аднак вернемся да спісаў. Пададзеныя ў іх звесткі ідуць у разрэз з дадзенымі за 1904 год, калі па Лідскім дэканаце налічвалася 13 ксяндзоў, з іх 11 - палякі, 2 - беларусы, літоўцаў - 0. Нават вядомыя імёны ксяндзоў, якія называлі сябе беларусамі - Міхал Зямчэнак, Антоні Свіль.

23 нумар у спісе Іосіф Шкоп, у адносінах да якога няма дадзеных, у гэты час праходзіў прызначэнне на пасаду Лідскага дэкана, быў у павеце, але фармальна яшчэ да Ліды не быў прыпісаны.

У спісе адсутнічае слынны Гіпаліт Баярунец, бо ў 1907 г. быў святаром у складзе Віленскай Кансісторыі і не меў дачынення да Лідскага павета, пасля чаго стаў настаяцелем Гарадзенскага францішканскага кляштара для выпраўлення недабранадзейных ксяндзоў (1910-1912), а пасля ў 1919 пераехаў у Ліду на пасаду дэкана (1919-1946).

Такім чынам, гэтыя спісы не столькі праясняюць нам парадак удзелу ў выбарах у Дзяржаўную Думу, колькі даюць ўяўленне аб нацыянальным і ўзроставым складзе каталіцкага кліру Лідскага павета. Падобныя кліравыя спісы павінны быць на ўзбраенні даследчыкаў-краязнаўцаў менавіта з гэтых прычынаў. Таксама з дапамогаю гэтых спісаў вымалёўваюцца межы Лідскага Рымска-каталіцкага дэканата па стане на 1907 год: Бутрымаўцы, Салечнікі, Няцеч, Эйшышкі, Жырмуны, Ельна, Ражанка, Забалаць, Осава, Радунь, Мала-Салечнікі, Новы Двор, Ішчална, Калеснікі, Белагруда, Жалудок, Тракелі, Васілішкі, Нача, Вавёрка, Ляцк, Воранава, Беняконі.

## Дакументы

**Дакумент 1.** ***Ліст Лідскага гарадскога старасты № 4392 ад 20 ліпеня 1907 года ў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную кансісторыю.***

***Мова арыгіналу - руская.***

***Рукапіс.***

***На палях маюцца пазнакі:***

***1. Пазнака нечытабельная, 2 словы;***

***2. Пазнака "Лидскому город старосте № 4644, 45 28 июня 1907". Гербавы бланк Лідскага гарадскога старастату.***

***Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas, Ф. 604, Воп. 4, С. 6273, Л. 14.***

У Віленскую рымска-каталіцкую Духоўную Кансісторыю

Маю гонар прасіць Кансісторыю ў магчыма хуткім часе паведаміць мне імянны спіс асобаў (за выключэннем ніжэйшых служак і рабочых), якія служаць у Кансісторыі, пражываюць у межах горада Ліда і павета не менш аднаго года і атрымоўваюць жалаванне альбо пенсію па службе Дзяржаўнай з абавязковым указаннем дакладнага адраса кожнага для ўнясення ў спісы асобаў, якія маюць права ўдзелу ў выбарах ў Дзяржаўную Думу. У абазначаныя спісы не ўносяцца асобы, маладзейшыя за 25 гадоў і асобы жаночага полу.

Гарадскі староста.

Калежскі сакратар [подпіс].

**Дакумент 2.** ***Спіс духавенства Лідскага павета Віленскай губерні, якое падпарадкоўваецца непасрэдна кансісторыі і карыстаецца правам удзелу ў выбарах у Дзяржаўную Думу.***

***Без нумара, без даты.***

***Мова арыгіналу - руская, рукапіс.***

***Подпісы, пячаткі адсутнічаюць.***

***Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas, Ф. 604, Воп. 4, С. 6273, Л. 15-16.***

**Скарачэнні:**

Н. - настаяцель.
Д. - дэкан.
Ф. - філіяліст.
Н\п - не пазначана.

| № п\п | Прозвішча і імя | Гадоў | Званне | Пасада | Месца жыхарства |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Абаровіч Нікадзім | 29 | ксёндз | Н. Бутрымаўскі | Бутрымаўцы |
| 2 | Бурак Казімір | 30 | ксёндз | Н. Салечніцкі | Салечнікі |
| 3 | Гінтаўт-Дзевятоўскі Вацлаў | 27 | ксёндз | Н. Нецецкі | Няцеч |
| 4 | Гінтаўт-Дзевятоўскі Ніказі-Іосіф | 46 | ксёндз | Д. Радуньскі | Эйшышкі |
| 5 | Жэро Іосіф | 34 | ксёндз | Н. Жырмунскі | Жырмуны |
| 6 | Зямчэнак Міхал | 39 | ксёндз | Н. Ельненскі | Ельна |
| 7 | Клям Уладыслаў | 38 | ксёндз | Н. Ражанскі | Ражанка |
| 8 | Кажарновіч Іаан | 45 | ксёндз | Н. Забалоцкі | Забалаць |
| 9 | Каханскі Віктар | 34 | ксёндз | Часовы вык. абавязкаў Д. Асавецкага | Осава |
| 10 | Лаеўскі Матэўш | 35 | ксёндз | Н. Радуньскі | Радунь |
| 11 | Любаўніцкі Фелікс | 28 | ксёндз | Ф. Мала-Салечніцкі | Мала-Салечнікі |
| 12 | Мачульскі Баляслаў | 41 | ксёндз | Н. Новадворскі | Новы Двор |
| 13 | Пакшціс Антоні | 37 | ксёндз | Н. Ішчалнскі | Ішчална |
| 14 | Рудзіс Міхал | 36 | ксёндз | Н. Калесніцкі | Калеснікі |
| 15 | Сталеўскі Казімір | 44 | ксёндз | Н. Белагрудскі | Белагруда |
| 16 | Сперскі Баляслаў | 34 | ксёндз | Н. Жалудоцкі | Жалудок |
| 17 | Сідароўскі Іосіф | 73 | ксёндз | Н. Тракельскі | Тракелі |
| 18 | Сакалоўскі Францыск | 43 | ксёндз | Н. Васілішскі | Васілішкі |
| 19 | Сакалоўскі Адам | 70 | ксёндз | Н. Нацкі | Нача |
| 20 | Сахарка Іосіф | 47 | ксёндз | Н. Ваверскі | Вавёрка |
| 21 | Тамкун Вікенці | 27 | ксёндз | Н. Ляцкі | Ляцк |
| 22 | Чэнкіс Пётр* | 40 | ксёндз | Н. Воранаўскі | Воранава |
| 23 | Шкоп Іосіф | Н\п | Н\п | Н\п | Н\п |
| 24 | Янкевіч Іаан | 34 | ксёндз | Н. Беняконскі | Беняконі |

*Перад прозвішчам стаіць іншае, закрэсленнае прозвішча Янкевіч.

**Спіс выкарыстаных крыніц і літаратуры:**

1. Бендин А.Ю. Проблемы веротерпимости в Северо-Западном крае Российской империи (1863-1914 гг.) / А. Ю. Бендин. - Минск : БГУ, 2010. - 439 с.

2. Boyarunets Hippolyte Zapisy o Krzyzy i Kaplicy w Cwiermah / H. Boyarunets - Lida, рукапіс. копія, 50 с.

3. Moroz Malgorzata Krynica. Ideologia i przywodcy bialoruskiego katolicyzmu / M. Moroz. - Bialystok: Bialoruskie Towarzystwo Historyczne, 2001. - 284 s.

4. Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas, Ф. 604, Воп. 4, С. 6273, Л. 2, 3, 9, 14, 15, 17-31

5. Положение о выборахъ в Государственную Думу, 6 августа 1905 // Полное собрание законов Российской империи. Собр. III. Т. XXV. Отд-ние II-е: Приложения. СПб., 1908.

***Валеры Сліўкін***

# Гісторыя, напісаная ў небе

## Да 100-годдзя Лідскага аэрадрома

*(Працяг. Пачатак у № 4 (64)).*

### ЭСКАДРА ЦЯЖКАЙ АВІЯЦЫІ І ЛЕГЕНДАРНЫ КАНСТРУКТАР І.І. СІКОРСКІ НА ЛІДСКІМ АЭРАДРОМЕ

На пачатку 1915 г. германскае войска перайшло на Ўсходнім фронце ў наступленне. У лютым-сакавіку рускія войскі былі выбіты з Усходняй Прусіі і Сувалкаўскай губерні. У красавіку немцы ажыццявілі Горліцкі прарыў, які паклаў пачатак Вялікаму адступленню рускага войска.

База эскадры паветраных караблёў "Ілья Мурамец" са снежня 1914 г. знаходзілася ў Старой Яблонне пад Варшавай. У Яблонне пачалі лётаць "ІМ" - 1, "ІМ" - 2, "ІМ" - 3, "ІМ" - 5, "ІМ"-6 і "ІМ - Кіеўскі". Пра магчымасці паветраных караблёў "Ілья Мурамец" начальнік эскадры М.І. Шыдлоўскі ў сакавіку 1915 г. даносіў:

*"1) Грузападымальнасць (карысная нагрузка) 85 пудоў. Пры баявых палётах з запасам паліва на 5 гадзін і пры ўзбраенні 2-я кулямётамі, карабінам, бомбаў можна браць да 30 пудоў пры сталым экіпажы з 3-х чалавек. Калі ж замест бомбаў узяць бензіну і алівы, то працягласць палёту можа быць павялічана да 9 - 10 гадзін.*

*2) Хуткасць пад'ёму карабля пры паказанай нагрузцы на 2500 метраў - 45 хвілін.*

*3) Хуткасць палёту карабля - 100 - 110 кіламетраў у гадзіну.*

*4) Выгада кіравання (экіпаж знаходзіцца ў закрытым памяшканні, і пілоты могуць змяняць адзін аднаго).*

*5) Добры агляд і выгада назірання (біноклі, трубы).*

*6) Выгада фатаграфавання і кідання бомбаў.*

*7) У наш час у эскадры маецца тры баявыя караблі тыпу "Ілья Мурамец - Кіеўскі", але з маторамі невялікай магутнасці, з іх два могуць здзяйсняць баявыя палёты, а адзін - у зборцы. Да канца красавіка эскадра будзе мець шэсць караблёў баявога тыпу, бо маторы на апошнія чатыры ўжо атрыманы.*

*Начальнік эскадры самалётаў "Ілья Мурамец" генерал-маёр Шыдлоўскі". (Катышаў Г.І., Міхееў В.Р. са спасылкай на РДВГА. Ф. 2008. Воп. 1. Спр. 487. Арк. 74).*

Тэхніка-тактычныя характарыстыкі самалётаў "Ілья Мурамец" серыі "В", якія выпускаліся ў 1915 г., такія: размах крылаў: ніжняга - 22,0 м, верхняга - 30,87 м; агульная плошча крылаў - 148 м$^2$; вага пустога самалёта - 3800 кг; палётная вага - 5100 кг; максімальная хуткасць - 110 км/гадзіну; працягласць палёту - 4 гадзіны; далёкасць палёту - 440 км; час набору вышыні ў 1 км - 9 хвіл.; даўжыня разбегу - 450 м.

У канцы траўня эскадра з усімі службамі перабралася ў Беласток, а затым у Ліду. Два экіпажы: "ІМ"-3 пад камандаваннем паручніка Д.А. Азёрскага і "ІМ -Кіеўскі" пад камандаваннем паручніка І.С. Башко ў траўні былі нададзены адыходзіўшай 3 арміі, і з 22 чэрвеня знаходзіліся ў Улодаве.



***Паветраны карабель "Ілья Мурамец" на аэрадроме ў Старой Яблонне. Студзень 1915 г.***

Пра знаходжанне на Лідскім аэрадроме самых вялікіх і цяжкіх самалётаў Першай сусветнай вайны напісалі ўспаміны: механік эскадры Міхаіл Мікалаевіч Нікальскі *(Никольской С.Н., Никольской М.Н. Бомбардировщики "Илья Муромец" в бою. М. 2008)*; вучань лётнай школы пры эскадры Р.Л. Ніжэўскі ў невялікім артыкуле, апублікаваным у канцы 1950-х гадоў; і лекар эскадры Канстанцін Мікалаевіч Фіне ў кнізе *"Русские воздушные богатыри И.И. Сикорского"*, выдадзенай у Белградзе ў

1930 г. Праца К.Н. Фіне - першая і найболей поўная, ілюстравана шматлікімі фатаграфіямі. Успаміны гэтых трох афіцэраў эскадры, павінен адзначыць, не заўсёды і не ва ўсім супадаюць.

Нейкім дзіўным чынам аказаўся затуманеным дзень прыбыцця эскадры на Лідскі аэрадром. К.Н. Фіне сцвярджаў, што базу ў Яблонне эскадра пакінула напачатку ліпеня, М.Н. Нікальскі (с. 199) - што гэта здарылася на месяц раней: *"Напачатку чэрвеня ўсе 8 караблёў прыляцелі ў Ліду з Беластока"*. Разыходжанне - у месяц, добра б на 13 дзён, што можна было б растлумачыць несупадзеннем у тыя гады заходне-еўрапейскага і расійскага летазлічэння.



***Сікорскі Ігар Іванавіч (1889-1972).***

Ва ўсякім разе, з пачатку чэрвеня, а можа быць ліпеня, да сярэдзіны жніўня 1915 г, Лідскі аэрадром стаў базавым для эскадры самалётаў цяжкай авіяцыі Вярхоўнага Галоўнакамандавання рускага войска. На пасадачную паласу прызямліліся самалёты "Ілья Мурамец" разам з экіпажамі і легендарным канструктарам Ігарам Іванавічам Сікорскім, якому ледзь споўнілася 26 гадоў.

На той час Лідскі аэрадром быў адным з лепшых у Расіі. Меліся майстэрні, склады паліва, жылыя памяшканні, велізарны элінг.

Абсталяванне з майстэрняў было вывезена, і механікі эскадры *"атрымалі толькі пустое памяшканне"*. У Ліду пераехалі ўсе тэхнічныя службы эскадры: майстэрні для рамонту і зборкі самалётаў "ІМ", аўтамабільны гараж, склады, ангары, намёты; маторны клас, у якім навучаліся матарысты,



***Шт.-капітан Панкраццеў А.В.***



***Група афіцэраў эск. паветр. караблёў. Стаяць злева направа: механік Н.В. Сірацінін, ваен.-мар. лёт., лейт. Г.І. Лаўроў, ваен. лёт., шт. кап. А.В. Панкраццеў, пар. Г.В. Аляхновіч, шт. кап. Чачулін, ваен. лёт., пар. А.М. Касценчык, пар. Кржычкоўскі, ваен. лёт, пар. Лукінскі, мех. Кісель, шт.-ротм. А.В. Серадніцкі, І.І. Сікорскі, пар. Паўлаў. Стаіць на калене пар. Лойка. Аэрадром пры г. Ліда, ліпень 1915 г.***



***Паручнік Аляхновіч Г.В.***

**Тлумачэнне да здымка:**

Лаўроў Георгій Іванавіч (1889-1917) - камандзір "ІМ"-1, марскі лейтэнант, георгіеўскі кавалер, сын адмірала, лепшы сябар І.І. Сікорскага; Аляхновіч Глеб Васільевіч (1886-1918) - камандзір "ІМ"-5, начальнік лётнай школы, паручнік, з шляхты Смаленскай губерні, лётчык-выпрабавальнік Руска-Балтыйскага вагоннага завода; Чачулін А.П.- штабс-капітан, які быў памочнікам камандзіра дырыжабля "Грыф", неўзабаве памочнік камандзіра "ІМ"-9; Касценчык Авенір Маркавіч (1889-1935) - памочнік камандзіра "ІМ"-5, паручнік, родам з Гародні; Лукінскі - паручнік, артылерыст; Кісель - вольнапісаны, механік "ІМ"-5; А.В. Серадніцкі - штабс-ротмістр, неўзабаве камандзір "ІМ"-8; Паўлаў Аляксандр Сцяпанавіч (?-1916), паручнік, артылерыйскі афіцэр "ІМ"-2.



***Паручнік Касценчык А.М.***

фатаграфічны і тапаграфічны кабінеты, кулямётны клас паветранай стральбы, школа лётчыкаў і іншыя службы.

Асабовы склад эскадры складаўся з афіцэраў, салдат і вольнанаёмных работнікаў Руска-Балтыйскага завода. Большасць салдатаў - у мінулым кваліфікаваныя рабочыя вялікіх прамысловых гарадоў, але іх бракавала. *"З-за недахопу тэхнічных сіл са згоды паручніка Аляхновіча быў пераведзены ў маторную майстэрню механік карабля, службовец ваеннага часу Кісель" (Никольской М., с. 199)*, туды ж быў прызначаны вольнапісаны інжынер Сонцащ. Элінг выкарыстоўваўся для рамонту самалётаў і іх захоўвання ад непагадзі. Самалёты "ІМ" былі палатняна-драўляныя.



***Лідскі аэрадром. 1915 г. З кнігі братоў Нікальскіх С.Н і М.Н.***

Яшчэ ў Яблонне з прыбыццём новых "Муромцаў", пачаў адчувацца недахоп падрыхтаваных экіпажаў, і ў першую чаргу камандзіраў караблёў. Для стварэння новых экіпажаў начальнік эскадры М.В. Шыдлоўскі арганізаваў лётную школу, дзе пад камандаваннем паручніка Аляхновіча пачалі інтэнсіўна рыхтаваць лётчыкаў са складу самой эскадры, паколькі прысыланыя са школ і баявых частак афіцэры былі, як правіла, не прыдатныя да лётнай службы. *"Кіраванне генерал-інспектара авіяцыі даслала афіцэраў з аэрастатных частак, якія засталіся без справы з-за роспуску падраздзяленняў, абсталяваных дырыжаблямі. Гэтыя афіцэры былі не толькі незнаёмыя з са-малётамі "Ілья Мурамец" і іх аперацыямі, але таксама з невялікімі аэрапланамі. Яны былі неўзабаве адлічаны з ЭПК" (Фіне К.).*



***Лідскі элінг. Ліпень 1915 г. На здымцы бачныя 3 караблі "Ілья Мурамец" і 3 знішчальнікі С-16.***

Зрэшты, не ўсе. 16 чэрвеня ў Ліду прыбыў штабс-капітан Роберт Львовіч Ніжэўскі (1885-1968). Ніжэўскаму быў знаёмы Лідскі аэрадром, элінг, мясцовыя асаблівасці. Увесну 1915 г. ён служыў у Лідскай паветраплавальнай трэцяй роце камандзірам дырыжабля "Астра". Да таго ж меў досвед палётаў на "Фармане". Пасля 3-4 вылетаў асвоіў "Мурамец" і быў дапушчаны да самастойных палётаў.



***Ніжэўскі Р.Л.***

Ніжэўскі Р.Л.: *"З першага ж дня я пачаў трэніравацца на малых аэрапланах, якія былі ў эскадры - "Фарман-16", "Сікорскі-12" і " Сікорскі-16", і адначасова на навучальным паветраным караблі "Ілья Мурамец" пад кіраўніцтвам былога заводскага лётчыка Руска-Балтыйскага завода паручніка Г.В. Аляхновіча. Думаю, што мая падрыхтоўка да палётаў на малых апаратах яшчэ ў Гатчыне і таксама мой досвед у кіраванні дырыжаблямі, далі мне магчымасць хутка, амаль адразу, асвоіцца з кіраваннем вялікімі апаратамі "Ілья Мурамец", і ўжо праз два тыдні пасля майго прыбыцця ў эскадру, калі на пачатку*

*жніўня 1915 гады яна перайшла на сваю новую стаянку ў прадмесце г. Пскова - Крыжы, я быў прызначаны камандзірам паветранага карабля "Ілья Мурамец" - 9.*

Разам з Р.Л. Ніжэўскім лётную практыку на Лідскім аэрадроме праходзіў штабс-ротмістр Аляксандр Уладзіслававіч Серадніцкі (1889-1926).



**Камандзіры паветраных караблёў "Ілья Мурамец": Лаўроў, Аляхновіч, Панкраццеў, артыл. Навумаў, Башко, Серадніцкі. 1916 г.**

*"У гэта ж час у эскадру прыбылі камандзіраваныя са стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага генерал-маёр Вайніловіч-Нянькоўскі ў якасці намесніка начальніка эскадры па шыхтовай частцы і капітан Генеральнага штаба Віткоўскі - на пасаду старэйшага афіцэра. Памочнікам Начальніка эскадры быў палкоўнік Найдзёнаў В.Ф. Перад самай эвакуацыяй з Яблонны ён захварэў і быў эвакуяваны ў Петраград. Высветлілася, што ён захварэў крупозным запаленнем лёгкіх і ў канцы чэрвеня сканаў". (Никольской М., с. 199.)*

У дадзеным выпадку памяць М.Н. Нікальскога сур'ёзна падвяла. Пра гэта можна было б і не згадваць, але, нажаль, гэтая памылка, перавандравала ў кнігу Катышава Г.І. і Міхеева В.Р. *"Крылья Сикорского", М. 1992.*

Капітан Віткоўскі Канстанцін Канстанцінавіч (1883-1948) быў прыкамандзіраваны да эскадры 22 чэрвеня 1915 г., 31 жніўня быў прызначаны штаб-афіцэрам эскадры, з 30.10.1915 па 7.08.1916 выконваў пасаду начальніка авіяцыйнай школы, пасля чаго быў пераведзены ў 68-ю пяхотную дывізію. Атон Людвігавіч Вайніловіч-Нянькоўскі (1857-1940) з'явіўся ў эскадры на пасадзе памочніка начальніка праз год (27.06.1916), званне генерал-маёра атрымаў за дзень да гэтага. Разам з К.К. Віткоўскім маглі служыць адзін месяц, у ліпені 1916 г. Што да палкоўніка В. Ф. Найдзёнава (1864-1925), то ён сканаў у Ленінградзе праз 10 гадоў, быўшы прафесарам Ваеннай акадэміі інжынерных войскаў і электратэхнікі.

У ліпені на Лідскім аэрадроме былі праведзены палётныя выпрабаванні 6-цыліндравых аўтамабільных двухтактных рухавікоў, якія сканструяваў інжынер В.В. Кірэеў. Рухавік В. В. Кірэева (РБВЗ-6, пасля М-1) пераўзыходзіў па сваіх тэхнічных характарыстыках "Argus"-ы, "Salmson"-ы і "Sunbeam"-ы, якія ставіліся на "ІМ" ранніх выпускаў.

*"8 ліпеня прыйшлі 4 маторы, падрыхтаваныя на аўтамабільным аддзяленні Руска-Балтыйскага завода ў Рызе. Маторы магутнасцю ў 150 сіл, пабудаваныя пад кіраўніцтвам і назіраннем інжынера Кірэева, з'яўляліся вельмі добрай копіяй нямецкіх матораў "Даймлер-Бэнц". З Петраграда прыбыў карабель з падматорнымі для "Саебімаў". Прыйшлося перарабляць рамы. Камандзірам новага карабля быў прызначаны штабс-капітан Панкраццеў.*

*20 ліпеня Панкраццеў упершыню вылецеў на ім і, зрабіўшы круг, сеў для праверкі вузлоў рэгулёўкі. Усё было шчасліва, і ўсе часткі карабля працавалі звычайна. 21 ліпеня карабель быў у паветры больш за гадзіну. На ім была ўзята вышыня 3400 м за 1 гадзіну 16 хвіл. На наступны дзень Панкраццеў выпрабаваў карабель з поўнай баявой нагрузкай. Вышыню ў 2000 м ён узяў за 40 хвілін" (Никольской М. , с. 200).*

21 ліпеня быў праведзены эксперымент па скіданні макета 400 кг бомбы.

*"Тым часам з ГАУ прыбыў макет 25-пудовай бомбы. Калі яе напоўніць сухім пяском, што і было зроблена, то яе вага будзе 25 пудоў. Сікорскі паказаў, дзе павінна быць падвешана такая бомба, каб не парушалася цэнтроўка карабля. Матарысты пад*



**Паветраны карабель "Ілья Мурамец" - 2 (серыя В) з маторамі Руска-Балт. завода перад палётам. У сярэдзіне 25-ці пудовая бомба. Нач. Э В. К. г.-м. М.У. Шыдлоўскі. Кам. пав. кар. ваен. лёт., шт.-кап. А.В. Панкраццеў. І.І. Сікорскі, злева ад яго пам. кам. воен. лёт., гв. шт.-кап. С.Н. Нікальскі і канструктар Р. Б. матораў інжынер Кірэеў, г. Ліда, ліпень, 1915 г." (Фіне, с. 89)**

Тлумачэнні да здымка: Шыдлоўскі Міхаіл Уладзіміравіч (1856-1918) - начальнік эскадры паветраных караблёў, генерал-маёр, чалец Дзяржаўнай Рады, старшыня акцыянернага таварыства Руска-Балтыйскага вагоннага завода, на якім ствараліся "ІМ"; Панкраццеў Аляксей Васільевіч (1888-1923)- камандзір "ІМ"-2, штабс-капітан, дваранін, інструктар Гатчынскай школы; Сікорскі Ігар Іванавіч (1889-1972) -канструктар паветраных караблёў "ІМ"; Нікальскі (Никольской) Сяргей Мікалаевіч (1885-1963) - памочнік камандзіра "ІМ" -2, штабс-капітан; Кірэеў Васіль Васільевіч - канструктар матора РБВЗ -6, інжынер.

*кіраўніцтвам механіка Ўшакова і штабс-капітана Нікальскога прыстасавалі падвеску з адкрываным замком. Перад падвескай бомба была сфатаграфавана сярод вялікай групы афіцэраў, у якой удзельнічалі генерал Шыдлоўскі, паручнік Панкрацыеў, І.І.Сікорскі, капітан Віткоўскі, гвардыі штабс-капітан М.Н. Нікальскі, паручнік Касілаў, інжынер Кірэеў і іншыя (там жа, с. 200-201)* .

Сцяпан Кеніг, Сяргей Гарэлаў, Сямён Крывянцоў, Сцяпан Фанкін. Наогул, уся каманда, прыпісаная да "ІМ"-2, уключала 40 чалавек. Нароўні з матарыстамі ў яе ўваходзілі: феерверкер, кулямётчык, каптэнармус і яго памочнік, метэаролаг, фельчар, 5 шафёраў і 4 іх памочнікі, 4 сталяры, шавец, кравец, 3 сігнальшчыкі, 2 пісары *(РДВГА. Ф. 13898. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 5)*.



***"Ілья Мурамец" - 2 з падвешанай 400 кг бомбай***

Базаванне эскадры ў Лідзе было кароткачасовым. У ліпені пад ударамі германскіх дывізій пачаўся агульны адыход з Царства Польскага. 22 ліпеня рускія войскі пакінулі Варшаву і цвердзь Івангорад. 7 (20) жніўня пала цвердзь Новагеоргіеўск, 9 (22) жніўня - цвердзь Асавец, 13(26) жніўня рускія войскі пакінулі Брэст-Літоўск. Немцы набліжаліся да Гародні і Вільні. Прынята было рашэнне перабазаваць эскадру пад Пскоў на аэрадром Крыжы. Катышаў Г.І. і Міхееў В.Р. перасоўванне эскадры на аэрадром Крыжы тлумачаць тым, што *"для васьмі баявых і двух навучальных караблёў аэрадром аказаўся цесны"*. Відавочна не былі яны на Лідскім аэрадроме.

Нікальскі М.Н.(с. 203): *"Пералётам у Пскоў зусім выключалася магчымасць дапамогі "Мурамцамі" адыходзіўшаму войску, і камандзіры настойвалі на бамбаваннях пяццю баявымі караблямі надыходзячых войскаў праціўніка ў раёне Вільні. Мы лічылі, што гэтымі дзеяннямі мы можам не толькі змяніць становішча Вільні, але нават выратаваць яго. Развіваючы далей гэтую тэндэнцыю, адправілі паручніка Панкрацыева на караблі для адшукання перадавой базы, з якой можна было б эфектыўна і хутка дзейнічаць у раёне Вільні"*.

Панкрацыеў для выбару пляцоўкі лётаў на "ІМ" -2 у раён Скідаля.

*"Тут жа бомба была падвешана пад караблём і Панкрацыеў выляцеў.*

*Набраўшы вышыню каля 500 м, Панкрацыеў загадаў скінуць бомбу на далёкай мяжы аэрадрома. Усе чакалі, што карабель падкіне ў момант аддзялення такой вагі. Панкрацыеў закамандаваў: "Скінуць!". Адразу гэта не выйшла, штосьці заела, але Ўшакоў хутка выправіў непаладку, і бомба была скінута. Цікава тое, што не перадалі камандзіру, што бомба скінута. І ён увесь час чакаў гэтага моманту і пачаў крычаць, каб скінулі бомбу. На гэта яму паказалі жэстамі, што бомба ўжо ляжыць на зямлі. Панкрацыеў быў вельмі ўзрадаваны тым, што карабель не рэагаваў на імгненную змену нагрузкі, аднёсшы гэтую ўласцівасць "Мурамца" да яго асаблівa станоўчых якасцяў.*

*Скінутая бомба ўтварыла глыбокую і шырокую вырву, увайшоўшы ў зямлю больш чым на 4 метры. Сабраныя каля вырвы афіцэры спрабавалі ўявіць сабе той эфект, які атрымаўся б, калі б бомба была падрыхтавана з толам, але гэта, вядома, зрабіць было цяжка.*

*Тры здымкі (група з бомбай, бомба падвешана пад фюзеляж карабля і вырва) былі адпраўлены ў Стаўку, дзе зрабілі моцнае ўражанне" (там жа, с. 201-202).*

Эксперыментальнае бамбаванне правёў экіпаж у складзе: камандзір Панкрацыеў А.В., памочнік камандзіра Нікальскі (Никольской) С.Н., артылерыйскі афіцэр Паўлаў А. С., малодшы афіцэр Калянкоўскі А.М. Самалёт да палёту рыхтавалі матарысты: Міхаіл Ушакоў, Уладзімір Смірноў, Канстанцін Чыбісаў, Павел Аляхновіч, Аляксей Канін, Пётр Чучалаў,

*"Шэсць "Мурамцаў": "Ілья Мурамец"- І, "І.М."-ІІ, "І.М."-IV, "І.М."-V, "І.М."-VI і "І.М. Кіеўскі" здзейснілі 14 жніўня 1915 года пералёт з Ліды ў Пскоў, пакрыўшы адлегласць каля 700 вёрст. Ляцець прыйшлося пры агідным надвор'і, у смузе і дажджы. На большасці камандзіраў адбілася непрывычка ляцець па компасе. Толькі "Ілья Мурамец" - І, пад камандай лейтэнанта Г. І. Лаўрова, добра знаёмага з кіраваннем карабля ў моры па компасе, а акрамя таго здзейсніўшага з І. І. Сікорскім пералёт з Петраграда ў Кіеў, калі прыйшлося ляцець у суцэльных аблоках, пайшоў над аблокамі і шчасліва спусціўся ў Пскове. "Ілья Мурамец Кіеўскі", камандзір якога шт.-кап. Башко не цалкам давяраючы компасу і асцерагаючыся заляцець да немцаў, якія прасунуліся ў той час ужо за Вільню, ляцеў пад аблокамі, часам на вышыні, што не перавышала 100 метраў і прыбыў у Пскоў адначасова з*

*“Ільёю Мурамцам” - І, здзейсніўшы шлях ад Ліды да Пскова на працягу 5 гадзіна. 15 хвілін. "Ілья Мурамец” - V (камандзір - паручнік Г. В. Аляхновіч) апусціўся за 20 вёрст ад Пскова ў нейкім маёнтку. "Ілья Мурамец” - ІІ"(камандзір в. л., - шт.-кап. А. В. Панкрацццеў) збіўся з дарогі і сеў у Нова-Свянцянах. Зрэшты, усе гэтыя "Мурамцы", хоць і з вымушаным спускам, шчасліва дасягнулі Пскова. Толькі "Ілья Мурамец” - IV (кам. в. л., пар. М. В. Смірноў) затрымаўся на некаторы час у Рэжыцы" (Фіне К.Н., с. 89-91).*

Нікальскі М.Н. пра пералёт: *"Атрымаўшы згоду штабс-капітана Панкраццева ляцець у складзе яго экіпажа, я адправіў з маторнай майстэрні сваю валізку, а сам улегцы далучыўся да экіпажа “ІМ” -2. У гэтым палёце мяне цікавіла праца новых матораў, а акрамя таго, памочнік камандзіра гвардыі штабс-капітан Нікальскі С.Н. быў маім братам.*

*14 жніўня 1915 г караблі паасобку пачалі пакідаць гасцінны аэрадром у Лідзе. Дзень быў пахмурны, вышыня воблачнасці не перавышала тысячы метраў. Мы вылецелі ў 6 гадзін 30 хвілін раніцы па кірунку на Пскоў. На караблі знаходзіліся: камандзір штабс - капітан Панкраццеў, памочнік камандзіра гвардыі штабс-капітан Нікальскі С., старэйшы механік эскадры лейтэнант Нікальскі М., артафіцэр паручнік Паўлаў, за механіка карабля інжынер Кірэеў і матарыст ад завода.*

*Першыя гадзіны палёт працякаў звычайна, але каля 8 гадзін мы сустрэлі нізкую воблачнасць з імжыўшым дажджом. Панкраццеў паспрабаваў прабіць воблачнасць угару, але таўшчыня воблачнасці занадта вялікая. Тады ён вырашыў ісці ўніз. Трэба сказаць, што артылерыст з памочнікам, не давяраючы компасу, ішлі па арыенціры - па чыгуначнай лініі. Калі мы ўваходзілі ў аблокі, яны страцілі зямлю і з ёю арыенцір, а калі зноў убачылі зямлю, то арыенціра не маглі знайсці. Панкраццеў, бачачы, што з арыенціроўкай атрымліваецца штосьці няскладнае, пачаў нервавацца і патрабаваць указання месцазнахо-джання карабля. Нарэшце, бачачы, што арыенціроўка канчаткова страчана, загадаў шукаць пляцоўку для пасадкі і крычаў: "Так вы і да немцаў заведзяце!" Абралі пляцоўку, камандзір добра пасадзіў карабель і адправіў нас у выведку. Пройшоўшы з паўкіламетра мы падышлі да нейкіх пабудоваў, дзе нам сказалі, што гэта Нова-Свянцяны. Вярнуўшыся да карабля, даклалі пра месца знаходжання. Панкраццеў супакоіўся і, знайшоўшы на карце наша месца, сказаў, што як толькі воблачнасць трохі падымецца, пераляцім у Дзвінск. ... Да поўдня воблакі сталі святлей…" (Никольской М. с. 204-205)*

*"Пакінутыя ў Лідзе пасля адлёту "Мурамцаў"*: штаб эскадры паветраных караблёў, майстэрня, каманда, а таксама маёмасць эскадры, "Мурамцы", якія не маглі ляцець і супрацьаэрапланная батарэя 75-ці мм гармат, выбіраліся з Ліды з вялікай цяжкасцю.

Ліда, як вузлавая станцыя, была да немагчымасці забіта не толькі цягнікамі войскаў, якія перакідваліся на паўночны фронт, але і чыгуначнымі цягнікамі з вывезенымі з Брэст-Літоўска, Варшавы, Асаўца артылерыяй і казённай маёмасцю, не кажучы ўжо пра мноства бежанцаў. Таму лёгка можна ўявіць, што рабілася на гэтай станцыі, выбрацца адкуль было не так лёгка.

Да шчасця непрыяцельскія аэрапланы і "Цэпеліны" не наведалі тады Ліду, быць можа таму, што стаяла агіднае надвор'е з безперастаннымі дажджамі. Выбух бомбаў, пажары ў гружаных шматлікімі пудамі выбуховых рэчываў вагонах канчаткова дэзарганізавалі б рух у гэтым важным чыгуначным вузле. Вывазу маёмасці эскадры вельмі дапамагла пабудова жанчынамі, таму што працоўных-мужчын у той час не было, невялікай каляі, якая злучала аэрадром са станцыяй. Праўда чыгуначнае палатно і рэйкі на гэтай каляі трымаліся, што называецца, на чэсным слове, але ўсё ж каляя вытрымала, і тры цягнікі, у ліку якіх адзін з вялікім грузам аэрапланавых бомбаў, патрапілі на станцыйныя каляі, а адтуль праз некалькі дзён вырушылі на Маладзечна, прычым насуперак усякім чыгуначным правілам, за і перад цягнікам, на адлегласці каля 200 сажняў паміж імі, рухаліся іншыя цягнікі *(Фіне К.Н., с. 93-94)*.

Павінен адзначыць значныя рознагалоссі ў пытанні пра колькасць "Мурамцаў", якія пабылі на Лідскім аэрадроме: 10 самалётаў (Катышаў Г.І., Міхееў В.Р.), 8 (Фіне К.Н., Нікальскі М.Н.), 6 - (Саук А.), у мяне атрымліваецца толькі 5.



***Пагрузка зенітнай 75 мм батарэі ў цягнік. Лідскі аэрадром. 14.08.1915 г. (Фіне, с. 92)***

Яшчэ раз звернемся да ўспамінаў.

Вось што піша механік эскадры Нікальскі М.Н. (с. 199): *"У Беласток пераляцелі*

*караблі 1, 2, 4, 5 і 6. Па караблі 8-ы, 10-ы і двухматорны навучальны выехалі ў Яблонну лейтэнант Лаўроў, паручнік Панкрацցеў і Сікорскі. Да канца траўня ў эскадры было 10 караблёў, з іх 8 прыляцелі ў Ліду, і 2 караблі - "Кіеўскі" і 3-ці знаходзіліся ў мястэчку Ўлодава. Напачатку чэрвеня ўсе 8 караблёў прыляцелі ў Ліду з Беластока, дзе 3 караблі былі пастаўлены ў ангар, а астатнія былі пастаўлены ў намёты".*

А вось што напісаў лекар эскадры Фіне К.Н.: *"Шэсць "Мурамцаў": "Ілья Мурамец"-I, "І.М."-II, "І.М."-IV, "І.М."-V, "І.М."-VI і "І.М.-Кіеўскі" здзейснілі 14 жніўня 1915 года пералёт з Ліды ў Пскоў".* І былі самалёты, сама меней, два, якіх вывезлі па чыгунцы.

На здымках, зробленых на Лідскім аэрадроме ў ліпені, зафіксаваны чальцы экіпажаў "ІМ"-1, "ІМ"-2, "ІМ"-5 і вучні лётнай школы. Адсутнічаюць на здымках чальцы экіпажаў "ІМ"- 3, "ІМ"- 4, "ІМ"- 6, "ІМ - Кіеўскі".

"ІМ-Кіеўскі" і "ІМ"-3" былі пакінуты на фронце. 5 ліпеня "ІМ-Кіеўскі" пры вяртанні з бамбёжкі быў атакаваны трыма нямецкімі знішчальнікамі, ледзь пераляцеў лінію фронта і насілу прызямліўся. У яго *"былі прабіты бензабакі, перабіты бензаправоды да левых матораў, прабіты радыятар і маслабак аднаго рухавіка. Пры пасадцы машына атрымала дадатковыя пашкоджанні (шасі і ніжняе крыло)"* (з рапарта в. п. старэйшага афіцэра эскадры капітана Гаршкова). Камандзір карабля паручнік І.С. Башко быў дастаўлены ў лазарэт у Ўлодаве: *".. у пар. Башко аказаліся наступныя раненні: на правай назе ніжэй калена 3 рваныя раны, адна рваная рана на ягадзіцы, адна на жываце і вялікая колькасць раненняў правага боку галавы" (там жа).* 11 ліпеня ён быў эвакуяваны для лячэння ў Петраград.

"ІМ"-3 пад камандаваннем штабс-капітана Д.А. Азёрскага працягваў несці баявую службу на фронце, здзяйсняючы палёты для падтрымкі 3-яй арміі. У сярэдзіне жніўня "ІМ"-3 пераляцеў пад Слуцк, адтуль працягваў бамбаваць нямецкія пазіцыі. 2 лістапада разбіўся пад Баранавічамі. Экіпаж загінуў, выжыў толькі паручнік М.П. Спасаў.

Экіпажы "ІМ"-4 паручніка М.В.Смірнова і "ІМ"-6 " капітана С.Н. Галавіна ніяк сябе не праявілі, паўсталі толькі пры адлёце з Лідскага аэрадрома. Што да "ІМ-Кіеўскага" завадскі нумар 150, на якім лётаў І.С. Башко, то ў спісе беззваротных страт пасля 5 ліпеня ён лічыцца спісаным *(Хайрулін М.)*. К.Н. Фіне сцвярджаў адваротнае: *"Неўзабаве пасля апісанага паветранага бою "Ілья Мурамец Кіеўскі" далучыўся да Эскадры паветраных караблёў і "Мурамцаў", якія знаходзіліся ў той час у г. Лідзе" (Фіне, с. 83)*.

Калі злучыць біяграфію І.С. Башко з успамінамі К.Н. Фіне атрымаецца такая карціна: кавалер трох ордэнаў, з новенькімі пагонамі штабс-капітана І.С. Башко, адлежаўшы ў Петраградскім лазарэце 19 дзён, 30 ліпеня вяртаецца ў Эскадру, 14 жніўня пераганяе спісаны "ІМ -Кіеўскі" № 150 з Ліды ў Пскоў, затым праз 6 тыдняў, 27 верасня пераганяе новы "ІМ-Кіеўскі" № 169 з Петраграда ў Пскоў.

Мяркую, што "ІМ-Кіеўскі" на Лідскім аэрадроме не лётаў.

Калі эскадра паляцела, а суправаджэнне павезлі, элінг аблілі бензінам і падпалілі.

"Гарэў, як стог сена". Фатаграфіі знішчанага элінга з каментарамі былі надрукаваны ў нямецкіх і ангельскіх часопісах.

Перад адступленнем падарвалі прычал для дырыжабляў, мост на маскоўскім кірунку і спалілі чыгуначны вакзал. У пацверджанне спашлюся на Э. Людендорфа, генерал-кватэрмайстра нямецкага войска на Ўсходнім фронце: *"Руськія ўсюды грунтоўна*




***Рэшткі Лідскага элінга на паштоўцы***



***Рэшткі Лідскага элінга ў часопісе***



*Чыгуначны вакзал, г. Ліда. 1916 г.*

*разбурылі чыгункі. Масты цераз Нёман і астатнія болей ці меней значныя рэкі былі падарваны дашчэнту, вакзалы спалены, водазабеспячэнне знішчана, і тэлеграф павалены. Палатно часткай было падарвана, шпалы і рэйкі выдалены".*

"ІМ" быў вельмі жывучым самалётам. Жывучасць забяспечвалі ўдалая канструкцыя, чатыры магутныя рухавікі, два з якіх маглі не працаваць, магутнае ўзбраенне - на некаторых "ІМ" ставіліся 8 кулямётаў. Нямецкія знішчальнікі, якія мелі значна больш высокую хуткасць, не ўвязваліся ў бой з "ІМ".



**Чыгуначны мост каля бальніцы. 1.10.1915 г.**

Адзіны "ІМ"-16 быў збіты пры налёце на штаб 89-й нямецкай пяхотнай дывізіі ў м. Баруны. Здарылася гэта 12 верасня 1916 г., пры гэтым былі збіты ад аднаго да трох нямецкіх знішчальнікаў. Самалёт "ІМ"-16 ўпаў на ўсход ад Ліды каля мястэчка Багданаў. Загінулі чатыры чальцы экіпажа: камандзір карабля паручнік Макшэеў Зміцер Дзмітрыевіч, памочнік камандзіра паручнік Рахлін Мітрафан Аляксеевіч, артылерыйскі афіцэр паручнік Гаібаў Фарух-Ага Мамедкерым-Ага-аглы і назіральнік паручнік Карпаў Алег Сяргеевіч. 13 верасня немцы з усімі вайсковымі ўшанаваннямі пахавалі экіпаж на могілках м. Баруны. Над магілай быў усталяваны васьміканцовы праваслаўны крыж з надпісам: *"Тут ляжаць 4 рускія лётчыкі, гераічна загінулыя ў паветраным баі 25 верасня (па новы.ст.) 1916 г."*




**Надмагільны крыж у Барунах**



**Макет авіяцыйнай бомбы на вуглу вуліц Сувальскай і 3 Мая**

У 1920-х гадах у Лідзе на скрыжаванні вуліц Сувальскай і 3 траўня (цяпер Савецкая і Ленінская) быў усталяваны макет бомбы, самай буйной бомбы Першай сусветнай вайны, скінутай з самалёта пры выпрабаваннях на Лідскім аэрадроме.

**Паводле lida-info.**

***Леанід Лаўрэш***

# Лідчына ў 1924 - 1929 гг. у люстэрку прэсы

**ЗМЕСТ:**



**Уступ**

Пісьменнік Ежы Путрамант, чый бацька быў пераведзены з Вільні ў Ліду на пасаду каменданта Павятовай камендатуры папаўненняў (начальніка Павятовага ваенкамата), у сваіх мемуарах пакінуў яскравае апісанне наша горада ў 1925 г.:

*"Першае ўражанне было фатальнае. Пасля прыгожага, узгорыстага і лясістага пейзажу Новай Вілейкі Ліда выглядала жахліва. Плоская раўніна, бруднае малое паселішча, уціснутае паміж трыма вялікімі балотамі, зарослымі вольхамі, поўнымі гарластых варон. Бедныя яўрэйскія крамкі. Смурод пасля тысяч конных вазоў, якія загароджвалі увесь, злітуйся Божа, цэнтр горада ў гандлёвыя дні. Заміж прыгожай Віленкі - малая, здрадлівая Лідзейка, уся ў чароце, недаступная, бо вілася ў балотах, гразкая і пякельна халодная.*

*Другое і трэцяе ўражанне не былі лепшымі. У цэнтры горада два касцёлы і два кінатэатры. Насупраць меншага, які называўся "Эдысон" - цукерня з назвай "Амерыка". Тут да галоўнай вуліцы Сувальскай пад прамым вуглом далучалася другая - Трэцяга Мая. Вяла яна міма што раз меншых домікаў да паўвёскі, якая называлася Слабодка. Адтуль стары тракт, засаджаны старымі бярозамі яшчэ, бадай, пры Кацярыне, ішоў праз Скідзель на Гародню.*

*Сувальская таксама заканчвалася вёскамі, якія выконвалі абавязкі прадмесцяў. На поўнач ляжала Закасанка. Тудой ездзілі цераз Бастуны, Воранава, Беняконі і яшчэ некалькі, смакавіта названых станцый, на Вільню. Паўднёвы канец меў сваё прадмесце без назвы, раскіданае па некалькіх вулачках. Тут ішла дарога на Наваградак і Баранавічы. Неўзабаве я меў пазнаёміцца з ёй вельмі блізка.*

*Бацька наняў для нас памяшканне на другім паверсе аднаго з драўляных домікаў пры вуліцы Сувальскай, бліжэй да Закасанкі. Што гэта быў за горад - няхай засведчыць наш падворак. Пачынаўся ён каля галоўнай вуліцы. Насупраць быў дом Вітажэнцаў, драўляны, аднапавярховы. За ім адразу было балота, рэчка Лідзейка і ўжо нічога болей, палі. Наш падворак заканчваўся вялікай кучай вольхаў, якімі зарасло другое балота. За ім была пустая гарадская паша, якую называлі Выган. І ўжо канец горада. Вельмі далёка - можа за паўтара кіламетры - некалькі асобных гаспадарак. Каляя на Маладзечна, каляя на Вільню, якія перасякаліся, далей яшчэ казармы, так званага Сім-Сім, або 77 палка пяхоты Ковенскіх стральцоў, якія хадзілі з мядзведзем - гербам Коўні - на пагонах.*

*Такім чынам - тры вёскі, злучаныя паміж сабой нітачкамі дзвюх паўгарадскіх вуліц. У сярэдзіне было яшчэ некалькі вуліц меншых, вельмі брудных і бедных, дзе жылі ў асноўным яўрэі. Была яшчэ чацвёртая вёска, найцікавейшая, якая называлася Маргі. Зачапілася яна за вуліцу Трэцяга Мая, але заставалася звычайнай вёскай з "жураўлямі" пры студнях, з крытымі саломай хатамі", хлявамі, "свіронкамі" ці жытніцамі, са сваёй чарадой жывёлы, якую ганялі на блізкі Выган. Адзінай саступкай на карысць горада было электрычная святло і прыезджыя гімназісты, якія стаялі "на пастоі""*[1].

Прыкладна такія ўражанні пакідаў наш горад і ў іншых аўтараў. Пры канцы 1925 г. віленскі журналіст газеты "Слова", наведаўшы наш горад, напісаў наступны тэкст: *"... пакінулі пакункі на вакзале і пайшлі ў павятовы горад Ліда. Мінуем рэйкі, пасля іх праходзім дзве нейкія цёмныя і балоцістыя вуліцы - і мы ў "цэнтры горада". На адным з дамкоў пры слабым асвятленні чытаем шыльду газеты "Слова". Разумеем, што гэта вуліца м-ра Мацкевіча, на якой знаходзіцца наш аддзел. Адсюль кіруемся ў бок пошты. Трэба зкамунікавацца з Наваградкам і Вільняй. ... Ад 12-й гадзіны ночы Ліда засынае сном праведніка. Ані жывой душы на вулачках. Хочам недзе павячэраць. На бліжэйшай цукерні аб'ява "Сёння канцэрт", ідзём далей і бачым заманлівую шыльду рэстарацыі "Брыстоль". Але дарма, рэстарацыя зачынена. Усюды ціша і цямрэча. Вяртаемся на станцыю, але тут таксама немагчыма знайсці аніякай ежы. У зале 2-га класа буфет яшчэ працуе, але абслуга спіць так, што рэха ажно разыходзіцца па станцыі. Да прыбыцця нашага цягніка ў 2-30 на Баранавічы праводзім час у размове з цыгуначнікамі"*[2].

У 1927 г. уражанні тыя самая: "(Горад) *ляжыць у балоце і дрыгве, мясцовасць нездаровая. Дамы жабрацкія, пераважна аднапавярховая драўляныя. Адзіная аздоба горада - муры замка Гедзіміна ... Няма польскіх гатэляў, рэстаранаў, кавярняў* (маецца на ўвазе, што гэты бізнэс у руках яўрэяў - *Л.Л.*). *Ёсць толькі адна сталоўка "Кола полек" (Kola Polek) ... Каля "Кола полек" меўся "Клуб чыноўнікаў", у якім раней было інтэнсіўнае інтэлектуальнае і культурнае жыццё і збіралася мясцовая інтэлігенцыя ... Зараз клуб страціў сваё памяшканне"* [3].

## 1. Грамадскае жыццё

### *1.1. Падзеі ў Польшчы*

У выніку Першай сусветнай вайны на Еўрапейскім кантыненце ўтварыліся новыя дзяржавы, большасць якіх, услед за Вялікабрытаніяй і Францыяй, абрала дэмакратычны лад кіравання. Разам з тым, ва ўсіх гэтых краінах назіралася развіццё моцных нацыянальных партый, якія імкнуліся да падвышэння ролі дзяржавы ў грамадскім жыцці і да абмежавання палітычнага ўплыву нацыянальных меншасцяў. Ужо ў 1922 г. у Італіі прыйшла да ўлады партыя Беніта Мусаліні, якая паступова адхіліла іншыя партыі ад уплыву на палітыку дзяржавы.

Пасля выбараў у Сойм і сенат у 1922 г. Юзаф Пілсудскі пачаў паступова адыходзіць ад актыўнага палітычнага жыцця. Не пагадзіўшыся са стратай уплыву ў войску на карысць чарговых міністраў ваенных спраў, ён ў траўні 1923 г. пакінуў Варшаву і пераехаў у недалёкі Сулеювек. Застаючыся ўбаку, Пілсудскі працягваў падтрымліваць кантакты з асобнымі палітыкамі з партый левай арыентацыі і з афіцэрамі-легіянерамі, якія захавалі яму вернасць яшчэ з часоў Першай сусветнай вайны. Пілсудскі працягваў цікавіцца дзейнасцю парламента, з крытыкай якога ўсё часцей выступаў на старонках друку, а часам і проста абражаў дэпутатаў. Да таго часу, усё больш паўсюднымі сталі патрабаванні ўнесці змены ў канстытуцыю для ўмацавання выканаўчай улады за кошт заканадаўчай. Гэтымі настроямі і скарыстаўся маршал Пілсудскі і яго прыхільнікі.

Напачатку траўня 1926 г., пасля чарговага ўрадавага крызісу, прэзідэнт Вайцяхоўскі ізноў сфармаваў кабінет з прадстаўнікоў правацэнтрысцкіх партый, так званых Хьена-Пяст на чале з Вітасам. Для прыхільнікаў маршала гэта паслужыла сігналам да дзеяння. 12 траўня разам з вернымі яму вайсковымі часткамі Пілсудскі *"ўзняў рокаш супраць Прэзідэнта і прызначанага ім ураду для захопу ў свае рукі дыктатарскай улады"* - такое абвінавачванне ў звароце да народа высунулі супраць яго члены ўраду Вітаса. Апраўдваючы сваё выступленне, Пілсудскі праз некалькі дзён пасля перавароту заявіў: *"Калі вакол нас булькочуць звады і партыйная зайздрасць, калі бурляць і напальваюцца міжусобіцы, салдату цяжка захоўваць спакой".*

У першай палове траўня 1926 г. у Варшаве адбыліся лёсавызначальныя падзеі, пра якія беларуская газета пісала: *"12.05. Паасобныя часьціны войск, раскватэраваныя ў районе Рэмбэртава (пад Варшавай) ... адмовіліся падчыніцца сваёй уладзе, пайшлі ў сталіцу ды занялі часьць места. Пасля палудня марш. Пілсудскі адбыў на нараду з п. Прэзыдэнтам Рэспублікі ў справах, зьвязаных з выступленьнем гэтых атрадаў. Увечары паміж стала раскватэраванымі у Варшаве войскамі і гэтымі атрадамі дайшло да сутычак. ... Паміж п. Прэзідэнтам Рэспублікі і маршалам Пілсудскім адбываюцца далейшыя перагаворы ..."* [4].

Пасля трох дзён баёў за сталіцу паміж вернымі ўраду войскамі і ракашанамі, калі загінула ўжо каля 400 чалавек, урад Вітаса падаў ў адстаўку. Тое ж самае зрабіў прэзідэнт Вайцяхоўскі. У адпаведнасці з канстытуцыяй, улада ў краіне перайшла ў рукі маршала Сойму Мацея Ратая. Перамогу Пілсудскага з захапленнем віталі левыя на чале з ППС і нават камуністы. Удзельнікі працоўных мітынгаў патрабавалі роспуску парламенту і ўсталяванне дыктатуры пралетарыяту па бальшавіцкім узоры.

Здзівіўшы ўсіх, Пілсудскі не распусціў Сойм і не пачаў зводзіць асабістыя рахункі з пераможанымі - у краіне не пачалася крывавая рэвалюцыя. Маршал сфармаваў новы ўрад на чале з прафесарам Львоўскага політэхнічнага інстытута Казімірам Барталем, які ўхваліла левацэнтрысцкая частка Сойму разам з Клубам нацыянальных меншасцяў. Клуб разлічваў на

рэалізацыю новага варыянту федэратыўнага плану - шырокай аўтаноміі ўсходнім ускраінам краіны. У канцы траўня 1926 г. тая ж самая кааліцыя абрала новага прэзідэнта другой Рэчы Паспалітай, ім стаў Ігнацы Масціцкі, прафесар хіміі, буйны навуковец і вынаходнік, паплечнік Пілсудскага, які знаходзіўся пад яго моцным уплывам. Але ўлада ў краіне фактычна апынулася ў руках Начальніка Дзяржавы - маршала Пілсудскага.

Урад Барталя прапанаваў праграму санацый - аздараўлення дзяржавы. Такая назва замацавалася неўзабаве за формай кіравання, якая ўсталявалася ў Польшчы пасля травеньскага перавароту. Праграма санацый прадугледжвала першым чынам умацаванне ўлады прэзідэнта і ўраду пры аднначасовым скарачэнні паўнамоцтваў парламенту, планавала правядзенне рэформаў у сістэме арганізацыі войска і ажыццяўленне капіталаўкладанняў у народную гаспадарку. У міністэрствах і на вышэйшых камандных пастах у войску з'явіліся новыя людзі, звязаныя ў мінулым або з легіёнамі, або з палітычнымі групоўкамі, якія прызнавалі аўтарытэт маршала Пілсудскага.

Першым дакументам, вынесеным новай уладай на абмеркаванне парламенту, стаў праект змены канстытуцыі. Гэтыя змены атрымалі назву жнівеньскай навэлы. Змены ўмацоўвалі ролю прэзідэнта, надаўшы яму права выдання ўказаў, якія маюць сілу закона. Урад Барталя, выкарыстоўваючы спрыяльную эканамічную кан'юнктуру, падрыхтаваную працай папярэдніх урадаў, пачаў праводзіць актыўную эканамічную палітыку, у выніку чаго адкрываліся новыя прамысловыя прадпрыемствы, умацавалася нацыянальная валюта краіны, працягвалася аграрная рэформа. Усё гэта павялічыла аўтарытэт новага ўрада. У палітычнай сферы ўлады пачалі ствараць трывалы палітычны падмурак - Беспартыйны блок працы разам з урадам.

Менавіта на гэтым палітычным фоне адбывалася грамадскае жыццё на Лідчыне.

### *1.2. Падзеі на Лідчыне*

**16 красавіка 1924 г.** святкаваліся пятыя ўгодкі вызвалення Ліды ад бальшавікоў. Святкаванне пачалося з набажэнства ў Фарным касцёле, пасля чаго гараджане наведалі магілы загінуўшых у 1919-20-х гг. на гарадскіх могілках [5].

**25 траўня 1924 г.** Ліду наведаў прэзідэнт Польшчы Станіслаў Вайцяхоўскі: *"У 9 гадзін раніцы цягнік прэзідэнта спыніўся ў Лідзе. На ўпрыгожаным пероне высокага госця сустракалі старшыня грамадскага камітэта і прадстаўнік Звязу землеўласнікаў князь Людвік Чацвярцінскі, прадстаўнікі гараджан разам з каталіцкім, праваслаўным і яўрэйскім духавенствам. Пасля сустрэчы на вакзале, прэзідэнт у суправаджэнні коннага экскорта паехаў у горад. Прэзідэнт прыняў шэраг дэлегацый і наведаў казармы 77 палка пяхоты дзе прыняў удзел у ганаровым адкрыцці помніка загінуўшым жаўнерам 77 палка. Помнік у выглядзе калоны быў пабудаваны па праекту падпалкоўніка Сестраневіча. У 13-00 прэзідэнт выехаў у Наваградак"* [6].



***Помнік загінуўшым жаўнерам 77 палка***

**У красавіку 1925 г.** прэса паведаміла пра смерць Тэадоры Манчунскай* - удзельніцы паўстання 1863 г., дачкі Тодара Нарбута.

**5 ліпеня 1925 г.** праз Ліду ў бок Вільні праехала калона з 22-х аўтамабіляў, якія ўдзельнічалі ў аўтапрабегу Варшава - Вільня[7].

** Тэадора (Тадора) Манчунская - дачка знакамітага гісторыка Тодара Нарбута, сястра камандзіра лідскіх паўстанцаў Людвіка Нарбута і сама паўстанка 1863 г.*

*Тадора (Тося) нарадзілася ў маёнтку Шаўры Лідскага павета 1 красавіка 1830 г. Атрымала выдатную хатнюю адукацыю. У 18 гадоў выйшла замуж за Альберта Манчунскага, але у 21 год стала ўдавой і вярнулася ў бацькоўскі дом. Займалася грамадскай працай, прымала чынны ўдзел у падрыхтоўцы паўстання.*

*Калі пачалося паўстанне - апынулася сярод актыўных удзельнікаў (у шэрагах паўстанцаў акрамя старэйшага брата Людвіка, былі браты Баляслаў і Францішак). Тадора ўзяла на сябе матэрыяльнае забеспячэнне аддзела, якім кіраваў Людвік Нарбут. Збірала грошы, даставала і прывозіла зброю, вопратку, харчаванне, знаходзіла добраахвотнікаў. Пасля паразы паўстання моцны аддзел казакоў атачыў маёнтак у Шаўрах, каб арыштаваць Тосю, але яна даведалася пра засаду і ў мужчынскай вопратцы ўцякла ў Гародню, а потым далей за мяжу. За мяжой доўгі час жыла ў сям'і графа Пшаздзецкага. Потым пераехала ў Кракаў, дзе апеку над ёй узялі манахіні-феліцыянкі. Напісала кнігу успамінаў. Памерла 27 сакавіка 1925 г.*

**1928 г.** пачаўся з гучнага палітычнага скандалу паміж Польшчай і Летувой, гэтая тэма працяглы час не сыходзіла са старонак прэсы. Адным з складнікаў скандалу сталася падрыхтоўка на базе 77-га Ковенскага пяхотнага палка, які дыслакаваўся ў Лідзе, баевікоў для ўрывання ў Летуву. Кіраваў баевікамі летувіскі эмігрант Плячкайціс. У казармах Паўночнага гарадка знаходзіліся жаўнеры ў форме летувіскага войска, і таму лідская тэма прысутнічала ва ўсіх дыпламатычных нотах Летувіскага ўраду і неаднаразова абмяркоўвалася ў Лізе Нацый[8]. Польскі ўрад спачатку адмаўляўся ад свайго ўдзелу ў падрыхтоўцы баевікоў[9], але потым спыніў падрыхтоўку.

У нядзелю **18 сакавіка 1928 г.** у Лідзе, "на Юзэфа", святкаваліся імяніны маршала Пілсудскага. Пасля набажэнства ў Фарным касцёле адбыўся парад войскаў Лідскага гарнізона. Потым, у 13-й гадзіне у кінатэатры "Нірвана" адбыўся збор лідскай грамадскасці. У панядзелак, **19 сакавіка** з раніцы адбылося набажэнства ў касцёле Піяраў, пасля набажэнства - дэфіляда па вуліцах горада, і ў 13 гадзін паўторны збор лідскай грамадскасці[10].

У нядзелю, **10 чэрвеня 1928 г.**, з рэфератам пра палітычную сітуацыю ў Сойме і Сенаце ў Лідзе выступіў пасол Акуліч. Паслухаць Акуліча сабраліся 200 чалавек. Сярод іншага пасол расказаў, што стасункі з Германіяй і Савецкай Расіяй паступова нармалізуюцца. У самой Польшчы адбываецца кансалідацыя настрояў грамадства, расце эканоміка. Пасол расказаў пра змены ў канстытуцыі, пра змяншэнне ўплыву апазіцыі ў Сойме. Пры канцы, Акуліч давёў лідзянам аб працы паслоў з Віленшчыны і Наваградчыны дзеля свайго рэгіёна[11].

Пад уплывам амерыканскага "сухога закону" ў чэрвені 1928 г. на паседжанні Гарадской Рады, было ўзнята пытанне аб арганізацыі павятовага галасавання, якое павінна было забараніць продаж алкагольных напояў па ўсёй Лідчыне[12]. Да красавіка 1929 г. гмінныя рады ў Лідзе, Радуні, Жырмунах, Шчучыне прагаласавалі за забарону продажу алкаголю і падтрымалі ідэю агульнапавятовага рэфэрэндуму па гэтым пытанні[13]. У красавіку 1929 г. гэтае пытанне было пастаўлена на галасаванне на паседжанні Гарадской Рады. У выніку 11 радных галасавалі супраць, 6 падтрымалі "сухі закон", і 1 устрымаўся[14]. Тэма "сухога закону" працяглы час абмяркоўвалася на розных узроўнях заканадаўчай улады і мела рэальны шанец быць ухваленай, але надыход Сусветнага эканамічнага крызісу пры канцы 1929 г. спыніў усялякія абмеркаванні.

**17 кастрычніка 1928 г.** у Ліду з рэвізіяй санітарнага стану горада прыехаў міністр унутраных спраў, генерал Славой-Складкоўскі. Сустракалі міністра лідскі стараста Багаткоўскі і навагрудскі ваявода Рачкевіч, які для гэтага прыехаў у Ліду на аўтамабілі[15].

**На пачатку 1929 г.**, па хадайніцтву старасты, мястэчку Воранава была вернута гістарычная назва *Вярэнаў* - ў свой час менавіта так у гонар сваёй жонкі Веранікі назваў свой маёнтак Сцыпіён дэль Кампа[16]. З гэтага маёнтка і распачалося мястэчка Вярэнаў.

На працягу двух днён - 9 і 10 лютага 1929 г. у горадзе святкавалася 10-ці годдзе 77 Ковенскага палка пяхоты, які дыслакаваўся ў Паўночным вайсковым гарадку Ліды. Ладзіліся святочныя набажэнствы, паседжанні грамадскасці з вайскоўцамі, выступы творчых калектываў Польшчы перад гараджанамі і жаўнерамі, дэфіляда (парад, урачыстае праходжанне) палка па вуліцах горада і баль у афіцэрскім казіно[17].

**23 красавіка 1929 г.** ў Лідскім старостве адбылася нарада, на якой абмяркоўвалася сустрэча прэзідэнта Рэчы Паспалітай ў ліпені[18]. Потым прыезд прэзідэнта быў перанесены на восень. На пачатку жніўня прэса паведаміла, што разам з прэзідэнтам Польшчы Масціцкім Ліду можа наведаць і маршал Пілсудскі: *"Гэта навіна ўзрушыла цэлы горад. Ліда вырашыла годна сустрэць дастойных гасцей - у горадзе жвава пачалі надаваць вуліцам і дамам як найпрыгажэйшы выгляд"* [19]. Дзеля арганізацыі сустрэчы быў створаны адмысловы павятовы камітэт, які адказваў за сустрэчу ганаровага госця. У камітэт увайшлі ксёндз-дэкан Баярунец, бургамістр Бергман, школьны інспектар Рагоўскі і дырэктар банка Ямант. Такія ж камітэты былі створаны ва ўсіх населеных пунктах Лідчыны, якія павінен быў наведаць прэзідэнт Польшчы[20].

Раніцай **25 верасня 1929 г.** прэзідэнт Польшчы Масціцкі пакінуў Навагрудак і на аўтамабілі, у атачэнні эскадрона ўланаў 25-га палка, выехаў у бок Ліды. Па дарозе, Масціцкі спыніўся ў гуце шкла "Нёман". Тут яго сардэчна віталі ўладальнікі фабрыкі, дырэк-




***Прэзідэнт Масціцкі на гуце шкла "Нёман" у Бярозаўцы***



*Прэзідэнта Масціцкі сустракаюць у Лідзе*



*Прэзідэнт Масціцкі падчас ганаровага адкрыцця школы імя Габрыеля Нарутовіча ў Лідзе (СШ № 1)*

цыя, прадстаўнікі рабочых, сябры грамадскіх арганізацый. Пасля агляду фабрыкі *"дастойны госць са сваім атачэннем увайшоў у вагончык вузкакалейкі і паехаў да берага Нёмана"* [21].

На беразе Нёмана прэзідэнта чакаў міністр сельскагаспадарчых рэформаў Станевіч і генерал Дамброўскі. Разам яны агледзелі будоўлю маста цераз Нёман, які будаваў 7-мы сапёрны полк. Цераз раку пераправіліся на пароме і на аўтамабілі паехалі ў Ліду. Каля 12-00 пад гукі заводскіх сірэн і гарматных стрэлаў аўтамабіль прэзідэнта спыніўся каля трыумфальнай аркі пад Лідай. Тут вышэйшай службовай асобе прадставіліся і зрабілі даклады камандзіры палкоў польскага войска (77 п.п. і 5 авіяцыйнага), пасля чаго прэзідэнта віталі лідскі староста Багаткоўскі і бургамістр Бергман. Была пашыхтавана ганаровая варта, прысутнічалі пажарныя і прадстаўнікі розных арганізацый. Ад трыумфальнай аркі прэзідэнт прайшоў да замка Гедзіміна, дзе яго чакалі дэлегацыі горада і раёна.

Павітаўшыся і паразмаўляўшы з лідзянамі, прэзідэнт наведаў Фарны касцёл, потым прысутнічаў на ўрачыстым паседжанні ўправы Народнага Банка. У 13 гадзін Масціцкі паехаў да будынка толькі што пабудаванай школы імя Габрыеля Нарутовіча і ўдзельнічаў у яе урачыстым асвячэнні і адкрыцці. Потым у актавай зале школы прэзідэнт паабедаў з прадстаўнікамі грамадскасці Ліды. Пасля абеду вышэйшая службовая асоба наведала выставу ў рамеснай школе і выехала ў Беняконі.

У Беняконях прэзідэнт ізноў прыняў удзел ва ўрачыстым асвячэнні і адкрыцці новай школы і дазволіў, каб гэтая школа насіла назву "Школа імя прэзідэнта Масціцкага". Тут жа прэзідэнт наведаў даследчую агранамічную станцыю і ўдзельнічаў у паседжанні ваяводскай сельскагаспадарчай камісіі. Увечары Масціцкі накіраваўся ў Вільню[22].

### *1.3. Органы кіравання*

У Заходняй Беларусі быў уведзены такі ж адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, як і ў іншых рэгіёнах Польшчы: далучаныя беларускія землі былі падзелены на ваяводствы, якія складаліся з паветаў, паветы - з гмін, гміны - з грамад. Згодна з гэтым падзелам былі ўтвораны і мясцовыя органы дзяржаўнага кіравання і самакіравання

Ніжэйшай адзінкай у сістэме сельскага самакіравання была грамада, яна стваралася з адной ці некалькіх вёсак. Грамаду узначальваў солтыс, так сама абіралася грамадская рада ці грамадскі сход. Солтыса і яго намесніка выбіраў грамадскі сход з ліку чальцоў грамады на 1 год. Гэтых выбраных асоб зацвярджаў павятовы староста, у выпадку незацвярджэння прызначаліся новыя выбары. Калі паўторна абіраўся кандыдат, якога павятовы староста адмаўляўся зацвердзіць, староста меў права прызначаць солтыса і яго намесніка. Так сама староста мог у любы момант звольніць солтыса і прызначыць новыя выбары.

Пасада солтыса не была надта зайздроснай, гэта пасада адрывала час у селяніна ад працы на ўласнай зямлі, бо трэба было выконваць шмат абавязкаў, напрыклад, збіраць падаткі, якія не ўсе аднавяскоўцы маглі своечасова аплачваць. З 1933 г. солтыс і яго намеснік выбіраліся на 3 гады[23].

Наступнай звяном самакіравання была Гмінная рада. Да кампетэнцыі рады належалі наступныя справы: устанаўленне прынцыпаў кіравання і спосабаў выкарыстання гміннай маёмасці, зацвярджэнне бюджэту, надзвычайных выдаткаў, унясенне змен у бюджэт, зацвярджэнне на карысць гміны розных выплат і па-

даткаў, замена натуральных павіннасцей на грашовыя і наадварот, устанаўленне правілаў анулявання запазычанасцей, пагашэнне якіх стала немагчымым, устанаўленне службовых пасад або іх скасаванне, зацвярджэнне штату гмінных супрацоўнікаў, выступленне ад імя гміны ў судовых працэсах, дараванне ганаровага грамадзянства, кантроль за дзейнасцю гміннага праўлення, выбар яго чальцоў і г.д. Чальцамі гміннай рады былі так званыя радныя і чальцы гміннага кіравання. Радныя выбіраліся першапачаткова на 3 гады і выконвалі свае абавязкі на грамадскіх пачатках.

Чальцамі гміны былі асобы, якія валодалі нерухомасцю і пражывалі на тэрыторыі гміны не менш, чым 3 месяцы. Толькі чальцы гміны мелі права ўдзельнічаць у гмінных выбарах і выбіраць гміннае кіраванне.

Выбары ў гмінныя рады былі двухступеневыя. Спачатку праходзілі выбары гміннага сходу, а гмінны сход выбіраў гмінную раду. 31 студзеня 1925 г. было выдадзена распараджэнне міністра ўнутраных спраў, якое датычыла ўсходніх ваяводстваў. Згодна з ім ваявода мог распусціць гмінную раду. Выканаўчым органам сельскай гміны было гміннае кіраванне, якое складалася з войта, яго намесніка і аднаго лаўніка. Войт з'яўляўся прадстаўніком выканаўчай улады ў гміне, кіраваў гміннай адміністрацыяй. Як прадстаўнік дзяржаўнай адміністрацыі войт быў абавязаны выконваць законы, распараджэнні і прадпісанні вышэйшых улад, падтрымліваць спакой, парадак, бяспеку. Як прадстаўнік самакіравання быў павінен выконваць пастановы гміннага кіравання і гміннай рады, захоўваць дакументы і акты гміны, кіраваць працай службоўцаў гміны.

Войт і яго намеснік першапачаткова выбіраліся на 3 гады. Выбраны войт і яго намеснік зацвярджаўся павятовым старастам[24].

У выпадку адмовы старасты, праводзіліся новыя выбары, а калі і зноўабраны кандыдат не зацвярджаўся, стараста на 1 год прызначаў войта сваёй уладай[25]. Напрыклад, 30 кастрычніка 1929 г. быў зацверджаны на пасадзе войта Радунскай гміны Адам Хруль[26] - траюрадны брат майго цесця. Праз год ён напісаў заяву аб звальненні са сваёй пасады, і таму 11 сакавіка 1930 г. адбылося паседжанне Гміннай рады, на якой абралі войта ў прысутнасці старасты Багаткоўскага і інспектара па самакіраванні Леха. Большасць гмінных радных прагаласавала за Адама Хруля, ён зноў атрымаў паўнамоцтвы войта, на гэтым жа паседжанні быў ухвалены гмінны бюджэт на 1930-31 г.[27]. Але праз паўгода Адам Хруль напісаў заяву і зноў добраахвотна пакінуў пасаду[28]. Дарэчы, у 1930-х гг. яго яшчэ раз абіралі войтам[29].

Юрыдычны бок выбараў органаў гарадскога самакіравання грунтаваўся на аснове распараджэння Генеральнага камісара ўсходніх зямель аб выбарах у часовыя гарадскія рады ад 25 чэрвеня 1919 г. Гэты дакумент прадугледжваў, што выбарчым правам у гарадскія органы надзяляліся ўсе жыхары, якія мелі ўзрост ад 21 года і пражывалі ў дадзеным горадзе не менш за 10 месяцаў, абірацца маглі толькі абавязкова пісьменныя асобы ад 25-гадовага ўзросту. Распараджэннем Генеральнага камісара ўсходніх зямель ад 27 чэрвеня 1919 г. на тэрыторыю Заходняй Беларусі, занятую польскімі войскамі, распаўсюджвалася часовае гарадское палажэнне, паводле якога кіраўніцтва гарадскімі справамі належала Магістрату ў складзе бургамістра, яго намесніка і лаўнікаў.

У 1919 г. была абрана Лідская гарадская рада і створаны Магістрат. І надалей, да 1939 г., органамі ўлады ў гарадской гміне былі гарадская рада і магістрат.

Гарадская рада з'яўлялася прадстаўнічым органам улады. Магістрат з'яўляўся кіраўнічым і выканаўчым органам улады. Магістрат узначальваў бургамістр. Адміністрацыйныя ўлады больш высокага узроўню мелі вялікі ўплыў на фармаванне Магістратаў. Павятовы стараста мог звольніць з пасады членаў Магістрата і прызначыць на іх месцы вызначаных ім асоб.

23 сакавіка 1933 г. быў выдадзены закон "Аб частковым змяненні арганізацыі тэрытарыяльнага самакіравання". Згодна з гэтым нарматыўным актам кіраўнічым і выканаўчым органам гарадской гміны замест існага Магістрата стала Гарадская ўправа. Тэрмін паўнамоцтваў гарадскіх органаў павялічыўся з 3 да 5 гадоў[30].

Яшчэ 28 жніўня 1919 г. была выдадзена пастанова Савета Міністраў "Аб часовай арганізацыі павятовых адміністрацыйных улад першай інстанцыі на тэрыторыі былой расійскай акупацыі". Згодна з гэтай пастановай павятовая адміністрацыя мела назву *староства*. На чале яе стаяў стараста, які з'яўляўся прадстаўніком дзяржаўнай улады ў павеце. Стараста і яго намеснік прызначаліся міністрам унутраных спраў Польшчы. Стараста павінен быў клапаціцца аб стане бяспекі ў даручаным яму павеце, і таму яму падпарадкоўвалася павятовая паліцыя.

На тэрыторыі павета стараста і іншыя кіраўнікі мелі вельмі шырокія паўнамоцтвы і амаль што неабмежаваную ўладу. Напрыклад, у 1924 г. жыхар Лідскага павета ў лісце, надрукаваным у газеце "Вызваленне народа", пісаў, што лідскі павятовы стараста Здановіч кіруе, як удзельны князь[31]. У лістападзе 1926 г. селянін з Дакудава паведамляў, што дакудаўскі войт, з паходжання селянін, пачаў лічыць сябе вялікім панам, справы ўлагоджвае "за бутэльку" і нікому не даруе падаткаў[32]. Пра Ганчарскага солтыса Віктара Кумпяка пісалі, што ён несумленна выконвае свае абавязкі і *"з'яўляецца катам для сялян"* [33].

Павятовае староства для ажыццяўлення сваёй дзейнасці падзялялася на мноства функцыянальных аддзелаў (рэфератаў), звычайна, гэта былі наступныя рэфераты: агульны, арганізацыйны, грамадскай бяспекі, адміністрацыйны, крымінальна-адміністрацыйны, вайсковы, аховы здароўя, сацыяльнай аховы, будаўнічы, земляробства і зямельных рэформаў, ветэрынарны, аховы лесу, меліярацыйны, інвалідаў вайны[34].

На момант уключэння тэрыторыі Заходняй Беларусі ў склад Польшчы на гэтых землях не існавала органаў павятовага самакіравання і арганізацыя іх апынулася ў руках польскай улады. Дзейнасць органаў павятовага самакіравання ў Заходняй Беларусі засноў-

валася на часовым павятовым палажэнні для тэрыторый Польшчы "былой расійскай акупацыі" ад 4 лютага 1919 г. Згодна з гэтым палажэннем кожны адміністрацыйны павет утвараў камунальны звяз, які з'яўляўся юрыдычнай асобай. Органамі павятовага камунальнага з'вязу з'яўляліся Павятовы соймік, Павятовы аддзел, Павятовы староста.

Павятовы соймік складаўся з паслоў ад горада і гміны. У сельскіх гмінах дэлегатаў выбірала Гмінная рада, у гарадскіх - Гарадская рада на агульным паседжанні з Магістратам пад кіраўніцтвам бургаміста. Згодна з законам ад 23 сакавіка 1933 г. "Аб частковым змяненні арганізацыі тэрытарыяльнага самакіравання" радных Павятовай рады выбірала выбарчая калегія, якая складалася з радных і чальцоў кіравання сельскіх гмін і гарадоў. Выбары ў Павятовыя рады прызначаў ваявода. Павятовы соймік з'яўляўся прадстаўніком Павятовага камунальнага звяза, пасля закона 23 сакавіка 1933 г. Павятовая рада - Павятовага звяза самакіравання.

Пастаянным органам Павятовай рады, які кантраляваў фінансавую і гаспадарчую дзейнасць кіраўнічых органаў, выступала рэвізійная камісія, выбраная радай.

Павятовы аддзел пад кіраўніцтвам старшыні Павятовага сойміка або яго намесніка складаўся з 6 чальцоў - жыхароў павета, якія выбіраліся соймікам. У кампетэнцыю павятовага аддзела ўваходзіла: падрыхтоўка спраў на пасяджэнні сойміка, рашэнне спраў, якія не патрабавалі зацвярджэння сойміка, вызначэнне спосабу выканання пастаноў сойміка; выкананне абавязкаў, вызначаных дзяржаўнай уладай і законамі; ажыццяўленне дысцыплінарнай ўлады над супрацоўнікамі Павятовага камунальнага саюза[35].

9 лістапада 1922 г. была створаны першае Лідскае павятовае самакіраванне ў складзе: Павятовы аддзел - Станіслаў Здановіч (кіраўнік), Мар'ян Янкоўскі, Уладзіслаў Ямант, Міхал Шымялевіч, Зыгмунт Раманоўскі, Ігнацы Вайцаховіч, Уладзіслаў Вашкевіч. Павятовы соймік у колькасці 49 чалавек - па 2 дэлегаты ад вясковых гмін і 3 дэлегаты ад горада Ліды[36].

У верасні 1925 г. газета "Слова" пісала пра адсутнасць больш-менш прыстойных памяшканняў для лідскай гарадской і павятовай улады. Але галоўная праблема была ў дзіўнай структуры падначаленасці лідскіх ўладаў: *"Адміністрацыя (ваяводства) - Навагрудак, скарб (казначэйства) - Берасце, структуры Міністэрства сельскай гаспадаркі - Гародня, суды і лясніцтвы - Вільня, адукацыя - Беласток. ... А як добра размешчана Ліда - да Вільні менш за 100 км ... і горад ад спрадвечных часоў цягнецца да Вільні"* [37].

Пры канцы 1925 г. лідскі староста Здановіч ў інтэрв'ю газеце "Слова" расказаў пра галоўную праблему ўладаў - недахоп грошай: цэнтральныя ўлады выдзяляюць няшмат, а лідзяне не плацяць падаткаў. Староста бачыў вырашэнне праблемы ў самакіраванні, людзі павінны прызвычаіцца, што сабраныя падаткі пойдуць на іх жа патрэбы. Тым не менш, да 1925 г. на Лідчыне пабудавана 13 вялікіх (ад 40 да 79 м у даўжыню) мастоў і ўводзіцца шарваркавая сістэма рамонту павятовых і гмінных дарог. Староста паведаміў, што на пачатку 1926 г. пачынае працаваць сельскагаспадарчая школа ў Бердаўцы. Але для адбудовы школьнай сістэмы ў павеце неабходна 250 000 злотых, пры тым што выдзелена толькі 78 000. Староста расказаў пра агульнапавятовы сіроцкі прытулак ў Сяльцы, дзе гадуюцца 130 выхаванцаў, а старэйшыя дзеці вучацца розным рамёствам[38].

Край патроху адыходзіў да жахаў вайны, уздымалася эканоміка, і паляпшалася жыццё. У лютым 1929 г. павятовыя ўлады вырашылі пачаць закупкі спецыялізаваных аўтамабіляў для пажарнай аховы[39], пры канцы верасня гарадскі магістрат ужо купіў у Варшаве першы спецыялізаваны пажарны аўтамабіль.

Летам 1929 г. лідскі староста Багаткоўскі ў інтэрв'ю карэспандэнту газеты "Кур'ер Віленскі" сказаў, што *"ў дарожных справах мы заканчваем будоўлю астатніх кіламетраў шашы Вільня-Гародня, 5 км шашы Вільня-Ліда і пачалі будаваць 5 км на шашы Ліда-Нёман. Работы выконваюцца праз шарваркі, палова работ на гмінных дарогах праз шарваркі ўжо зкончана, не гледзячы на нараканні ад высокіх нормаў, насельніцтва адпрацоўвае шарваркі акуратна.*

*Так сама ў хуткім тэмпе будуецца манументальны гмах дзяржаўнай гімназіі ў Лідзе. Гэта будоўля закончыцца да зімы. Магістрат заканчвае будынак на дзве агульнаадукацыйныя школы. Павятовы соймік будуе ветэрынарны пункт. [...]*

*Штрайкі арганізуюцца ППС-левіцай. Тры месяцы трымаецца штрайк на ... гуце шкла "Нёман". Нядаўна выбухнулі штрайкі ў трох цагельнях і трох кафлярнях. Рабочыя жадаюць змены варункаў працы, штрайкі праходзяць спакойна"* [40].

### *1.4. Межы павета*

На пачатку 1926 г. у Лідскі павет былі перададзены гміны: Суботнікі, Іўе, Ліпнішкі. Вёскі Калпінскія і Нагародзічы перадзеныя ў Беліцкую гміну Лідскага павета[41]. У траўні 1926 г. Каняўская і Аранская гміны адышлі з Лідскага павета ў Віленска-Троцкі павет[42]. Як потым стала вядома, улады Лідскага павета з задавальненем аддалі гэтыя гміны ў Віленска-Троцкі павет, бо бюджэт іх быў дэфіцытным, і ў значанай ступені іх дзейнасць фінансавалася з павятовага бюджэту. Праз нейкі час, для эканоміі сродкаў, староста Віленска-Троцкага павета наогул ліквідаваў Каняўскую гміну[43]. У сакавіку 1927 г. вёскі Баранцы і Масеўчукі былі перададзены з гміны Орля ў гміну Жалудок[44].

Шчучынскі павет ствараўся па этапах. На пачатку тут пачала працаваць так званая "экспазітура", якая выконвала галоўныя фунцыі павятовай улады, але яшчэ падначальвалася Лідскаму старасту. У верасні 1928 г. газета Беларускай Сялянскай партыі пісала: *"На аснове распараджэння Міністра Нутраных Справаў утворана ў Шчучыне экспазітура Лідзкага старaства. Да экспазітуры належаць воласці: Сабакінская, Заблоцкая, Васіліская, Нова-Дворская, Астрынская, Шчучынская, Лябёдзкая, Жалудзкая, Ражанская і Асташынская. Кампэтэнцыя экспазітуры абыйме*

*справы адміністрацыйныя, бясьпечнасьці (паліцыя), санітраныя, вэтэрынарныя і абароны лясоў"* [45].

У красавіку 1929 г. Міністр унутраных спраў зацвердзіў унёсак Наваградскага ваяводы аб стварэнні Шчучынскага павета, і такім чынам, пасля некалькіх стагоддзяў знаходжання гэтых тэрыторый ў Лідскім павеце, з шэрагу гмін, быў створаны Шчучынскі павет[46]. Трэба дадаць, што ў якасці цэнтра будучага павета абмяркоўваліся таксама Васілішкі[47].

### *1.5. Маёмасныя праблемы*

Грамадства таго часу хвалявала гістарычная справядлівасць.

Адным з відочных для ўсіх пытанняў, было вяртанне канфіскаваных царскім урадам маёнткаў нашчадкам паўстанцаў 1863 г. Юрыдычная база вяртання маёнткаў былым уладальнікам была закладзена законам ад 17 снежня 1920 г.

Першай спробай вяртання гістарычнай справядлівасці на Лідчыне, быў разгляд 5 лютага 1925 г. акруговым судом справы вяртанне маёнтка Бердаўка Захватовічам. Пасля паўстання 1863 г. маёнтак быў прымусова прададзены Дамбавецкаму[48]. Верагодна, гэты судзебны разгляд не задаволіў бакі справы, бо 21 кастрычніка 1926 г. акруговы суд у Вільні пачаў справу аб вяртанні прымусова прададзенага ў 1863 г. маёнтка Бердаўка[49]. Пры канцы 1927 г., пасля шэрагу судоў, маёнтак Бердаўка быў вернуты Станіславу Захватовічу - сыну былога уладальніка маёнтка, удзельніка паўстання Вінцэнта Захватовіча[50].

14 снежня 1921 г. лідскія павятовыя ўлады ўзялі пакінуты папярэднім гаспадаром Станскім маёнтак Валдацішкі (550 дзесяцін) у скарб. Маёнтак быў канфіскаваны ў паўстанца Людвіка Геншаля, а ў 1921 г. ягоныя ўнукі - Людвік, Уладзіслаў і Браніслаў Геншалі праз суд пачалі патрабаваць вяртання сямейнай спадчыны. Да таго часу ў Польшчу вярнуўся апошні расейскі ўладальнік маёнтка Мікалай Станскі з сёстрамі і таксама падаў у суд патрабаванне вярнуць маёнтак. Узніклі складаныя юрыдычныя калізіі, і таму браты Геншалі адмовіліся ад сваіх патрабаванняў і падпісалі паперы пра згоду аб перадачы маёнтка ў дзяржаўныя рукі для пасялення перасяленцаў-асаднікаў. У выніку Станскія праігралі судовую справу[51]. Геншалі ўсё ж неяк вярнулі частку сваёй зямлі і такім чынам аднавілі сваё векавечнае суседства з дзедам маёй жонкі.

Ад пачатку 1920-х гг. сіроцкі прытулак на 130 выхаванцаў месціўся ў фальварку каля вёскі Сялец (у свой час гэты фальварак належаў да Беліцкага ключа). Фальварак быў знішчаны пад час вайны, страціў сваіх уладальнікаў і быў прыняты ў дзяржаўны скарб, а трошкі пазней улады перадалі яго сіроцкаму прытулку, які рэальна ратаваў ад галоднай смерці сірот, даваў ім адукацыю і вучыў рабочым прафесіям. Карэспандэнт газеты "Слова" пісаў, што галоўнай праблемай прытулка ў 1925 г. з'ўлялася тое, што фальваркі і маёнткі Беліцкага ключа ў часы Расійскай імперыі былі набыты кансорцыюмам, галоўную ролю ў якім іграў знаны ў Кіеве "Банкаўскі Дом Літвак і К[О]" прычым фармальна маёмасць заставалася за князямі Трубяцкімі. А потым раптам з'явілася асоба, якая па-дакументах, была законным гаспадаром маёнтка - Юзаф Бартэндзюк (ці Бартэн Дзюк), грамадзянін Францыі[52].

Лідзянін Уладзіслаў Нарушэвіч пісаў: *"Юзаф Бартэн Дзюк ажаніўся з расійскай княжной Трубяцкой, якой належалі маёнткі Сялец і Беліца. ... Каля чыгуначнага моста знаходзіліся жылыя і гаспадарчыя будынкі маёнтка Сялец. Усе будынкі былі драўляныя акрамя вінакурні - вялікай мураванай пабудовы"* [53]. Першае, што робіць Бартэндзюк - забірае будынак, куды планавалася перавесці варштаты прытулка - былую вінакурню, аднак сам гэтым будынкам не карыстаецца. *"Нішто не можа змяніць адносіны пана Б. да прытулка і яго патрэбаў. Ён глухі да просьбаў. Яго, француза, усё, што наша - мала абыходзіць. Хай бы лепей ехаў да сябе ў Францыю, няма чаго яму тут рабіць"* - піша карэспандэнт "Слова" ў 1925 г.[54]. 23 сакавіка 1928 г. міравы суд у Лідзе пачаў публічнае разбіральніцтва па заяве Бартэндзюка з патрабаваннем вярнуць яму маёмасць, якую займаў дзіцячы прытулак. Справай займаўся лідскі міравы суддзя Яўген Ловіч-Баранскі. Адвакат Лучынскі з Вільні, абапіраючыся на старыя маёмасныя дакументы бараніў правы француза. Адвакат Сумарок і дараднік Генеральнай пракуратуры, якія выступалі ў судзе ад імя ўладаў, абапіраліся на той факт, што маёнтак ужо адышоў у скарб дзяржавы. На судзе з'явілася нават сама княжна Трубяцкая. У выніку, міравы суддзя усё ж вяртае ўвесь маёнтак былым уладальнікам[55]. Справа пераходзіць на наступны ўзровень, і 6 ліпеня 1928 г. Акруговы суд у Вільні вырашае пакінуць частку будынкаў маёнтка ў Сяльцы дзіцячаму прытулку[56]. Але ў наступным судзе Бартэндзюк зноў перамагае, і 30 ліпеня 1929 г., не чакаючы выраку Апеляцыйнага суда, судовы выканаўца з Іўя Пруткоўскі паспрабаваў высяліць дзіцячы прытулак на двор. Асабісты зварот лідскага старасты Багаткоўскага і Ваяводскай управы ў Акруговы суд прыпыніў высяленне сірот[57].

Бартэндзюк потым пачаў неяк дамоўляцца з уладамі - ужо ў 1927 г. 3,5 га зямлі былі перададзена Звязу стральцоў для арганізацыі летніх лагераў і падрыхтоўкі сяброў гэтай арганізацыі[58]. У Сяльцы кожнае лета пачалі працаваць дзіцячыя лагеры адпачынку, якія ладзілі лідскія ўстановы адукацыі. Памёр француз "польскім патрыётам" - менавіта так вызначалі яго ў некралогах.

Такія ж маёмасныя праблемы ўзнікалі і з будынкамі былых царкоўна-прыходскіх школ, якія праваслаўныя святары ўважалі сваімі, пры тым, што ў іх ужо працавалі дзяржаўныя вясковыя школы, і гмінныя ўлады лічылі такія будынкі сваёй маёмасцю. Тым больш, што пры царскай уладзе такія школы будаваліся валаснымі ўладамі на свае кошты[59].

### *1.6. Выбары*

20 лістапада 1925 г. Акружны суд у Лідзе разглядаў справу Кастуся Светавастокава, агітатара за спіс № 16 на выбарах. Паліцыя вінавaціла яго ў распаў-

сюдзе беларускіх газет "Беларускі Звон" і "Крыніцы" і склала пратакол. Таксама актывіста абвінавачвалі ў тым, што ён раней пісаў у газету "Наша Будучыня" пра тое, як паліцыя забівала каваля ў вёсцы Іванкі і збірала даніну з сялян вёскі Чарнелі цыбуляй, бульбай і г.д. Аднак у судзе нават пракурор адмовіўся ад гэтых абвінавачванняў, і актывіста апраўдалі[60].

На пачатку лета 1927 г. была распушчана Лідская гарадская рада, выбары новай рады былі прызначаны на 3 ліпеня[61], а потым на 17 ліпеня[62]. У гэтых выбарах прыняў удзел сябар ТБШ Міхал Шымяле-віч - лепшы ў XX ст. знаўца лідскай гісторыі. На гэтых выбарах беларусы выставілі свой асобны спісак і правялі свайго кандыдата. Цікава, што ў Лідзе пад час гэтых выбараў, польская хадэцыя прапанавала беларусам тры месцы, з умовай зблакавацца з імі супраць яўрэяў. Але беларусы на гэта не пагадзіліся[63]. Беларуская газета "Наша праўда" пісала пра гэту падзею: *"Услед за Вільняй і ў Лідзе зроблены першы крок да заваявання места - 17.VII адбыліся выбары ў мястовую Раду і па сьпісу Беларусаў і тутэйшага працоўнага жыхарства прайшоў у Раду адзін беларус - Сябра Нагляднае Рады Лідзкае Акр. Упр. Т-ва Бел. Школы Міхал Шымялевіч. .. Самастойнае выступленне беларусаў мае вялізарнае значэнне: 1) гэта - першая спроба ў больш шырокай меры, што паказала абуджэнне нацыянальнай сьвядомасьці ў тутэйшага жыхарства; 2) беларусы ўсё-ж такі маюць аднаго прадстаўніка ў Радзе (сабралі галасоў на 1,5 раднага); 3) выявіліся ўсе прадажныя і падлізьніцкія элементы нашага грамадзянства, якія аканчальна скампраміталіся ў вачох грамадзян места Ліды. Рэзультаты выбараў наступныя: № 1* (выбарчы спіс № 1 - *Л.Л.*). *Дэмакратычныя хрысьціянскія мяшчане, урадоўцы і ўмысловыя працаўнікі (Група бурмістра Бэрмана), 3 мандаты; № 2. Прафэс. Саюзы, працоўная інтэлігенцыя, дробныя дамаўласнікі і неарганіз. работ (P.P.S.), 3 манд.; Блёк Хрысьц. (N.D. і Ch.D.) 6 манд.; № 4. Беларусы і тутэйшае працоўнае жыхарства, 1 мандат; № 5. Земляробы і дамаўласнікі - жыды (Група заступніка бурмістра Вінцукоўскага), 1 мандат; № 6. Жыдоўскі нац. блёк, 9 манд.; № 7. Жыдоўскі Работ. блёк, 1 манд."* [64]. Газета "Сялянская Ніва" так сама пісала, што *"па беларускаму сьпіску ў м. Лідзе прайшоў у меставую раду адзін Беларус"* [65]. З віленскай газеты "Слова" даведваемся, што беларускі радны ў гэты час жыў па адрасе: *вуліца Вызвалення, 82*[66].

Першае паседжанне новаабранай Лідскай гарадской рады адбылося 5 жніўня, на ім былі абраны сябры Магістрата (бургамістар, намеснік бургамістра і два лаўнікі) і тры сябры ў Павятовы соймік[67]. Бургамістрам горада быў абраны Рудольф Бергман, ягоным намеснікам Мейлах Пупко, лаўнікамі: Віктар Янушэўскі і Марк Карчмар. У Павятовы соймік рада дэлегавала Браніслава Малеўскага, Антона Вісманта і Дыніэля Чартка. 6 жніўня адбылося паседжанне Павятовага сойміка, на якім абралі сяброў Павятовага аддзела[68]. Лідскі радны, беларус Міхал Шымялевіч, быў выбраны адным з трох чальцоў Ацэнкавай камісіі пры Скарбовай управе[69].

Гарачая палітычная барацьба адбывалася нават пад час выбараў ў гмінныя рады. Улетку 1927 г. пра махлярствы пад час выбараў у Тарноўскую гмінную раду ў вёсцы Радівонішкі пісаў мясцовы жыхар: *"Мейсцовы вучыцель дзяржаўнай пачатковай школы Л.І. вельмі жадаў быць выбраным ад нашага абводу № 7, але бачачы, што яго кандыдатура ня пройдзе, пусьціўся на гэтакую хітранку. Калі пачало адбывацца галасаваньне па спісам, гэты пан, як сябра абвадовага камітэту, пачаў дапісваць сабе нехапаючыя галасы, лічачы свой голас за пяць сялянскімх. І гэтакім чынам здабыў сабе патрэбную лічбу галасоў. ... калі аб гэтым дачуліся ... выбаршчыкі, дык зараз-жа паслалі свой пратэст да Лідзскага старасты"* [70].

А на тых жа гмінных выбарах ў Лябёдскую гміну *"выбраны выключна сяляне-беларусы лікам 11 чалавек. Асаднікам ды рожным іншым тыпам не дана нават аднаго месца. Было выстаўлена 3 сьпіскі. Бралі ўдзел у выбарах 105 кандыдатаў ад ўсіх абводаў гміны"* [71].

Нават у Воранаўскую раду ў 1927 г. не патрапіў ніводзін асаднік, *"у гмінную раду правялі ўсіх беларусаў-сялян, за выняткам двух жыдоў. Абшарнікі і асаднікі ну проста шалелі ... хацелі нанава рабіць выбары, нават ... зварачваліся да Лідзскага старасты ... але нічога не памагло. На войта выбралі сьвядомага селяніна-беларуса"* [72].

У лістападзе 1927 г. паланафільская арганізацыя "Беларуская Нацыянальная Рада", якую ўзначальваў доктар Паўлюкеіч, праводзіла ў Лідзе з'езд гмінных радных-беларусаў. На гэтым з'езде ад Лідчыны выступалі Базыль Філіповіч - заступнік войта Беліцкай гміны (ён расказаў, што ў складзе гміны 60 % беларусаў, 30% палякаў і 10 % яўрэяў) і Аляксандр Рахман - радны Лідскай гміннай рады (склад гміны 90 % беларусаў і 10 % палякаў, выбрана 10 радных беларусаў - 5 праваслаўных і 5 католікаў, адносіны са старастам добрыя)[73].

У 1928 г. лідскі староста не зацвердзіў выбараў войта ў Тарноўскай гміне, бо войтам быў абраны нейкі Міхал Кузюта[74].

У 1928 г. адбыліся выбары ў Сойм Польшчы.

2 студзеня 1928 г. у Лідзе прайшоў сход буйных землеўладальнікаў, на якім гэтыя ўплывовыя і заможныя людзі абмяркоўвалі свой удзел у выбарах[75]. 7 студзеня ў Вільні адбыўся сход "Бунду", прысвечаны выбарчай стратэгіі гэтай партыі па Лідскай і Свянцянскай акрузе[76]. 8 студзеня 1928 г. у Лідзе адбыўся з'езд "Польскай народнай партыі" былога пасла Дуброўніка[77] (№ 10 у выбарным спісе).

У студзені, прэса паведаміла, што ад нацыянальных дэмакратаў (эндэкі) па Лідскай акрузе ў выбарах мелі ўдзельнічаць лекар Гарневіч і маёр рэзерву Янушайціс (але потым эндэкі зблакаваліся з хадэкамі - хрысціянскімі дэмакратамі), ад ППС - Паўлоўскі, Стажалоўскі, Залескі і Куран[78].

Блок нацыянальных меншасцяў у Лідзе стварыў Акруговы Выбарчы Камітэт, які пачаў інтэнсіўную агітацыю на вёсцы, у гэтым спісе беларусы аб'ядналіся разам з яўрэямі. Газета "Слова" канстатавала, што най-

большым палітычным уплывам сярод сялян Лідскай выбарчай акругі карыстаецца былая Грамада[79]. Яна ўдзельнічала ў выбарах пад рознымі назвамі "Грамада левіца", "Грамада правіца", Беларуская партыя працы і г.д.[80].

На пачатку лютага 1928 г. стала вядома, што ад Беларускага Аб'яднанага Выбарчага Камітэта Блока Нацыянальных меншасцяў (спіс № 18) па Лідскай акрузе будуць удзельнічаць у выбарах Більдзюкевіч А., Пазняк Я. (дзед Зянона Пазьняка), Чэрніхаў, Яковіч Я.[81]. Тады ж адбыўся з'езд беларусаў прадстаўнікоў-выбаршчыкаў у Сойм і Сенат ад Лідскай выбарчай акругі. З'езд выразіў давер Беларускаму Аб'яднанаму Выбарчаму Камітэту і ўхваліў уваход Камітэта ў Блок Нацыянальных меншасцяў[82].

Цікава, што ў гэтых выбарах удзельнічала нават расейская групоўка, якая ў выбарчым спісе ішла пад № 20, у Астрыне *"ў часе выбараў знайшліся "істінно рускія" і галасавалі за 20-ку"* [83].

У сярэдзіне лютага ў Лідзе па вуліцы 17 красавіка быў знойдзены склад з "антыдзяржаўнымі" ўлёткамі, якія пачыналіся словамі: *"Далоў рэпрэсіі і тэрор фашысткай дыктатуры ..."*. Раней гэтыя ўлёткі нехта падкінуў да будынка Акруговага суда[84].

Газета "Сялянская Ніва" пісала перад выбарамі ў Сойм: *"Беларускае сялянства Лідскага павету вельмі прыхільна спатыкае агітатараў і інструктараў Бел. Цэнтр. Аб'яданага Выбарнага Камітэту. Надта цікавяцца яго прадвыбарнай літэратурай, і ўсюду пануе поўнае перакананьне, што галасаваць трэба толькі за № 18. Ніякія польскія партыі посьпеху ня маюць ... Паўлюкевічавы сьпісак, які носіць назоў "Агульна-нацыянальны" ... нікога не цікавіць"* [85].

Аднак пры канцы лютага Акруговая Выбарная камісія ў Лідзе прызнала несапраўдным выбарчы спіс № 18. Беларускі Аб'яднаны Выбарчы Камітэт падаў скаргу ў Найвышэйшы суд у Варшаве, але нічога не дабіўся ...[86].

Па выніках новых выбараў па Лідскай акрузе, "Блок працы разам з урадам" (блок Пілсудскага) атрымаў 4 мандаты - паслamі ў Сойм сталі Казімір Акуліч, Ян Шчэрба, Юзаф Лойка, Уладзіслаў Камінскі, хадэкі атрымалі 1 мандат, быў абраны Гіпаліт Гарневіч, "Грамада правіца" ("Беларусы сяляне і рабочыя") - атрымала 2 мандаты, абраны Ян Станкевіч і Флягонт Валынец[87].

Беларуская "Сялянская Ніва" падсумавала вынікі выбараў: *"Рэзультаты выбараў у Сейм, якія адбыліся 4 сакавіка. Бачым, што беларусы правялі ў Сейм толькі 9 паслоў. Па сьпіску Блёку Нацыянальных Меншасьцяў прайшло 4 паслы (2 - ад Беларускага Сялянскага Саюзу і 2 - ад Беларускай) Хрысьціянскай Дэмакратыі), 3 паслы па сьпіску "Змаганьне за інтарэсы сялян і "работнікаў" і 2 паслы ад г.зв. "Беларусаў сялян і работнікаў". У прошлы Сейм прайшло 11 беларускіх паслоў. ... У Сьвянцянскім выбарным окрузе беларусы правялі ў Сейм 3-х паслоў, пры гэтым сьпісак № 18 атрымаў найбольш галасоў. ... У Лідзкім окрузе беларуская сьведамась і арганізаванасьць праявілася яшчэ выдатней. Ня гледзячы на тое, што быў скасаваны наш сьпісак кандыдатаў, па іншаму сьпіску ... прайшлі 2 беларусы. Апрача гэтага ў гэтым окрузе прызнаны няважнымі больш 72 тысяч галасоў. Няма ніякага сумліву, што ёсць беларускія галасы, якія дэманстрацыйна пайшлі на беларускі сьпісак № 18. Такім чынам ў Лідзкім окрузе больш 100 тысяч галасоў выказалася за беларускіх кандыдытаў. У прошлыя выбары за беларускі сьпісак была толькі каля 40 тысяч галасоў. Як бачым, беларуская сьведамасьць ... узрасла на 250 працэнтаў. ... Выбары выявілі, што за 5 гадоў зроблена, хоць не ўсё, аднак вельмі шмат"* [88].

Па ўсёй Польшчы Беспартыйны блок працы разам з урадам стаў самым моцным парламенцкім клубам, аднак не атрымаў большасці месцаў ні ў Сойме, ні ў Сенаце. Адначасова партыі парламенцкай апазіцыі: правыя (ННС, с 1928 г. пераназваны ў Нацыянальную партыю, СН - Стронніцтва Народове), цэнтрысты (людоўцы і хрысціянскія дэмакраты) і левыя (ППС, лідары якой перасталі падтрымліваць Пілсудскага) не змаглі стварыць адзіны фронт, які супрацьстаяў бы кіраўнічаму палітычнаму лагеру.

### *1.7. Штрайкі*

Улетку 1926 г. у фальварку Юзафава пад Лідай узнік канфлікт паміж уласнікам фальварка і сялянамі, якія не дапускалі нанятых гаспадаром фальварка работнікаў (верагодна - штрайкбрэхераў) на поле. Выкліканая паліцыя "ліквідавала" канфлікт[89].

17 лютага 1928 г. у Лідзе заштрайкавалі рабочыя чатырох тартакоў - Кроніка, Палячака, Папірмайстра і Мельніка. Каля 200 рабочых патрабавалі павялічыць заробак на 50% і прадоўжыць працоўны штогадовы адпачынак да 1 месяца[90]. Хутка да рабочых тартакоў далучыліся рабочыя млына "Аўтамат", якія патрабавалі павялічэння заробкаў на 20 % [91].

Улетку таго ж года заштрайкавалі 150 рабочых фабрыкі фанеры ў Шчучыне, яны патрабавалі ад уладальнікаў фабрыкі, братоў Канапацкіх падвышэння заробкаў[92]. Штрайк ішоў цяжка, бо праз тыдзень быў арыштаваны сакратар акруговага прафсаюзнага Звязу дрэваапрацоўкі Ян Пазвальскі, ён абвінавачваўся ў злоснай агітацыі і падбухторванні да гвалту. Так сама за пашкоджанне труб кацельні, што магло прывесці да выбуху, арыштавалі рабочых фабрыкі Антона Ліхадзееўскага, Яна Півонскага, Станіслава Вольскага, Антона Чарнойця і Антона Сямашку[93]. Але ўсё ж у выніку штрайку рабочым падвысілі заробак на 10 %[94].

Улетку 1929 г. штрайкаваў цэлы шэраг прадпрыемстваў Лідчыны, сярод штрайкоўцаў былі і рабочыя гуты "Нёман". Кансерватыўная газета "Слова" пісала: *"8.VII. Штрайк, які быў арганізаваны левіцай ППС на гуце шкла "Нёман" і цягнуўся ўжо доўгі час, быў спынены. Рабочыя звярнуліся да Інспектара Працы з просьбай пра пасярэдніцтва. Штрайк у цагельні, якая знаходзіцца ў Перапечыцы і на фабрыцы каплі ў Лідзе таксама спынены, і рабочыя вярнуліся да працы на ўмовах наймальнікаў. Факты сведчаць, што дэмагагічная акцыя прафсаюзаў не знаходзіць падтрымкі ў працоўных масах ..."* [95].

**2. Грамадскія арганізацыі і палітычныя партыі**

У тыя часы на Лідчыне актыўна працавалі беларускія, польскія і яўрэйскія грамадска-палітычныя арганізацыі.

***2.1. Грамада***

Беларуская сялянска-работніцкая грамада (БСРГ) - масавая легальная рэвалюцыйна-дэмакратычная і нацыянальна-вызвольная арганізацыя працоўных Заходняй Беларусі ў 1925-1927 гг. Дзейнасць БСРГ узначальваў ЦК, старшынём ЦК быў Б.А. Тарашкевіч, намеснікам старшыні С.А. Рак-Міхайлоўскі, чальцы ЦК П.П. Валошын і П.В. Мятла.

24 чэрвеня 1925 г. дэпутаты польскага Сойма Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Валошын і Мятла выйшлі з беларускай нацыянальнай фракцыі Сойма і стварылі пасольскі клуб БСРГ. Карыстаючыся дэпутацкай недатыкальнасцю, яны разгарнулі актыўную дзейнасць па стварэнні масавай арганізацыі працоўных для барацьбы супраць сацыянальнага і нацыянальнага прыгнёту.

12 траўня 1926 г. была прынята праграма БСРГ, яна змяшчала дэмакратычныя і асобныя сацыялістычныя патрабаванні: самавызначэнне Заходняй Беларусі і аб'яднанне ўсіх беларускіх зямель у рэспубліку сялян і рабочых, стварэнне сялянска-рабочага ўраду; устанаўленне дэмакратычных свабод, канфіскацыя памешчыцкіх і царкоўных зямель з пераходам ва ўласнасць дзяржавы і падзелам без выкупу паміж малазямельнымі сялянамі і парабкамі, скасаванне асадніцтва; устанаўленне 8-гадзіннага рабочага дня, увядзенне рабочага кантролю ў вытворчасці, развіццё спажывецкай, вытворчай і крэдытнай кааперацыі; нацыянальная роўнасць і навучанне на роднай мове; свабода сумлення і іншае. У значнай ступені БСРГ сімпатызавала Савецкаму Саюзу і таму лічылася ў Польшчы прасавецкай партыяй. І насамрэч, СССР спрабаваў узяць Грамаду пад свой кантроль, каб надаць беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху ў Польшчы класавы характар.

ЦК БСРГ выдаваў газеты "Жыццё Беларуса" (1925 г.), "Беларуская Ніва" (1925 г.), "Беларуская справа" (1926 г.), "Народная Справа", "Наша Справа", "Наш Голас", "Наша Воля", "Народны Звон" (1930 г.), сатырычны часопіс "Маланка". Пад уплывам Грамады актывізавалі работу прагрэсіўная культурна-асветніцкая арганізацыя Таварыства беларускай школы, беларускія выдавецкае, навуковае і дабрачыннае таварыствы, Беларускі студэнцкі саюз.

Газета "Народная Справа" ўлетку 1926 г. паведаміла: *"У Лідзе ... 11-га г.г. з'арганізаваўся Лідзкі Гурток Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады"*[96]. На 10 студзеня 1927 г. ў Лідскім павеце было ўжо 65 гурткоў Грамады, у якіх прымала ўдзел некалькі тысяч чалавек *(гл. дадаткі)*. З тых часоў, ніколі яшчэ беларускі рух на Лідчыне не ўздымаўся на такую вышыню.

Грамадоўская газета "Народная Справа" пісала, што 4 жніўня 1926 г. камендант паліцэйскага пастарунка ў Дакудаве адабраў ў даверанай асобы Цэнтральнага Сакратарыяту, жыхара вёскі З. Сарокі, грамадоўскія дакументы, якія той атрымаў па пошце і сказаў, што яго "zapakuc do wiazienia". Тым не менш, праз чатыры дні тут ужо быў арганізаваны гурток Грамады. У тым жа нумары паведамлялася, што 5 верасня адбудзецца з'езд сяброў Грамады Лідскага павета[97]. У наступным нумары, газета ўдакладняла, што *"Зьезд Сялянска-Работніцкай Грамады, які вызначаўся на 5-га верасня... пераносіцца на нядзелю 26-га верасня с.г. Гэтая адсрочка дасьць магчымасьць правесьці на мяйсцох больш шырокую арганізацыйную працу"* [98].

Актывіст паведамляў, што 15 жніўня ў мястэчку Глыбокае поп лаяў Грамаду[99]. А 2 ліпеня 1926 г. пад час адпустаў у Тракельскім касцёле пасол Балін выступіў перад сялянамі. Калі ж паліцыя спрабавала спыніць яго выступ, сяляне прагналі паліцыянтаў з касцельнага падворка каменнямі, пасля чаго пасол сказаў: *"Бачыце, як баяцца маёй праўды ..."* [100]. 29 жніўня ў мястэчку Воранава зноў адбыўся мітынг з удзелам пасла Баліна: *"Ахарактарызаваўшы сучаснае палажэнне ў Польшчы, пасол заклікаў сялян запісвацца ў Бел. Сял. Раб. Грамаду, або ў Нез. Пар. Хлопску"* [101].

На пачатку кастрычніка грамадоўская газета "Народная Справа" надрукавала справаздачу з Лідскага павятовага з'езду Грамады[102] *(тэкст справаздачы гл. у дадатках)*.

Увосень 1926 г., калі Грамада збірала грошы штрайкуючым шахцёрам Англіі, газета "Слова" паведаміла, што гурток Грамады вёскі Крупава адаслаў шахцёрам 20 зл.[103]

У выніку дзейнасці КПЗБ і Грамады ў 1926 г. у Заходняй Беларусі пачаўся ўздым масавага рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызвольнага руху, наспявалі элементы рэвалюцыйнай сітуацыі. У студзені 1927 г. больш за 2 000 гурткоў Грамады аб'ядноўвалі каля 120000 чальцоў. Дзейнічала 18 павятовых камітэтаў БСРГ.

У студзені 1927 г. пачаўся разгром Грамады і масавыя арышты грамадоўцаў. Былі арыштаваны беларускія паслы ў Сойм, пасла ад Лідскай акругі Рак-Міхайлоўскага арыштавалі ў Вільні падчас, калі ён сядаў у цягнік на Варшаву[104]. Непасрэдна на Лідчыне адразу арыштавалі двух грамадоўцаў[105].

Больш за 4 000 кіраўнікоў і актывістаў Грамады былі аддадзены пад суд. 21 сакавіка 1927 г. Грамада была афіцыйна забаронена польскімі ўладамі.

23 лютага 1928 г. у Вільні пачаўся найбольш знакаміты, цэнтральны, судовы працэс над сябрамі Сялянска-Работніцкай Грамады. Пасля шасці дзён судовага разбіральніцтва быў зроблены перапынак з 1 па 12 сакавіка - у гэтыя дні адбываліся выбары ў Сойм. З 12 сакавіка працэс аднавіў сваю працу. За выняткам разгляду надзвычайных пытанняў, суд праходзіў пры адчыненых дзвярах. Але, каб патрапіць у залу суда неабходны быў адмысловы білет-пропуск, і, не гледзячы на тое, што ў зале паседжанняў амаль што заўжды меліся вольныя месцы, білет атрымаць было амаль што немагчыма.

Старшынём суду быў А. Аўсянка, суддзі: А.

Ёдзевіч, А. Барэйка і запасны Бжазоўскі. Пракуроры: Калапскі і Раўзе, сакратары суда: Коркуць і Адынец. Адвакаты з Варшавы: Ян Бабянскі, Дурач, Этынгер, Смяроўскі і Гонігвіль, мясцовыя адвакаты: Абрамовіч, Пятрусевіч, Крыжаноўскі, Сянківіч, Залкінд, Матыяш, Прайс, Раманкевіч.

На працэсе была акрэдытавана прэса: карэспандэнты савецкага ТАСС Кавальскі, і савецкай газеты "Известия" Брагін, Нью-Ёркскай газеты "Forwerts" Вайнрайх, прадстаўнікі польскай варшаўскай і віленскай прэсы, прадстаўнікі мясцовай беларускай і яўрэйскай прэсы. Прадстаўнікоў беларускай прэсы з Менска не было.

У першы дзень суда выявілася колькасць падсудных - 56 чалавек, з іх акрамя аднаго паляка ўсе беларусы. Адзін з беларусаў з'уляўся магаметанінам, сваёй беларускасцю ён моцна здзівіў суд.

Сярод падсудных былі як прадстаўнікі беларускай культурнай і палітычнай эліты, так і простыя, малаадукаваныя людзі. Судзілі паслоў у Сойм Сымона Рак-Міхайлоўскага, Паўла Валошына, Пятра Мятлу. Сярод падсудных быў адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага руху Антон Луцкевіч і праваслаўны святар Аляксандр Коўш. На лаву падсудных патрапілі актывісты з Лідчыны Вінцук Салыга, Вінцук Крупіца і Ігнат Мармыш.

Суд выклікаў ажно 660 сведкаў, з іх больш за 400 сведкаў выклікаў бок абвінавачвання. Выкліканыя сведкі давалі прысягу партыямі па 50 чалавек, гэта зацягнула суд у першы дзень да 12 гадзіны ночы. Тры наступных дні чытаўся акт абвінавачвання. На пяты дзень пачаўся непасрэдны разбор справы[106].

Тэксты справаздач з суда над грамадоўцамі - найкаштоўнейшая крыніцы інфармацыі. Я ж перакажу толькі фрагменты, датычныя Лідчыны.

**На 10 дзень працэсу** сведка Юльян Ліндэ падае, што з'яўляецца работнікам на шкляной гуце (у Бярозаўцы - *Л.Л.*), на якой працавала 300 чалавек, з якіх 70% былі беларусамі, і большая палова з іх належала да Грамады. Сам ён паляк, але запісаўся ў Грамаду добраахвотна, "праз нікога не намаўляны". Паспеў тры разы атрымаць ад свайго гуртка газеты, бачыў як збіралі грошы ў шапку. На сходцы, дзе ён прысутнічаў выступалі Мятла і Тарашкевіч, казалі яны пра школьніцтва і беларускую "народовосьць" [107].

**На 11 дзень суда** выступаў сведка Яскарынскі, супрацоўнік лідскай паліцыі. Ён паведаміў, што грамадоўцы вялі ўзмоцненую агітацыю, скіраваную на адрыў Заходняй Беларусі ад Польшчы, а сябры КПЗБ, тыя ж грамадоўцы па меркаванні сведкі, шпіёнілі за Лідскім аэрадромам. Абвінавачаны Салыга служыў у Чырвонай Арміі, што бачна з вынікаў перетрусу ў ягонай хаце. Салыга раіў сялянам не плаціць падаткаў, бо Заходняя Беларусь усяроўна аддзеліцца ад Польшчы. У адказ, Салыга патлумачыў, што дзейнічаў у межах легальнай праграмы "Грамады", якая меркавала дабіцца аддзялення ад Польшчы дэмакратычным, парламенцкім шляхам[108].

**На 27 дзень суда** (10.04.1928) сведка Сымон Коўшыц - войт Лябёдскай гміны расказаў, што заўважаў цяжкасці пры спагнанні падаткаў. Па яго словах Вінцук Салыга належаў да Грамады і арганізаваў гурткі на абшары гміны. У гміну прыходзіла шмат беларускіх газет, але па камандзе войта яны знішчаліся.

**На наступны дзень** выявілася, што падсудны Салыга яшчэ да Першай сусветнай вайны скончыў 6-ці месячную тэхнічную школу.

Паліцыянт-сведка Вацлаў Тамашэвіч расказаў, што чуў, як Салыга расказваў людзям аб будучай самастойнай Беларускай дзяржаве.

Сведка Матэрка, канфідэнт паліцыі раней назіраў за грамадоўцамі на тэрыторыі Лябёдскай гміны і расказаў суду, што Салыга запрашаў сяброў у Грамаду і дадаў, што настрой у гміне непрыхільны да Польшчы. Так сама ён расказаў, што камуністы Руды Сымон і Мацюк кіравалі гуртком Грамады ў вёсцы Малышы. На што Салыга сведчыў суду, што гуртка ў Малышах не было, а Руды і Мацюк не былі сябрамі Грамады.

Сведка Махэцкі таксама расказаў, што ў сувязі з арганізацыяй у 1926 г. гурткоў ППС Салыга сказаў Махэцкаму: "Усё гэта глупства, лепей узяць у рукі карабін". Акрамя таго Салыга быў старастам вёскі і на гэтай пасадзе дамагаўся беларускіх школ, і тых школ нават было шмат адчынена. Тады вядомы беларускі дзеяч Браніслаў Тарашкевіч запытаў па-польску і беларуску пра колькасць беларускіх школ у Лідскім павеце. Махэцкі на запыт па-польску не адказаў, а на запыт па-беларуску давёў, што нічога не разумее. Пасля чаго, Тарашевіч запытаўся ў сведкі, як той разумеў прамовы Салыгі, калі не ведае беларускую мову? Сведка зноў маўчаў. Тады Тарашкевіч звярнуўся да суддзі са словамі: "Калі ж мы скончым гэтую камедыю?". Суддзя загадаў выдаліць Тарашкевіча з зала суда.

**На 30-ты дзень працэсу** (13.06.28) сведка Сасноўскі, канфідэнт паліцыі, расказаў суду, што Салыга быў абраны старшынём Грамады Лідскага павета. Яны жадалі адарваць Заходнюю Беларусь ад Польшчы, а Усходнюю ад Расіі і стварыць незалежную дзяржаву Беларусь - сказаў канфідэнт. Некаторыя сябры Грамады вялі камуністычную дзейнасць і былі за гэта арыштаваны (Мацюк Сымон, Пракаповіч і інш.). Потым сведка паказаў, што пасля ліквідацыі Грамады ў Лідзе выявілася, што Цэнтральны Сакратарыят Грамады меўся ўзяць у свае рукі кіраўніцтва беларускім рэвалюцыйным рухам. Гэта стала вядома са знойдзенага ліста Цэнтральнага Сакратарыяту падпісанага лічбай, якая адпавядала нумару пасведчання абвінавачванага Крупіцы. Сведка чуў пра планаванае на весну паўстанне. Абарона паказала, што ліст, пра які казаў сведка - гэта толькі пратэст супраць арышту паслоў у Сойм Мятлы і Валошына.

Потым сведка-паліцыянт Шаўлюк расказаў пра Шымкевіча - арганізатара гуртка Грамады ў Ліпнішках[109].

**На 49-ты дзень працэсу** ў абвінаваўчым выступе пракурор Калапскі давёў, што *"Лідскі павет рэпрэзентуюць падсудныя Салыга, Мармыш і Крупіца. Салыга з'яўляецца кандыдатам на пасаду "старасты" ў Лідзе, выступае супраць касцельных шлюбаў. Варожа ставіцца да польскай дзяржаўнасці ... .*

*Крупіца і Мармыш абодва былі ў Савецкай Расіі. Крупіца пісаў у лісце да кіраўніцтва Грамады, што калі трэба, дык "выступіць супраць праклятай польскай буржуазіі са зброяй у руках ці нават з косамі"*[110].

22 траўня 1928 г. працэс над грамадоўцамі закончыўся. Агулам атрымалі пакаранне 37 чалавек. Прыгавор: паслу ад Лідчыны Рак-Міхайлоўскаму і іншым лідарам Грамады (Тарашкевічу, Валошыну, Мятле) - 12 год турмы строгага рэжыму. Сярод іншых грамадоўцаў, лідзяніну Салыгу - 4 гады турмы строгага рэжыму. Апраўдана 19 чалавек, сярод іх лідзяне Крупіца і Мармыш[111].

Праз некалькі гадоў шэраг актывістаў Грамады былі абмененыя Польшчай на бальшавіцкіх вязняў і перададзеныя ў СССР, дзе яны былі расстраляныя як "польскія шпіёны".

Колькасць чальцоў Грамады ў Заходняй Беларусі перавышала колькасць камуністаў ва Ўсходняй. Прычым, грамадоўцы рызыкавалі ўсім, а камуністы будавалі сваю, як яны спадзяваліся, спакойную кар'еру ў кіроўнай партыі. Беларускі нацыянальны ўздым пачаўся пры канцы XIX ст. са значным спазненнем у параўнанні з суседзямі і дасягнуў свайго максімальнага ўздыму пры канцы 1920-х гг. Нездарма, польскія і савецкія ўлады амаль што сінхронна пачалі знішчаць беларускі нацыянальны рух і беларускую культуру.

Трэба, канешне ж, улічваць сталае правакаванне з Масквы беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі ў бок экстрэмізму і камунізму. І ўсё ж заходнія беларусы ў сваёй масе адносна ціхамірна дажылі да 1939 г., не ведаючы савецкіх жахаў, бо далёка было польскай уладзе да савецкай у справе рэпрэсій і пагалоўнага знішчэння носьбітаў беларускай культуры ...

**Салыга Вікенці Антонавіч** (22.02.1896 - 1983), нарадзіўся у в. Феліксава. Вучыўся ў народнай вучэльні. У маладосці паехаў працаваць на Пуцілаўскі завод ў Санкт-Пецярбургу. На пачатку Першай сусветнай вайны быў прызваны на фронт. У 1919 г. вучыўся ў вайсковым тэхнікуме пры Смаленскім палітэхнічным інстытуце. У 1923 г. з "бальшавіцкага раю" вярнуўся на радзіму, у Феліксава, пабудаваў кузню і працаваў кавалём. Ажаніўся з Марыяй Антонаўнай. З судовай справы бачна, што быў абраны старастам вёскі Феліксава. Хутка стаў актыўным грамадоўцам. 26 верасня 1926 г. быў абраны старшынём Лідскага павятовага камітэта Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Арыштаваны ў ноч 15 студзеня 1927 г., падчас следства сядзеў у Віленскай турме "Лукішкі". Пасля вынясення прысуду ў 4 гады турмы, В.А. Салыга адбываў тэрмін у турмах Ліды, Вільні, ва "Вронках" за Познанню. У 1929 г. у Вільні адбыўся апеляцыйны суд па справе асуджаных дзеячоў і актывістаў Грамады які скараціў Салыгу тэрмін зняволення да двух гадоў. Пасля адбыцця зняволення з 1930 па 1939 г. працаваў кавалём, быў пад сталым кантролем паліцыі, неаднаразова збіваўся ў пастарунках. У верасні 1939 г. прызначаны старшынём Лябёдскага валаснога выканкама, потым быў старшынём Мала-Мажэйкаўскага сельсавета. Але чалавек, які змагаўся за незалежную Беларусь (паліцэйскі канфідэнт падчас судовага разбіральніцтва сказаў пра яго: "Яны жадалі адарваць Заходнюю Беларусь ад Польшчы, а Усходнюю ад Расіі і стварыць незалежную дзяржаву Беларусь") не мог доўгі час быць на волі. 26 красавіка 1940 г. арыштаваны, асуджаны і вывезены ў Архангельскую вобласць. Потым быў накіраваны ў польскую армію Андэрса. Патрапіў у Ірак, але тут за ягоную дзейнасць ў 1939 г. польскі ваенна-палявы суд прыгаварыў яго да 3,5 гадоў зняволення, пры перавозцы з Ірака праз Іран у Палестыну, былы грамадовец уцёк з-пад ад варты. Наступныя 14 гадоў Салыга пражыў у Тэгеране, тут атрымаў савецкае грамадзянства. Толькі ў жніўні 1957 г., пасля смерці Сталіна, вярнуўся ў Феліксава, на радзіму: дочкі замужам далёка ад бацькоўскай хаты, сын памёр. Каля года прапрацаваў у калгасе "Шлях да камунізму" кавалём, але з-за дрэннага стану здароўя пакінуў працу. Пераехаў у Ліду, працаваў сталяром пры Лідскім доме афіцэраў. Маючы узрост 65 гадоў, з-за непраца-здольнасці, пажадаў выйсці на пенсію. Але яму налічылі толькі 8 гадоў працоўнага стажу. Шмат разоў падаваў прашэнні і апеляцыі, але савецкая ўлада так і не прызначыла старому грамадоўцу пенсію. Апошнія дваццаць гадоў жыцця правёў у дамах састарэлых.



***Вікенці Салыга ў Феліксаве пасля вяртання з Ірана***

Да незалежнай Беларусі не дажыў 8 гадоў.

### *2.2. Таварыства беларускай школы*

ТБШ імкнулася распаўсюджваць веды і дапамагаць асвеце сярод беларусаў, пашыраць беларускія

школы і беларускую асвету, у статуце арганізацыі было напісана: *"Пашыраць і памагаць асвеце ў беларускім нацыянальным, людскім і хрысціянскім духу"*.

У лютым 1927 г. сябры ТБШ г. Ліды: Ніканoвіч Сцяпан, Гадлеўскі Міхась і Зяновіч Уладзімір перадалі 2 злотыя на выданне беларускай газеты "Сялянская Ніва" [112].

У верасні 1927 г. беларуская газета "Наша Праўда" паведаміла пра спробу стварэння гуртка ТБШ у вёсцы Малышы. Заява пра гэта была пададзена солтысу Якубу Бандарчуку, *"каб дапамог. Але солтыс ... панёс гэную заяву ў гміну і аддаў пісару, а той даў ёй "законны" ход: паліцыя кінулася рабіць у сялян вобыскі, шукаючы "крамолы" і "выўротовой" работы. Селяніна Івана Гарбіну з Вялікага Сяла нават заарыштавалі, і ён цэлы тыдзень у самую рабочую пару прабадзяўся па паліцэйскіх пастарунках"* [113].

18 сакавіка 1928 г. гурток ТБШ у вёсцы Сялец ладзіў спектакль-вечарыну. Паказвалася п'еса "Пан-міністар". У перапынку граў струнны аркестар. Пасля спектаклю дэкламаваліся беларускія вершы, і вечар закончыўся спевам беларускага гімну "Ад веку мы спалі!" [114].

Найбольш вядомым сябрам ТБШ быў лідскі радны Міхал Шымялевіч - чалавек-лягенда.

### *2.3. КПЗБ*

Камуністычныя арганізацыі ў Польшчы былі па-за законам

У красавіку 1926 г. выязная сесія Акруговага віленскага суда разглядала справу сяброў камуністычнай арганізацыі, якая дзейнічала ў Лідзе і ваколіцах. Перад судом паўсталі кіраўнік арганізацыі Клінцэвіч з шараговымі чальцамі Карнавухам, Шыдлоўскім і Анжыным. Пры тым што суд меў усе неабходныя доказы, усе абвінавачаныя не прызналі сваё сяброўства ў камуністычнай партыі. Паліцыя знайшла шмат дакументаў, якія даказвалі віну падсудных: партыйныя пасведчанні, падпісаныя Клінцэвічам, розныя партыйныя цыркуляры, дастаўленыя ў Ліду з Менска, дакументы, якія паказвалі неаднаразовую прысутнасць падсудных у Менску і г.д. Абвінавачваныя актыўна вялі партыйную працу на Лідчыне: стваралі камсамольскія ячэйкі, вялі агітацыю і выконвалі партыйныя даручэнні, атрыманыя з Менска. Сведкамі на працэсе выступалі супрацоўнікі паліцыі. Дарэчы, пракурор заўважыў, што згодна з апошнімі партыйнымі інструкцыямі камуністы не павінны захоўваць партыйныя пасведчанні ці іншыя дакументы, якія паказваюць іх сувязь з камуністычнай партыяй. Адвакат, ратуючы падсудных, даказваў, што Карнавух і Шыдлоўскі (абодва 1903 г.н.) пераходзілі польска-савецкую мяжу, ратуючыся ад прызыву ў польскае войска, што было значна меншай віной, чым прыналежнасць да КПЗБ. У выніку Клінцэвіч быў асуджаны на 3, а іншыя камуністы на 2 гады турмы[115].

У ноч з 30 красавіка на 1 траўня 1927 г. ў Жалудку на тэлеграфным слупе быў вывешаны чырвоны сцяг з нашытымі на ім белай стужкай і камуністычнымі лозунгамі. Раніцай паліцыя зняла сцяг і знайшла пад слупом гузік ад паліто. Па гузіку быў знойдзены гаспадар паліто, і такім чынам быў арыштаваны ўвесь камітэт камуністычнай моладзі Жалудка, а потым і ўвесь павятовы камітэт камуністычнай моладзі Лідчыны. У Лідзе арыштаваны: Фані Шмуйловіч (узрост 21 год), Лейба Разейнштайн (18 гадоў), Хаім Кур (19 гадоў). У Жалудку арыштаваны: Мойша Казарэўскі (20 гадоў), Шэпсэль Рэмза (18 гадоў), Цадзік Іцэнсон (21 год) і Шлёма Левін (18 гадоў). З Жалудоцкага камітэта моладзі ад паліцыі паспеў уцячы толькі Гірш Жырнянскі. У Шчучыне была арыштавана амаль што ўся камсамольская ячэйка: Мордка Рубенштэйн (21 год), Ізраіль Дукштайн (20 гадоў), Бася Левіт, Фейга Лістоўская, Міхал Карновік, Юльян Блюднік, Абрам Аркін. Уцякла ад паліцыі толькі Рына Хараноўская[116]. У Ражанцы быў арыштаваны сакратар моладзевай ячэйкі Хаскель Жукоўскі[117].

У ліпені 1927 г. паліцыяй быў ліквідаваны павятовы камітэту КПЗБ. Камуністы адразу стварылі новы камітэт, але ўжо пры канцы жніўня быў арыштаваны сакратар гэтага, толькі што створанага павятовага камітэта КПЗБ, Пётр Бялькевіч. Арышту Бялькевіча папярэднічалі арышты шараговых камуністаў у вёсках Малышы і Бурцічы[118].

На пачатку сакавіка 1928 г. у Лідзе былі арыштаваны сябры КПЗБ Кастусь Кеўра і Меер Сальчанскі, пад часператрусу ў іх былі знойдзены важныя дакументы. *"Паліцыя арыштавала камуністаў, калі яны распаўсюджвалі антыдзяржаўныя ўлёткі"* [119]. Праз некалькі тыдняў паліцыя выкрыла ў Лідзе павятовы камітэт КПЗБ. Былі арыштаваны Н. Юшчынскі, К. Матусевіч, П. Пупко, К. і І. Баярскія, С. Фрыдман, І. Гагоўскі, І. Любецкі, Б. Троцкі, І. Войткім, А. Любецкі[120]. Паліцыя захапіла дакументы, якія сведчылі пра кантакты лідскіх камуністаў з Менскам, шмат нелегальнай літаратуры і ўлёткі[121].

Святы 1 траўня ў 1928 г. прайшлі спакойна, у мітынгу прынялі ўдзел толькі каля 100 чалавек[122]. Аднак на кастрычніцкія святы 1928 г. *"падрыўныя элементы планавалі правесці ў горадзе і павеце вялікія маніфестацыі. Ва ўсіх мясцовасцях, найбольш у самой Лідзе, у Эйшышках і Воранаве раскідана вялізарны лік камуністычнай літаратуры. Адначасна камуністычныя агітатары падбухторвалі людзей да выступленняў ..."* [123].

У верасні 1929 г. у Лідзе ў пачаўся суд над камуністамі, і прэса адразу назвала гэты працэс "сенсацыйным". Пад час суда жыхар Жалудка Фішаль Байкальскі расказаў, што перад 1-м траўнем 1927 г. пазычыў сваё паліто Шэпсалю Рэмзу. Рэмза быў апрануты ў тое паліто, калі вывешваў чырвоны сцяг на слупе і страціў гузік. Па гэтым гузіку паліцыя знайшла гаспадара паліто, а Шэпсаль Рэмза падчас допытаў расказаў пра камуністычную арганізацыю ў Жалудку і паказаў месца партыйных збораў у гаі каля мястэчка. Тады былі арыштаваны ўсе жалудоцкія камуністы, а праз іх паліцыя выйшла на камуністаў іншых населеных пунктаў Лідчыны. Такім чынам была ліквідавана практычна ўся партыйная арганізацыя павета, 36 чалавек селі на лаву

падсудных.

Віленская калегія акружнога суда ў Лідзе прыгаварыла:

- Мордку Рубенштэйна, Фаню Шмуйловіч, Хаіма Кура, Лейбу Разенштайна і Мойшу Казарэўскага да 6 гадоў турмы ўзмоцненага рэжыму;

- Шэпсаля Рэмзу, Цадзіка Іцэнсона, Шлёму Левіна, Хаскеля Жукоўскага, Абрама Аркіна, Ізраіля Дукштайна, Элу Лінянскі і Вульфа Зярніцкага да 5 гадоў турмы ўзмоцненага рэжыму;

- Давіда Віршубскага, Уладзіміра Рудага, Юзафа Пракаповіча, Юдаля Гальперна, Пятра Бюковіча і Мойшу Закройскага да 4 гадоў турмы;

- Сямёна Мацюка да 3 гадоў турмы;

- Міхала Лаўрукевіча, Уладзіслава Смецюха, Паўла Міцкевіча да 2 гадоў турмы.

- Фейгу Лістоўскую і Басю Левіт да 6 месяцаў турмы.

Дзевяць чалавек суд прызнаў невінаватымі[124].

### *2.4. Іншыя беларускія арганізацыі*

У беларускай газеце "Беларускае Слова", якая належала паланафільскай Беларускай Нацыянальнай Радзе, жыхар Ліды пісаў: *"У нас моцна пачала працаваць Грамада і ахапіла вялікія абшары. Нашая ж газета перастала выходзіць нармальна, бо Бел. Нац. Рада ня мае сродкаў. У гэты момант, мне здаецца, трэба вось што рабіць. Нам усім - як працаўнікам, сябрам і прыхільнікам трэба на гэтую мэту злажыць патрэбную суму грошаў, хто сколькі можа ... я пэўны, што беларусы адклікнуцца і падтрымаюць сваю нацыянальную газету* (бо) *Грамада на бальшавіцкія грошы шле і раздае дарма сваю атручаную газету і літаратуру ў вялікім ліку"* [125]. Аўтар "Праваслаўны беларус" з Лідчыны у той жа газеце празываў хрысціян усіх канфесій змагацца з камуністамі, бо *"камунізм гэта жыццё без Бога ... ягоная мэта - зьняважыць вобраз Хрыста і Яго вучэньне ... . У сумежнай нам Маскоўшчыне замучылі шмат паважаных духоўнікаў ... а так сама веруючых хрысціян, якія баранілі сваю веру і сьвятыні. Лічба гэтых мучанікаў дасягае страшэннай цыфры. ... Усе гэта церпяць і нашыя браты-беларусы з Усходняй Беларусі"* [126].

На акруговай канферэнцыі Беларускай Нацыянальнай Рады Навагрудскага ваяводства, якая 8 лютага 1927 г. адбылася ў Баранавічах, аб працы Рады і створанай ёю арганізацыі "Прасвета" выступілі Старшыня рады А. Паўлюкевіч і рэдактар "Беларускага Слова" Тодар Вернікоўскі. Сярод іншых прадстаўнікоў рэгіёнаў, выступіў кіраўнік "Прасветы" Лідчыны Маеўскі, *"які заарганізаваў сільны гурток "Прасьветы" у складзе некалькіх дзесяткаў сяброў у Лідзе, заарганізаваў пры ім чытальню-бібліятэку, шырока пусьціў па ваколічных вёсках нашу газету. Апрача таго п. Маеўскі прадставіў многа цікавых і цэнных праэктаў, між іншым аб патрэбе арганізацыі "Беларускага Праваслаўнага Брацтва", які прыняты канферэнцыяй"* [127]. У тым жа нумары газеты кіраўнік лідскай "Прасветы" Кастусь Маеўскі надрукаваў невялікі артыкул *(гл. дадаткі)*.

У траўні 1927 г. паведамлялася пра стварэнне гуртка беларускага таварыства "Прасвета" ў вёсцы Гезгалы Беліцкай гміны. Пры гуртку планавалася адкрыць бібліятэку, гурток павінен быў ладзіць аматарскія спектаклі. Дэкларавалася, што ніякай палітыкай гурток займацца не будзе[128].

### *2.5. ППС*

Рэвалюцыйнымі і сацыялістычнымі былі не толькі беларускія партыі. У 1920-я гг. на Лідчыне актыўна працавала Польская Сацыялістычная Партыя (ППС). Сядзіба партыі месцілася па адрасе: Слабодка 1/3, старшынём партыі быў Францішак Тамашэўскі. Пры партыі дзейнічаў прафсаюз Звяз звязаў, Клуб рабочай моладзі і Таварыства рабочага ўніверсітэта, якое мела ў горадзе сваю бібліятэку па вуліцы Сянкевіча.

1 траўня 1926 г. прайшла першамайская дэманстрацыя, якую арганізавала ППС: *"Шмат прыйшло сялян з вёсак, людзей было з паўтысячы. Пэпээсы ўсьцешыліся, але не надоўга. Разышоўся слых, што будзе ў Лідзе пасол Балін з "Незалежнай Партыі Хлопскай", а яго пэпээсаўцы надта ня любяць ... . Як толькі скончылі гаварыць іхныя два прамоўцы, хтосьці крыкнуў, каб далі слова паслу Баліну - а таго навет у памяшканьне ня пусьцілі. Падняўся шум, бура воплескаў, дамаганьне каб дапусьцілі Баліна, а на пэпээсы крычалі: угадоўцы! далоў! і г.д. Пэпээсы, бачучы, што блага, абвесьцілі сход зачыненым ... . пэпээсы гаварылі па-польску, мала хто іх разумеў. Лаялі яны бальшавікоў і хвалілі сябе. ... Тутэйшыя сяляне і работнікі лічаць сялянска-работніцкую Грамаду сваёй арганізацыяй, бо-ж яна запраўды бароніць інтарэсы працуючых мас"* [129].

Пра прапаганду ППС у Беліцы паведамляла газета "Беларуская Ніва" [130].

Відочна, што па ўплывах на насельніцтва Грамада перамагала ППС, і з другой паловы 1926 г. беларуская прэса пачала стала друкаваць лісты былых "пэпээсаўцаў", якія выйшлі з партыі і далучыліся да Беларускай Грамады. Напрыклад, у снежні 1926 г. у газеце "Наша Справа" надрукаваны лісты былых "пэпээсаўцаў" Ігната Ганевіча з вёскі Ольжава і А. Кліма з вёскі Вялікія Канюшаны[131]. У выніку, у лютым 1929 г. сярод сяброў лідскага аддзелу ППС адбыўся раскол. У партыі ўзнікла "рэвалюцыйная" фракцыя, якая выбрала сабе асобную павятовую ўправу ў складзе Пятра Міхалка, Аляксандра Сцяснеўскага, Юльяна Жалудзевіча, Г. Майсевіча і прыняла адозву да сяброў партыі і працоўных павета[132]. Хутка ў Лідзе быў арыштаваны паліцыяй сакратар левіцы ППС у Вільні Ваяводскі, які знаходзіўся ў нашым горадзе па справах сваёй фракцыі[133].

У 1929 г. святкаванне 1 траўня ў Лідзе ладзілі пэпээсаўцы. Каля 400 чалавек прайшло па вуліцах горада да месца мітынгу. *"Прамовы аратараў былі наогул спакойныя. Пасля мітынгу, 3 піякі пачалі выкрыкваць антыдзяржаўныя лозунгі, у выніку, з дазволу пракурора, яны былі арыштаваны"* [134].

***2.6. Іншыя арганізацыі***

На Лідчыне, акрамя ППС, дзейнічалі і іншыя польскія партыі сацыялістычнай арыентацыі.

Польскай народнай партыяй "Пяст" (Polskie Stronnictwo Ludowe "Piast") кіраваў у Лідзе пасол у Сойм Адольф Дуброўнік. Пасол Дуброўнік у 1926 г. выступаючы ў Белагрудзе заклікаў сялян самавольна адбіраць зямлю ў абшарнікаў. А пасля выступу Дуброўніка ў Жалудку сяляне ўзбунтаваліся і падпалілі лес разам з лясніцтвам, якія належалі княгіні Чацвярцінскай.

Але яшчэ больш радыкальным была Польская народная партыя "Вызваленне", якая мела свайго пасла ў Сойм Баліна. Гэтыя партыі ў сваёй дзейнасці выкарыстоўвалі не толькі польскую але і беларускую мову. Так, у 1925 г. менавіта па-беларуску выступаў перад сялянамі Беліцы пасол Балін, намаўляючы ваколічных сялян супраць зямельнай рэформы.

Нездарма кансерватыўная віленская газета "Слова" пісала аб працы паслоў гэтых партый на Лідчыне: *"Добра было б у Лідзе, быў бы ідэальны спакой, калі б не ... розныя авантуры. Хто чыніць непакой? Хто вінаваты? ... паслы з сялянскіх партый. Яны пляжаць жыццё, яны ствараюць неспакой. Яны адрываюць спакойны люд ад працы, баламуцяць яго на свой спосаб. ... Яны ..., паслы, ... разгойдваюць спакой грамадства і ўлад, і што найгорш - гэтая зграя спусташальнікаў заўжды непакараная"* [135].

Да польскіх правых арганізацый, якія арыентаваліся на Нацыянальна-дэмакратычную партыю Рамана Дмоўскага, адносіўся Лідскі Народна-Нацыянальны Звяз (Zwiazek Ludowo-Narodowy). Найбольш вядомы дзеячам гэтай партыі ў Лідзе быў ксёндз-вікары Лазоўскі. Гэтай жа, "нарадовай", ідэалогіі прытрымліваліся і лідскія аддзяленні Нацыянальнай арганізацыі жанчын і Таварыства польскіх купцоў.

Пасля травеньскага перавароту Юзафа Пілсудскага, наймацнейшай польскай арганізацыяй на Лідчыне стаў "Беспартыйны блок працы разам з урадам" (BBWR)[136]. Структура блока ў Лідзе арганізацыйна аформілася на пачатку жніўня 1928 г., узначаліў арганізацыю доктар Сапоцька, сакратаром аддзела стаў настаўнік Казіцкі[137].

Таксама на Лідчыне працавалі фармальна непалітычныя, грамадскія арганізацыі: Звяз асаднікаў, Звяз дэмабілізаваных добраахвотнікаў, Звяз ваенных інвалідаў (узначальваў - Глушанін), Звяз Стральцоў, Польскі звяз чыгуначнікаў, Звяз жыхароў Ліды, Таварыства афіцэраў запасу (у Лідзе з 1925 г., ва ўправу ўваходзілі паручнік Жалігоўскі, доктар Казубоўскі, ротмістар Дэй, паручнікі Мацевіч і Рыжы). Усе гэтыя арганізацыі разам падтрымлівалі "Беспартыйны блок працы разам з урадам" Пілсудскага[138].

Адну з самых шматлікіх этнічных груп на Лідчыне складала яўрэйскае насельніцтва. Прытрымліваючыся шматвяковай традыцыі, яўрэі жылі адасоблена ад хрысціян па сваіх законах, размаўлялі на сваёй мове, берaглі і захоўвалі сваю духоўную культуру. Меліся яўрэйскія розныя палітычныя партыі, але найвялікшым аўтарытэтам і падтрымкай яўрэйскай грамадскасці карысталіся сіяністы, якія імкнуліся да стварэння ў Палестыне яўрэйскай дзяржавы, і таму знаходжанне яўрэяў у Заходняй Беларусі разглядалася імі як часовае.

**Спасылкі і заўвагі:**

[1] Ежы Путрамант. Паўвеку. Пераклад з польскай Станіслава Судніка // Лідскі Летапісец № 1(53) - 2011. С. 61-62.

[2] Slowo № 246 (959), 28 pazdziernika 1925.

[3] Kurjer Wilenski № 241(990), 21 pazdziernika 1927.

[4] Беларуская Справа № 7, 14 траўня 1926.

[5] Slowo № 92 (509), 24 kwietnia 1924.

[6] Slowo № 119 (536), 27 maja 1924.

[7] Slowo № 149 (863), 5 lipca 1925.

[8] Kurjer Wilenski № 14 (1061), 19 stycznia 1928.

[9] Kurjer Wilenski № 50 (1097), 2 marca 1928.

[10] Slowo № 66 (1677), 21 marca 1928.

[11] Kurjer Wilenski № 130 (1177), 12 czerwca 1928.

[12] Там жа.

[13] Slowo № 95 (2005), 25 kwietnia 1929.

[14] Slowo № 82 (1992), 10 kwietnia 1929.

[15] Slowo № 241 (1852), 19 pazdziernika 1928.

[16] Zycie Nowogrodzkie № 4 (361), 4 stycznia 1929.

[17] Slowo № 25 (1935), 30 stycznia 1929.

[18] Slowo № 94 (2004), 24 kwietnia 1929.

[19] Kurjer Wilenski № 174 (1519), 2 sierpnia 1929.

[20] Slowo № 190 (2100), 21 sierpnia 1929.

[21] Kurjer Wilenski № 220 (1565), 26 wrzesnia 1929.

[22] Там жа.

[23] Борка, А.І. Мясцовыя органы дзяржаўнага кіравання і самакіравання ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.). Гродна, 2011. С. 23-28.

[24] Там жа. С. 32-34, 37.

[25] Борка, А.І. Мясцовыя органы дзяржаўнага кіравання і самакіравання ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.). Гродна, 2011. С. 37.

[26] Zycie Nowogrodzkie № 301 (658), 1 listopada 1929.

[27] Zycie Nowogrodzkie № 63 (777), 15 marca 1930.

[28] Zycie Nowogrodzkie № 199 (913), 29 sierpnia 1930.

[29] Мой цесць, Іосіф Іосіфавіч Хруль (1929-2013) успамінаў: *"... сын Адама, таксама Адам, жыў з намі цераз плот з маці. І ён трапіў у армію перад самай Сусветнай вайной, у гвардыю, гвардыю царыцы. Служыў у Магілёве. Служыў у штабе. Прысвоілі яму афіцэрскае званне. Пры бальшавіках, пасадзілі яго начальнікам ваенкамата дзесьці ў Сібіры. Сядзеў, як мыш пад венікам. Але на бальшавікоў наглядзеўся. Што там выраблялася, страшная справа! Хапалі ўсіх. У 1924 годзе вярнуўся сюды. З'ездзіў у Амерыку, атрымаў спадчыну па бацьку. Вярнуўся назад. Яго тры разы войтам выбіралі ў Радуні. Закон быў такі, як выбраў народ - паўгода павінен адпрацаваць. Потым можаш і ў дэмісію падацца. У 1939 г. яго бальшавікі не зачапілі, хаця ніводнага жывога войта не пакінулі. ... А Адам, як Саветы прыйшлі, дык працаваў бухгалтарам у райспажыўсаюзе ў Радуні. А калі ў калгасы сагналі, яго бухгалтарам у калгас перавялі. Адам мне і пра род наш шляхецкі расказваў. Усё, што я чуў пра род - гэта ад Адама, ён жа мне - траюрадны брат. Розніца ва ўзросце вялікая была, але ён любіў са мной гаварыць, ён мне расказваў пра вайну, Расею, бальшавікоў, Сібір"* - Гл.: *Лаўрэш Леанід. Размова са старым шляхціцам //*

*Лідскі летапісец, № 2 (58)-2012. С. 55.*

30 Там жа. С. 44-51.

31 Там жа. С. 61-64.

32 Народная Справа № 38, 27 лістапада 1926.

33 Наша Справа № 2, 5 студзеня 1927.

34 Борка, А.І. Мясцовыя органы дзяржаўнага кіравання і самакіравання ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.). Гродна, 2011. С. 65.

35 Там жа. С. 73-75, 80-81.

36 Zycie Nowogrodzkie № 265 (299), 30 pazdziernika 1928.

37 Slowo № 216 (930), 23 wrzesnia 1925.

38 Slowo № 225 (939), 3 pazdziernika 1925.

39 Slowo № 45 (1955), 23 lutego 1929.

40 Kurjer Wilenski №145 (1490) 28 czerwca 1929.

41 Nowogrodzki Dziennik Wojewodzki № 2, 28 lutego 1926.

42 Slowo № 116 (1126), 20 maja 1926.

43 Kurjer Wilenski № 154 (903), 10 lipca 1927.

44 Slowo № 69 (1382), 25 marca 1927.

45 Народ № 17, 30 верасня 1928.

46 Slowo № 85 (1995), 13 kwietnia 1929.

47 Slowo № 87 (1997), 16 kwietnia 1929.

48 Slowo № 25 (739), 31 stycznia 1925.; Slowo № 28 (742), 4 lutego 1925.

49 Slowo № 245 (1255), 20 pazdziernika 1926.

50 Slowo № 255 (1568), 8 listopada1927.

51 Slowo № 150 (864), 7 lipca 1925.

52 Slowo № 231 (944), 10 pazdziernika 1925.

53 Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 50.

54 Slowo № 231 (944), 10 pazdziernika 1925.

55 Slowo № 72 (1683), 28 marca 1928.

56 Zycie Nowogrodzkie № 152 (186), 9 lipca 1928.

57 Slowo № 177 (2087), 4 sierpnia 1929.

58 Slowo № 15 (1328), 20 stycznia 1927.

59 Там жа.

60 Беларуская Ніва № 4, 28 лістапада 1925.

61 Slowo № 124 (1437), 2 czerwca 1927.

62 Slowo № 130 (1443), 10 czerwca 1927.

63 Наша Праўда № 32, 23 ліпеня 1927 г.

64 Наша Праўда № 34, 30 ліпеня 1927 г.

65 Сялянская Ніва № 57 (108), 23 ліпеня 1927.

66 Slowo № 166 (1479), 24 lipca 1927.

67 Kurjer Wilenski № 175 (924), 4 sierpnia 1927.

68 Kurjer Wilenski № 182 (931), 12 sierpnia 1927.

69 Zycie Nowogrodzkie № 293 (650), 24 pazdziernika 1929.

70 Беларускае Слова № 25 (54), 29 ліпеня 1927.

71 Сялянская Ніва № 51 (102), 2 ліпеня 1927.

72 Сялянская Ніва № 58 (101), 6 жніўня 1927.

73 Беларускае Слова № 37 (66), 19 лістапада 1927.

74 Грамадзянін № 14, 30 ліпеня 1928.

75 Slowo № 3 (1614), 4 stycznia 1928.

76 Slowo № 4 (1615), 5 stycznia 1928.

77 Сялянская Ніва № 10 (157), 28 студзеня 1928.

78 Slowo № 16 (1628), 20 stycznia 1928.

79 Slowo № 17 (1628), 21 stycznia 1928.

80 Slowo № 28 (1638), 2 lutego 1928.

81 Сялянская Ніва № 14 (161), 8 лютага 1928.

82 Сялянская Ніва №16 (163), 15 лютага 1928.

83 Рэха Працы № 1, 1 верасня 1928.

84 Kurjer Wilenski № 38 (1085), 17 lutego 1928.

85 Сялянская Ніва № 18 (165), 22 лютага 1928.

86 Сялянская Ніва № 19 (166), 25 лютага 1928.

87 Slowo № 54 (1665), 6 marca 1928.; Slowo № 55 (1666), 7 marca 1928.

88 Сялянская Ніва № 23 (170), 14 сакавіка 1928.

89 Народная Справа № 8, 14 жніўня 1926.

90 Kurjer Wilenski № 39 (1086), 18 lutego 1928.

91 Kurjer Wilenski № 54 (1101), 7 marca 1928.

92 Kurjer Wilenski № 131 (1178), 13 czerwca 1928.

93 Kurjer Wilenski № 136 (1183), 19 czerwca 1928.

94 Kurjer Wilenski № 143 (1190), 27 czerwca 1928.

95 Slowo № 154 (2064), 9 lipca 1929.

96 Народная Справа № 5, 7 жніўня 1926.

97 Народная Справа № 13, 31 жніўня 1926.

98 Народная Справа № 14, 4 верасня 1926.

99 Народная Справа № 17, 15 верасня 1926.

100 Slowo № 157 (1167), 9 lipca 1926.

101 Народная Справа № 20, 21 верасня 1926.

102 Народная Справа № 22, 7 кастрычніка 1926.

103 Slowo № 279 (1289), 30 listopada 1926.

104 Наша Справа № 6, 19 студзеня 1927.

105 Slowo № 26 (1339), 2 lutego 1927.

106 Воля Працы № 4, 22 сакавіка 1928.

107 Воля Працы № 5, 28 сакавіка 1928.

108 Slowo № 64(1675), 17 marca 1928.

109 Голас Працы № 4, 25 красавіка 1928.

110 Slowo №106 (1717), 10 maja 1928.

111 Голас Працы № 13, 26 траўня 1928.

112 Сялянская Ніва № 13 (64), 9 лютага 1927.

113 Наша Праўда № 45, 7 верасня 1927.

114 Голас Працы № 3, 21 красавіка 1928.

115 Slowo № 82 (1092), 11 kwietnia 1926.

116 Kurjer Wilenski № 107 (856), 12 maja 1927.

117 Kurjer Wilenski № 106 (855), 11 maja 1927.

118 Kurjer Wilenski № 194 (943), 27 sierpnia 1927.

119 Kurjer Wilenski № 54 (1101), 7 marca 1928.

120 Воля Праўды № 4, 22 сакавіка 1928.

121 Kurjer Wilenski № 63 (1110), 17 marca 1928.

122 Slowo № 100 (1711), 2 maja 1928.

123 Slowo № 237 (1848), 14 pazdziernika 1928.

124 Kurjer Wilenski № 214 (1559), 19 wrzesnia 1929.

125 Беларускае Слова № 28, 14 снежня 1926.

126 Беларускае Слова № 11, 24 красавіка 1926.

127 Беларускае Слова № 5 (34), 17 лютага 1926.

128 Беларускае Слова № 14 (43), 8 траўня 1927.

129 Беларуская Справа № 7, 14 траўня 1926.

130 Беларуская Ніва № 20, 10 сакавіка 1926.

131 Наша Справа № 8, 24 снежня 1926.

132 Slowo № 49 (1959), 28 lutego 1929.

133 Slowo № 61 (1971), 14 marca 1929.

134 Slowo № 101 (2011), 2 maja 1929.

135 Slowo № 222 (936), 30 wrzesnia 1925.

136 Беспартыйны блок супрацоўніцтва з урадам (Bezpartyjny Blok Wspolpracy z Rzadem, BBWR) - арганізацыя палітычнай падтрымкі маршала Юзафа Пілсудскага і рэжыму "санацыі" ў Польшчы 1927-1935 гадоў. Фармальна Блок лічыўся пазапартыйным і непалітычным, рэальна ўяўляў сабой своеасаблівую "партыю ўлады", інструмент кантролю над палітычнай сістэмай Другой Рэчы Паспалітай.

137 Kurjer Wilenski № 180 (1227), 10 sierpnia 1928.

138 Kuwalek Robert. Zycie spoleczno-polityczne ziemi lidzkiej w okresie miedzywojennym // Ziemia Lidzka № 25-1997.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

*Яўген Рунец*

# 76-ты Лідскі полк пяхоты імя Людвіка Нарбута

1 верасня 2014 года ўся сусветная цывілізацыя адзначала журботную дату: пачатак 2-й Сусветнай вайны, самай жудаснай вайны за час існавання чалавецтва, якая забрала мільёны жыццяў людзей. Першай краінай, якая стала на шляху гітлераўскай агрэсіі, аказалася Польшча. У польскае войска быў прызваны і мой бацька - Рунец Казімір, які нарадзіўся ў 1909 годзе ў сялянскай сям'і ў Заходняй Беларусі. Стаў кулямётчыкам 81-га пяхотнага Гарадзенскага палка - гэта па дадзеных дакументаў, але больш верагодна - 76-га Лідскага палка імя Людвіка Нарбута. Камандаваў 76-м палком падпалкоўнік Станіслаў Сянкевіч, які да рэвалюцыі служыў у царскім войску. Ваявалі ў складзе 29 пяхотнай дывізіі. Камандзір палка па афіцыйных звестках загінуў 6 верасня, а па ўспамінах бацькі сабраў пазасталых байцоў, загадаў, каб выходзілі з акру-



*Казімір Рунец падчас тэрміновай службы*

жэння, а ён немцам у палон не здасца, і застрэліўся перад шыхтам. Бацька выходзіў у адзіночку, зайшоў на хутар папрасіць паесці. Пакуль гаспадар карміў, сына паслаў у вёску па немцаў. Вось так бацька апынуўся ў палоне - у лагеры (Stalag IA - горад Stablack). Гэта тэрыторыя былой Усходняй Прусіі. У наш час на мяжы Калінінградскай вобласці і Польшчы. З гэтага лагера ў 1939-1940 гадах бацька рабіў тры ўцёкі. У ліпені 1940 года як непапраўнага, схільнага да ўцёкаў пераводзяць у Stalag 8A-Garlitz, а затым - у Stalag 8B Lamsdorf, цяпер Ламбіновіцы (Lambinowice) Апольскага ваяводства. У Ламбіновіцах знаходзіцца польскі музей ваеннапалонных. У гэтым былым лагеры для ваеннапалонных немцы ўтрымоўвалі французскіх салдат вайны 1870 года, рускіх, румынскіх і сербскіх салдат 1-й Сусветныя вайны, польскіх 1939 года, салдат саюзніцкіх войскаў, савецкіх ваеннапалонных і паўсталых варшавякаў 1944 года, у тым ліку і 600 дзяцей, удзельнікаў Варшаўскага паўстання. Летась я адмыслова наведаў гэты музей.

У часы СССР тыя людзі, якія ваявалі супраць немцаў не ў Савецкай Арміі, не лічыліся ветэранамі вайны, ім не выказвалі ўшанаванняў, не ўзнагароджвалі, іх не ўспаміналі ў дні святаў.

Нажаль, мы вельмі мала ведаем пра ўдзел грамадзян нашай краіны ў польска - нямецкай вайне 1939 года.

У гэтай вайне брала ўдзел ад 70 да 100 тысяч чалавек родам з Беларусі, з якіх многія тысячы загінулі, патрапілі ў нямецкі палон, памерлі ў лагерах ад холаду і голаду. Вераснёвая вайна 1939 года, не гледзячы на яе хуткаплыннасць, была жорсткай, польскія салдаты ваявалі адчайна з пераўзыходнымі сіламі германскіх войскаў.

У Польшчы не забыты, тыя салдаты, якія загінулі ў гэтай вайне. Могілкі, дзе пахаваны загінулыя вяры Войска Польскага, знаходзяцца ў добрым стане, магілы даглядаюць, памінаюць загінулых, у чым я сам пераканаўся, бываючы ў Польшчы. Адна са школ г. Аўгустова носіць імя 76-га Лідскага пяхотнага палка імя Людвіка Нарбута. Вось пра гэта пойдзе наш аповед. Ён складзены галоўным чынам са звестак, запазычаных у інтэрнэце на рускіх, беларускіх і галоўным чынам на польскіх сайтах.

## НА МЕСЦЫ ПАСТАЯННАЙ ДЫСЛАКАЦЫІ

У 1920 г. польскі гарнізон г. Гародні складаўся з вартавога батальёна, батальёна добраахвотнікаў, запаснога палка, частак 2-й Беларуска-Літоўскай дывізіі і кавалерыйскіх частак, колькасцю да 3,2 тысяч штыкоў і 1250 шабель. У іх мелася некалькі танкаў FT - 17 (па розных дадзеных ад 4 да 9), 8 лёгкіх і 2 цяжкія гарматы, 67 кулямётаў (па данясенні ў штаб Заходняга фронту - 150), магчыма, 2 бронецягнікі. Камандаваў гарнізонам генерал Адам Макрэцкі, родам з Дзітрыкаў Лідскага раёна. Частка войскаў размяшчалася ў Вяцкіх казармах. Аднак горад быў хутка ўзяты надышоўшым 3-м конным корпусам Гая, 19 ліпеня 1920 г. войскі гарнізона адышлі на тэрыторыю Польшчы. У данясенні пра заняцце горада паведамлялася пра захоп часткамі Чырвонай Арміі 3 спраўных танкаў, 6 лёгкіх і 2 цяжкіх гармат, 150 кулямётаў. Былі ўзяты ў палон да 1 тысячы легіянераў і вызвалены 500 чырвонаармейцаў. Пасля ў выніку няўдалых бітваў пад Варшавай і бітвы на Нёмане Чырвоная Армія зноў здала горад палякам. З афіцыйным уваходам у 1921 годзе горада Гародні ў склад Польскай рэспублікі Вяцкія казармы захавалі сваё прызначэнне. Яны сталі называцца Легіянерскімі казармамі (koszary Legionowe). Вайсковы гарадок быў пашыраны, пры гэтым знеслі частку струхлелых складскіх і гаспадарчых будынкаў і пабудавалі новыя, у тым ліку яшчэ адну двухпавярховую казарму. Легіянерскія казармы складаліся з 21 цаглянага будынка, больш паловы з якіх




***Памятны знак 76-га Лідскага палка пяхоты***

было збудавана да рэвалюцыі, астатнія - дабудаваны ў міжваенны час.

Тут размяшчаўся 76-ты пяхотны Лідскі імя Людвіка Нарбута полк, які ўваходзіў у склад 29-й дывізіі пяхоты, што належыала да акругі III корпуса польскага войска. 76-ты полк быў утвораны ў Вільні 5 студзеня 1919 г. як Лідскі полк стральцоў, прыняў удзел у Савецка - польскай вайне 1920 г. Пасля яму было прысвоена імя Людвіка Нарбута*. У 20-я і 30-я гг. аж да пачатку Другой сусветнай вайны, полк дыслакаваўся ў Гарадзенскім гарнізоне.

У 1922 г. Ваенным міністэрствам (Міністэрствам Спраў Вайсковых) Рэчы Паспалітай быў зацверджаны памятны знак 76-га Лідскага палка пяхоты. Знак быў выкананы ў форме крыжа з падоўжанай асновай, да якога мацаваўся арол - знак польскай дзяржавы. На палях крыжа размяшчаўся надпіс "Вільня" і "5 студз. 1919", якая гаварыла пра месца і дату заснавання палка.

Вайсковы гарадок у той час меў тэрыторыю, абмежаваную вуліцамі Касцюшкі (так яна завецца і цяпер), вул. Бема (цяпер - вул. Шчорса), вул. Сабескага (цяпер - вул. генерала Захарава), вул. Людвіка Нарбута (цяпер - вул. Чырвонаармейская), г.зн. трохі больш, чым цяпер. Сёння ў паказаную тэрыторыю ўкліньваюцца астраўкі жылога сектара, крамы і розныя арганізацыі. Што цікава, назва вуліцы Бема (польскага генерала) перагуквалася з прозвішчам палкоўніка Міхаіла Антонавіча Бема, які камандаваў у 1908 - 1911 гг. 102-м Вяцкім палком. На Гарадзенскіх праваслаўных могілках па вуліцы Антонава (тады - Іерусалімскай) захавалася магіла яго сына - суровораўскага кадэта Колі Бема, які памёр у юным узросце.

Легіянерскія казармы ўяўлялі сабою адносна самастойны свет у сярэдзіне вялікага горада, з асобнай уладай, старанна ахоўванай тэрыторыяй, унутраным гандлем, са сваімі грашыма, забаўляльнымі, адукацыйнымі і рэлігійнымі ўстановамі, і нават месцам зняволення - карцарам. Апроч 76-га пяхотнага палка і яго штаба ў гарадку размяшчаўся таксама штаб 81-га палка пяхоты 29-й дывізіі. Сам жа 81-шы полк размяшчаўся ў казармах па вуліцы Маставой. У гарадку меліся палкавая школа, салдацкая крама, і, відавочна, афіцэрскае казіно. Былі выпушчаны нават адмысловыя аллюмініевыя боны для разлікаў у палкавых установах у сярэдзіне гарадка. У многіх гарадскіх мерапрыемствах браў удзел бліскучы вайсковы аркестр 76-га палка. На тэрыторыі Легіянерскіх казармаў знаходзіліся кватэры афіцэраў гэтага палка і іншых вайсковых частак гарнізона. Напрыклад, там пражываў паручнік Шары (Szary), афіцэр сувязі 29-га палка палявой артылерыі. У той жа час камандзір 76-га палка палкоўнік Азевіч (1932 г.) пражываў у афіцэрскіх асабняках на Баніфратарскай вуліцы.

Маюцца звесткі, што ў гады Першай сусветнай вайны падчас нямецкай акупацыі Гародні дамовая царква, якая мясцілася раней у казармах вайсковага гарадка, была прыстасавана пад патрэбы лютаран, а ў 1920-х гадах там размясцілася малітоўнае памяшканне для католікаў. Праваслаўным жа пад царкву было выдзелена іншае памяшканне. Непадалёк, на тэрыторыі казармаў Бема, блізка ад тарца левай двухпавярховай казармы з боку цяперашняга праспекта Касманаўтаў, у сярэдзіне 1930-х гг. была збудавана невялікая салдацкая мячэць. Яна мела памер прыкладна 10 на 5 м., тоўстыя цагляныя сцены з контрфосамі па баках, высокая, да 4 метраў столь з невялікімі вокнамі пад дахам. Яе наведвалі вайскоўцы мусульманскага веравызнання з ліку беларускіх татараў, якія ў той час, як, зрэшты, і цяпер, кампактна пражывалі на тэрыторыі Гарадзеншчыны. Мячэць захоўвалася, праўда, з перабудаваным дахам, як дапаможнае памяшканне, аж да 2008 г., калі была разабрана ў сувязі са зносам будынкаў былога 9-га вайсковага гарадка. Пры разборцы была выяўлена цэгла вытворчасці завода ў Станіславава (Гародня) з датоўкай - сярэдзіна 30-х гг.

Як вядома, у міжваенны час досыць вялікая ўвага надавалася спорту і агульнафізічнай падрыхтоўцы вайскоўцаў. На тэрыторыі Легіянерскіх казармаў меўся гімнастычны гарадок, валейбольная пляцоўка і іншыя спартовыя збудаванні. Акрамя таго, у непасрэднай блізкасці ад гарадка знаходзіўся найбуйнейшы па тых часах гарадскі стадыён Акруговага таварыства фізічнага выхавання па вуліцы Сабескага (ця-

* Людвік Нарбут - кіраўнік студзеньскага паўстання 1863 года на маёй малой радзіме - Лідчыне. Недалёка ад Ліды, у вёсцы Дубічы ён і загінуў.

пер - Захарава), 3. Зараз гэта - стадыён факультэта фізічнай культуры Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. У тыя гады гэты аб'ект актыўна выкарыстоўваўся вайскоўцамі 76-га палка пяхоты - завадатарамі спартовага жыцця не толькі ў гарнізоне, але і ва ўсім горадзе. Пра гэта красамоўна сведчыць той факт, што ўсе асноўныя сілы даваеннага гарадзенскага футболу былі сабраны ў армейскай камандзе "WKS Grodno" (у сучасным прывычным перакладзе - СКА - Спартовы клуб арміі), якая першынствавала ў чэмпіянатах Беластоцкага ваяводства 1931 - 1934 і 1936 - 1939 гадоў. Спачатку яна прадстаўляла менавіта 76-ты полк пяхоты, а пазней - увесь Гарадзенскі гарнізон. Кіраўніком секцыі і вялікім прыхільнікам футбольнага клуба быў паручнік Кароль Даўгяла. У сезоне 1938/39 гадоў гарадзенскія армейцы ва ўсіх матчах страцілі толькі ачко! Гэта, магчыма, была наймацнейшая каманда даваеннай Гародні. У яе аснове гулялі: Зянько-Бубновіч, Юргілевіч, Лупачык, Стампінскі, Мельнікаў, Тадэвуш, Уладзіслаў і Яўген Адамчыкі, Іжынскі, Пабурэнны, Іоб.

Усе футбольныя матчы праходзілі на стадыёне побач з карадком 76-га палка, вайскоўцы якога былі актыўнымі заўзятарамі. Гэта было сапраўднае гарадское свята. Напярэдадні газеты не скупіліся на анонсы хуткай гульні. У дзень матчу на стадыёне часта выступаў вайсковы аркестр 76-га палка, а перад галоўнай гульнёй дня "для разагравання публікі" праводзіліся матчы юніёраў. Квіткі па тых часах каштавалі нятанна - да 1 злотага, але гэта не адпужвала сапраўдных прыхільнікаў спорту, народу збіралася вельмі шмат. Фанаты бурна рэагавалі на ход гульні, а ўлады акругі рашуча змагаліся за дысцыпліну на футбольным полі і вакол яго.

Вайскоўцы 76-га палка ў складзе Спартовага клуба арміі вызначаліся не толькі ў футболе. Яны былі сярод арганізатараў Польскай федэрацыі хакею на траве ў 1926 г.

Побач з гарадком (на поўдзень, паміж вуліцамі Бема (Шчорса) і Скідальскай (праспект Касманаўтаў)) у 1920-я гады размяшчаўся пляц (тэрыторыя) польскай ваенізаванай арганізацыі WF і PW (аналаг цяперашняй ДАСААФ). Да сярэдзіны 1930-х гг. там меліся цір, 2 двухпавярховыя казармы (захаваліся), сталовая, штаб і спартзала (таксама захаваліся), розныя склады, сховішчы і да т.п. У той час усе гэтыя паказаныя казармы зваліся казармамі Бема (koszary Bema). Польскія вайскоўцы 76-га пяхотнага палка прымалі актыўны ўдзел у правядзенні заняткаў па вайсковай падрыхтоўцы з гарадзенскай моладдзю. У савецкі час згаданую тэрыторыю займаў 9-ты вайсковы гарадок.

На падставе загаду Галоўнага штаба Войска Польскага пра ўнясенне арганізацыі на падставе дырэктывы PS 10-50 з 1930-х гадоў, 76 полк быў прылічаны да катэгорыі II палкоў пяхоты (так званы ўзмоцнены). На час вайны ўваходзіў у 1 чаргу мабілізацыі. Яго штат быў большы за штат “звычайнага” палка (тып I) і складаў ад 400 да 700 салдат.

У лютым 1939 г. польскае камандаванне прыступіла да распрацоўкі плану вайны з Нямеччынай, які атрымаў кодавую назву "Захад". Па гэтым плане прадугледжвалася разгарнуць 39 пяхотных дывізій, 3 горнапяхотныя, 11 кавалерыйскіх, 10 памежных і 2 бронематарызаваныя брыгады.

Усе польскія войскі былі аб'яднаны ў сем армій і чатыры асобныя аператыўныя групы. На межах Усходняй Прусіі - на межах рэк Бабёр, Нараў і Вісла - была разгорнутая група "Нараў" (камандуючы генерал Ч. Млот-Фіялкоўскі) у складзе дзвюх пяхотных дывізій, Сувалкаўскай і Падляскай кавалерыйскіх брыгад. У раёне Млавы - армія "Модлін" (камандуючы генерал Э. Пшэдзімірскі-Круковіч) у складзе чатырох пяхотных дывізій, Наваградскай і Мазавецкай кавалерыйскіх брыгад і двух бронецягнікоў - № 15 "Віхраслуп" і № 13 "Генерал Сасноўскі". Кожны бронецягнік меў у сваім складзе па дзве бронедрызіны "Татра". У іх у тыле размяшчалася аператыўная група "Вышкаў" у складзе трох пяхотных дывізій. Гэтыя групоўкі павінны былі не дапусціць уварвання нямецкіх войскаў, якія наступалі з Усходняй Прусіі.

У "Польскім калідоры" разгортвалася армія "Памор’е" (камандуючы генерал В. Бартноўскі) у складзе пяці пяхотных дывізій, Паморскай кавалерыйскай брыгады і бронецягніка № 14 "Падзярэўскі" з задачай утрымліваць Гданьск (Данцыг) і не дапусціць прарыву войскаў праціўніка на злучэнне з групоўкай ва Ўсходняй Прусіі.

На мяжы з Нямеччынай разгортваліся (з поўначы на поўдзень): армія "Познань" (камандуючы генерал Т. Кутшэба) у складзе чатырох пяхотных дывізій, Вялікапольскай і Падольскай кавалерыйскіх брыгад, двух бронецягнікоў - № 11 "Данута" і № 12 "Познанскі"; армія "Лодзь" (камандуючы генерал Ю. Румель) у складзе чатырох пяхотных дывізій, Валынскай і Красовай кавалерыйскіх брыгад, бронецягнікоў - № 52 "Пілсудскі" і № 53 "Адважны", і самая магутная армія "Кракаў" (камандуючы генерал А. Шылінг) у складзе шасці пяхотных дывізій, Кракаўскай кавалерыйскай брыгады, 10-й кавалерыйскай бронебрыгады і двух бронецягнікоў - № 51 "Маршалак" і № 54 "Грозны".

У другім эшалоне, у раёне Тамашоў-Любельскі - Кельцэ, разгортвалася армія "Прусы" (камандуючы генерал С. Дэмб-Бярнацкі) у складзе шасці пяхотных дывізій, у тым ліку і 29-й пяхотнай дывізіі, Віленскай кавалерыйскай брыгады і бронецягніка "Барташ Главацкі".

Паўднёвую мяжу Польшчы ахоўвала армія "Карпаты" ў складзе трох рэзервовых пяхотных дывізій і фармаванай бронебрыгады. У рэзерве галоўнага камандавання ў раёне Модлін - Варшава - Люблін знаходзілася армія "Люблін" (камандуючы генерал Піскар) у складзе трох пяхотных дывізій і Варшаўскай матарызаванай брыгады. У некаторых крыніцах яна завецца групай генерала Піскара.

На ўсходзе была арганізавана аператыўная група "Палессе" (камандуючы брыгадны генерал Ф. Клееберг), якая павінна была прыкрыць Польшчу з боку мяжы з СССР. Унутры армій утвараліся свае аператыўныя групы, звычайна ў складзе дзвюх пяхотных

дывізій і адной кавалерыйскай брыгады.

Пік напружанасці ў польска-нямецкіх адносінах прыйшоўся на 1939 год. Ніхто ў Польшчы ўжо не сумняваўся, што вайны не пазбегнуць. У сакавіку гэтага года ў краіне пачаліся ўтоеныя мабілізацыйныя мерапрыемствы, у выніку якіх у польскае войска была прызвана значная колькасць заходніх беларусаў. Пасля ўсеагульнай мабілізацыі, якая была праведзена ў канцы жніўня 1939-га, у шэрагі Войска Польскага было залічана каля 70 тыс. салдат Заходняй Беларусі. Мабілізацыйныя цэнтры на тэрыторыі Заходняй Беларусі знаходзіліся ў Гародні (штаб карпусной акругі, DOK III) і Берасці над Бугам (штаб акругі, DOK IX).

У перыяд II РП штаб 29 дп і яе падраздзяленні знаходзіліся ў Гародні і Сувалках:

- 41-шы Сувальскі пяхотны полк імя Маршала Юзафа Пілсудскага;
- 76-ты Лідскі пяхотны полк імя Людвіка Нарбута;
- 81-шы полк гарадзенскіх стральцоў імя караля Стэфана Баторыя;
- 29-ты полк лёгкай артылерыі ў Гародні;
- дывізіён 29-га палка лёгкай артылерыі.

Камандзіры дывізіі:

- брыгадны генерал Мікалай Асікоўскі (Osikowski, 1921-1923);
- палкоўнік пяхоты Кароль Шамёт (Szemiot, 1923-1924);
- брыгадны генерал Аляксандр (Залескі) (Zaleski, 1924-1927);
- брыгадны генерал. Францыск Клеберг (Kleeberg, 1927-1936);
- палкоўнік дыпламаваны Вацлаў Пекар (перыяд 1936-1938);
- палкоўнік пяхоты Ігнат Азевіч (Oziewicz, 25.X.1938 - верасень 1939).

**У ВЕРАСНЁВАЙ КАМПАНІІ 1939 г.**

Дывізія пад камандаваннем палкоўніка. Ігнацыя Азевіча (Oziewicza), была прызначана для паўночнай групоўкі войскаў "Прусы", ген. Стэфана Дэмба -Бярнацкага.

Пасля адмабілізавання 1 верасня дывізія чыгуначным транспартам прыбыла ў прызначаны раён у наваколлях Скярновіц (Skierniewic). Затым была накіравана ў раён Равы Мазавецкай. 2 верасня ў поўным складзе, знаходзячыся ў сяле Любохня (Lubochnia) атрымала загад да гатоўнасці здзейсніць марш на раку Пiліцу (Pilicu) пад Суляёвам (Sulejowem) і дыслакавацца ў лесе лясніцтва Лучна (Leczno). Дывізія, падзеленая на дзве калоны, пайшла па маршрутах: Тамашоў Маз. - Смардзевіцы - Блогі (Tomaszow Maz.- Smardzewice - Blogie) праз Спала - Цяпловіцы - Букавец - Малыя Конскія (Spala - Cieplowice - Bukowiec - Male Konskie).

У бітве пад Пётрыкавым (Piotrkowem) прынялі ўдзел галоўным чынам падраздзяленні паўночнай групоўкі арміі “Прусы”. Падраздзяленні многіх з іх ад 1 верасня знаходзіліся яшчэ ў стадыі адмабілізавання ці стадыі перамяшчэння. Польскае камандаванне разлічвала на затрымку часу ў памежных бітвах. 4 верасня працягваліся прыбыццё і заняцце пазіцыі на абарону польскіх частак. 4 верасня ў гэтым раёне апынуліся 29 пяхотная дывізія і Віленская брыгада кавалерыі. 19 пяхотная дывізія была засяроджана ў лясным комплексе на паўночны ўсход ад Пётрыкава (Piotrkowa). У Пётрыкаве (Piotrkowe) мабілізаваны 146 пп 44 пяхотнай дывізіі. Гэтая дывізія пасля завяршэння адмабілізавання павінна была прыбыць у раён Длутаў (Dlutow). А канцэнтрацыя 13-й пяхотнай дывізіі працягвалася аж да 6 верасня. 1 батальён лёгкіх танкаў (7 тр) у адпаведнасці з загадам знаходзіўся ў тыле арміі паміж Апочнем (Opocznem) і Конскімі (Konskimi).

3 верасня 29-я стралковая дывізія заняла адведзеныя пазіцыі. Была выслана група сапёраў, якія адправіліся на поўдзень для знішчэння ўсіх мастоў на рацэ Піліцы. Для абароны пераправы ў Прадборы (Przedborzu) выдзелілі 5 роту 76 пяхотнага палка, якая прыбыла на месца да світання 4 верасня, займаючы пазіцыі ў абароне.

У складзе дывізіі адсутнічалі:

- II і III батальёны 41-га пяхотнага палка, дывізіён 29-га палка лёгкай артылерыі.

У баях пад Пётрыкавым (Piotrkowem) гэтак жа прынялі ўдзел падраздзяленні Лодзкай арміі. Гэта былі:

- падраздзяленні Валынскай кавалерыйскай брыгады, якія пасля баёў 1-2 верасня з 4 танкавай дывізіяй немцаў знаходзіліся ў рэзерве арміі.
- група палкоўніка Чыжэўскага - групоўка, створаная галоўным чынам з філіялаў 2 пяхотнага палка Легіёнаў 2 пяхотнай дывізіі Легіёнаў.

4 верасня каля поўдня польскія часткі знаходзіліся на зададзеных пазіцыях. Група, якая складалася з батальёнаў II і III 86-га пяхотнага палка 19 пд заняла пазіцыі на непасрэдным краі поля Пётрыкава (Piotrkowa) на ўчастку Каргал - Лес- Лангіноўка (Kargal - Las - Longinowka). Гэта была адкрытая мясцовасць, вельмі цяжкая для арганізацыі абароны, асабліва супраць наступлення танкаў. У сувязі з гэтым камандзір дывізіі ген. Квацішэўскі (Kwaciszewski) двойчы прапанаваў ген. Дэмб - Бярнацкаму, стварыць лінію абароны бліжэй да Пётрыкава (Piotrkowe) ці прасунуць яе на Прудку (Prudke). Аднак ён не даў згоды. У канчатковым рахунку, генерал Квацішэўскі (Kwaciszewski) у ноч на 4 верасня, на свой страх утрымліваў лінію абароны бліжэй да горада і разгарнуў свае войскі ў раёне Вітаў (Witow). На правым фланзе апынуўся III батальён 86 пп, II - на левым. Гэтыя сілы мусілі быць падтрыманы батарэяй супрацьтанкавага дывізіёна і II дывізіёнам 19 артпалка (100 мм гаўбіц).

85 пп пад камандаваннем п-ка Яна Крук-Сміглі (Kruk-Smigli), як другі эшалон 19 пд заняў абарончую пазіцыю ў лесе на паўночны захад ад Пётрыкава (Piotrkowa). II батальён заняў абарону на паўднёвым краі лесу. Генерал Дэмб-Бярнацкі вырашыў часткова




*Міляёвец, месца баёў 76 Лідскага пп 5-6 верасня 1939 г.*

перабудаваць сістэму кіравання арміяй. Таму ўначы 3-4 верасня стварыў новую аператыўную групу ў складзе 19 пд і Віленскай кб. Камандзірам прызначыў генерала Дрэшара (Dreszera). 4 верасня 77 пп і батальён 86 пп і IV дывізіён 19 артпалка атрымалі загад пераходу на паўднёва-ўсходні бераг ракі Луцёнжы (Luciazy) і засяродзіцца ў лесе на вышыні мясцовасці Міляёвец (Milejowiec). Групоўка гэтая прыбыла ў прызначаны раён раніцай 5 верасня. Тым самым сілы 19 пд непасрэдна каля Пётрыкава (Piotrkowa) былі моцна аслаблены.

Ад гэтых падраздзяленняў, больш на поўдзень, у лесе Любень знаходзілася таксама Віленская кб, якая па планах генерала Дэмб - Бярнацкага разам з 77 пп і батальёнам 86 пп і IV дывізіёнам 19 ап павінна была ўвайсці ў склад групы, палкоўніка Навасельскага (Nowosielskiego). Гэтая групоўка павінна была здзейсніць напад на нямецкія танкавыя злучэнні, падыходзіўшыя пад Пётрыкаў (Piotrkow). Акцыя мусіла быць праведзеная ў ноч 5-6 верасня.

29 пд заняла абарончую пазіцыю на левым фланзе арміі, уздоўж ракі Піліцы і Чорнай на адрэзку Сулеяў - Домбрава - Яксонак (Jaksonek). Для поўнага складу бракавала 2-га і 3-га батальёнаў 41 пп, а таксама батарэі 29 ап. Падраздзяленні 13 пд у першыя дні верасня былі яшчэ на падыходзе да прызначанага раёна. Аднак перад світаннем 6 верасня ім удалося прыбыць на прызначаныя пазіцыі ў абароне. II батальён 43 пп, як самастойная частка апынуўся на пазіцыях у лесе на поўдзень ад горада Альшова (Olszowa). III батальён 43 пп заняў пазіцыі вакол горада Уезд (Ujazd). Батальён 43 пп заняў пазіцыі ў лесе на захад ад вёскі Сангродзь (Sangrodz). Батальёны II і III 45 палка згрупаваліся для абароны ў лесе на паўднёвы захад ад Тамашова Мазавецкага. Батальён 45-га палка заняў пазіцыі на ўскрайку лесу на поўнач ад Тамашова, блакуючы шлях Томашоў - Любохня (Lubochnia). Батальёны 44 пп утварылі агнявыя пазіцыі на краі лесу ў наваколлях Браніслававa (Bronislawowa). Астатнія сілы 44 пп склалі рэзерв дывізіі і сканцэнтраваны ў глыбіні лесу на ўсход ад дарогі Тамашоў - Любохня (Lubochnia).

Задачай 13 пд была абарона правага крыла арміі з поўначы, а таксама гатоўнасць да падтрымкі дзеянняў 29 пд, Віленскай кб і часткі сіл 19 пд.

Таму рэзерв арміі ў выпадку няўдачы павінен быў закрыць шлях немцам на Варшаву.

Днём 5 верасня, 1 танкавая дывізія немцаў, змяла абарону падраздзяленняў 19 стралковай дывізіі, якія абараняюлі Пётрыкаў (Piotrkow), захапіла горад, і пайшла далей па дарозе на Вальбор - Тамашоў (Wolborz - Tomaszew). Аддзелы Лодзкай арміі, таксама знаходзіліся ў абароне. Тым часам камандуючы арміі "Прусы" не маючы дакладных дадзеных пра размяшчэнне нямецкіх войскаў і сітуацыю ў наваколлях Пётрыкава (Piotrkowa), вырашыў правесці контратаку на правае крыло 1-й танкавай дывізіі. Яна мусіла быць праведзена ў ноч з 5 на 6 верасня, і прывесці да аднаўлення страчаных пазіцый на лініі Яжоў - Разпор (Jezow - Rozpor). Першапачатковы план прадугледжваў выкарыстанне для гэтай мэты групы палкоўніка Навасельскага (Nowosielskiego), г.зн.: 77 пяхотнага палка, батальёна 86 пяхотнага палка, IV батарэі 19-га палка лёгкай артылерыі - 19 пяхотнай дывізіі і Віленскай брыгады кавалерыі.

Віленская брыгада кавалерыі знаходзілася ў



*Міляёвец, помнік спаленым мірным жыхарам*

лесе Любень, а астатнія падраздзяленні далей на поўнач, у самым цэнтры горада Міляёвец (Milejowiec). Аддзяляла іх ад пазіцыі немцаў рака Луцёнжа (Luciaza).

У 17.00 камандуючы арміі змяніў рашэнне на наступленне. Па новым плане начныя напады павінны былі выканаць 76 і 81 палкі 29 пяхотнай дывізій пры падтрымцы групы палкоўніка Навасельскага (Nowosielskiego), а Віленская брыгада кавалерыі павінна была адысці на ўсходні бераг Пііліцы і злучыцца каля Прадбора (Przedborza), дзе ўжо ваявала 5 рота 76 пяхотнага палка. Для абароны пераправы ў Суляёве (Sulejowie) застаўся батальён 41-га пяхотнага палка 29 пяхотнай дывізіі.

Каля 20.00 гадзін 76-ты пяхотны полк выйшаў да наваколляў Суляёва па дарозе на Пётрыкаў (Piotrkow) і пасля пераправы Луцёнжы (Luciazy) ў наваколлі Прыглава (Przyglowa), полк падзяліўся на дзве групы.

2-гі батальён рушыў праз Клудзіцы (Kludzice) і Міляёвец (Milejowiec), а астатнія падраздзяленні маршавай калонай - на Залесіцу (Zalesice). 1-шы батальён 81-га пяхотнага палка рушыў у бок Прыглава (Przyglowa), 2-гі і 3-ці - да Суляёва. Тым часам у 21.00 у штаб камандуючага арміяй "Прусы" прыйшло паведамленне ад Вярхоўнага галоўнакамандуючага, у якім інфармавалася пра становішча спраў на фронце і паступіў загад пра вывад падраздзяленняў арміі "Прусы" на поўнач ад Пётрыкава (Piotrkowa). З прычыны гэтага генерал Дэмб - Бярнацкі ізноў змяніў загад і ў адпаведнасці з ім 81-шы пяхотны полк павінен быў перабазавацца ў лясы ў наваколлях Кола. 76-ты пяхотны полк меў у адпаведнасці з загадам выканаць напад на (Пётрыкаў) Piotrkow, а затым адступіць на поўнач. Аднак загады не дайшлі да батальёнаў 76 пяхотнага палка. Так, у адпаведнасці з папярэдняй камандай, прайшоўшы прызначаным маршрутам, 2-гі батальён пад камандай маёра Юстыняка (Justyniaka) пайшоў у атаку, узяўшы Міляёвец (Milejowiec). Не губляючы тэмпу атакі, батальён выцяў затым на Міляёў (Milejow), дзе наткнуўся на штаб 1-й танкавай дывізіі і яго роту аховы. Немцы давалі рашучы адпор, але ўрэшце палякі ў штыкавой атацы і ў рукапашным баі вызвалілі вёску. Затым батальён рушыў на захад, дзе, аднак, сутыкнуўся з моцным арганізаваным супрацівам, і наступленне захлынулася. Паколькі маёр Юстыняк (Justyniak) з прычыны цяжкага ранення ў галаву памёр, камандаванне ўзяў на сябе капітан Мысліўскі (Mysliwski). Ён загадаў батальёну адступіць за Піліцу (Pilice). Неўзабаве і ён быў цяжка паранены, і камандаванне ўзяў на сябе паручнік Гняўкоўскі (Gniewkowski), які вывеў ужо толькі рэшткі батальёна. У баі загінула каля 12 афіцэраў і 218 шарагоўцаў II батальёна.

На дарозе паміж Суляёвам (Sulejowem) і Прыгловам (Przyglowem) камандзіру II дывізіёна 29 ап і 29 артполка цяжкай артылерыі прыйшоў загад на адступленне, які яны выканалі. 1-шы батальён пад камандаваннем падпалкоўніка Сянкевіча (камандзіра палка) ідучы ў першым эшалоне, пры падтрымцы III батарэі 29 ап, атакаваў праз Прыглоў - Калонію Вітаў - Залесіцу (Przyglow - Kolonie Witow - Zalesice). Былі цяжкасці з перамяшчэннем артылерыі, таму што масты былі разбураны ў выніку папярэдніх баёў, якія праводзіліся на гэтай тэрыторыі часткамі 19 пд. Праз пашкоджаны мост у Калоніі Вітаў (Kolonie Witow) удалося пераправіцца толькі 7 батарэі, у той час як астатнія дывізіёны чакалі, пакуль сапёры навядуць мост.

1-шы батальён 76 пп уваходзячы ў Залесіцу (Zalesice) быў абстраляны кулямётным агнём. У гэтай сітуацыі, маёр Касінскі (Kosinski) на чале двух звязаў 2-й роты абышоў засеўшых у хаце немцаў і выцяў з тылу. У выніку гэтага нападу нямецкія падраздзелы былі разбітыя. Былі ўзяты 3 танкі, усюдыход і 4 матацыклы. У палон узяты 2 афіцэры і 18 салдат. Уласныя страты склалі 3 параненыя. Прыкладна ў 2.00 гадзіны 6 верасня калона 1-га батальёна дайшла да шашы Пётрыкаў - Разпор (Piotrkow - Rozpor) і завярнула на поўдзень. Тут, у вёсцы Морыца (Moryca) салдаты завязалі яшчэ адзін бой. Узялі там 4 танкі і 6 аўтамабіляў павышанай праходнасці. Падраздзяленні нямецкага войска адступілі ў бок Лангінаўкі (Longinowki), дзе немцы арганізавалі абарону і абстралялі падыходзіўшыя польскія падраздзяленні. У гэтай сітуацыі, маёр Касінскі (Kosinski) пры падтрымцы III батарэі 29 ап развярнуў батальён у атаку. Агонь польскай артылерыі зрабіў значныя страты сярод нямецкіх частак, размешчаных на поўдзень ад Лангінаўкі (Longinowki). Гарэла шмат цыстэрнаў і аўтамабіляў. Немцы, сіламі двух падраздзяленняў, падтрымоўваныя танкамі і агнём артылерыі пайшлі ў контратаку, 1-шы батальён здолеў адбіць гэты напад і нанёс праціўніку вялікія страты.

Падчас гэтага бою немцы захапілі сцяг палка, размешчаны на машыне. Група салдатаў 1-га батальёна ўступіла з немцамі ў апантаны бой. Разгарэлася бітва, якая доўжыўся некалькі мінут, падчас, якой сцяг пераходзіў некалькі разоў з рук у рукі. У канчатковым рахунку сцяг адбілі. У гэтай барацьбе загінулі 8 польскіх вайскоўцаў, а 16 атрымалі раненні. Ад'ютант палка капітан Маліноўскі быў двойчы паранены. Група немцаў, якая захапіла сцяг, была цалкам знішчана.

Каля 4.00 пачалося нямецкае наступленне з боку Пётрыкава (Piotrkowa), якое было адбіта сіламі 3-й роты. Адначасова працягваліся напады польскіх падраздзяленняў на Лангіноўку (Longinowke). Камандаванне батальёна, якое па-ранейшаму чакала падыходу і дапамогі 81 пп, не ведала пра ўнясенне змен у загад. Каля 6.00 немцы пачалі наступленне ў кірунку Пётрыкава (Piotrkowa) і Лангінаўкі (Longinowki). Гэтыя атакі праводзіліся вялікай колькасцю падраздзяленняў пяхоты пры падтрымцы танкаў.

Першапачаткова палякі адбівалі напады, аднак, калі ў атаку рушылі танкі, а ў батальёне не засталося ніводнай сурацьтанкавай гарматы, абаронцы змушаны былі саступіць. На працягу дзвюх гадзін батальён практычна ўвесь загінуў. Камандзір 76 пп падпалкоўнік Сянкевіч двойчы цяжка паранены быў раздушаны тракамі танкаў? Загінуў таксама камандзір 1-га батальёна маёр Касінскі (Kosinski, аўтар палкавога гімна нарбутаўцаў, і прыкладна 22 афіцэры і 426 салдат.

Увогуле, у начных баях з 5 на 6 верасня загінулі




***Казімір Рунец у канцлагеры***

32 афіцэры і 652 салдаты з 76 пп. Большасць параненых афіцэраў і шарагоўцаў не загінулі непасрэдна ў баі. Многіх параненых раздушылі танкі, ці іх дабіла нямецкая пяхота пасля бою.

Нямецкія страты ў гэтай бітве склалі 200 забітых і 40 спаленых аўтамабіляў і танкаў.

6 верасня на полі зблізку вёскі Морыца (Moryca) немцы расстралялі 19 узятых у палон афіцэраў 76 пп, а шарагоўцаў палка разам з групай мясцовых жыхароў спалілі жыўцом у хаце чыгуначніка ў Морыцы (Moryce) і ў адным з дамоў у Лангвіноўцы (Longinowce). Злачынствы здзейснілі салдаты нямецкай 1 тд у адплату за вялікія страты, якія панеслі ў баі. На каталіцкіх могілках у Міляёве (Milejowie) знаходзяцца магілы і помнік 631 польскаму салдату, загінуўшаму ў вераснёвай кампаніі ў бітве пад Пётрыкавым (Piotrkowem).

Пасля таго, як полк быў разбіты пад Суляёвам (Sulejowem), сцяг палка дастаўлена 12 верасня лейтэнантам Батко (Batko) у запасны цэнтр 76 пп у Гародню. 14 верасня сцяг перапраўлены ў Вільню. Тут ён патрапіў у сям'ю капітана Лясneўскага (Lesniewskiego), якая закапала сцяг у зямлю. У 1940 г. сцяг адкапалі і адправілі праз дыпламатычнае прадстаўніцтва Вялікабрытаніі ў Коўне ў пасольства РП у Ватыкане. У жніўні 1944 сцяг быў дастаўлены ў Вялікабрытанію і перададзены ў музей. Сцяг знаходзіцца ў калекцыі музея імя генерала Сікорскага ў Лондане. У зборы музея Войска Польскага ў Варшаве захоўваецца першы сцяг 76 пп, які быў уручаны палку ў 1919 годзе.

У ноч з 5 на 6 верасня, астатнія падраздзяленні 29 дывізіі адышлі ў адпаведнасці з загадам у лясы ваколіцы Кола (Kolo). Гэта былі:

- 81-шы пяхотны полк;
- II дывізіён 29-га палка лёгкай артылерыі;
- 29 дывізіён цяжкай артылерыі;
- 29 сапёрны батальён;
- штаб 29 пяхотнай дывізіі.

У наступныя дні дывізія працягвала адыходзіць у кірунку пераправы цераз Віслу. Пад вечар 7 верасня, яе падраздзяленні, таксама 13 і 19 пяхотных дывізій знаходзіліся на пераправе. Пад Добрай Воляй (Dobra Wola) на рацэ Дравічка (Drzewiczka) часткі нямецкай 13 матарызаванай дывізіі разбілі штаб дывізіі, якая да гэтага часу перастала быць арганізаванай ваеннай часткай. Праз раку ў раёне Дэмбліна (Deblina) пераправіліся ў перыяд з 11 па 13 верасня толькі нешматлікія атрады, без цяжкага ўзбраення - першым чынам 76 пяхотнага палка.

Рэшткі 76 палка, адыходзячы далі яшчэ апошні бой фашыстам 12 верасня ў наваколлях вёскі Аўгустова гміна Грабаў над Пліцай Казянецкага павета Мазавецкага ваяводства. У гэтым баі знішчылі 6 фашысцкіх танкаў, загінулі 64 ваяры 76 палка.

Так гераічна скончылася гісторыя 76 Лідскага палка

Дывізія была рэарганізавана ў раёне Раёўца (Rejowca) пад камандаваннем палкоўніка Яна Братры (Bratry), начальніка службы дывізіённай пяхоты. Паводле загаду генерала Дэмб-Бярнацкага дывізія стала брыгадай. 17 верасня 29 брыгада мела 7 батальёнаў, артылерыйскую батарэю і сапёрную роту. Яна ўвайшла ў склад дывізіі генерала Ваўкавіцкага (Wolkowickiego). 29 брыгада прыняла ўдзел у бітве пад Тамашовам (Tomaszowem) Люблінскім і капітулявала 27 верасня.

Два батальёны 41-га пяхотнага палка ваявалі ў Варшаве да яе капітуляцыі. Да іх далучыўся таксама III батальён 81-га пяхотнага палка.

Пакінуты ў запасным раёне ў Гародні батальён капітана Пятра Карзона (Korzona) ў перыяд 12-17 верасня ўдзельнічаў у сутычках з нямецкімі патрулямі ў лясах у раёне Беластока, Саколкі і Гародні.

## ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ ГЕРОЯМ

***Міляёў (Milejow)***
***Лодзкае ваяводства, Пётрыкаўскі павет,***
***гміна Розпра***

### Вайсковыя могілкі

Размешчаны каля парафіяльных могілак, збоку ад галоўнай уваходнай брамы. Абгароджны слупкамі са штучнага каменю, злучанымі кутым ланцугом. Ад боку пад’езду помнік з металічным надпісам, металічным крыжам і памятнай таблічай. За ім чатыры рады магіл, агароджаных кустарнікам. На кожнай бетонны крыж з інфармацыях пра палеглых.



***Могілкі ў Міляёве***

**Надпіс на помніку:**

"MIEJSCE WIECZNEGO SPOCZYNKU 631
ZOLNIERZY POLSKICH
76 LIDZKIEGO PULKU PIECHOTY
IM. L. NARBUTTA
29 GRODZIENSKIEJ DYWIZJI PIECHOTY
86 MALODECZNIANSKIEGO PULKU PIECHOTY
19 WILENSKIEJ DYWIZJI PIECHOTY
ARMII "PRUSY"
11 BAONU STRZELCOW
WOLYNSKIEJ BRYGADY KAWALERII
ARMII "LODZ"
POLEGLYCH W WALCE
Z HITLEROWSKIM NAJEZDZCA
WE WRZESNIU 1939 R".

*"Месца вечнага спачынку 631
польскіх жаўнераў
76 Лідскага палка пяхоты імя Л. Нарбута
29 Гарадзенскай дывізіі пяхоты
86 Маладзечанскага палка пяхоты
19 Віленскай дывізіі пяхоты
арміі "Прусы"
11 батальёна стральцоў
Валынскай брыгады кавалерыі
арміі "Лодзь"
палеглых у бітве
з гітлераўскімі агрэсарамі
ў верасні 1939 г."*

**Эпітафія каля першай брацкай магілы за помнікам:**

"TU SPOCZYWA 40-tu POLSKICH
ZOLNIERZY, POLEGLYCH
SMIERCIA BOHATEROW,
dnia 6 IX 1939 r.
W OBRONIE OJCZYZNY
PRZED NAWALA NIEMIECKA
MIEDZY KTOREMI BRACIA
p.pr.rez. ROZNOWSKI KAZIMIERZ lat 26
p.pr.rez. BUJNICKI STANISLAW lat 28
URODZENI w WILNIE
CZESC POLEGLYM BOHATEROM".

*"Спачываюць тут 40 польскіх
жаўнераў, палеглых
смерцю герояў
6.IX.1939 г.
пры абароне Айчыны
ад нямецкай навалы,
між каторымі браты
падпаручнік рэзерву Ражноўскі Казімір, 26 гадоў,
падпаручнік рэзерву Буйніцкі Станіслаў, 28 гадоў,
народжаныя ў Вільні.
Слава палеглым героям."*

Спачываюць тут жаўнеры 76 Лідскага палка пяхоты імя Людвіка Нарбута 29 Гарадзенскай дывізіі пяхоты, 86 Маладзечанскага палка пяхоты 19 Віленскай дывізіі пяхоты арміі “Прусы”; 11 батальёна стральцоў Валынскай брыгады кавалерыі арміі “Лодзь”, а таксама іншых частак, палеглыя ў вераснёвай кампаніі пры абароне Пётрыкава Трыбунальскага. 173 апазнаных пахаваны пад прозвішчамі, у тым ліку афіцэры 76 пп: маёр Яўген Юстыняк - камандзір 2 батальёна і дыпламаваны падпалкоўнік Станіслаў Сянкевіч - камандзір палка:

STRZ. KAWIAZO WIKTOR
STRZ. SZCZESNY STEFAN
STRZ. ZAJKOWSKI JAN
STRZ. ZAWADZKI RAFAL, * 1911
STRZ. LUKASIK JAN, * 1914
STRZ. ROZNOWSKI KAZIMIERZ
STRZ. LASZKO JOZEF
STRZ. MISIUN WIKTOR
STRZ. SZESTOWICKI PIOTR, * 1907
STRZ. STAWECKI PIOTR, * 10.1918
STRZ. DZIEMDZIUK JOZEF, * 10.02.1916
ST. STRZ. WYCZANSKI WLADYSLAW, * 1.1.1920
STRZ. MONCZAK KAZIMIERZ
STRZ. ZOLNIEROWICZ PIOTR, * 13.7.1913
STRZ. KOLPAK P.
KPR. LYSZKIEWICZ JOZEF, * 1919
STRZ. KSIAZEK STEFAN
STRZ. ZURAWSKI STANISLAW, * 22.4.1916
STRZ. KOLOMECKI ANTONI
STRZ. GASPEROWICZ JAN
STRZ. KOLOSZ EMILIAN, * 14.9.1916
STRZ. LAWINKOWICZ JOZEF
KPR. GRABOWSKI
BIL JAN
STRZ. JUNCEWICZ KONSTANTY
STRZ. GAWOR MICHAL, * 1916
STRZ. KUPLINSKI ANTONI
STRZ. MYSZKO BAZYLI
PLUT. UTKO MICHAL, * 12.10.1916
STRZ. JANOSZKIEWICZ ANTONI
SWIRSKI KAZIMIERZ
SZYLKO ALFONS
STRZ. SAMAL ELIASZ, * 1912
STRZ. SWINDLER MICHEL, * 1915
STRZ. JANUSZKIEWICZ JOZEF
STRZ. WARGAN ANTONI
STRZ. CHOCIANOWICZ JULIAN, * 1910
PION. WORYTKO FRANCISZEK
STRZ. MARKIEWICZ ALEKSY
STRZ. MANDRYK TROFIN
STRZ. CIERECH KAZIMIERZ, * 9.4.1909
STRZ. SZKIET FIEDOSI
STRZ. BERNATOWICZ MICHAL, * 1904
STRZ. JANKOWSKI BRONISLAW
SZER. KOLODZIEJSKI EUGENIUSZ
KPR. SLIWINSKI AUGUSTYN
STRZ. BIELURKI LUCJAN, * 1911
STRZ. ZURLICKI MARIAN
KPR. KLUK WINCENTY
ST. STRZ. TALUC MICHAL
STRZ. GLOWACZ JAN, * 1915
STRZ. LINKOWSKI JOZEF, * 1917
STRZ. SZENDO JULIAN, * 1916
KPR. BOSSOWSKI
PPOR. REZ. PIASECKI STANISLAW, * 14.9.1916
PPLK SIENKIEWICZ STANISLAW, D-CA 76 PP, * 25.8.1895
STRZ. POLMAN ANDRZEJ
SZER. JANKOWICZ
STRZ. MALINOWSKI ALEKSANDER
STRZ. KRAWCZYK MICHAL
MJR JUSTYNIAK EUGENIUSZ, 77 PP, Ur. 11.VII.1897, Polegl 5.IX.1939 r.
KPR. SAWICKI FRANCISZEK
SZER. KLOSEK JOZEF
STRZ. BAK TADEUSZ, * 10.2.1915
STRZ. SZUSZKIEWICZ IGNACY
STRZ. PLUTA FRANCISZEK, * 1915
ST. STRZ. PIOTRKOWSKI MATEUSZ
STRZ. MAKOWSKI STEFAN
STRZ. ZWIEREWICZ KAZIMIERZ
STRZ. GUSLICKI MARIAN
STRZ. SIKORA SZCZEPAN
STRZ. LUNCEWICZ KONSTANTY
STRZ. GOLISZEK PIOTR
STRZ. WALISZEK PIOTR
STRZ. WDOWIAK, * 1915
STRZ. BAIR MARIAN
STRZ. PASZKOWICZ JAN
KPR. PCHOR. MIODUSZEWSKI ROMUALD-KONSTANTY, 86 PP, * 19.2.1915
STRZ. PAWLOWSKI STANISLAW, * 6.9.1913
LEWICKI
ST. STRZ. OWCZAREK STANISLAW
STRZ. MADZIALKO ALBIN, * 1914
STRZ. FURMAN FELIKS
STRZ. HOMOLKO JAN
STRZ. WIELICZKO JAN
STRZ. WINIECKI ROMAN, * 1915
SZER. GRZESZOWSKI STANISLAW, * 1908
ST. STRZ. BIZA JAN
STRZ. JUSZKIEWICZ J?ZEF, * 1911
ST. STRZ. KOSAKOWSKI WAC?AW, * 1912
STRZ. BORYSEWICZ, * 1911
STRZ. DZIEDZIEJKO JOZEF
PLUT. PCHHOR. WICHER FRANCISZEK, 301 BAON PANC., * 3.11.1912
KPR. PCHOR. LAZAKIEWICZ, 76 PP
STRZ. PIASTA WACLAW
KPR. SOBOLEWSKI M.
CIESIELSKI KAZIMIERZ
SZER. KARWAT STANISLAW
STRZ. RATUSZNIK
KPR. DZIENKIELEWICZ, * 1914
STRZ. NOWACKI JAN
STRZ. RADZISZEWSKI
STRZ. RUCZ JAN
STRZ. GLEBOWSKI
KPR. PIWO




***Помнік загінуўшым воінам у Міляёве***

KPR. EGGERT
STRZ. LOPATKO WITOLD, * 1919
STRZ. KONCZAK KAZIMIERZ
STRZ. KREC JAN, * 17.12.1914
STRZ. KSIAZEK FRANCISZEK
STRZ. JARMULINSKI MARIAN
STRZ. LESIECKI STANISLAW
STRZ. TESLA ANTONI
STRZ. PADERMAN ANDRZEJ, * 1919
POR. SZULC WITOLD, 2 PP
KOR. PCHOR. SPALEK, 301 BAON PANC.
POR. MICKIEWICZ MIKOLAJ, 76 PP
PLUT. PCHOR. OGRODZKI JERZY,
11 BAON STRZ.
STRZ. GIERECH KAZIMIERZ, * 9.4.1909
KPR. KIELBOWICZ BRONISLAW
KPR. MAZUR WLADYSLAW
STRZ. OLEJNIK WACLAW
STRZ. MROZIK WILHELM
POR. REZ. KORCZYNSKI-SAS KAZIMIERZ,
43 PP, * 19.4.1919
ZOLNIERZ AK PIETRZYK ZYGMUNT, † 1944
STRZ. MOZDRZEN JOZEF, * 1917
STRZ. MADAJ STANISLAW
ST. STRZ. KORDACZEK MARCIN
ST. STRZ. GORZEDOWSKI MARIAN
ST. STRZ. LASIAK ANTONI
SZER. STRYGA JOZEF
ST. STRZ. ZAWADZKI CZESLAW
STRZ. PLUTA JOZEF
KPR. KONSTANTY JOZEF
KPR. ANDRUSZKIEWICZ WACLAW
STRZ. KUNICZ TEOFIL
SZER. STANEK STEFAN, * 1915
STRZ. MARCHLEWICZ JAN
STRZ. ADAMSKI STANISLAW
STRZ. OGRODNIK MIECZYSLAW, * 1916
STRZ. BIALORUCKI ALEKSANDER
STRZ. ULANOWSKI GRZEGORZ, * 1908
KPR. PCHOR. SKOTNICKI WLADYSLAW,
11 BAON STRZ.
STRZ. OLSZANSKI MIKOLAJ
STRZ. TOMASZEWSKI STANISLAW, * 1917
2 ZOLNIERZY N.N. Z ZALOGI CZOLGU NR. 5273
KPR. GINDZIELEWICZ ANDRZEJ, * 1914
ST. STRZ. MAJEWSKI FELIKS, * 1916
KPR. PCHOR. MEDRKIEWICZ ADAM,
11 BAON STRZ., * 1920
ST. STRZ. PALIWODA JOZEF EMIL
KPT. KCYCHA STANISLAW, 31 PP
KPT. EKIERT MARIAN JOZEF, 76 PP, * 22.1.1907
KPT. MALINOWSKI MIECZYSLAW,
11 BAON STRZ., * 19.6.1906
POR. REZ. BULKOWSKI BRONISLAW,

76 PP, * 1912
KPT. GRUSZECKI JAN STANISLAW, 76 PP, * 19.5.1900
POR. OLECHOWICZ JANUSZ, 76 PP
PPOR. REZ. NIESCIUSZKO BUJNICKI STANISLAW, 86 PP, * 14.2.1911
MJR KOSINSKI KORNELIUSZ, 76 PP, * 15.8.1896
POR. WOLODZKO ROMUALD, 86 PP, * 28.9.1906
PPOR. REZ. TRUSZYNSKI MARCIN EUSTACHY, 76 PP, * 20.9.1907

Камандзір 76 палка падпалкоўнік Станіслаў Сянкевіч нарадзіўся 26 жніўня 1895 года ў Камянцы (больш верагодна - Каменка) былога Баранавіцкага павета. Пасля заканчэння пачатковай школы ў Баранавічах, пераехаў да сваякоў у Варшаву, каб працягваць навучанне ў сярэдняй школе, якую скончыў у 1913 годзе. У 1914 годзе быў прызваны ў рускае войска. Скончыў афіцэрскую школу ў Петраградзе і ў чыне паручніка залічаны ў грэнадзёрскі пяхотны полк, у складзе якога ваяваў на тэрыторыі Польшчы з аўстрыйскімі войскамі ў 1 сусветнай вайне. Падчас баёў малады афіцэр Сянкевіч вызначаўся мужнасцю і адвагай, за што быў узнагароджаны Крыжом V класа святога Георгія. У гэтых баях быў некалькі разоў паранены, пераведзены ў 1-шы Ўсходні корпус Войска Польскага пад камандаваннем генерала Доўбар - Мусніцкага. Пасля польска - савецкай вайны ў 1924 годзе скончыў ваенную акадэмію і служыў на розных пасадах, у тым ліку і начальнікам штаба 30 пяхотнай дывізіі ў Кобрыне. Увесну 1939 года быў адкамандзіраваны ў 29 пяхотную дывізію ў Гародню, дзе ў ліпені прыняў камандаванне 76 пяхотным палком, з якім 1 верасня 1939 г. адправіўся на Заходні фронт у складзе войскаў арміі "Прусы". Пасля вайны яму было пасмяротна прысвоена вайсковае званне палкоўніка. Станіслаў Сянкевіч узнагароджаны ордэнамі Krzyz Srebrny Orderu Wojskowego Virtuti Militari, Krzyz Niepodleglosci, Krzyz Walecznych, Zloty Krzyz Zaslugi.



***Камандзір 76 пп п/п-к Станіслаў Сянкевіч***

У Міляёўцы і Лангіноўцы стаяць сціплыя помнікі мясцовым жыхарам, расстраляным і спаленым фашыстамі 6 верасня ў адплату за вялікія страты, панесеныя ў баях з 76 Лідскім палком.



***Магіла камандзіра 76-га пяхотнага палка Станіслава Сянкевіча ў Міляёве***

***Суляёў (Sulejow)***
***Лодзкае ваяводства, Пётрыкаўскі павет, гміна Суляёў***

**Вайсковы квартал**

Знайходзіцца на рымска-каталіцкіх могілках, якія размешчаны па вуліцы Могілкавай (Cmentarnej), з левага боку ад галоўнай алеі. Пахаваныя тут жаўнеры Войска Польскага з 76 палка пяхоты 29 дывізіі пяхоты, палеглыя 6 верасня 1939 года ў супрацьстаянні пад Пётрыкавым Трыбунальскім, а таксама жаўнеры з 33 роты сувязі.

"NIEZNANYM
OBRONCOM
I BOHATEROM
OJCZYZNY
CZESC".

*“Невядомым*
*абаронцам*
*і героям Айчыны*
*слава”*



***Помнік загінуўшым у 2-й Сусветнай вайне ў Суляёве***

У квартале пахаваны таксама жаўнеры савецкай арміі, палеглыя ў студзені 1945 года, а таксама жыхары Суляёва - цывільныя ахвяры гітлераўскага пераследу.

***Нехціцы (Niechcice)***
***Лодзкае ваяводства, Пётрыкаўскі павет, гміна Розпра***

**Брацкая магіла**

"BRATNIA MOGILA
ZOLNIERZY WOJSKA POLSKIEGO
POLEGLYCH W OBRONIE OJCZYZNY
PRZED NAJEZDZCA NIEMIECKIM
WE WRZESNIU 1939 ROKU".

“Брацкая магіла
жаўнераў Войска Польскага,
палеглых пры абароне Айчыны
ад нямецкага агрэсара
ў верасні 1939 года”

***Пётрыкаў Трыбунальскі (Piotrkow Trybunalski)***

**Помнік**

Помнік абаронцам Пётрыкава Трыбунальскага ў абарончай вайне 1939 года. Размешчаны пры выездзе з Пётрыкава ў кірунку Чанстахова (старая траса).

***Аўгустоў (Augustow)***

**Магіла**

Аўгустоў, а дакладней лес за Будамі Аўгустоўскімі гміны Грабаў. Магіла палеглых жаўнераў 76 пп 29 пд у сутычцы 12 верасня 1939 г.

Пачатковая школа вёскі Аўгустова носіць імя 76 Лідскага пяхотнага палка імя Людвіка Нарбута.

З 1991 года школа ў Міляёве носіць імя Станіслава Сянкевіча.

**Марш-гімн 76-га Лідскага пяхотнага палка імя Людвіка Нарбута з Гародні**

*Словы і мелодыя маёра*
*Карнелія Касінскага*

Як з Вільні вывеў нас з баямі
Правадыра самога кліч,
І мы жалезнымі шыхтамі
На бой за родны край пайшлі.
Хоць легла шмат нас у змаганні,
Ды быў ад нашай працы толк.
Нам Людвік Нарбут даў прazванне,
Бо мы - надзейны Лідскі полк.
Спазналі нашых вытаў сілу
Натоўпы бальшавіцкіх орд.
І правадыр быў з намі мілы,
І вёў наш полк да перамог.
Хоць сцерлі боты мы да звання,
І хоць дзіравы наш убор,
Нясём мы Нарбута празванне,
Бо мы - надзейны Лідскі полк.

*Вольны пераклад*
*Станіслава Судніка.*

**Ежы Путрамант**

# ПАЎВЕКУ

## Вайна*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### Прыём у прафсупολку

У Саюзе пісьменнікаў рабіліся розныя рэчы, больш і менш прыемныя. Амаль адначасова з “Новымі гарызонтамі” паўстала новае выданне, штоквартальнік, які выдаваўся цалкам у Львове. Прасоўвала яго Шамплінская, якая адразу першае выданне прыняла вельмі неахвотна. Яна мела падтрымку мясцовых уладаў і праз пару месяцаў пасля першага нумара “Новых гарызонтаў” выдала першы нумар свайго “Літаратурнага альманаха”. Я даў туды адзін верш, які змясцілі. Акрамя таго Гаўрылюк апублікаваў у польскім перакладзе свае ўспаміны з Бярозы, першы і наймацнейшы дакумент пра тое месца ганьбы польскага фашызму.

На Каперніка адбываліся, канешне, сходы, урачыстыя паседжанні, дыскусіі. Мабыць, восенню зрабілі прыём львоўскіх літаратараў у склад сяброў прафесійнага саюза працаўнікоў паліграфічнай прамысловасці. Адбывалася гэта публічна. Прыйманы апавядаў біяграфію. Задавалі пытанні, словам, было ўрачыста і ніякавата.

Усё ішло досыць складна аж да мяне. Пасля біяграфіі два таварышы, палякі, падалі ацэнку майго жыцця і паставілілі пэўныя патрабаванні. Адзін хацеў, каб “адрэзаў” і асудзіў бацьку, другі, каб крытычна ацаніў Генрыка, асабліва на працэсе. Я быў страшна змяшаны. Абодва таварышы былі старымі партыйнымі дзеячамі, я адчуваў да іх вялікую павагу, ад іх м. ін. адчуў тое, што называецца партыйнай пазіцыяй.

Але тых жаданняў я выканаць не мог. Не мог асудзіць бацьку. Такі акт меў бы як адзіны практычны вынік - мілае ўнутранае пачуццё, што зрабіў подласць. Я не быў лішне прывязаны да бацькі, наадварот, пасля вяртання яго з нявολі ён шматразова паказваў сваю да мяне непрыязнь. Ведаў, аднак, што ён парадачны чалавек, свінстваў людзям не рабіў, асабліва ад яго залежным. Што быў афіцэрам - гэта быў факт аб’ектыўны, якога па сутнасці я не мог і не хацеў папраўляць.

На тое пажаданне адказаў уласна так, беручы з большага: гэта мой бацька, нічога з тым не зрабіць.

Яшчэ цяжэй мне было пагадзіцца з другім жаданнем. Прэтэнзіі да Генрыка з боку пэўных левых і партыйных колаў, асабліва ў Варшаве, выцякалі з неразумення імі спецыфікі віленскага працэсу. Гэта не быў звыклы працэс аб прыналежнасці - бо ніякіх довадаў прыналежнасці пракуратура не здабыла. У тых умовах дэкларацыйнае прызнанне аб прыналежнасці да камуністаў было б шаленствам і паслугай для ўладаў. “Колы” так далёка не ішлі. Лічылі аднак, што Генрык на працэсе залішне шмат энергіі ўклаў ў падкрэсліванне сваіх уяўных адрозненняў у адносінах да партыі.

Мы ўсе вельмі цяжка перажывалі абарону Генрыка. Ён меў цяжкую ролю і кепскі дзень. Канешне ён лішне лёгка ўпадаў у аратарскі запал, які суд перапыняў непрыемным спосабам. Але ад спачування да чалавека, якому з цяжкасцю даецца каркаломная абарона ў судзе - да асуджэння яго за ўяўныя палітычныя памылкі - дарога далёкая. Цяпер знайшліся такія “справядліўцы”, якія хацелі, каб я яе прайшоў.

Канешне, я таго не зрабіў. Адказваў, што вельмі ўдзячны Генрыку, каб мог пайсці на такі крок. Што не бачу ў яго пазіцыі нічога такога, што б заслужвала на такое асуджэнне. Абодва таварышы не былі схільныя пагадзіцца з маёй адмовай. Не ведаю, як бы скончылася, каб не Гаўрылюк. Узяў слова, прызнаў рацыю маіх пярэчанняў. Яго аўтарытэт быў занадта вялікі, далі спакой.

Пішу пра тое - бо гэта асклепак нораваў той эпохі. Доўга можна было б пісаць пра ментальнасць людзей з катэгорыі тых двух Катонаў. У іх пазіцыі ўдалося б выкрыць розныя рэчы ад глыбокай веры, што дамагаюцца слушных крокаў аж да турботы, каб іхняя непахіснасць, прынцыпіяльнасць і да т.п. якасці былі як мага больш шырока заўважаны. Найбольш у тым было прыкрае тое, што пры ўяўным клопаце пра палітычнае дабро ад чалавека вымагалася самапрыніжэнне. Я глыбока перакананы, што нічога трывалага не збудуецца ў душы чалавека, якога прымушаюць прыніжаць сябе самога.

Тая прыкрая зачэпка мела аднак далейшы працяг. Не гледзячы на тое, што я не паддаўся іхняму націску, не адзін з аргументаў абодвух “палітыкаў” застаўся мне ў галаве, неяк атаясаміўся з палітычнай рацыяй. Калі я з ёю не згаджаўся, то мусіў лічыцца. Калі неўзабаве я ўзяўся за аповесць, падсвядома Генрык адсунуўся ў ёй на больш дальні план, не стаў у ёй сапраўдным героем, за што маюць сёння да мяне слушныя прэтэнзіі розныя старэйшыя прыяцелі.

Праз нейкі час пэўная колькасць літаратараў з Клуба на Каперніка была прынятая ў склад Саюза савецкіх пісьменнікаў.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Wojna.”** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

**Кіеў**

У той час я пару разоў выязджаў. Раз - гэта было мабыць у сакавіку - Барэйша паслаў мяне ў Крамянец па рукапісы Славацкага, якія былі туды высланы перад вайной, у сувязі бадай што з дзевяностагоддзем смерці. Цяпер справа ішла пра перадачу іх цэнтру Асалінскіх.

Я быў па-просту асеплены тым горадам. Які незвычайны пераход - ад досыць звычайнага вакзала у тую вялікую цясніну паміж стромымі, высокімі пагоркамі! Незвычайнасць пейзажу ўзмацняла незвычайнасць архітэктуры. Надзвычай прыгожыя барочныя кляштары і касцёлы, цудоўныя мяшчанскія дамы на рынку, старыя дрэвы, звыклыя хаты. А яшчэ незвычайнасць этнаграфічная: украінцы, сапраўдныя, не галіцкія, іхнія строі, іхняя мова, мажныя дзяўчаты, дабрадушныя мужыкі. Ішоў і перажываў. Думаў пра Славацкага. З усіх яго твораў неадчэпна лезла мне ў галаву “Залаты чэрап”, нешта, што толькі Крамянец, той жыўцом захаваны абломак сямнаццатага стагоддзя, дазваляў ацаніць ва ўсёй паўнаце. Жыўцом - гэта значыць не толькі ў касцёлах і замках, але і ў дамах, і ў хатах, і ў мужыках...

Місія скончылася фіяскам. Нават не знайшоў тых, хто ведаў нешта пра паперы. Пераначаваў у кляштары, у якім зрабілі ліцэй. Назаўтра вярнуўся.

Другі раз паехаў у горы, за Каламыю. Падгаварыў мяне Галан, які недзе адтуль паходзіў і ехаў па рэпартаж. Таксама была ранняя вясна, снег, сонца, з дахаў капала, былі нейкія пагоркі ў садах, у даліне доўгая вёска, пілі гарэлку, на санках мяне адвезлі назад. У Каламыі я зайшоў на вуліцу, на якой мы жылі амаль дваццаць гадоў таму назад. У дом Зарэмбаў не зайходзіў. Без асаблівых узрушэнняў рушыў далей. Алея Свабоды, так называлася тая шумная вулачка. Трэці выезд быў у студзені 1941 года. У Кіеве адзін з галоўных тамтэйшых паэтаў, Паўло Тычына, адзначаў 50-годдзе. З Львова выехала вялікая дэлегацыя. Узялі і мяне.

Я не пазнаў горада. Крамы былі завалены прадуктамі. Не гледзячы на мароз, бабы прадавалі на вуліцах гарачыя піражкі. Размясцілі нас у старасвецкім, але выгадным гатэлі на адной з бакавых вуліц ад Крашчаціка. У час акупацыі размяшчаўся там важны нямецкі штаб, і гатэль з ім разам узляцеў у паветра.

Наогул, прымалі нас вельмі пышна і сардэчна. Памятаю нейкую ўрачыстасць у оперы. Было поўна прыгожых жанчын і старэйшых паноў. Не гледзячы на тое, што я нікога не ведаў, не адчуваў сябе хоць крыху чужым. Мова дазваляла мне завязваць бліскавічныя размовы і знаёмствы. А ў дадатак я цэлы час меў ураджанне, як бы ўсё тое добра ведаў, тыя вуліцы, тыя крамы, тыя строі, тыя выразы твараў. Было ў тым нешта з Петрыкава і Кацярынаслава.

Жанчыны былі дародныя. У аксамітных, часта зялёных сукнях, са старасвецкімі завушніцамі ў вушах кружылі ў фае і па калідорах оперы, узяўшыся пад рукі і амаль без мужчын. Не размалёваныя, пахлі маскоўскімі духамі “Крэмль” і “Чырвоны мак”, падкуплялі сваёй прастатой і абаяльнасцю.

Іначай вялікія дамы. Былі тут і такія, пераважна жонкі выбітных пісьменнікаў і дзеячоў культурнага фронту. Выдатна апранутыя, манументальна ўзнёслыя. Напрыклад, рубенсаўская бландынка Ніна Бажан. Або жонка дырэктара выдавецтва “Савецкі пісьменнік” Разумоўскага, грачанка па паходжанні, невысокая, чорная, з правільнымі рысамі, прыгажэйшая за ўсіх грачанак, якіх пазней бачыў у Афінах і Салоніках. Той Разумоўскі наогул мусіў быць спецыялістам па прыгожых жонках. Бо першая з названых таксама калісьці пачынала з яго.

Яе цяперашні муж, выбітны ўкраінскі паэт Мікола Бажан прымаў нас асабліва гасцінна. Належаў да “вялікай чацвёркі” кіеўскай паэзіі. Я перакладаў пазней нейкія яго вершы. Вельмі мне падабаліся. Ён быў просты ў вершах і ў жыцці, носа не задзіраў, не гледзячы на ўшанаванні, львоўскіх пісьменнікаў прымаў зычліва і з павагай.

Другі з “чацвёркі”, найстарэйшы ў ёй, Максім Рыльскі, вядомы быў нам перш за ўсё як перакладчык “Пана Тадэвуша”. І ён быў даступны, звычайны, польскай паэзіяй асабліва зацікаўлены.

Тычына трымаўся хутчэй на ўзбочыне. У заблытанай гісторыі ўкраінскай паэзіі выпала яму няўдзячная роля паэта-здумнніка. Пачынаў ён калісьці каля 1914 года ад варыяцый на сімвалічныя тэмы. І яго вершы я перакладаў. Было не лёгка з сімвалізмам у мове, якая ў сваёй літаратурнай, не народнай, версіі мела адносна кароткую гісторыю. Праз некаторы час успаміналі Тычыну яго пачаткі. Наш візіт даводзіў, што яго сітуацыя змянілася грунтоўна. Але кантакты з юбілярам былі не лёгкія. Тычына ўмудраўся ўвесь час знаходзіцца ў недаступных рэгіёнах паэтычнага натхнення, глядзеў на суразмоўцу, усміхаўся і вяшчаў нейкія фразы на дэманстрацыйна правільнай украінскай мове.

Я пачаў вучыць і гэтую мову. Мне шалёна падабалася ўкраінская мова з ваколіц Кіева. Так сабе - з ваколіц Львова. Тычына размаўляў яшчэ на нейкай іншай, трэцяй мове. Можа, гэта было і вельмі добра.

Чацвёрты з “чацвёркі” - гэта быў Уладзімір Сасюра, аўтар агітацыйных вершаў, далёкіх ад эмпірызмаў Тычыны. Перакладаў яго вельмі шмат наш Лявон Пастарнак.

Канешне, былі і іншыя. Быў перш за ўсё Карняйчук. Ён быў ужо пару разоў у Львове. У той час яго літаратурная пазіцыя была цалкам усталяваная. Найлепшыя свае творы “Платон Крэчат”, “Затапленне эскадры” і іншыя, меў ужо за сабой. Прынеслі яны яму велізарную папулярнасць у краіне тысячы тэатраў. Потым прыйшлі палітычныя поспехі. Уласна ён быў старшынём Украінскага саюза літаратараў, дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, выбітным дзеячам кіеўскіх інстанцый. А гадоў меў раптам трыццаць пяць. У тым узросце ў нас працягваюць “хадзіць” у “маладых пісьменніках”.

Быў ён вельмі малады, прыстойны, чарнавокі. Нельга сказаць, ушанаванні не пакінулі без уплыву яго

лад быцця. Прымаў бліскавічныя рашэнні, якія прапіхваў цераз чыноўнікаў. З пісьменнікамі паводзіў сябе зусім іначай, сардэчна і ўнікліва.

Наогул, што найбольш уразіла мяне ў Кіеве - як перад тым у Кактабелі - гэта былі адносіны да пісьменнікаў не толькі з "абслугоўваўшай" іх галіны, але перш за ўсё людзей "з вуліцы". У Польшчы прафесія пісьменніка мела ў сабе нешта няёмкае. Пісьменнікі стварылі сабе свой невялічкі свет, у якім круціліся тым больш ахвотна і выключна, бо ўсякая вылазка за яго межы пагражала сутыкненнем з іранічнай рэакцыяй менавіта на прафесію пісьменніка. Канешне, і ў нас было некалькі папулярных і пару любімых і нават шанаваных. Але шаноўныя людзі - не прафесія. Прафесіяй, калі і не пагарджалі, то з-за ветлівасці.

Тут жа якраз прафесія давала адразу незвычайныя форы. "Вы пісьменнік?" - дзівіўся суразмоўца і адразу змяняў свае адносіны да цябе нават не пытаючыся пра прозвішча. Так ў Іспаніі ўспрымаюць кожнага тарэадора, а на Павіслії і на Волі кожнага баксёра.

Вынікала гэта з многіх прычын. Найвідавочнейшай была фінансавая: пісьменнікі зараблялі на шмат болей, чым усе іншыя прафесіі, можа акрамя навукоўцаў. Але таксама і нешта большае. "Інжынеры людскіх душ" - гэты лозунг ведаў кожны і з ім згаджаўся. Велізарная колькасць чытачоў, вельмі гарачыя адносіны да прачытанай рэчы, гарачы - гэта значыць канкрэтны, жыццёвы, як для дапамогі ў жыцці, да парады, навукі. Гэта былі з'явы цалкам для нас новыя, цікавыя, пасіянарныя.

Як усялякія з'явы, мелі яны па-першае: два бакі, пазітыўны і негатыўны, па-другое: развіваліся. Адваротным бокам тых адносінаў да літаратуры была яе небывалая адказнасць перад чытачамі. Уласна пачыналі дзейнічаць чыннікі, якія з таго бясспрэчнага факту выводзілі высновы ў агульным забойчыя для літаратуры: з аднаго боку тапіць у ёй усё, што магло не быць "выхаваўчым", з другога забараняць пісьменнікам тое, што ёсць для іх галоўнай сілай, а зрэшты і рацыяй існавання: індывідуальнае бачанне свету.

Якраз у той час я прачытаў у "Літаратурнай газеце" адзін погляд, які мяне ўзрушыў мацней, чым што іншае, на тэму "памылак і скажэнняў" у культуры. Была мова пра апавяданне, у якім камсамолец упіўся і здрадзіў жонцы. Крытык запытвае з пафасам: дзе ў нас, у Савецкім Саюзе, аўтар знайшоў такую сям'ю?

Той клопат пра "выхаваўчасць", вузка і тупа зразуметы, як бачым, вядзе напрасткі да поўнай хлусні. Што не значыць, каб я быў супраць выхаваўчай функцыі літаратуры. Я толькі супраць прымусовай выхаваўчасці.

Але ў той час пераважалі ўва мне ўражанні, якія межавалі з захапленнем: у той краіне прафесія, якую я выбраў, канешне, патрэбная і любімая. Гэта вельмі дапамагае, такое ўсведамленне.

Яшчэ сцэнка з таго студзеньскага Кіева. Мароз. крутыя, абледзянелыя вуліцы. Я жвава крочу пад гору на нейкае прадстаўленне. Перада мной высокая старая жанчына. Мінаю яе, калі мяне затрымоўвае. Ці не дапамагу ёй узысці на гару?

Бяру яе пад руку, валаку. Яна дзіўна ўбраная. Нейкая апранаха, якая некалі была элегантным футрам з каўнерам, пэўна, з куніцы, але цалкам аблезлым. На галаве плюшавы чапец, таксама павыціраны на кожнай складцы. Моцна старая, мабыць, за семдзесят гадоў. Размаўляе па-расейску іначай, "дарэвалюцыйна": не ўжывае вулічных аваротаў, якія ўжо прабраліся ў літаратурную мову, ужывае іншыя, вядомыя мне толькі з кніжак. Падаецца асклепкам разбітай дваццаць тры гады таму назад эпохі - і напэўна ім ёсць.

Калі ўсцягнуў яе на гару, моцна мне падзякавала... і папрасіла дзесяць рублёў.

Калі аглядаю розных людзей з асяроддзя "перачэкваўшых", але яшчэ досыць жвавых, прыпамінаецца мне тая старая ў чэпцы. Напэўна, і ў яе жыцці былі эпохі лічэння дзён, "калі гэта ўсё скончыцца", слухання плётак, пушчання анекдотаў, дробнага гандлю, гарбення па касцёлах. Што праўда, мы ім даём больш, чым тыя дзесяць рублёў.

**"Рэчаіснасць"**

Угодкі рэвалюцыі. Можа гэта было пасля вяртання з Кіева? У 1942 годзе прыпадала яе чвэрць стагоддзя. На Каперніка адбыўся сход, на якім пісьменнікі прымалі абавязальніцтвы. Устаў і я: абавязаўся да таго часу закончыць аповесць.

А ведаеце, што мне гэта дапамагло? У хвіліны неадкладных клопатаў прыходзілі мне на думку твары прысутных і мае словы. Крывіўся і з цяжкасцю паварочваў карк.

Цяпер, на пачатку 41 года, я меў ужо ў выдавецтве малы зборнічак з апавяданнямі, які называўся "Вераснёвыя аповесці". Апрача "Гэтага і таго берага моста" былі там яшчэ два іншыя апавяданні, вельмі слабыя, адно - падслуханая нечая аповесць, другое занадта ўжо вымудраваная, выдуманая, з прэтэнзіямі.

Цяпер я сеў за аповесць. Круцілася яна мне здаўна ў галаве. Адразу пасля верасня я пачаў пісаць ваенную аповесць. Зрабіў з трыццаць старонак і кінуў.

Узяўся за віленскую гісторыю. Назва прыйшла мне вельмі хутка: "Рэчаіснасць". Быў у гэтым падтэкст - тое, што я апісваю, здарылася сапраўды. І сапраўды справа ішла пра пераказ тых часоў, тых спраў, якія былі ўва мне яшчэ вельмі жывыя - хоць так ужо далёкія і незваротныя. Быў у тым адзін вельмі важны момант: я пісаў пра справы, пра якія дагэтуль нельга было пісаць. Была ў мяне ўстаноўка "разлічыцца", хацеў пяром заплаціць людзям, якія нам столькі надакучалі ў тыя гады, якія забілі Шуса, упакоўвалі кучы іншых у вязніцы.

Справа Шуса стала галоўнай справай аповесці не толькі таму. Быў гэта найбольш драматычны і закончаны сюжэт з усіх. Ён арганізаваў мноства ўспамінаў, надаваў ім форму.

Віленскія сябры часта абвінавачвалі мяне ў недакладнасці. Маюць рацыю. Толькі ж тэмай кніжкі не ёсць гісторыя групы Дамбінскага, гісторыя ёсць

толькі фонам. У аповесці няма цэлага шэрагу найлепшых людзей з групы, Мухі Жаромскай, абоіх Дзявіцкіх, Штахельскага. Па-просту не знайшоў для іх амплуа ў драме, якую паказваў. А гісторыі я не паказваў ні тады, ні цяпер, у гэтых успамінах.

Ірэна брала Еву, вяла ў дзіцячы садок, сама ішла ў бібліятэку. У суседнім пакоі пані Квяткоўская выпраўляла дачку ў школу, ішла ў горад. Рабілася ціха. Я выцягваў лісткі паперы, горбіўся над сталом.

Дзве рэчы ўдаліся мне выдатна ўжо ад пачатку. Па-першае зрабіў план ці сцэнар. Матэрыял я разбіў на 12 раздзелаў. У кожным раздзеле была нейкая галоўная справа. Дзяліў іх на часткі. У кожнай быў нейкі эпізод. Удалося мне гэта лёгка - бо перш за ўсё цэлае меў у галаве адразу. А дакладней не ў галаве, ва ўсім целе. Гэта быў кавалак майго жыцця, вельмі яшчэ свежы, гарачы, з усімі ўражаннямі прэтэнзіямі, крыўдамі відавочнымі і ўяўнымі. Я не ўмеў яшчэ (ды і цяпер не вельмі ўмею) аддзяліць уласныя перажыванні ад героя аповесці.

Другое, што ўдавалася - гэта дзённая норма. Сказаў сам сабе: два лісцікі з абодвух бакоў - штодзённа. Папера была нелінеяваная, адтуль лёгкасць падману, дастаткова было пісаць вялікімі літарамі. Наадварот я пісаў што раз меншымі, каб не рабіць сабе штучных палёгак. Два лісцікі, велічынёй у палову стандартнай старонкі, давалі 6-7 старонак машынапісу. Ніколі потым не ўмеў з сябе столькі выціснуць.

Вельмі шмат курыў. Папяросы і самотнасць дазвалялі сабрацца. Паволі паўзлі ніткі ўспамінаў. Найцяжэйшай была першая старонка. Потым выцягнутыя за вушы з успамінаў постаці пачыналі неяк рухацца самі. Паволі і нясмела па-над успамінамі крышталізавалася літаратурная выдумка. Хвілямі я ўпадаў у пэўны запал, дэтальна прадуманыя сцэны беглі жвавелі, разрасталіся - асабліва дыялогі. Тады таксама было нядобра; у пэўную хвілю неспасціжна сюжэт збочваў убок, непатрэбна разрастаўся, запаўняў малаважнымі словамі і вобразамі цэлыя старонкі. Я не ўмеў у час з тым справіцца. Гэта моцна адбілася на мёй першай аповесці, а на наступных яшчэ больш.

Каля першай заканчваў норму. Праз увесь час пісання (г.зн. няпоўныя 4 месяцы) я быў нялюдска правільны. Прапускаў толькі нядзелі. На працягу таго ўсяго часу можа яшчэ адзін ці два дні. Таксама няшмат разоў зрабіў больш, чым норму.

Уставаў, пацягваўся. Адразу рушаў у клуб, там я абедаў. Звычайна ішоў у добрым гуморы: норма зроблена. Але звычайна ўжо ў палове дарогі аднекуль выплывала хмарка. Праз пару мінут я ўжо не ведаў, у чым справа, па-просту быў прыгнечаны. Потым выбухала ўсведамленне: той і той момант нічога не варты. Злы, ужо маючы сябе за ніштo, паварочваў з вуліцы На Байках на Сапегі, паварочваў на Каперніка, уваходзіў у клуб. Там грамада пастаянных бывальцаў, балбатня, пару спраў для залатвення ў сувязі са спатканнямі. Паволі забывалася, у чым там справа.

Але наогул аповесць прымалі добра. Курылюк арганізаваў мне перадрук на машынцы, састыкаваў з маладым чалавекам з інтэлектуальным тварам, які цяпер гэтым займаўся. Ён патрапіў дэшыфраваць найгоршыя выкрунтасы майго хімічнага алоўка. Называўся ён Адам Астроўскі. Першыя раздзелы я занёс у “Новыя гарызонты”. Іх прачыталі і вызначылі да друку. Таму напады злых думак пра кніжку я меў рэдка, і трывалі яны нядоўга.

**Пераклады**

У першых некалькіх нумарах выдання я змясціў некалькі вершаў і адно апавяданне. Гэтага было дастаткова, каб здабыць трохі мясцовага розгаласу. Пры кожнай аказіі тэлефанавалі да мяне розныя карэспандэнты з Кіева, з Масквы, прасілі пару слоў на тэму таго ці іншага здарэння. Спачатку я стараўся спадобіцца на нешта арыгінальнае. Бачачы аднак, што ў газеце застаецца з таго дзве-тры фразы, якія мажліва нічым не адрозніваліся ад іншых “выказванняў”, супакоіўся, і сам ужо пісаў тыя стандартныя фразы.

Наша матэрыяльная сітуацыя моцна паправілася. Яшчэ перад “Рэчаіснасцю” я атрымаў новы пераклад. У той час я моцна сябраваў з Баляславам Пяхам-Зандбергам. Быў гэта хлопец у маім веку, невысокі, лысаваты, з выпуклымі вачыма, задзёртым носам і тоўстымі выпуклымі губамі. Паходзіў ён з Варшавы. Належаў да групы “Прадмесце” і нават выдаў нейкую кніжачку.

Жонка яго была дачкой мельніка з Келячызны. Маладая, прыгожая, з велізарным румянцам. Некалькі месяцаў таму назад здарылася з ёй страшная гісторыя.

Яна мела брата. Вясной 40 года ў Львове гасціла нямецкая рэпатрацыйная місія, якая арганізоўвала выезд у Рэйх немцаў з Валыні і Букавіны, а таксама тых бежанцаў, якія выказалі жаданне вярнуцца на той бок.

Былі такія. Таму што адначасова ў Генеральным губернатарстве нейкі час дзейнічала падобная савецкая місія, цераз Сан у абодва кірункі курсавалі цягнікі, якія перавозілі рэпатрыянтаў.

Адтуль сумны жарт. У Перамышлі на Сане размінаіся два цягнікі. Адзін з яўрэямі едзе з захаду на ўсход, другі - з усходу на захад. У абоіх у вагонах тырчаць у вокнах ездакі, глядзяць адзін на другога і пагардліва стукаюць у лоб.

Хто з тых стукаўшых меў рацыю, мы даведаліся вельмі хутка. Брат жонкі Пяха якраз апавясціў пра вяртанне. Я не мог зразумець, чаму ён ідзе на такое шаленства. Пяхі разважалі: сям’я, млын... Немцы такія ж людзі, з той іх жорсткасцю, гэта напэўна перабольшванне...

Першы яго ліст быў нават радасны. Пару пазнейшых поўныя недаўмення. А потым вестка, што павесіўся. Гэта была толькі восень 1940 года!

Для перакладу я атрымаў “Разгром” Фадзеева. Прапанаваў Пяху супрацу, баючыся за свае русізмы. Быў ужо адзін пераклад, зроблены ў палове трыццатых гадоў у Менску. Жудасны! Мы працавалі такім чынам: чыталі расейскую фразу. Пях чытаў яе “менскі” пера-

клад. Супольна перакручвалі фразу, каб не толькі была па-польску, але і "іначай".

У той час перакладалі наогул вельмі шмат, напрыклад, Маякоўскага. Часам не толькі з погляду на памылкі перакладу, але і на заганы перакладчыка. Так, напрыклад, вырашылі нанава перакласці "Левы марш" толькі таму, што ў першы раз яго перакладаў гнілы буржуазны ліберал Слонімскі. Узяўся за той пераклад адзін з найвыбітнейшых марксістаў, Важык. Яго задача палягала не толькі ў тым, каб дакладна, але і каб іначай, і нават, каб іначай любой цаной. Атрымалася, ясная справа, кепска.

Некаторыя перакладчыкі мелі шмат клопатаў з расейскай мовай. У Пшыбыся, здаецца, знойдзем пасаж: "Што я, папугай, з Індыі?" У арыгінале ёсць: "Что я, попугай, индейка?" - што без ценю сумнення абазначае звыклую індычку. Нябожчык Парэцкі, які ў ёй меў велізарныя пазнанні, мучыўся са словам "дерьмо". Я дарэмна заклінаў, што даслоўна гэта значыць "лайно". Пераклаў асцярожна як "смецце".

Гэта таксама стыль эпохі. Цяпер бы без г... не абышлося б, хоць па-расейску г... гэта таксама г..., а ніякае там не "дерьмо".

Я пераклаў таксама пару вершыкаў Маякоўскага. Гэта цудоўны занятак. Кожны паэтычны пераклад мае ў сабе нешта з разгадвання крыжаванак, але той Маякоўскі! Я выдушыў з сябе "Празасядаўшыхся" з некалькімі яскравымі дзіркамі. Сама назва ўжо ўласна не перакладная.

З Пяхам і яго знаёмымі мы гулялі ў брыдж. Жыццё неяк унармавалася, рэгулярная праца з раніцы, рэгулярная грамадская праца пасля абеду, вечарамі ў знаёмых, зрэдку ў кіно, часам у тэатры, дзе вялі рэй два выдатныя акцёры: Краснавецкі і чароўная Зарэмбінская.

**Бой, Барталь, Барэйша**

Навесну 1941 года ў львоўскім асяроддзі адбылося пару чарговых здарэнняў. Забаўную, дробную сцэнку пераажыў я з Боем-Зяленскім. Сустракаўся з ім рэдка: ён выкладаў ва ўніверсітэце французскую літаратуру, пісаў тэатральныя рэцэнзіі ў "Гарызонты", у Саюз прыходзіў рэдка.

Але быў актыўны. У цэлым, не "перачэкваў", як некаторыя яго калегі з універсітэта і пісьменнікаў.

Не перачэкваў таксама іншы выбітны дзеяч і вучоны, Казімір Барталь. Распавядаюць пра яго такую гісторыйку.

Ва ўніверсітэцкім асяродку адбываўся сход, на якім мусілі вылучыць кандыдата - ці то ў Вярхоўны Савет, ці абласны, ці ўніверсітэцкі, не памятаю. Вылучылі кагосьці з кіраўніцтва. Хто "за"? Усе. Хто "супраць"? Адзін Барталь. Збянтэжанасць. Пытаюцца, чаму?

- Усё жыццё галасаваў супраць эндэкаў і на старасць не буду мяняць пазіцыю!

Пэўнага дня, недзе каля 1 траўня, выклікалі мяне знянацку ў "аблвыканкам". Не моцна ведаў, для чаго. Аказалася, што да старшыні. Тут мне трохі палягчала. У прыёмнай застаю Боя-Зяленскага. Пытаецца мяне, у чым справа? Атрымаў такое самае запрашэнне і непакоіцца. Спрабую падтрымаць яго дух.

Выклікаюць яго. Знікае і з'яўляецца праз некалькі хвілін. Аказваецца яго прэміявалі за ўзорную працу ва ўніверсітэце. Выдыхнуў з палёгкай. Гаворыць мне паўголасам:

- Што за краіна! Ніколі не вядома, для чаго цябе выклікаюць. Раз прэмія, раз пашпарт з параграфам!

Такія пашпарты пагражалі некаторым катэгорыям бежанцаў. Яны не маглі прапісацца ў буйных гарадах.

Бою, канешне, гэта ніколі не пагражала. Быў цяпер у гуморы, таму не мог без гумару пайсці.

З тога Першага Траўня памятаю дробны малюнак. Ужо сказаны прамовы, ужо вось-вось парад. Доўгія калоны пяхоты стаяць "вольна" на вуліцы. Дакурваюць папяросы. Над іхнімі галовамі аблокі сівага дыму, сапраўдныя аблокі. Вольна ўзносяцца ў яснае, вясенняе неба.

Найвялікшую сенсацыю ўчыніў у той час Барэйша. Як я ўжо пісаў, заўсёды яго фактычная роля была большая, чым займаная ім пасада. І раптам тая роля лопнула.

Менавіта лопнула. Пэўнага дня па Львове прабегла вестка: Барэйша скончыўся. Людзі пераставалі з ім лічыцца з дня ў дзень усё больш. Шамплінска помсліва трыумфавала.

Дзіўна было, бо перш за ўсё фармальна нічога не змянілася. Як кіраваў тым Цэнтрам Асалінскіх, так і кіраваў. Не страціў ні адной сваёй функцыі. А лічыцца з ім пераставалі, як казаў, усё больш з дня у дзень.

Не ведаю, што было таму прычынай. Распавядалі, што нарабіў нейкіх шаленстваў у Кіеве. Ён меў свае спосабы, якія часам вынікалі ў авантуры. Умеў і любіў "рабіць уражанне". Да сталых яго прыёмаў належала тэлефанаванне падчас размовы да розных высокапастаўленых асобаў. Калі толькі мог, называў тых асобаў на "ты", па імені, любой цаной падкрэсліваў, што ён з імі за панібрата. Тэлефанаваў і паглядаў на суразмоўцу, якое гэта робіць на яго ўражанне. Звычайна рабіла вялікае.

Тым разам, як здаецца, трохі перастараўся. Паехаў у Кіеў па справе бадай што падручнікаў. Падобна, што з прыёмнай тагачаснага І сакратара ЦК украінскай партыі, таварыша Хрушчова тэлефанаваў у розныя ўстановы, гаворачы прыблізна:

- Дзень добры, таварыш такі і такі! Гэта гаворыць Ежы Барэйша. Я зараз у Мікіты Сяргеевіча. Мяркуем, што ў справе падручнікаў трэба зрабіць тое і тое...

Той нумар шмат мог што зрабіць. Не ведаю, ці гэта праўда. Але гэта так маляўніча, не магу нічога апроч як ахвотна паўтарыць...

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, г. Менск, выйшаў 5-ты том энцыклапеды “Культура Беларусі”, 664 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**







**У выдавецтве “Гарадзенская бібліятэка” ў Гародні-Уроцлаве выйшла кніга Аляксандру Краўцэвічу “Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага”, 304 ст.**




**У Менску ў выдавецтве “Харвест” выйшла кніга Алега Трусава “Кароткая гісторыя архітэктуры Беларусі”, 464 ст. Наклад 1000 асобнікаў.**




**У Менску выдавец А.М. Янушкевіч, выдаў кнігу Пяіра Друждж “Бітва пад Оршай 1514 года”, 212 ст. Наклад 600 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Юніпак” выйшла кніга Алега Рукаля “На службе князя Радзівіла”, 192 ст. Наклад 500 асобнікаў.**




**У Варшаве выйшаў беларускамоўны нумар гістарычнага часопіса “Гавораць стагоддзі” з тэматычнай назвай “Орша, 1514”, 96 ст.**



***Помнік загінуўшым жаўнерам 77-га Ковенскага палка пяхоты, пастаўлены ў Лідзе ў 1924 годзе.***
*Аўтар праекту – падпалкоўнік Сестраневіч.*